**Адрас Рэдакцыі: Вільня, Завальная вул. № 1—3.**

Падпіска на год—4 зал., на паўгода—2 зал.
Адна кніжка—1 зал.

Часапіс выходзіць раз у тры месяцы.

# ЗЬМЕСТ.



Белар. Друк. ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная вул. 1—1.



# КАЛОСЬСЕ

БЕЛАРУСКІ ЛІТАРАТУРНА-НАВУКОВЫ ЧАСАПІС.

Кніжка 1. 1935 г. Год I.



## Ад Рэдакцыі.

Звычайна, калі пачынае выходзіць новы часапіс, Рэдакцыя выясьняе, што спрычынілася да яго выдаваньня і якія мэты маюць прысьвечываць яе працы. Вось-жа і Рэдакцыя „Калосься“ прыдзержываецца гэтага звычаю.

Аб патрэбе літаратурна-навуковага часапісу ў Заходняй
Беларусі шмат гаварыць ня прыходзіцца. Яна ёсьць яснай і бяс-
спрэчнай. Кожнаму ведама, што беларускае літаратурнае й наву-
ковае жыцьцё ў Заходняй Беларусі зьяўляецца вельмі занядб
ным. Паколькі нашае грамадзянства прыкладае вялікае знач
не да палітычна-грамадзкага жыцьця, патолькі часта не
вае разьвіцьця ўласнае культуры, як-бы забываючыс
што вартасьць апошняй ёсьць вельмі вялікая. Адсутн
бейшага заінтэрасаваньня разьвіцьцём беларускай
мастацтва й навукі стварае тое сумнае зьявішча,
ны духовага жыцьця зьяўляюцца ў Заходняй Б
прымітыўным, а нашая інтэлігенцыя корміцц оры
культурай чужой. Віна такога стану рэчаў ветры,
нас самых; яна мае й свае в кай гара рычы мрок
чайна цяжкія абставіны, у які вячорныя ветры
Але гэтае апошняе не дае н спаленых сонцам дарог.
цыятывы і быць бязьдзейнь ўна... Учора, здаецца...
мусім стойка змагацца з гоньня сьпявае мяцель
ваць над разьвіцьцём эрца жывое кладзецца
меры пабудзіць нашаг няная, зімовая бель...
працы і задаволіц
даваньня „Калос

**Адрас Р**

П

**Час**



Белар. Друк. ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная вул. 1—1.

Мэтай „Калосься“ будзе гуртаваць усіх нашых поэта
пісьменьнікаў, а так-жа культурных і навуковых працаўнікоў
старэйшых і малодшых, дзеля супольнае позытыўнае прац
на ніве роднае культуры. Адначасна з гэтым „Калосьсе“ б
дзе будзіць ініцыятыву да новых пачынаньняў, узгадоўваць мал
дыя літаратурныя сілы, сьціроўваючы ў найбольш адпаведны
кірунку іхнія заінтэрасаваньні. Ставячы сабе так шырокія мэт
Рэдакцыя будзе старацца, каб наш часапіс меў характар агул
набеларускі і рэпрэзэнтаваў, па магчымасьці, усе віды літ
ратурнае творчасьці і тыя галіны навукі, якія зьвязаны беспас
рэдна з беларускім адраджэньнем (артыкулы з галіны белар
скае літаратуры, мовы, мастацтва, гісторыі, этнографіі і інш
Дзеля большага контакту з літаратурна-навуковым рухам наагу
у часапісе будзе зьвяртацца вялікая ўвага на рэцэнзіі літар
турных твораў і навуковых працаў, а так-жа на справаздач
з навуковага й літаратурнага жыцьця Заходняй і Ўсходн
Беларусі.

Асаблівая ўвага будзе зьвернута на аддзел прыгожае лі
ратуры. Дзеля гэтага Рэдакцыя не агранічыцца да друкаваны
літаратурных твораў з Заходняе Беларусі, а будзе так-жа р
біць перадрукі важнейшых і найбольш характэрыстычных твор
поэтаў і пісьменьнікаў Беларусі Ўсходняй. Такім спосабам чыта
„Калосься“ будуць мець магчымасьць пакрысе знаёміцца з б
скай літаратурай, што разьвіваецца на той бок мяжы. Н
скарыстаюць на гэтым нашыя пачынаючыя поэты й пі
знаходзячы сабе цікавыя ўзоры, перадусім у галіне ст
і поэтыцкае мовы.

чаўвеце вышэйшае, Рэдакцыя зьвяртаецца да наш
ьнікаў, культурных і навуковых працаўнікоў з
супрацоўніцтва ў „Калосьсі“. Зьвяртае
еларускага Грамадзянства з гарачай просьб
льнае пам ў выдаваньні часапісу.

Рэдакцыя.

НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА.

* * *

Як калосьсе ў жытняй ніве —
Цягне дух мяне ў гару.
Тут... нішто мяне ня дзівіць,
Тут... нічога не зьбяру...

Няжывой, зімовай ночай
Сьніцца мне ліпнёвы змрок,
А вясной пляла-б ахвоча
З лісьцяў восені вянок...

Цемнатою, бездарожжам
Аднаго пайшла-б шукаць:
Што ніколі мець ня можна,
Што ніхто ня можа даць.

1932 г.

## Новая зіма.

У абоймах глухога спакою
Сьпіць палёў бесканечны прастор...
Зноў на шыбах мастацкай рукою
Тчэ зіма далікатны вузор.
Зноў сінеюць зімовыя далі,
Зноў зяленяцца змрокі, як лёд,
І гарыць пурпуровым пламеньнем
Няжывы і халодны заход.
А нядаўна, здаецца учора,
На блакітных палотнах нябёс
Ткалі шоўкам зялёным вузоры
Залатыя галіны бяроз.
Пахла мёднай ліпою ў паветры,
Дыхаў ласкай гарачаю змрок
І зьмяталі вячорныя ветры
Пыл з распаленых сонцам дарог.
Так нядаўна... Учора, здаецца...
Хоць сягоньня сьпявае мяцель
І на сэрца жывое кладзецца
Ледзяная, зімовая бель...

## Завея.

Ў нярухомай самлелай цішы
Ўстаў туманны і шэры ранак.
Ціха вецер гальлё калыша,
Недзе плачуць званочкі санак...
Нізка, нізка сівыя хмары
Над зямлёю пустой клубяцца...
Ціха... Раптам віхор ударыў,
Стаў заводзіць, гудзець, сьмяяцца.
А з віхурай прышла завея
Ўсё зьмяшала, зьмяла, парвала,
Раскачала гальлё ў алеях
І паблытала...
„Мейсца, мейсца, волі, волі!"
Мкне у месьце, мкне у полі,
Вочы лепіць белай беляй
Гнеўна-сьпеўная завея.
Ўецца, б'ецца, плача, скача,
Сыпкім сьнегам сее, вее,
Не баіцца няудачаў
Гнеўна-сьпеўная завея.

---

## Незгаданае.

Дзень стуліў залатыя расьніцы
І спачыў ў сыпкім попеле хмар.
Ў небе зорная рунь каласіцца,
Ў небе месяца зьзяе пажар.
Бесканечна—глыбокая выша
Льле ціхі і трывожны спакой,
Ноч і дражніць, і кліча... й калыша,
Ноч гуляе з душою людзкой.
Незгаданаю ўсьмешкаю Будды
Усьміхаюцца віры нябёс...
А зямля... яна сьпіць непрабудна
У паводцы нявылітых сьлёз.
І хоць гасьне між намі надзея
Пад цяжарам распачных ахвяр...
— Ў небе зорная рунь зелянее,
Ў небе месяца зьзяе пажар...

---



* * *

Калі на заходзе зьнікае
Чырвонае полымя хмараў,
А ў лесе зязюля гукае
І цемра выходзіць з гушчараў,
Калі пачынае сасоньнік
З гарачаю ночай залёты
І ў чорныя, рэчныя тоні
Ліе маладзік пазалоту...—

— З надрэчных пяскоў аксамітных,
З бяздоньняў зялёна-блакітных,
З паміж асакі шапятлівай
Трывожна, нясьмела, жальліва
Сьпеў льлецца маркотны і палкі —
Сьпеў-жальба тапельніц-русалкаў.

Выходзяць з бяздонных палацаў
На бераг халодны, пяшчаны,
Бяруцца за дзіўную працу:
Ткуць срэбрам палотны туманаў.

Сплываюць сівыя сувоі
З надрэчнай, нізкой сенажаці,
Паўзуць на паснуўшыя хвоі,
Каб зораў далёкіх дастаці...

І плачуць русалкі пры кроснах,
Так хочацца верыць, што плачуць,
Сумуюць распачна, жалосна,
Па тым, што было, няіначай...

А мо' гэта вецер шапоча
У срэбных заросьлях асокі?
Мо' вольхі цалуюцца з ночай
Над вірам ціхім і глыбокім?

Мо' гэта саўсім ня русалкі
Там чэшуць зялёныя косы,
А месяц праменны і яркі
Распальвае ночныя росы?

---

МІХАСЬ МАШАРА.

## На пералом .

I

Бушуйце, шалёныя хвалі,
Гайдайце у цемры чаўном!
Праменьні там ўспыхнулі ў далі,
Гэй стырнік! туды—на пралом!

Падмогі ня трэба!—ня хочам!
Надзея на гібкасьць і моц,
Мы самі усё пераможам,
Варожыя хвалі і ноч.

Ратунку, таксама, ня прымем,
Зацяжка нам ласка чужых.
Ўсё самі! рукамі сваімі
Здабудзем —
правы і мейсца жывых!

Нястрашна, што нас так нямнога.
Ня страшыць нас бурны наш пуць.
Мы—моцны!—праложым дарогу
Да сонца, праз буру і муць!

Шалейце, бурлівыя хвалі,
Гайдайце у цемры чаўном.
Свой лёс мы на вагу паклалі
І веру усю—ў пералом!

II

Ужо ён недалёка,
Ён—гэны пералом,
Затое так глыбока
І цёмна ноч кругом.

Затое вецер люты,
Запеніў хвалі так
І ціха шэпчуць Юды,
Нам нейкі тайны знак.

Яшчэ такім шалёным
Наш шлях, браты, ня быў,
Але праз цемру промень
Нам думы запаліў.

Затое крэпне вера,
Мацнее сіл уздым.
Агні, агні—бяз меры
У сэрцы маладым.



І мы з пажарам гэтым,
Як сьветачы плывём,
Да тэй сьвятлянай мэты,
Туды—на пералом!

III

Ні енку, ні стогнаў, ні сьлёзаў
Ад нас не пачуе ніхто.
Як сонца, так будзе прыгожым
За тым пераломам жыцьцё.

За крыўды, за мукі, за зьдзекі —
Нагарады, ні платы ня трэ'.
Мы служым Яму—Чалавеку,
Што ў сьвет наш здалёку ідзе.

Мы жуць гэтай цемры і змроку
Заменім у пышны усход.
Так даўна чаканы—здалёку,
Прыдзе на зямлю веснаход.

Улягуць шалёныя хвалі,
Заціхне і бура і гром,
І будзе далёка за намі
Змаганьне за наш пералом.

Таболы
Лістапад, 1934.

* * *

Я хачу, каб ты сьпявала
І вясёла, і заўсёды,
У жыцьці ёсьць шчасьця мала —
Болей гора, бед, маркоты.

Дарагая! шлях наш—мука,
Ўсіх працоўных шлях цяжкі.
Ты вось бачыш, гэты рукі
Ўжо насілі ланцугі.

А за вошта?—ня пытайся...
Знаеш ты, як знаю я,
Што дарма Хрыстос расьпяўся,
Ён з зямлі ня зьняў крыжа.

Крыж, пакора і пакута..
Сказ стары, мінулых дзён...
Працы бой... вастрог і путы
Новы выкуюць закон.

На шляху працоўных сёньня
Радасьць рэдка дарагая,
Хай-жа ў песьнях радасьць звоніць!
Новых дзён красу вітаем!

* * *

Мне хочыцца сёньня расчуліцца
Між ціхага змроку і дум.
Заснула вясковая вуліца,
Ня сьпіць толькі шолах і шум.

У сэрцы наквець маразяная
Збудзіла прыгожыя сны
І скульсьці здалёку—нязваныя,
Чароўныя мроі прышлі.

І думы ідуць нейкай казкаю,
І сьняцца мне сны на яву.
Я бачу пад сьнежнаю маскаю
Ізноў цьветабой і вясну.

І чую прылівы вясьняныя,
Агнём закрынічылі кроў.
І ты—твае вочы каханыя
Нада мной пахіліліс ізноў.

---

* * *

Пад акном, над парканам бярозка
Пахіліла галінкі ў паўсьне.
Ты шмат дум ўзгадавала мне, вёска,
Многа песень сьпяяў я табе.

Так бярозку ўсю бельлю прыгожа
Расквяцілі мароз і зіма,
А мне сьніцца ўсьцяж падарожжа
У краіну—дзе ціш забыцьця.

Так спакойна, бяз суму і жалю,
Пагадзіўшысь з жыцьцём і сабой,
Я чагосьці пакорна чакаю
Гэтай белай сьцюдзёнай зімой.

Усё спаткаю... прыму і прабачу...
У сэрцы болі і бунт пагашу,
Над старонкай каханай зьвінячу
Лебядзіную песьню пяю.

А ні крыўды, ні жалю—ні трошкі,
Ні да кога ня чуе душа,
Толькі шкода мне белай бярозкі,
Што так пышна прыбрала зіма.

Хварэючы.

---



* * *

З цыклю „Вандроўнае“.

Так-бы вербай стаяць пры дарозе
І глядзець на наш родны прастор,
Дзе хвалюецца золатам збожжа
І плятуць пералескі узор.

Каласьсянае мора разгонна,
Усё ў хвалях шырока імкне,
Быццам зьнекуль скрылатыя коні,
Абганяе калосьсе мяне.

І бягуць, і бягуць зьнекуль хвалі,
Без канца, без пачатку бягуць!
Сонца неба у золаце плавіць,
Залаціцца вандроўны мой пуць.

Поле, поле! куды ён імкнецца
Тваіх ніў каласьсяны палёт?
І шуміць мне адказам здаецца:
— Ўсё ў жыцьцю—вечны рух наўпярод.—

---

* * *

Наўкол так прыгожа, прыгожа...
Люблю цябе красачны май!
Адходжу я зноў ў падарожжа,
Ківаючы вёсцы—бывай! —

Туды у сінявыя далі,
Іду між высокіх жытоў.
Наўкол каласьсяныя хвалі
І скромная сінь васількоў.

Іду...
На дарогу выходжу.
Пабапал разьвесіста дрэвы
На варце задумы стаяць.
Бярозы так дзіўна прыгожы
І сьвежы,
Як сьвечкі, зялёным гараць.

І хочыцца стаць на каленькі,
Прад дзівам прыгожай вясны,
Такім сябе чую маленькім
Між гэтай жывой, пераменнай красы.

О, край пералескаў зьвінячых!
О, поле, рунеючых ніў!
Я рады,
Што тут, хаця з торбай жабрачай,
Мне лёс вандраваць прысудзіў.

# Асеньняй ноччу...

Як ты бязьмежна доўгая і беспрасьветна цёмная наша асеньняя ноч!

Дробныя каплі, як слёзы, павісьлі на шыбах.

За вакном рэзка сьпявае вецер.

Цягуча і тужліва шуміць гальлём вярба.

Дарма ўглядаюся ў цёмную муць акна.

Ня відаць нічога...

Толька блеклымі сьветлякамі мільгаюць вочы — агні вясковых хат...

Як сьвечкі надзеяў.

Як далёкія маякі, затрачаных у цемры, бязьлюдных астравоў.

Дарма, чуткім вухам, стараюся падслухаць анямеўшае жыцьцё вёскі, акутанай непрагляднай цемрай асеньняй ночы.

Ціха... ні гуку...

Толькі ўсьцяж шуміць тужлівая вярба, ды буйна гуляе сьпявака—вецер.

Зашуміць, закруціць гальлём вішняка і ўдарыўшы сьпеўным скрылом па шыбах, нястрымана імкне ў даль. Гэй—туды ў чорную муць! На разлогі, пусты прастор сумуючага поля.

І я ізноў адзін...

Безнадзейна адзін, стаю ў вакне заснуўшай хаты.

Толька, як на бязьлюдным астраве, на маей душы хтось ціха тчэ кросны дум.

Думы—дзеці душы.

Думы, вы мая адзінокая радасьць!

Вы—асалода жыцьця і маё пракляцьце.

Вы навучылі мяне разумець жыцьцё, шукаць яго тайніцы і любіць яго сэнс.

Вы мае сьцежкі, праз зблытаны лябірынт людзкой маны, бруду і дурноты да вялікае Праўды жыцьця і сьвету.

І вы мой цяжар, найгарэйшы мой вораг на жыцьцёвым шляху.

Вы—адабралі мой спакой, несьвядомую радасьць жыцьця, здаровы сон і залацістыя мроі.

Вы—адчынілі мае вочы...

Запалілі ў грудзях моц і трывогу.

Вы—навучылі відзець, жадаць, кахаць і ненавідзець.

Вы напаілі сэрца хмелем творчых уздымаў і прагавітых імкненьняў.

Вы—ап'янілі душу думным самапазнаньнем людзкога—Я.

Вы—запалілі нязгаслае полымя бунту.

Вы—пасеялі сьляпы і ліпкі солад веры і ўпартую волю змаганьня.

Вы прывялі мне: — бязсоньне, пытаньні і салодкую ману сьветлых надзей.



Вы паказалі мне сьцежку да вялікай сьвятой перамогі.

Вы прымірылі з патрэбай ахвяры, мук і цярпеньняў, вядучых да мэты.

Вы навучылі кахаць магутнае гора і боль людзей.

О думы—дзеці душы!

Вы—мая радасьць, цяжар і пракляцьце.

Ізноў пусьціў хтось у рух вашы кросны.

Ізноў зашумелі вашы нястрыманыя скрылы.

Ізноў, з тужліва-сьпеўным асеньнім вятром, панясьліся вашы скрылатыя коні над разлогім прасторам родных палёў, дзе ў беспрасьветную цемру асеньняй ночы мільгаюць блеклыя сьветлякі, вячэрнія вочы—агні сялянскіх хат.

Гэтыя—сьвечкі надзеі.

Гэтыя—іскры жыцьця.

Мацней дзьмі ты, шалёны вецер.

Узьнiміся, магутная бура.

Хай іскры пажарам стануць, —

Хай новым сьвітаньнем азараць беспрасьветную цемру асеньняй ночы.

---

# Новаму году.

Я хваліць цябе буду у песьні, —
Пакланяцца ўсей мудрасьцю слоў;
Толькі будзь ты жаданай прадвесьняй,
Тых надходзячых новых часоў.

Нашы душы засьмяглі ў чаканьню
Новай праўды на нашай зямлі.
Прынясі ты нам промень сьвітаньня
Брацкай згоды,— вялікай сям'і.

Ў нашым сьвеце цяпер невясёла;
Поўна крыўды і бед нарасло.
Прынясі нам Вялікае Слова,
Што з пачатку у Бога было.

Мы шукаем ў пацёмках дарогу,
Зьнямагаем ў няроўным баю.
Прынясі ты—над злом перамогу
І магутны спакой на зямлю!

Таболы.
Сьнежань 1934 г.

# Ліст *)

Дарагі * * *

Ты просіш вершаў, слаўны дружа,
(І проза нават можа быць).
Ў маіх грудзёх зьнямогі сьцюжа
І ліра звонкая маўчыць.

Будзённа шэрыя патрэбы,
Клапоты беднасьці і бед,
За чорны луст сухога хлеба
Жыцьцё марнуе твой паэт.

О друг!.. Цяпер мне не да вершаў,
Як нават пару год назад,
Хоць на пераклічцы стануць першым
Я ўсей душой і сяньня рад.

Я песьні ўсьцяж люблю... і ў сэрцы
Крынічыць песенная брэдзь,
Але асуджан, —ў паняверцы
Маўчаць, таміцца і мадзець.

Хоць сэрцу сьняцца васілёчкі
І пышны майскі цьветабой, —
Ў чужым сшытку выводжу строчкі
Траплом, лапатай і касой.

Нясмачны хлеб і лёс найміта,
Так бедна зьместам тут усё,
Дык як-жа быць мне тут поэтам
І славіць песьнямі жыцьцё?..

в. Таболы,
25.-XI. 1934 г.

---

*) Адказ на ліст аднаго з Рэдактароў „Калосься“ з просьбаю прыслаць да друку літ. твораў. Рэдакцыя.



ХВЕДАР ІЛЬЛЯШЭВІЧ.

# Я ня знаю...

Я ня знаю, чаму я павінен
Сэрца ў вершах паліць без адчаю?..
Адно цешыць мяне —
што ў Краіне...
Я ня першы у песьнях згараю.
Быццам жрэц словаў ціхіх, пакорных
Я закляцьце раблю над імі,
Каб у вершы —
Словаў узоры
Зьзялі пацеркамі дарагімі.

1933 г.

---

* * *

Лягчэйшы ўздох.
І погляд вачэй прыяцельскі —
На нітках —
дратох —
Вечар нанізывае пацеркі.
Цені людзей
Мігцяць ля сьценаў, між дрэвамі.
Не'к прыямней
Дражняцца вулкі сьпевамі.
Ў сэрцы цяпер
Настрой тужлівы раптам сьціх.
Кароткі верш!
Выплесьні накіп радасьці!
У словах двух—трох
Тайну скажу па-прыяцельску —
На нітках —
дратох —
вечар —
нанізывае... пацеркі...

1933 г.

М. ДАЛЬНЫ.

# На дарогу.

Андрэй радзіўся ў вёсцы Макаршчыне. У яго сінявых вачох — серабрысты адліў. І, здаецца, яны насычаны неабнятай далльлю вясковай. А ў твар, здаецца, вось-вось, толькі што, веялі сьвежыя вятры прастораў вольных. Калі ён сядзіць у студэнскай сталоўцы—быстрыя вочы дзяўчат даўжэй затрымліваюцца на ім. Ён дзелавіта есьць, як-бы за хатай стаіць запрэжаны конь. Гараць зараз паедзем.

---

Вёска Макаршчына жыла вякамі. Папросту: жыла і праходзіў час. Прыйшлі сюды калісь людзі. Можа ад Макара яна й назвалася. Пачалі лес церабіць. Паявілася хатка—адна, другая. Праз соткі гадоў—вось яна многахатняя, многахлеўная, гаманкая, з шнюрамі ворнай зямлі, выдзертай цяжкой працай моцных рук. Летнімі вечарамі, калі пахлі кветкі ля хат і ў серабрыстым тумане чулася дыханьне зямлі, ля кустоў расла вёска. З лесу, з працы ўпорнай вышла вёска і стала насупроць вятроў з заходу й з паўдня, з поўначы і з усходу. На вуліцы, ля платоў віўся гармані-сты смутак і між яго ўплятаўся малады сьмех... праскрыпіць студня зімой. Звонкі голас пачуецца. Шпарка пройдзе нехта па вуліцы... Вякамі... паміралі дзяды, і бацькі, і дзеці. А жылі-ж яны вось тут, хадзілі, працавалі, гамонілі. І дзе цяпер? Незразумела гэта. Страшна гэта. Жудасна. Няўхілна.

„А, мой ты, міленькі, а мой ты, галубчык“... Вякамі...

Часамі пралятталі буры і ўся вёска тамілася ў страсе: каб-жа шчасьлівенька... Часамі пралятталі буры, але яны абміналі вёску. Вякамі плыло жыцьцё... Цяпер вось чыгунка блізка вёскі. Андрэй першы чалавек з вёскі, які стаўся вялікім. Паехаў далёка, у места вялікае. А сталася гэта прыпадкова, бо Андрэя дарма вучылі.

— Во, разумны такі, а не спанеў. Вёска ажыла. З Андрэем-жа разам на сенажаці дурэлі. А цяпер — ён газэтку выпісаў. Вучыцца ў унівэрсытэт паехаў. Паехаў Андрэй, а жыцьцё пастарому плыло. Толькі ў сэрцы дзявочым жаль і тугу выклікаў.

Замятае сьнег вёску. Налятаюць ветры халодныя. Б'юць у стрэхі, у ваконьне, як-бы ад вякоў таёмная, страшная прырода хоча адняць ад людзей крышачку іх разуменьня: чаму? Схаваліся хаты—чорныя плямы—у моры сьнежных прастораў. А ў кожнай-жа хаце сэрцы людзкія, жыцьці людзкія. Пахаваны, запёрты... Сьнег... Сьнег... Замятае вёску. Налятаюць ветры халодныя. Ня сьпіцца Ганьне. Душна ў хаце. Хаваюць цяпло старанна ад холаду. А ў Ганны на сэрцы цяжка. Думкі яна думае. Пасвойму. Так як навучылася. Кахае яна Андрэйку. Моўчкі. Даўно. З тае пары, як ён гімназістам стаўся. Вось ён — расьсьмяяны, з блакітнымі вачыма — прыплывае да яе з шэрані ночы,стаіць, як жывы.



Прыемна-больна крывавіць сэрца. Мінула ўсё і ня вернецца. Вечар над рэчкаю. Калышыцца ў серабрыстай вадзе месячык. І чарот чарнее на блакітнай далі. А яны ціха сьняць... Няўжо ён любіць другую? Але, Андрэй заняты. Набраўся кніжнае мудрасьці, не даведаешся ў яго нічога. Слухае Ганна, як вецер гудзіць, як енчыць пад вокнамі, рассыпаецца сьмехам, сыпе сьнегам у шыбіны. І ня ведае Ганна, што ў вялікім месьце, дзе Андрэй, далёка, за соткамі вёрст, гарадзкі гадзіньнік б'е 10 гадзінаў.

Роўна—спакойна—разважна:

...Бам... бам...

Замятае сьнег вёску.

— Прыемна з табой, Андрэй... і чорныя вочы Вера зьлівае ў яго твар. Андрэй мацней сьціскае рукі. Пахіляюцца ўлева і ўправа целы. На асьвечанай коўзанцы іскрыцца лёд і плывуць сыльвэты людзей. Музыка разьлівае ў мускулах пеністы задор. А ў сэрцы—маладая радасьць. Узяўшыся за рукі, плывуць Андрэй і Вера па льдзістай гладзі. І, пахіляючыся, заглядаюць адзін другому ў вочы.

...Бам... бам...

Мароз зазьвінеў на асьнежаных галінах. Гасяцца вагні. На коўзанцы—малады крык. Пабеглі, пабеглі цені.

---

Андрэй адыйшоўся ад вёскі Набраўся кніжнае мудрасьці. У лябараторыі стаіць ён у белым хвартуху й пільна сочыць за шыпеньнем у прабірцы. Павяскоўваму ціка іцца Андрэй. А воддаль халодныя вочы прафэсара зпад акуляраў узіраюцца на яго.— Будзе хімік! — думае прафэсар. Ён любіць Андрэя. Заманілі Андрэя вагні далёкага места. І пачула вёска, што першы іх вялікі чалавек — пайшоў кудысь і згінуў у далі. І ў Андрэя — таёмная барацьба. Схавана, укрыта глыбака, на дне душы. Заняты яго думкі паездкай да Веры. Чарнавокай. Гнуткай. Напеўнай. Неразгаданай... А над вёскай навісла хмарай цёмнай гора. Вось яно—у вачох хлопцаў, што скаваных павялі вясковай дарогай. І вечарамі смутак вясковы рассыпаецца ў гармоні па сьценах Грышкінымі пальцамі. А Андрэй глухі. Калісь сэрца кіпела, губы заціскаліся, вочы грозныя блішчэлі. А тады-ж ён быў гімназістым. Другі цяпер Андрэй, зьменены. Думкі яго кніжныя. А ў сэрцы—Вера — чарнавокая, гнуткая... Прайшлі няпрыметна ясныя дні Верыныя.

Каханьне Верына, як сонца яснае, як неба сьветлае, бяз хмар. На разьвітаньне паехалі далёка... саньмі. Дарога — белая палатніна, вышытая марозам. Іголачкі серабрыстыя... У ветры—словы—адрыўкі. Заехалі па дарозе ў хвальварак. Верына знаёмая. Хвоі і елкі спакойна спалі ў марозную ноч. Дарога незнаёмая ў ночы. Цёмна ў лесе. Правясьці клікнулі парабка, Рамана. Выйшаў Раман з ліхтаром. У цемнаце ночы радасьцю кладзецца паласа сьвету на белым сьнезе. Зазьвінелі спалохана шалястунчыкі.

Коньскія ногі правальваюцца скрозь сьнег. Андрэй з Верай у санках туляцца. А побач ходкія ногі выпераджаюць каня. Лапцюжныя ногі... Шыбка ступаюць, і не правальваюцца праз сьнег. Хутка, шпарка. Раз—два—раз—два..

— Раман! Асьцярожна.—Аглобля зачэпіць...

— Нічога... не зачэпіць.

— А ўсё-ж зыйдзі на бок, Раман. Раман зыходзіць на бок. Ліхтар у тахт калышыцца, а ногі шыбка ступаюць.

У небе зоркі мігатлівыя, вялікія. Далёка засталіся вагні хвальварку. Малелі, меншалі, як зорачкі, зачэпленыя сярод асьнежаных бяроз. І зьнікл і.

— Раман! Вярніся! Неяк ужо заедзем.

— Я вас на дарогу... Блізка ўжо.

Зблудзіць лёгка...

Маўчаньне. Ногі ідуць і ідуць.

Андрэй глядзіць на іх і нейкая думка вырастае ў яго, мацнее, большае. І горыч захлынае гарачай хваляй... Вось яны... ногі, тыя, што вякамі церабілі гэтыя абшары, што пратапталі сьцежкі-дарожкі. А ён, Андрэй, едзе... Пан! Выплыла віна і заплюскала па берагі... Вёска каханая, непарушная, векавечная! Даруй! Яго каханьне такой агідай паказалася яму. І ўсе ласкі Верыныя. Пільна, як у прабірку ў лябараторыі, углядаецца Андрэй у рух вытрывальных ног.

На дарозе разьвіталіся. Андрэй вылез з саняў. Падзякаваў Раману. Раман зьдзіўлена паглядзеў на Андрэя. Стаялі. Доўга ўглядаліся, як мігацела сьвятло, замірала, хавалася за соснамі, то йзноў сьвяціла бледным, жоўтым пункцікам сярод сьнягоў.

Андрэй нічога не сказаў. Пайшоў па дарозе. Забраджджэлі шалястуны.

— Андрэй! Куды?

Нічога ня чуваць...

Рвануліся коні. Пад‘ехалі. Спыніліся.

—Андрэй! Андрэй! Надарвана крычыць Вера.

Завярнуліся коні. Цішэлі шалястуны і замоўклі нейдзе далёка. Хутка ідзе Андрэй. Сялянскім крокам.

— Раз—два—раз—два...

Да станцыі. 1934 г.



## А. БЯРОЗКА.

* * *

Сьнягі... сьнягі... сьнягі... І шэры дзень зімовы
Так доўга цягнецца... Аб нечым сэрца сьніць...
Маўчаць палі, панура лес маўчыць,
На думкі вольныя нуда кладзе аковы.

Лягла на полі бель... Нейк злосна вецер рвецца,
Мяце і круціць віхрам сьнежны пыл
І з над глухіх курганаў, з над магіл
Таёмны кліч са сьнегам ў даль нясецца...

Ён кліча тых, што гнуцца пад цяжарам
Жыцьцёвых мук, на вечны супакой —
І бледны цень з іржаваю касой
Бясслоўна цягнецца асьнежаным папарам...

Ня бíся, сэрца!.. Гэта сьмерці цень...
Яго навёў зімовы шэры дзень...

* * *

Туман разаслаўся над соннай зямлёю
І далі палёў пад туманамі сьпяць,
А цёмная ночка завесай густою
Паўзе праз папары, лугі, сенажаць...
Пушыстыя хмаркі па небе гуляюць,
Як стада авечак. Замоўклі лясы.
Задумаліс краскі: галоўкі схіляюць...
Рассыпаліс пэрламі кроплі расы.
Вось цені гусьцеюць на неба блакіце...
Бліснулі у вёсцы далёкай агні...
Ноч краскі цалуе і шэпча: „Засьніце!“—
А краскі зямельцы шапочуць: „Засьні!“
А вецер свае карагоды заводзіць,
Галінкі бярозаў дрыжаць і шумяць,
І цёмная ночка да вёскі падходзіць —
Паўзе праз папары, лугі, сенажаць...

ГЭРМАН ВЯЛЕЦКІ.

## Гэта было так нядаўна..

Гэта было так нядаўна—а разам
Дзіўнаю казкай дзіцячых гадоў,
Душу няволіла ясным экстазам
Шчасьце, прырода, любоў;
Гэта было так нядаўна—на хвалях
Ціхага возера лодкай плылі —
Дні у надзеях, у муках, у жалях
Дзесьці далёка былі.
Гэта было так нядаўна—над намі
Лес раськідаўся каронай густой,
І шапацелі дубы мне гальлямі
Ціхую казку—спакой.
Гэта было так нядаўна—ўсьміхалась
Сонейка яснае чарам паўдня,
Дробныя хмаркі плылі і здавалась
Сыпала ласкі зямля!
Гэта было так нядаўна—з прыродай,
З вобразам ясным душы маладой
Сэрца зьлівалась з такой асалодай,
Быццам казала—я твой!
Гэта было так нядаўна—наўкола
Радасьць, вясельле і шчасьце жыло,
Сэрца няўстрымана білась вясёла —
Гэта, здаецца... так даўна было!



# З Усходняе Беларусі.

ПАЎЛЮК ТРУС *).

## Ой, люблю...

У блакітнай высі, цёмна-сінім моры
Дагаралі зоры —
Зоры залатыя.
А ў ружовых далях, ой, з-за бору, бору...
Калыхала песьня паплавы—прасторы.

Калыхала песьня небасхіл імглісты,
Калыхала сьвістам
Пад гарою гай.
Ой, люблю сьпяваць я, на мяжы гарыстай
Дзе ў зары празрыстай
Топіцца імгла.

Калыхала песьня вольнае бязмежжа,
А ў грудзёх сярмяжных
Ой, вішнёвіць жар!
Эх,
Люблю я ў полі, на жытнёвых межах
Упівацца сьвежым,
Вінным сокам яру.

І тады на крыльлях вольна-сакаліных
Поглядам арліным
Мераю прасьцяг.
Дый люблю-ж я ў полі на прыпол даліны
Сыпаць цьвет малінны —
Новага жыцьця!... —

О, цябе я ўспомню, маладая вёска!...
Дзе ў вясновых ўсплёсках
Смутак утапіў,

*) Паўлюк Трус—адзін з найздальнейшых беларускіх поэтаў Усходняе Беларусі. Радзіўся ў 1904 г. ў Меншчыне, а памёр у 1929 г., будучы студэнтам Менскага Унівэрсытэту. Хоць памёр без пары, Трус пакінуў па сабе вялікі сьлед у нашай літаратуры. Творчасьць яго характэрызуюць глыбокі лірызм, сакавітасьць абразоў і вялікае багацьце й мілагучнасьць верша. З вялікай умеласьцю чэрпаў Трус з бел. народнай творчасьці. Яго стыль, які адзначаецца вялікім размахам і багацьцем тонаў, у значнай меры асновааны на народнай песьні. Пісаў вершы й лірычныя поэмы, з якіх асабліва прыгожай ёсьць „Сірата Алеся“. Выдаў некулькі зборнікаў сваіх вершаў, многа друкаваў у розных часапісах а ў 1931 г. Беларуская Акадэмія Навук выдала яго „Выбраныя вершы“. Два першыя вершы і чацьверты Труса перадрукоўваем з яго зборніку „Вершы“ з 1925 г., а трэці — з „Выбраных вершаў“ з 1931 г. Рэдакцыя.

Дзе з касою вострай, раніцаю роснай
На мурог пракосах
Хмель я шклянкай піў.

У блакітнай высі, цёмна-сінім моры
Пагасалі зоры,
Зоры ды міганьні.
А ў ружовых далях, ой з-за лесу—бору...
Растапіла сонца мклівасьць сочна-раньнем.

---

## У Купальскую ноч..

У купальскую ноч,
Над прасторамі вод
Цалаваліся явар з калінаю.
Як драмалі палі,
Засыпаў небазвод, —
Я спаткаўся з чароўнай дзяўчынаю.

Як драмалі палі,
А ў палёх ды туман,
Ох, туман малачай серабрысты,
Жыта—рунь палівау
І кудзеліў твой стан, —
Мы ступалі далінай імглістаю.

А ў даліне, ў цішы
Зельле-кветкі цьвілі —
Ты вяночкі віла прамяністыя,
Залаціўся агнём
Золак раньні ў далі —
Як мінулі даліну імглістую.

І пашлі,
і пашлі
Мы на вольны прасьцяг —
У прасторы палёў сінявокія.
Толькі сьпевы жніва,
Перазвоны жыцьця
Усплывалі
далёка,
далёка.

Не разьвесісты гай
Гаманіў пад гарой,
Не зязюля ў гаі кукавала, —
У купальскую ноч,
Пры спатканьні з табой,
Ты аб шчасьці з запалам сьпявала.

---



## Не на ўзмор'і чаўны...

Не на ўзмор'і чаўны
Ўдаль прастору вясны
Адплываюць і нікнуць ў тумане...—
Гэта постаці жней
Ў агняцьвеце надзей,
Ў строях зор шалясьцяць на майдане.

Ў іх руках васількі,
На прыполе вянкі
І смуглявая гордасьць ва ўсьмешках.
Яны кветкамі з руж
Асыпаюць зару,
Спавіваюць жыцьцёвыя сьцежкі...

І шасьцяць каласы
Ў пацалунках красы...
Б'юць паклоны ў часы непагоды...
Як маўкліва стаяць,
Думы ў сэрцы таяць, —
Думы-казкі адвечных мэлёдый...

А як песьня ў цішы
Ўскалыхне дно душы,
Паліюцца акорды... міноры...
Тады з больлю шыпшын
Вечна хочыцца жыць, —
Каб аддаць сваю радасьць прасторам...

О, як хочацца жыць, —
Абнімаць гэту шыр...
О, як хочацца сэрцам ўпівацца і думаць,
Каб у змроках далін,
Нат каменьні цьвілі, —
Каб ня згасьлі адвечныя думы...

А ў палёх каласы
Ў ціхім звоне красы
Б'юць паклоны абветраным нівам...
І як сон ў цішыні,
Як пражытыя дні,
Песьня коціцца ціха... маўкліва...

Ой, у полі паляначка,
Там гуляла дзяўчыначка
Ды сеяла руту-мяту...
Ды з возера ваду брала,
Руту-мяту палівала
Ў будны дзень і ў сьвята...

Ой, у полі палянечка,
Там хадзіла дзяўчыначка,
Да сеяла з мятай ружы...
Расьці-ж, мая ружа-мята,
Цябе рваць будзе у сьвята
Мой міленькі дружа...

І пальлецца ў цішы
Песьня—водгук душы,
Песьня радасьці... смутку... і болю...
Дунай – жыта маўчыць,
Толькі плачуць сычы, —
Ў цiхой музыцы журыцца поле.

Ды як з мора чаўны,
На прасторы вясны,
Адплываюць і нікнуць ў тумане, —
Тонуць постаці жней
Ў агняцьвеце надзей, —
І шасьцяць—шалясьцяць на майдане.

---

## Асеньняе.

Вёска, вёска —
Верасьнёвая прозалаць—кроў!..
Ну, аб чым ты сумуеш сягоньня?!
Майго сэрца журбою ня крой,
Яно—звон,
Павясноваму звоніць.

Ну, аб чым ты сумуеш?
Скажы!..
Ці шкадуеш, што вольныя ветры
Узрываюць быльнёг на мяжы
І нясуць яго ў цёмныя нетры?

Ці сумуеш, што ветры ў гаі,
Хіляць вербы да самага долу?..
Ой, ды смутку твайго не згаіць
У лісьцьве-жоўтацьвецені кволым.

Вёска, вёска —
Верасьнёвая прозалаць—кроў!
Ну, чаго ты замоўкла сягоньня?
Майго сэрца тугою ня крой!
Яно—звон,
Павясноваму звоніць.

---



МІХАСЬ ЗАРЭЦКІ *).

# Радасьць.

Чалавек—гэта вір. Глыбокі і цёмны, дна якога ня ўбачыць. Ня ўбачыць і наогул таго, што дзеецца там, чым жыве таемная глыб гэтага віру.

Мы бачым паверхню яго, пералівы дзівосныя хваль – то буйных, віхурна-ўзьнятых, то дробных і кволых, як пераборы празрыстага ветрыку па струнах ціхае гарфы.

Мы бачым толькі паверхню, а ў глыб зазірнуць, пранікнуць туды, дзе таемным бяздоньнем зьвінулася цемра... О, каб пранікнуць туды! Каб разгарнуць гэты вір і ўбачыць усё, усё чыста, да самага дна...

Або сетку закінуць, каб выняць на сьвет хаця частку таго, што жыве ў таемным бяздоньні...

Мо'-б блíснулі сьвятлом нябачаным ясныя пэрлы?

А мо' там—глей адзін, ціна, пясок?

Часам у пералівах хваль, што сьцібамі рэжуць паверхню цёмнага віру, мы бачым адбітак насупленых хмар, душным цяжарам навіслых над намі. Тады мы кажам:

— Гэта—Сум.

А часам выблісьне сонца і хвалі заграюць вясёлкай, разарвуць, рассыпяць сонечны блеск у мільёны агнёў самацьветаў, расьсеюць навокал шчодраю жменяй іскры гарачыя. Тады мы кажам:

Гэта—Радасьць...

Сонца бывае рознае. То яно—палкае, шчырае — прынікае да самай зямлі, сьціскае яе ў сваіх моцных абнімках, цалуе смагла агнёвымі вуснамі. То атуляе нас, песьціць ціхай ласкавай цеплю, саграве нутро, навязвае спакой. А то дык зусім неяк дзіка, недарэчы выгляне з боку, з-за хмар—касавокае—і падражніць, пакпіць над дурным чалавекам.

Рознае сонца бывае.

І Радасьць бывае розная...

---

*) Міхась Зарэцкі (Косянкаў) — належыць да найздальнейшых маладых пісьменьнікаў Усходняе Беларусі. Выдаў шмат зборнікаў сваіх апавяданьняў і некулькі повесьцяў; з пасярод апошніх вялікай мастацкай вартасьцяй адзначаюцца „Сьцежкі-дарожкі“ 1927 г. і „Вязьмо“ 1932 г. Зарэцкі быў востра прасьледаваны бальшавіцкімі ўладамі за нацыянальна беларускі характар свае творчасьці. Паходзіць ён з Магілеўшчыны. Зарэц і ў галіне беларускай прозы выявіў вялікі талент і поўнасьцю апанаваў тэхніку сучаснае повесьці і новэлі. Яго апавяданьні і повесьці, густа пераплецены лірычнымі дыгрэсыямі і мастацкімі абразамі й эпізодамі, адзначаюцца выробленым харошым стылем і вялікім багацьцем поэтыцкае мовы. Апавяданьне Зарэцкага „Радасьць“ перадрукоўваем з яго зборніку „На чыгунцы“, Менск 1928 г.

Рэдакцыя.

Яна пацалавала свайго мурзатага брата. Той пачаў быў яе сунімаць, усьцішаць. Бо ён-жа сур'ёзны зусім, ён з мамкай сам купляў гэты стол, у яго й шапка аблезлая на самыя вочы важна насунута. А яна тады абхапіла яго і пацалавала.

Сястра пацалавала брата. Сястра — брата... Ну, годзе, здаецца?...

Дык во як стрэла дзяўчынка радасьць.

Гэта было ўжо шэрай гадзінай. Неўзабаве прышоў гаспадар. Запалілі сьвятло, пілі чай. Пілі, вядома, за новым сталом, хоць і нязручна было. Гаманілі, сьмяяліся. Дзеці дурэлі. Словам, было так, як заўсёды бывае, калі ў госьці прыходзіць радасьць.

А потым прачнуўся малы. Заплакаў, заенчыў у спальні — так жаласна, квола. Ён хворы, ён заўсёды плача, як прачынаецца.

Дзяўчынка пабегла, прыцягнула яго.

— Ціху, дзетка... ціху, ну... Глянь, вунь стол... Паглядзі!...

У дзіцяці на твары застыла плаксівая міна. Часінку моўчкі глядзеў, плюскаў ад сьвету вачмі. Потым ажывіўся, матнуў парыўчата ручкамі.

— Стол, стол... Тата, гэта стол. . Вунь ён...

І худзенькі тварык яго, яшчэ мокры ад сьлёз, сагрэўся любай чыстай усьмешкай.

Хацу на стол... сесьці хацу...

І яго пасадзілі. Рассунулі шклянкі і сярод іх пасадзілі. Сёньня-ж можна, сёньня тут радасьць, а радасьць—апека дзяцей. Ён сядзеў на стале - шчасьлівы, здаволены,—ваяваў пабедна рукамі і гвалтаваў бесьперастанку:

— Стол, стол... гэта—стол...

Як скончылі чай, ня ўсталі з-за стала. Сядзелі ўсё, гаманілі, сьмяяліся. Была радасьць, была прытульнасьць і ціхае шчасьце.

А пасьля і зусім разышліся. Пачаў гаспадар. Ён выцер распараны твар, вальготна адкінуўся на сьпінку крэсла і зацягнуў грубым расшчэпленым голасам, рыпучым, як заржавелы блёк...

Дзеці ўраз падтрымалі яго. А тады і гаспадыня не ўцярпела: замылілася соладка і падвяла тоненькім-тоненькім галасочкам:

...У бары зязюля
Кукуе,
Ніхто зязюлі
Ня чуе...

І было так цёпла, так сьветла...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Бывае часамі, што сонца атуляе нас, песьціць ціхай ласкавай цеплю, саграве нутро, навявае ціхі спакой...

Бывае сонца такое...

І такая Радасьць бывае...



Я. ШУТОВІЧ.

# Адам Гурыновіч.

(1869 г. — 14.I. 1894 г.).

Адным з многіх талентаў, якіх жорсткі і бязьлітасны лёс забраў нам у цьвеце веку, зьяўляецца Адам Гурыновіч. Аб ім мала ведаем. А што ведаем—ёсьць наўперад заслугай і добрым сьвядоцтвам вялікай культуры сваякоў ягоных, што сяньня яшчэ жывуць.

Проф. Браніслаў Тарашкевіч, у артыкуле сваім аб Адаме Гурыновічу, *) падае скромныя аб ім весткі, як біографічныя так і тыя, што адносяцца да творчасьці ягонай арыгінальнай і перакладнай, а так-жа ягонай дзейнасьці ў кірунку зьбіраньня беларускага этнографічнага матар'ялу.

У мінулым годзе, дзеля ўшанаваньня памяці Адама Гурыновіча, з увагі на 40 ўгодкі ягонай сьмерці, я даў артыкул аб юбіляце **).



Адам Гурыновіч.

І дзеля гэтага лічу лішнім паўтараць тое, што сказана аб ім у гэных артыкулах (асабліва бліжэйшыя дадзеныя біографічныя).

А. Гурыновіч браў дзейнае ўчасьце ў рэволюцыйна-народніцкім руху 90-х гадоў XIX веку і як поэт шмат напісаў рэволюцыйных вершаў. Аб грамадзкай і рэволюцыйнай ягонай дзейнасьці, атак-жа аб ягонай працы, як этнографа, гаварыць тут ня буду. Скажу тут аб ягонай літаратурнай творчасьці (арыгінальнай і перакладнай). Апіраюся пры гэтым на ягоных рукапісах ***). А гэта-ж невялічкая частка Гурыновіча. Большая частка і найвартасьнейшая, пераважна пабеларуску пісаная, нажаль зьні-

*) Глядзі „Беларускі Звон" № 3, Вільня, 1921 г.

**) „Беларуская Крыніца" № 12, Вільня, 1934 г і „Шлях Моладзі" № 3 (63), Вільня, 1934 г.

***) Рукапісы, у беларускай мове пісаныя, узяў я дзеля выкарыстаньня з Беларускага музэю ім Ів. Луцкевіча ў Вільні; пералічэньне твораў падана ў артыкулах вышэй прыточаных часапісаў. Некаторыя з іх, дагэтуль нядрукаваныя, падаю пасьля гэтага артыкулу.

с т о ж а н а  ў сувязі з трасеньнем, прасьледам і арыштам царскімі ўладамі Гурыновіча, як рэволюцыянэра *).

Адам Гурыновіч пісаў пабеларуску, вершам і прозай, папольску і парасейку і перакладаў на беларускую мову польскіх, расейскіх і ўкраінскіх аўтараў, перакладаў поэзію і прозу. У перапісцы (польскай) падпісываўся Ежы (Юрка).

Беларускі нацыянальны твар поэты і агулам нацыянальны элемэнт добра выражаны наўперад у вершах наступных: „Да Мацея Бурачка", „Што ты сьпіш мужычок", „Што за звук ды так громка раздаўся" **).

З першага відаць, які ўплыў на поэта меў Францішак Багушэвіш. Поэт кажа:

„Дзякуй табе, браце, Бурачок Мацею,
За тое, што ў сэрцы збудзіў ты надзею,
Што між братоў нашых знаходзяцца людзі
З кахаючым сэрцам і баляшчай грудзяй.
Дзякуй табе, браце, і за тыя словы,
Што ўспомнілі звукі н а ш а й  р о д н а й  м о в ы,
Бяры, браце, дудку, наладзь і жалейку,
Няхай песьнь смутная ідзе у калейку
І будзіць у сэрцах мысьль аб лепшай долі,
Якой мы ня зналі дагэтуль ніколі".

У вершы „Што ты сьпіш мужычок", нагадываючы верш — пад такім-жа загалоўкам—расейскага поэты Кальцова, А. Гурыновіч, будзячы беларускі народ ад вяковай сьпячкі, вуснамі мужыкоў гавора аб іх социяльным і нацыянальным палажэньні, будзіць у іх пачуцьцё годнасьці людзкой, гавора аб іхных социяльных ворагах—панох, і аб цару, які нібы абдараваўшы мужыкоў воляй,—пакінуў іх далей у социяльнай і нацыянальнай бядзе:

...„Бо хоць волю нам даў —
Розуму ні крошкі,
Ісьці жыць прыказаў
Ня відзя дарожкі,
Хаця скрось настаўляў
Вучылішч, гдзе вёска
„Букі-ас" — наказаў
Навучаць бярозкай;
А  р а д н о г а  с л а ў ц а
Ніхто і ня чуіць,
Толькі так малайца
Саўсім ён сапсуіць
Ды навучыць рабя
Лаіцца парускy:
„С... сын я тебя
Засаджу ў кутузку".
„С.... сын" ці „пся маць"
А б о е - р а б о е,
Ці-ж ня могуць нам даць
Што кольвек другое?"

А ў вершы „Што за звук ды так громка раздаўся"—кажа Гурыновіч, што „звук"—гэта стогн, і

*) Арыштаваны ў 1893 г. у Вільні, у ўласным на той час будынку Гурыновічаў, пры вул. Пірамонт № 22. Так цьвердзяць сваякі Адама, названыя ў артыкуле Тарашкевіча і маім.

**) Тры гэтыя вершы, а такжа „Ох, ох умру ад сьмеху" і пераклады з Каспровіча („Вясна"), Міцкевіча („Вяльля") надрукаваныя ў „Бел. Звоне", Вільня, 1921 г.



„...гэты стогн быць ня можа,
Каб з грудзі ён выходз ў аднэй, —
То ўвесь  н а ш  н а р о д  гэтак стогне
Над няшчаснаю доляй сваей".

А народ стогне дзякуючы таму, што:

...„Ёсьць і рукі і шчырай ахвоты
Нам ня бракла да працы ніколі,
Але негдзе найсьці нам работы —
Ох, ня будзе нам хлеба, ні солі.
Мал надзел ад дзядоў нам астаўся,
Разьдзялілі сыны і яго,
А цяпер—глянь—як вузенек стаўся:
Два шагі тут ушыр усяго".

Творчасьць Гурыновіча агулам пранікнута грамадзкім зьместам. Социяльны і нацыянальны элемэнты грунтоўныя, яны пераважаюць. У вышэй цытаваных вершах Гурыновіч прадставіўся, як мужыцкі сялянскі поэт, закрануў у іх істотныя балячкі социяльнага („ня будзе нам хлеба, ні солі", „негдзе найсьці... работы",) і нацыянальнага (няма „раднога слаўца", роднай школы), жыцьця.

Па духу, па ідэолёгіі творчасьць А. Гурыновіча нацыянальная, і гэты элемэнт зьяўляецца і народным элемэнтам.

Адным з грунтоўных элемэнтаў, як сказана вышэй, ёсьць элемэнт социяльны, аднак у Гурыновіча ён не пераходзіць у партыйна-социялістычны кірунак.

Мова беларуская твораў Гурыновіча — часта поўная русыцызмаў і полёнізмаў, хоць у некаторых (напр: у ніжэй друкаваных) чысьціня мовы ў вялікай меры захаваная.

На аснове тых беларускіх твораў, якія мы пад рукой маем—можна сказаць, што творы Гурыновіча—ня так ужо далёкія ад твораў прыгожага пісьменства.

Моральнае значэньне твораў Гурыновіча— вялікае. Ён выказаў у іх чалавечае і грамадзянскае абурэньне процiў зьдзекаў з боку социяльных, нацыянальных, і політычных ворагаў народу, ня раз ужываючы сільных і вострых слоў (у вершах „Што ты сьпіш мужычок", „Перш душылі паны, што шляхтай зваліся"), ён зьвярнуўся у сваіх творах да нізоў, да слаёў грамадзкіх, найбольш пакрыўджаных; даваў яркія антытэзы социяльныя („З гадоў голаду" Арэшчыхі—пераклад, „Вечны рэволюцыянэр-дух" з Янука Пранко і ў іншых), даваў у творах тое, што магло народ бараніць і будзіць да лепшага жыцьця.

Любіў праўду і грамадзкую справядлівасьць і праводзіў іх, як поэт, у творчасьці сваей, ведаючы аб тым, што творчасьць— ня толькі павінна служыць самому харастlittle — мастацтву, але і ідэалам этычным, грамадзкім, нацыянальным, палітычным і інш. У гэтым веліч і актуальнасьць Гурыновіча.

Калі з гледзішча вымогаў літаратуры, як мастацтва, глядзець на творчасьць Гурыновіча, то яна мае значэньне ня лішняе, але з гледзішча постулятаў этычна-грамадзкіх яна мае значэньне вялікае і актуальнае.

Так выглядае А. Гурыновіч у сваей працы на літаратурным прасторы беларускім.

---

## З недрукаванай спадчыны Адама Гурыновіча

(Вершы падаём з усімі асаблівасьцямі мовы поэты.— Я. Ш.).

Зцямнела на дворы і ціха кругом;
Казельчыкі толькі ў мураўцэ крычаць
І з далеку нейдзе, не накш за лугом,
Вясковых начлежнікаў гоман чуваць...
Цяпленькая ночка ціхонька сышла
І цёмнай пасьцілкай прыкрыла усіх:
І з шопатам ціхім над сьветам лягла
Ка сну калыхаці і добрых й благіх.
У хату увойдзіць, у прывен глядзіць:
Ці сьпіць гаспадыня, ці дзеткі ляжаць?
Ці сам гаспадар на палацях храпіць,
Ці гдзе непарадкаў якіх ня відаць?
Усюды спакойна і людзі ўсе сьпяць,
Прыкрыўшыся цёмнай пасьцілкаю ночы.
Аднаму мне толькі ня можна прызваць
Спакойнага сону; а мысьль лятучы
Маланкай праходзіць праз голаву мне
І тысячу думак адна за аднэй
Ляцяць быдтам птушкі; і ў сэрцы на дне
Становіцса цяжка. Цясьней і гарчэй
Здаецса на сьвеце на гэтым жыцьцё.
Ох, думкі! каханкі і каты мае!
Куды ад вас дзецса? і што вы дасьцё,
Каб сэрца ня стогла, каб мысьлі свае
Глыбока, глыбока ў грудзі захаваць,
І песьняй вясёлай усё заглушыць.
Ох дарма! ня можыця даць
Вы мне спакайносьці... А месяц блішчыць
Па сіняму небу йдучы. Паляджу
На ціхую ночку, на цёмнінькі лес
Лягчэй можа станіць, як там пахаджу
І смутак загініць, што ў душу залез.
І з гэткаю мовай на двор выхаджу.
Іду каля тыну... *).

---

*) Працягу гэтага верша ў рукапісах у сябе ня маем.



## Б О Р.

Ох ты, бор, мой бор,
Бор сасновенькі!
Ты з каторых пор
Шуміш родненькі?
Мы з табой расьлі
Уздымаліся,
На аднэй зямлі
Гадаваліся.
Мы зжыліс з табой,
Бор наш родненькі,
Як з сваей сумой
Жабрак голенькі.
А з табой у нас
Долі роўныя;
Мы з табой якраз
Браты родныя.
Ні ў нас долі нет,
Ні ў нас шчасьцінька;
Апастыў нам сьвет,
Зямля матынька.
У другіх людзей
Зямля лепшая,
Там і жыць лягчэй,
— Праца меншая.

У пяску сваім
Мы купаімся,
Ня ў прымер другім
Прабіваімся,
Па лясох другіх
Усё лепшая;
І лістка на іх
Ўсё страйнейшая.
У бару-ж шумяць
— Сосны-ёлачкі;
На сучкох тарчаць
Ўсё іголачкі.
А ў нашых людзёх
Ўсё сярмяжачкі
А ў іх кешанёх
Ні бумажачкі.
А і будзім ждаць
Часу добрага
Ды нуж выглядаць —
Што ёсь новага.
Ды ня будзіць-ж так
Векі вечныя.
А прыдуць ніяк
Часы лепшыя.

---

## В я с н а.

Ты узноў да нас вярнулась,
Бледнай восені сястрыца!
Белай сукняй апранулась.
Ты румяна, сьветлаліца!
Ды, адкуль прышла мілая?
Гдзе жыла,—была далёка?
Мы це ждалі дарагая,
Выглядалі смутным вокам.
Знали мы, што ты вярнешся,
Край ня кінеш нешчасьлівы;
Залатым лучом пральешся
На паля, лугі і нівы.
І лучом тваім цяпленькім
Аджыла узноў зямліца.
Зацьвіцеў цьвяток красьненькі
Запеяла ў лузе пціца.

Скора ластаўкі гнязьдзечкі
Пад страхой начнуць зьвіваці,
І бацян зьляціць да рэчкі,
Рожных гадаў там іскаці.
Скора ў поля з песьняй звонкай
Артае пайдуць араці,
І пад песьню жаваронка
Прасіць стануць Божай Маці:
Каб жытцо было буйноя,
Сенаваць каб пры пагодзе,
Каб ўрадзіла не благоя
Ўсё у полі і гародзе.
А як зьберым усё з поля —
У гумно ў тарпу паложым,
Дык памолімся ў касьцеле
І табе ахвяру зложым.

АД. СТАНКЕВІЧ.

# „Mužyckaja Prauda“ і „Гомон“.

*Сынтэтычны нарыс.*

У мінулым 1934 г. прайшло 70 гадоў ад сьмерці слаўнага барацьбіта за вызваленьне зямель бышага Вял. Кн. Літоўскага з пад маскоўскага панаваньня, Кастуся Каліноўскага, з імем якога зьвязаны першы ў беларускай мове рэвалюцыйна-вызвольны часапіс „Mužyckaja Prauda“. У тым-жа мінулым годзе споўнілася 50 гадоў ад часу паяўленьня, хоць пісанага па расейску, але зьместам беларускага, так-жа палітычна-вызвольнага часапісу „Гомон“. З гэтай нагоды часапісам гэным і пасьвячаю гэты кароткі, сынтэтычны нарыс свой.

Абодва гэныя часапісы—гэта першыя ластаўкі беларускага палітычнага вызваленьня. Але не паявіліся яны на беларускім небасхіле ні з сяго, ні з таго — зрадзіў іх дух часу, імкненьні і ідэалы, якія ў той час панавалі ў Эўропе. Цёплы, поўны жыцьцёвай радасьці і творчых сьвежых сіл, романтызм, які паявіўся ў канцы XVIII і ў пач. XIX ст., замяніўшы суровы і акасьцянелы клясыцызм, у прыгожым пісьменстве і ў некаторых галінах навукі, узбудзіў новыя літаратурныя і навуковыя творы, будзячыхся да нацыянальнага жыцьця народаў. У тым-жа часе, апрача романтызму ў літаратуры і навуцы, паявіўся ў Зах. Эўропе і романтызм народна-палітычны, які, замест песьняў аб красе і нядолі жыцьця народаў, замест навуковых досьледаў над гісторыяй і мовай народаў, радзіў барацьбу за лепшае, вольнае палітычнае і соцыяльнае жыцьцё іх. Вялікая Француская Рэвалюцыя, наполеонаўскія войны, нацыянальна-вызвольныя рэвалюцыі многіх паднявольных народаў у Эўропе ў першай палове XIX ст. народна-вызвольныя ідэалы гэныя разьнесьлі па ўсім сьвеце, а ўрэшце — спярша праз Віленскі ўнівэрсытэт, а пасьля праз унівэрсытэты расейскія, данесьлі і да Беларусі. „Mužyckaja Prauda“ і „Гомон“ зьяўляюцца роднымі дзецьмі гэных романтычна-палітычных ідэалаў.

Беларускія адраджэнска-вызвольныя імкненьні шчыльна зьвязаны з тэй грамадзкай клясай, на якой беларускае культурнае і палітычнае самастойнае жыцьцё замёрла. Фармальна палітычная самастойнасьць нашага народу перастала існаваць на Люблінскай Уніі, а фактычна значна лазьней, бо аж да канца XVIII ст. Беларусь і Літва яшчэ шмат мелі палітычных і іншых правоў, якіх яны стойка баранілі.

Апошнім, сапраўды дастойным абаронцам астаткаў палітычнай і культурнай асобнасьці нашага народу і ўсіх беларуска-літоўскіх зямель быў слаўны Канцлер Вял. Кн. Літ. вялікі Леў Сапега. Беларускія магнаты, як пануючая і кіруючая кляса ў народзе, былі апошнімі абаронцамі палітычных правоў беларускага народу. Першымі пачынальнікамі палітычнага адраджэньня



гэтага народу былі ўжо прадстаўнікі дробнай шляхты, як клясы ўсё-ж дыкі асьвечанай і вольнай, няпрыгоннай, пры тым абяднелай і гэтым зблізканай да народу. Гэтая дробная і абяднелая, аканчальна не апалячаная беларуская шляхта, была адзінай свайго роду інтэлігентнай клясай у нашым народзе, якая зьберагла памяць аб яго мінуўшчыне і аб яго нацыянальнай асобнасьці і пры нагодзе ўзноў стала на чале гэтага народу. Гэткім быў К. Каліноўскі і многія з тых людзей, пры пасрэдніцтве якіх нарадзілася „Mužyckaja Prauda“.

* * *

Часапіс — ці лепш зародак часапісу — „Mužyckaja Prauda“ пачала выходзіць у Горадзеншчыне, праўдападобна ў Беластоку, у 1862 г. Друкаваная яна лацінкай, на двух бачынах аднаго лістка, разьмерам васьмёркі, у беларускай мове, з асаблівасьцямі Горадзеншчыны, з невялічкай дамешкай полёнізмаў. Крыху большым фарматам розьніцца ад іншых нумар сёмы. Наперадзе „Mužyckaj Praudy“ азначаны парадкавы нумар, а ў канцы цана: „hrošy 5“. Усе нумары падпісаны мянюшкай — Jaśko haspadar z pad Wilni. Усіх дагэтуль ведамых нумароў вышла сем. З ведамых дагэтуль літаратурных крыніц вынікае, што пад успомненай мянюшкай крыецца слаўны паўстанец, дыктатар Літвы, Кастусь Каліноўскі.

Галоўная палітычна-грамадзкая мэта „Muž. Pr.“, да якой яна заклікае беларускіх сялян, гэта: пазбыцца расейскага цара, пазбыцца паноў і паншчыны, здабыць для сялян зямлю на ўласнасьць, не плаціць вялікіх і крыўдных падаткаў, служыць у краёвым войску і ваяваць толькі за волю свайго краю, калі хто на яго нападзе, мець вольнасьць трымацца тэй веры, якой трымаліся прэдкі народу і быць вольнымі людзьмі, як гэта было ўжо ў многіх, а ў многіх заводзілася, дэмократычных дзяржавахЭўропы.

„Muž. Pr.“ заклікае беларускіх сялян да паўстаньня разам з палякамі проціў расейскага цара і проціў польскіх паноў. Палітычным сваім зьместам яна такім чынам адгараджваецца ад Расеі, як такой, з Польшчай-жа не зрывае, а зрывае толькі з панскай, пануючай клясай

Мэта беларускага ўчасьця ў польскім паўстаньні — здабыць вольнае і шчасьлівае жыцьцё, вольнае ад паншчыны і вольнае ад палітычнага польска-дзяржаўнага цэнтралізму.

У часапісе гэтым, праўда, не спатыкаем ані разу слоў: Беларусь, беларускі народ. Гаворыцца там толькі аб „нашым народзе“ агулам, гаворыцца аб „мужыкох“, аб „мужыцкай долі“, аб „мужыцкім народзе“, аб „нашым краі“. Але край гэты і народ ягоны хоць дужа агульна, дужа асьцярожна, разважаецца як нешта асобнае і рознае ад Польшчы і палякоў. Заклікае гэты часапіс беларускіх сялян да паўстаньня разам з Польшчай, але з тэй, якая ідзе за „мужыкоў“ і якая гварантуе вольнасьць беларускаму народу і краю.

Ілюстрацыяй палітычнага і грамадзкага характару „Muž. Pr." няхай паслужаць вось гэтыя з яе выбаркі „O, zahrymić naša prauda i jak małanka pralacić pa świecie"... „Ad maskala i panou niema czeho spadziawacisia, bo jany nie wolnaści a hłumu i zdzierstwa naszeho choczuć... No niedouha jany nas buduć abdziraci, bo my paznali hdzie siła i prauda i budziem wiedać jak rabić treba, kab dastać ziamlu i wolu" (№ 1), „Kab narod nasz na wiek wiekau byu wolny i szczaśliwy" (№ 2).

„Czaławiek wolny, kali maje kusok swajej ziamli, za katoru ani czynszu i abroku nie płacić, ani panszczyny nia służyć"...

„Nam wolnaści treba nie takoj, jakuju nam car schocza daci, no jakuju my sami mužyki pamiež saboju zrobimo... Niama czaho ždaci ad niekaha, bo toj tolki žnie, chto pasieje" (№ 3).

„U nas adno wuczać pa szkołach, kab ty znau czytaci pa maskousku, a to dla taho, kab ciabie sausim pierarabili na maskala (№ 4).

...„ Pad maskalom zabyci treba, szto jość u nas nasza baćkaŭszczyna" (№ 5).

...„U Polszczy mužyki taksama, jak i wy spadziejališ na cara"...

...„Pamoh-by i nam Prancuz, jak pamahaje mužykom u Polszczy, ale mužyki mauczać, a car kaža, szto jany dawolny...

„Nia tak dumali mužyki u Polszczy"...

Stańmo družna razom za naszu wolnaść, jakoj nia było naszym dziedam i baćkam" (№ 7).

Беларускі народніцкі характар „Muž. Pr." пацьвярджае так-жа і факт адносінаў яе да рэлігіі. Яна (№ 6) горача выступае ў абароне уніі. І гэта зразумела. Праваслаўе было тады, як і цяпер, аружжам маскоўшчыны, а лацінскае каталіцтва аружжам польскасьці. Адно й другое было сымболем народнага ўціску. Унія-ж наадварот: гэта была фактычна мужыцкая народная вера, пагарджаная панующымі, як і сам „мужык" беларускі.

Словам, „Muž. Pr." гэта тыповы беларускі пачаткава-народніцкі часапіс. Праўда, у ім яшчэ панують традыцыі Вял. Кн. Літоўскага, але праз гэныя традыцыі, асабліва на тле часу яго выхаду ў сьвет, відацца ўжо зародкі новых беларускіх вызвольна-нацыянальных ідэяў. „Muž. Pr." гэта прадвесьніца і пачынальніца палітычна-соцыяльнага вызваленьня беларускага народу, як складовай часткі ўсебаковага нацыянальнага адраджэньня ягонага, гэта ранішняя зорка на беларускім небасхіле, якая азнаймляе беларускаму народу ўсход сонца і будзіць гэты народ да долі і волі.

* * *

Думка беларускага палітычна-соцыяльнага вызваленьня, засеяна „Muž. Praudaj", марна не прапала, а жыла і разьвівалася далей. На дваццаць другім годзе пасьля выхаду яе ў сьвет, паявіўся новы беларускі палітычны часапіс „Гомон". Часапіс гэты сапраўды ёсьць прадаўжэньнем „Muž. Pr." і яе дапаўненьнем.



„Гомон" быў органам беларускіх народнікаў-рэволюцыянэраў, меўшых сваю сэкцыю пры расейскай „Народнай Волі". Сярод якіх бадай галоўную роль іграў слаўны Ігнат Грынявецкі, згінуўшы ад бомбы, якую кінуў у цара Аляксандра II у 1881 г. Часапіс гэты вышаў на трэцім-чацьвертым годзе па сьмерці Грынявецкага.

Выдаваўся „Гомон" шапірографскім спосабам, у расейскай мове, фармату больш-менш нормальнага сшытка. Дзе выходзіў— напэўна няведама. Можна дагадвацца, што ў Пецярбурзе, дзе быў галоўны цэнтр беларускай студэнскай рэволюцыйна-народніцкай моладзі.

Усіх нумароў „Гомону" было толькі два. Ведамым ёсьць толькі № 2, з датай 15 лістапада 1884 г. Аб нумары першым, што ён быў вышаўшы, успамінаецца ў № 2. Ці ён аднак гдзе захаваўся—няведама.

Адзін арыгінальны экземпляр „Гомону" нумару другога і так-жа адзін экземпляр копіі з яго, — якой я карыстаўся для гэтых нарысаў,—знаходзіцца ў Беларускім Музэі ў Вільні.

„Гомон" складаецца з наступных артыкулаў: Бѣлорусское революціонное обозрѣніе, Внутреннее обозрѣніе, Корреспонденціи і з артыкулу неазагалоўленага аб нацыянальнай праблеме.

Ідэовы зьмест „Гомону", вылажаны цалком выразна ў артыкуле першым і апошнім—гэта барацьба за палітычную і эканамічную самастойнасьць Беларусі ў агульна-расейскай фэдэрацыі.

Першы артыкул, абгаварыўшы тактыку барацьбы беларускіх народавольцаў і іх адносіны да расейскай „Народнай Волі" і труднасьці, якія яны ў сваіх пачынаньнях напатыкаюць, канчаецца гэтак: „Но как-бы не велики были эти трудности, мы, поскольку это будет в наших силах, положим первый камень для фундамента федеративной самостоятельности Бѣлоруссіи"...

Беларускія народавольцы, як гэта відаць з „Гомону", з боку многіх расейцаў напатыкалі нямала перашкод і сумніваў у вартасьць іх працы. Ужо тады яны нашых барацьбітоў за Беларусь страшылі нацыяналізмам і сэпаратызмам. Вось-жа артыкул аб нацыянальнай праблеме адбівае закіды, абасноўвае паняцьце нацыі агулам і беларускай у асобнасьці, а так-жа пасвойму бароніць правоў беларускага народу на палітычную і эканамічную самастойнасьць у агульна-расейскай фэдэрацыі. Вось хоць некатрыя даслоўныя выбаркі з апошняга артыкулу ў „Гомоне", які яскрава пацьвярджае вышэй сказанае.

„Считаем необходимым энергично защищать Бѣлоруссію, как от польскаго, так и от великороссійскаго насилія... Всѣ особенности Бѣлоруссіи дают права на автономную федеративную самостоятельность в семьѣ других народностей Россіи в будущем"...

У новаўзгадаванай беларускай інтэлігенцыі „не будет того безсознательнаго узкаго національнізма, который называется обы-

кновенно „духом“,—у нея не будет—бѣлорусскаго духа, — но за то она будет проникнута сознательным народничеством“...

Беларуская інтэлігенцыя павінна зьвярнуць сваю ўвагу не на „развитіе бѣлорусскага языка и на развитіе бѣлорусской народной гордости и сепаратизма“, але яна павінна выставіць „на первый план экономическое улучшеніе и политическое развитіе страны... При такой постановкѣ бѣлорусскага вопроса, Бѣлорусов нельзя было-бы назвать сепаратистами... Нынѣшній историческій момент является найболѣе удобным для пробужденія Бѣлоруссіи, которая при дружной работѣ и борьбѣ нашей интеллигенціи переродится для новой самостоятельной жизни и займет почесное мѣсто среди других федерацій Россіи на началах свободнаго соглашенія с ними“...

* * *

Маем мы ўжо, такім чынам, агульнае паняцьце аб „Mužyckaj Praudzie“ і аб „Гомоне“. Для поўнасьці нашых нарысаў дакінем слоў колькі параўнаньня між імі.

Цэнтрам і апорай імкненьняў „Muž. Pr.“ была Польшча. Каля яе, як каля свайго ядра, мела тварыцца фэдэрацыя, — аб якой там яшчэ выразна не ўспамінаецца, — народаў былшага Вял. Кн. Літоўскага. У „Гомоне“ ўжо яўна спатыкаем ідэю фэдэрацыі, але ўжо з Расеяй, чаго вымагалі тагачасныя гістарычна-палітычныя варункі Беларусі.

„Muž. Pr.“ пісалі і выдавалі беларусы каталікі польскай культуры, а сярод беларускіх народавольцаў-гоманцаў ужо паяўлялася беларуская інтэлігенцыя праваслаўная. Першыя яшчэ аглядаліся на Польшч і на традыцыі Вял. Кн. Літ., а другія лучылі лёс Беларусі з Расеяй і ўжо аб традыцыях Вял. Кн. Літ., калі ня лічыць Грынявіцкага, бадай ня помнілі нічога. Гэтыя інтэлігенты ўжо не называлі сябе літоўцамі, як гэта рабіў Каліноўскі і нават яшчэ Грынявіцкі, але выразна беларусамі. Яны ўжо перасталі жыць традыцыямі Вял. Кн. Літоўскага.

Можна сьмела сказаць, што на беларускіх народавольцах, што групаваліся каля „Гомону“, ці мо' яшчэ лепш: на самым „Гомоне“ — традыцыі польскія, шляхоцкія, літоўскія адмерлі цалком. Такім чынам „Гомон“—гэта сапраўды далейшы і зваротны пункт у беларускай палітычна-вызвольнай думцы. „Гомон“, як мы ўжо бачылі, усе беларускія землі заве беларускімі, а ўвесь народ наш беларускім і снуе выразныя думкі аб яго палітычнай, соцыяльнай і экономічнай самастойнасьці, чаго так выразна і ў такой меры, у „Muž. Pr.“ яшчэ не спатыкаем.

Заходзіць так-жа розьніцца між „Гомонам“ і „Muž. Pr.“ і што да ідэолёгічных асноваў іх. „Muž. Pr.“—гэта часапіс, які-бы можна было сяньня назваць беларускім радыкальным і сялянскім, або народным радыкальна-дэмократычным, а „Гомон“—гэта ўжо часапіс з ідэолёгіяй—хоць яшчэ не марксоўскай,—але па свойму



соцыялістычнай, які ў аснову будучай Беларусі кладзе, як выразна аб гэтым сам кажа, „научный соціализм“.

Калі-ж урэшце ідзе аб беларускі нацыянальны элемэнт, як такі, дык яго ў „Muž. Pr.“ можна бачыць толькі ў тым, што яна была пісана пабеларуску і што бараніла палітычныя і экономічныя правы беларускага народу.

У „Гомоне-ж“ шмат больш беларускага нацыянальнага „духу“, хоць ад гэтага ён энэргічна адкараскваецца. У „Гомоне“ беларускі народ—гэта народ самастойны, розны ад іншых славянскіх народаў, а так-жа мова яго, псыхіка, абычаі, — усё розпае, асаблівае, беларускае. Ужо гэткі пагляд на беларускі народ сапраўды мае ў сабе нямала беларускага нацыянальнага элемэнту. Праўда, „Гомон“ ці з праканання, ці мо' з тактычных паглядаў, каб не дражніць расейскіх патрыотаў-імпэрыялістых, якія здараліся сярод народавольцаў, заяўляе, што Беларусь да сэпаратызму ня імкнецца, што справу разьвіцьця беларускай мовы і культуры трэба пакінуць „любителям“, бо галоўнай мэтай бел. народавольцаў павінна быць фэдэрацыйная самастойнасьць Беларусі і эканамічны яе дабрабыт, — то ўсёждыкі гэта ўсё не зьмяншае ў ім—наадварот павялічвае—вялікую дозу беларускага нацыянальнага элемэнту. Сам факт разважаньня нацыянальнай беларускай праблемы і адгароджваньне ад беларускага нацыяналізму, гаворыць аб яго існаваньні, аб патрэбе з ім лічыцца і аб патрэбе заняць да яго адпаведнае становішча.

Дык пытаем урэшце, што важнейшае для беларускага народу: „Mužyckaja Prauda“, ці „Гомон“? Здаецца, не памылімся, калі скажам, што абодва гэтыя часапісы важныя кожны ў сваім часе, у сваіх варунках і ў сваім значэньні. „Muž. Pr.“—гэта першае зярнё, першы пачатак беларускай палітычна-вызвольнай думкі, а „Гомон“—гэта тэй-жа думкі прадаўжэньне. Тое, аб чым „Muž. Pr.“ пісала дужа агульна, імгліста, „Гомон“ называў па імені.

„Muž. Pr.“ да беларускага нацыянальнага прынцыпу як такога, да паняцьця бел. народу, як нацыі яшчэ дужа далёка. Сусім да яго блізкі „Гомон“, на які прынцып гэны ўжо насядае, хваляй сваей яго залівае, але й „Гомон“ ад яго поўнага зразуменьня, ад яго прыняцьця ў сваю палітычную ідэолёгію, яшчэ ўхіляецца і адмаўляецца.

Але нядоўга ўжо прынцып беларускай нацыі дабіваўся ў дзьверы беларускага вызваленьня, каб даць яму новыя творчыя сілы і сьціраваць беларускі народ на шлях усебаковага нацыянальнага адраджэньня і соцыяльна-палітычнага вызваленьня. Калі расейскія народавольцы, а ў іх ліку і беларускія, гінулі на царскіх шыбеніцах, тады разьлягаўся новы творчы кліч да беларускага народу слаўнага Фр. Багушэвіча: „Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб ня ўмёрлі“.

Кліч-жа гэны якраз і выражае той нацыянальны прынцып, які лёг у аснову сучаснага адраджэньня і вызваленьня беларускага народу.

СТ. ГРЫНКЕВІЧ.

# Культура й загады нацыянальнае працы.

„Naturalia non sunt turpida“... Натуральным правам і загадам у чалавека будзе імкненьне да шчасьця, пасколькі гэнае імкненьне мае грамадзкі характар, а ня вузка-эгоістычныя рамкі. Рэалізацыя гэнага ідэалу ў адзінкі ляжыць на лініі жыцьцёвай кожнага народу, на ўлоньні якога адзінка вырасла.

Ці магчымае зьдзейсьненьне гэтага ідэалу ў нашым шырэйшым разуменьні без асноведзі народу?—Бязумоўна так, калі падыходзіць да пытаньня абстрактна. І адкажам не, калі мецімем наўвеце канкрэтныя формы, канкрэтных людзей, якія дайшлі да некаторага роўня культурнага.

Лінія чалавецкае адзінкі нармальнае, здаровае перасякаецца з лініяю ейнага асяродзішча, а значыцца ў сучасных умовах існаваньня грамадзянстваў, з лініяю, шляхам жыцьцёвым свайго собскага народу. І пачынаецца паміж імі супрацоўніцтва. Кожная з дзьвёх старон нешта дастае й нешта дае. Народ дае сваю мінуўшчыну, свае формы, сваё багацьце ўва ўсіх магчымых праявах, дае магчымасьць фізычнага існаваньня, дае веру ў сэнс змаганьня, дае нарэшце веру ў сапраўднасьць высокіх ідэалаў. Народ хоча аднаго — бязупыннага развою сваіх цэннасьцяў ува ўсіх шматлікіх галінах жыцьця, якія ўварункованы ягонымі гістарычнымі, эканамічнымі і сацыяльнымі ўмовамі.

Гэнае дамаганьне праяўляецца ў тым, што мы завём культураю. Зьмест пайма культуры вельмі багаты й рознаякі, залежна ад таго, адкуль да яго падыходзіць. Культураю ў сэнсе прадмету называцімем усе паасобныя элемэнты творства чалавека ад пачатку ягоных дзён. На гэны скарб складаюцца ідэі, абычаі, вераньні, вынаходы, способы працы, установы грамадзкія й рэлігійныя, праявы мастацтва й побач гэтага ўсе прадметы матар'яльныя, чалавекам выпрадукаваныя ці прыспасобленыя з мёртвае прыроды. Дык трэба нам аддзяліць культуру матар'яльную ад культуры духовае. Яны абедзьве далёка не заўсёды маюць аднолькавую вышыню ў паасобных адзінак, грамадаў, народаў.

Нас тутака будзе цікавіць толькі пытаньне культуры нематар'яльнае. Часта нам цяжка, амаль немагчыма, аддзяліць чалавека ад ягонае вопраткі, ад памешканьня, аднак было-б памылковым глядзець на адзінку скрозь прызму ягонае формы. Адзінка выклікае ўсе праявы духовага жыцьця. Формы могуць выгінаць, абрабляць чалавека паводле аднаго ўзору, калі-ж адначасна ня будзе ў форме зьместу трывалкага й багатага, форма ня трымацімецца. Прыклады гэныя бачым на сабе, у штодзенным жыцьці, асабліва ў нашых нацыянальных падзеях. Культура гэта ня толькі скарб элемэнтаў, гэта заўсёдная дзейнасьць чалавека ў адносінах да прыроды, да людзей, да псыхікі собскае і чужое.

Культура паймо грамадзкае. Адзінка паасобная, пакуль яна ня злучана з грамадою, калі і пакідае па сабе цэннасьці, дык яны прападаюць бяз ніякае вартасьці. Культура мае вартасьць, калі яна не застыўшы, калі яна ня схованая ў скрыні і не зачынена ў габлётках. Гэныя цэннасьці музэальныя, архіўныя, жывуць дзеля нас настолькі, наскалькі выклікаюць у нас рэха, агонь, наскалькі мы й тыя багацьці, сустрэнуўшысь з сабою, пачуем нешта супольнае, калі ў нас адгукнецца пачуцьцё, як на нешта сваё, роднае, ці блізкае ў сэнсе блізкасьці агульна чалавецкае. Калі няма гэнага зьявішча, дык няма вартасьці ў дадзеным элемэнце культуры. Толькі суб'ектыўныя адносіны зьяўляюцца тутака важнымі й яны вызначаюць вартасьці вытвораў культуры.

Не хачу казаць, што найвыдатнейшыя выплады духа й гэнія ў галіне музыкі ці малярства ці архітэктуры не зьяўляюцца культурнымі цэннасьцямі, дзеля таго, што яны чужыя й далёкія нашаму, скажам, селяніну. Толькі гэныя цэннасьці ня маюць ніякага дзеяньня дынамічнага на рост унутраны чалавека, яны ня выклікаюць ахвоты, імкненьня прысвоіць іх сабе, дык няма ў іх дзеля гэтага грамадзкага характару.

Ровень культуры народу вызначаецца роўнем культурным масаў й аднача‌сна колькасьцю адзінак, якія стаяць вышэй над гэным роўнем. Ня гледзячы на свомы нам нахіл да дэмакратызму, трэба сказаць, што аканчальна гэная дробная жменька „культурных павадыроў“ выбірае шляхі, па якіх ідуць сябры дадзенага згуртаваньня—народу. Гэнае павадырства зусім натуральны фактар, толькі-ж імкненьнем нашым павінна быць, каб ровень масы падымаць вышэй. Раўнаваньне каб ішло на вярхі, а не каб вярхі тарнаваліся да нізоў.

Кожнае дзіця нарадзіўшысь на сьвет, лучае на ўлоньне культуры свае нацыі. Гэта ня пусты сказ, што шчасьце можна мець толькі пад сваім небам. Сяньнешні поступ навукі аб спадкаберніцтве паясьняе нам, што чалавек паяўляецца на сьвет з вагромністаю колькасьцю розных свомасьцяў і нахілаў, выпрацаваных у гэных, а ня іншых умовах. Дык і культура, з якою дзіця сустракаецца ад першых дзён, яму робіцца блізкаю, чэрпае яно з яе сьведама й нясьведама да таго мамэнту, калі прабуджаецца ў дарослага ці дарастаючага ахвота выступіць дзейна на ніве культурнай. Роля кансумэнта культуры трывае цераз цэлае жыцьцё, аднак неабходна, каб прышла часіна на ролю вытворцы культуры.

Найчасьцей вытворцамі культуры й будуць тыя вярхі — „павадыры культуры“. Як гісторыя паказвае, гэнае зьявішча праведзенае да канца, значыцца максыма аб арыстакратызме ў культуры, азначае заняпад ці культурнае эпохі ці прынамся пэ-

рыяду ў жыцьці народу ці народаў. Адначасна ня можам забывацца, што культура нацыянальная гэта не падзеі аднае ці некалькі групаў адзінак. Культура вырастае з пакаленьня ў пакаленьне й яна супольнае багацьце народу. Дык ня будзем дзівіцца, што спробы, якія наглядаем навочна ў сучаснай Расеі, збудаваць культуру новую, пакінуўшы на старане старую спадчыну, як нешта чужое, кончылісь перамогаю стыхіі народнае й паклікалі на аўтар тайніцаў нацыянальных тых волатаў паэзіі, літаратуры і ўсіх родаў мастацтва, якія ня мелі нічога супольнага з марксызмам ці ленінаўскаю лініяю. Гэта кліч жыцьця, які мацнейшы аканчальна за ўсе праграмы будаўніцтва грамадзкага ці дзяржаўнага. Культура будзе заўсёды адказам агульным на спрадвечныя пытаньні, якія непакоілі чалавека й чалавецтва. Культура гэта функцыя паглядаў і імкненьняў вельмі розных у паасобных пэрыядах, аднак шмат ширэйшых, як можа гэта прыдавацца прадстаўніком аднаго пакаленьня. Дык калі культура гэта адказ на тое, чаго мы хочам, па што жывём, да чаго мы імкнемся, ня будзе тады яна адною падсумоўкаю дасягненьняў матар'яльных, перамогаў над сіламі прыроды. Залежна ад дасягненьняў у розных галінах жыцьця чалавек толькі перамяняецца сам і перамяняе сваё асяродзішча.

Дык вось дзеля чаго можна казаць тое, што я адцеміў на пачатку сваіх разважаньняў. Абстрагуючы ад таго, ці культура мае сваё асобнае надчалавецкае жыцьцё (Гэгэль) і што народ зьяўляецца ўцелаішчаньнем гэтае місіі, трэба сказаць, што бязумоўна чалавек дасьпявае ў сабе й знаходзіць адказ на пытаньні аснаўныя толькі на ўлоньні народу й ягонае культуры.

Шлях развою культуры вельмі няроўны, ён стульна злучаны з падзеямі таго фундаманту, з якога вырастае й на якім стаіць культура. Наглядаюцца ўздоймы й заняпады культураў у сувязі з крызысамі ўнутры аснаўных фундамантаў, на якіх базуецца культура, або ў сувязі з агульным заблытаньнем і зьнявераньнем у сэнс жыцьця ў сусьветным маштабе. Сяньня кажуць аб гэткім крызысе цэннасьцяў рознаякіх. Кажуць, што гэта зьявішча сусьветнае. Аднак ня зусім слушна. Калі крызыс існуе, дык паказвае на тое, што гэтыя вось нязьменныя мамэнты ў жыцьці зьяўляюцца нечым асабліва важным, што чалавек залгаўшысь, губляе магчымасьць свайго поступу, што „вера“ выключна ў сілу грубую не азначае перамогі над жывым жыцьцём.

Бліскучымі, яркімі прыкладамі магутнасьці веры, ідэі зьяўляюцца сяньня некаторыя народы ў Эўропе. Прыкладам між іншым будуць Ліцьвіны. У іхным жыцьці ўнутраным ідуць спрэчкі, ёсьць там змаганьне на розных фронтах паміж сабою. Ня гледзячы на гэта — свабодны ўздойм нацыянальнага жыцьця, узбагачваючы магутна культуру, паказвае, што вера ў ідэал, што напружаньне ўсіх сілаў дзеля ідэальнае мэты, спрычыняецца да шырокага, поўнага жыцьця адзінак.



* * *

З вышэй сказанага зробім некалькі практычных вывадаў. Адносіны да чужое культуры могуць быць пазытыўныя, нэўтральныя й ад'емныя. Ад'емныя адносіны будуць інэртныя або дзейныя (контракцыя).

Актуальныя ад'емныя адносіны могуць быць вельмі дадатнім зьявішчам дзеля роднае культуры. У гэткім змаганьні крысталізуецца востры пагляд на сябе і на чужых, вучыць яго больш быстра аглядацца на ўсё, паказаць лепш сваё роднае багацьце й хараство. Гэныя адносіны выклікаюць зацікаўленьне да свайго ў дагэтуль бязьдзейных, змаганьне будзе кузьняю, дзе куецца на вагні маладых парываў і лятуценьняў новы скарб. Змаганьне прывучае цаніць і даражыць сваімі малымі дробязямі ў форме абычаяў, вопраткі, песьняў, слова і г. д. Змаганьне гэткае культурнае паклікае большую колькасьць кансумэнтаў культуры, заахвочваючы да вытворства, яно зьдзейсьнівае загад масавага распаўсюджываньня культуры. Трэба помніць, што туга да дзейнае ролі ў будаўніцтве культуры вялікая й недахоп сваіх рамаў, калі да гэтага падыходзіць яшчэ націск чужое культуры, кідае адзінкі жывыя на чужое ўлоньне, дзе яны маюць магчымасьць гэнага дзейнага жыцьця. Змаганьне гэнае патрабуе сваіх павадыроў на мясцох. У першую чаргу трэба іх падрыхтаваць ды зарганізаваць ужо гатовых, якія дагэтуль яшчэ ня згуртованы, трэба значыцца зактывізаваць наш нацыянальны капітал і культурны і чалавецкі.

Актывізацыя культурнага капіталу робіцца ў нас у прэсе, у выдавецкім руху ды ў арганізацыях культурна-прасьветных. Усенька гэта ў слабым і надта слабым тэмпе. Актывізацыя-ж людзкога матарыялу бадай зусім не праводзіцца. Праўда, пара благая, умовы вонкавыя бязумоўна не спагадаюць... Аднак гэта нешта неабходнае. Каб маса перастала быць выключна натоўпам, трэба каб мы маглі ў ёй згледзіць паасобных адзінак, павадыроў натуральных. Трэба распаўсюдзіць нашае багацьце культурнае й тады толькі мецімем актыўных, масавых будаўнічых нашае новае культуры. Варштаты працы дзеля будучых будаўнічых, хаця й невялікія, ёсьць у арганізацыях эканамічных, асьветных і культурных.

Др. Я. СТАНКЕВІЧ.

# Севяране—беларускае племя.

У нас прывыклі думаць, што да беларускага народу належылі толькі тры плямёны—Крывічы, Дрыгвічы й Радзімічы. Гэткі пагляд знаходзім дагэтуль у падручніках гісторыі Беларусі, у гістарычных артыкулах і іншым. А тымчасам аказуецца, што некаторыя іншыя плямёны былі беларускія. Гэтта падамо апошнія навуковыя дадзеныя аб нацыянальнай прыналежнасьці Севяран.

Наагул кажучы, Севяране або Север у IX — XII в. займалі Ўзьдзесеньне ці – начай кажучы — прастор ля р. Дзясны (левы прыток Дняпра) і яе прытокаў. У XII в. ў Севяран былі гэткія гарады-месты: Чарнігаў, Пераяслаў, Пуціўль, Ноўгарад Северскі, Трубчэўск, Курск і іншыя.

У навуцы да апошняга часу Севяран пераважна залічалі да Ўкраінцаў. Праўда, А. Шахматаў у варт. „Къ вопросу объ образованіи русскихъ нарѣчій и русскихъ народностей“ прызнаваў іх „сярэднярусамі“ ці — начай кажучы — лічыў Севяран аднымі з прэдкаў Белар., але пазьней( у працы „Введеніе въ курсъ исторіи руск. языка“ ч. I. 1916 г. і інш.) адносіў іх да плямён украінскіх.

Было колькі прычынаў уважаньня Севяран за племя ўкраінскае. Сяліба Севяран была побач і з сялібаю ўкраінскага племені Палян і прызнаваных Украінцамі Дзераўлян (на ўсход ад Дняпра Севяране, на Заход — Паляне й Дзераўляне); хіба меншая граніца ў Севяран была з беларускімі плямёнамі — на паўночным захадзе з Радзімічамі, што займалі Уссожжа, і на паўночным усходзе з Вяцічамі, што жылі над Акой і яе прытокамі. Даволі было із Северскае зямлі пераплысьці Дняпро, каб апынуцца ў сталіцы даўнейшае й сучаснае Украіны—Кіеве.

Географічнае папажэньне было прычынаю, што Севершчына ў канцы IX в. ўходзіць у склад Кіеўскага княства і з малымі перарывамі астаецца ў ім да 1054 г. Адгэтуль (ад 1054 г.) Севершчына творыць асобнае гаспадарства на чале з галіной Рурыкавічаў, але ажно да татарскага находу, ня зрывае палітычнай сувязі з кіеўскім цэнтрам, у той час як смаленскія Крывічы толькі якісь час былі ў слабой сувязі з Кіевам, а Полаччына адразу вытварае ў сабе апрычоны цэнтр, незалежны ад Кіева. Чарнігава-северскія князі ня страцілі права да кіеўскага вялікакняскага пасаду. Галоўныя северскія гарады—Чарнігаў і Пераяслаў — упамінаюцца побач із Кіевам у ўмовах Рурыкавічаў із Грэкамі *).

*) У палавіне XIII в. Северскае княства ўходзіць у склад новаўтваронага Бранскага ўдзелу. У пачатку XIV в. Севершчына належыць да агульна-беларускага гаспадарства (Вял. Кн. Літоўскага), у каторым была да пач. XVI в. Каля 1500 г. Севершчына была заваявача Масквою. Адгэтуль у працягу 100 год Беларусы стараюцца вярнуць яе назад, што й удалося дапяць у часе Дзеўлінскага міру з Масквою, калі Севершчына была вернена Вял. Княству Літоўскаму.



Калі ў пал. XVII в. за Хмяльніцкага настае адраджэньне ўкраінскае гаспадарсьцьве насьці, паўстае гэтманства на Слабадзкой Украіне, а Беларусь перажывае ўпадак і ад яе адбіраюць ці мала земляў, у тэй лічбе Севершчыну, апошняя была прылучана да „казацкага“ (ўкраінскага) аўтономічнага гаспадарства і была ў ім ажно да яго зьністажэньня Масквою ў 1777 г. У часе быцьця Севяран пад Украінаю былі арганізаваны ў Севершчыне тры казацкія палкі: Старадубскі, Чарнігаўскі й Нежынскі. Гэтак з паміж Севяран паўсталі казакі *).

Апошняй ня меней важнаю прычынаю залічаньня Севяран да ўкраінскіх плямён было тое, што цяперака паўднёвая часьць даўнейшай зямлі северскай занята ўкраінскай моваю.

У 1927 г. выйшла праца проф. Маскоўскага ўнівэрсытэту П. Растаргуева п. н. „Северско-белорусский говор“ **). Аўтар пачаў працаваць над сваёй тэмаю на раду акад. А. Шахматава, катораму й пасьвяціў сваю працу. П. Растаргуеў паходзіць із м. Старадуба ў Чарнігаўшчыне, значыцца з цяперашняга цэнтру таго дыялекту, адумысловым дасьледаваньнем каторага ён заняўся. Местапаходжаньне Растаргуева дало яму лепшую магчымасьць пазнаньня апісанага ім дыялекту. П. Растаргуеў у менаванай працы дасьледуе мову пав. Старадубскага, Мглінскага, Сураскага й Навазыбкаўскага б. Чарнігаўскае губ. і заходнюю часьць пав. Трубчэўскага б. Арлоўскае губ. У сваёй працы аўтар наўперад пацьвярдзіў тое, што было ведама й раней, паймення, што мова менаванага прастору—чыста беларуская. Але пры дасьледаваньню выявіліся такія асаблівасьці мовы вышменаванага прастору, якія няведамы іншым гутаркам беларускім.

Аднэй з гэткіх асаблівасьцяў ёсьць захаваньне звонкасьці сугукаў на канцы слова і перад ціхімі сугукамі. Кажацца там: дзе*д* ло*б*, сто*г*, но*ж*ка, люд*з*кі, а ня дзе*т*, ло*п*, но*ш*ка, лю*ц*кі. Гэтая асаблівасьць супольная з іншымі паўднявымі гутаркамі беларускімі, але ў Чарнігаўшчыне і ў зах. часьці пав. Трубчэўскага яна мацней выражана.

Другой асаблівасьцяй, прытым вылучна беларуска-чарнігаўскай (разам із зах. часьцяй пав. Трубчэўскага), ёсьць ацьвярдзеньне *р* толькі перад *і*, *е*, *ѣ*, *j* (бяр*ы*, бяр*э*, р*э*чка, зьвяр'ё, але вячэр*я*, ур*я*днік).

Менаванымі двума асаблівасьцямі мова беларускае Чарнігаўшчыны і зах. часьці Трубчэўшчыны розьніцца ад іншых беларускіх гутаркаў і лучыцца ў вапрычоны беларускі дыялект.

Ад сябе дадам: з дасьледаваньня Растаргуевага відаць, што беларуская мова Чарнігаўшчыны й зах. часьці Трубчэўшчыны

*) Гісторыя Севяран пададзена паводле разгляданай ніжэй працы П. Растаргуева.

**) Проф. П. А. Расторгуев, Северско-белорусский говор. Исследование в области диалектологии и истории белорусских говоров. Ленинград 1927 г. Бал. 224 і карта беларускага дыялекту Чарнігаўшчыны й Трубчэўшчыны.

належыць да паўдзённа-заходняга нарэчча беларускае мовы, займаючы ў ім палажэньне найбалей зіндывідуалізаванае. Значыцца, мыліўся Я. Карскі і Маскоўская Дыялектолёгічная Камісія, адносячы—Карскі ўвесь менаваны прастор, а Камісія вялізную яго большасьць—да паўночна-ўсходняга беларускага нарэчча. Калі-б ня дзьве вышпрыведзеныя спэцыфічныя асаблівасьці мовы разгляданага прастору, дык паводле іншых сваіх асаблівасьцяў яна належыла-б да цэнтральнае групы беларускіх дыялектаў; надта блізкая яна была-б да гутаркаў Смаргонь, Маладзечна, Вялейкі і да падобных да іх *).

П. Растаргуеў не абмежыўся вылучна працаю дыялектолёгічнаю, але дапоўніў яе дадзенымі з археолёгіі й гісторыі. Ад гэтага праца ягоная вельмі выграла: пытаньне северскае дастала ўсебаковае апрацаваньне.

Кіеўскі аўтар летапісу лічыць Северан сваякамі беларускіх плямёнаў—Радзімічаў і Вяцічаў, а не ўкраінскіх. У кіеўскім летапісе чытаем: „Радимичи и Вятичи и Сѣверъ один обычай имяхуть".

Паводле дадзеных археолёгіі Северане ў IX—XI ст. займалі блізу што ўсю б. Чарнігаўскую губ. з выняткам невялічкага прастору на паўночным заходзе, часткова занятага Радзімічамі, часткова парослага лесам, часьць б. Курскае й Палтаўскае губ. Гэткім парадкам толькі цэнтральна-паўночная часьць разгледжанага вышэй апрычонага дыялекту беларускага зыходзіцца, паводле археолёгіі, з даўнейшаю сялібаю Северан. Зусім зразумела, што Северане пазьней маглі засяліць лясны прастор на паўночным заходзе ды, будучы націсканыя з паўдня сьцяповымі народамі, паціснуць крышку на паўночным заходзе часьць Радзімічаў, займаючы іхнія сялібы.

Але ня зусім ясна, чаму цяперака, замест беларускае, маем украінскую мову ў часьці Палтаўшчыны, Куршчыны і ў паўдзённай Чарнігаўшчыне, займаных у старыну Северанымі. І тутака прыходзіць нам на помач гісторыя. Прывяду за П. Растаргуевам патрэбныя гістарычныя ведамасьці.

Гісторыя Нежынскага палку ясна паказуе на позьняе засяленьне яго, не раней пачатку XVII стагодзьдзя людзьмі, што ўцяклі ў гэтую часьць Северскае зямлі **) з-за Дняпра, калі Пясочынскія, Пацы, Кісялі і іншыя паны дасталі гэтта ад караля балей або меней вялікія землі. Займаючы паўдзённую часьць краю, прастор будучага Нежынскага палку ня быў густа населены ўжо ў глыбокай старыне, да татарскага находу. А прасьле татарскага спустошаньня з палавіны XIII ст. гэтая мясцовасьць апусьцела. Відавочна, кажа гісторык „Старой Малороссіи" Ал. Лазарэўскі, гэтая мясцовасьць (на паўдня ад Сейма й Астра) да XVII ст. прадстаўляла сабою чыстую пустыню, што дзяліла расейскія й польскія валаданьні *). Пустыннасьць мясцовасьці на паўдня ад Сейма й Астра, паводле Ал. Лазарэўскага, відаць і з таго, што расейская старожа, каторая вартавала Пуціўльскі рубеж ад нападу татараў, „стаяла па берагох р. Сейма, не далей 40 вёрстаў на заход ад Пуціўля, знача: болей меней каля граніцы цяперашняга Канатопскага пав.", а далей на заход ад гэтага пункту цягнуліся палі, г. зн. незаселеныя землі. Адно на поўнач ад Сейма й Астра былі сялібы, але „яшчэ ў пачатку XVII ст. яны сустракаліся адно зрадка". Цяперашнія месты: Нежын, Глухаў, Батурын, Кролевец, Конотоп, Борзна і інш. былі закладзены або адноўлены не раней першае чэцьверці XVII ст. па Дзеўлінскім міру. У вадным акце 1624 г. кажацца, што „Мѣсто Нѣжынъ, отъ многихъ лѣтъ опустошалое, значне за ласкою Божiю растеть, и що разъ людей до яго пребувает" **). У грамаце Жыгімонта III, дадзенай м. Нежыну 1625 г., названы ён яшчэ „Новаселым" ***) местам. Ё яшчэ шмат іншых дакумэнтаў аб колёнізацыі Украінцамі з правага боку Дняпра паўдзённае часьці Чарнігаўшчыны. Калёністыя на поўнач ад Сейма й Астра мяшаліся з мясцовым (северскім) насяленьнем, ад чаго ў мове гэтага прастору дагэтуль ёсьць ня мала беларускіх асаблівасьцяў (аканьне і інш.).

Але на поўнач ад Дзясны, а так-жа ў часьці Глухаўскага ды ўсяго Ноўгарад-Северскага пав. Украінцы не колёнізавалі. Тут асталося даўнейшае беларускае насяленьне. А. Шафонскі, характэрызуючы мову „Малой Россіи" ў канцы XVIII ст. (1786 г.), адцемлюе, што Палесьсе, г. зн. часьць Ноўгарад-Северскага, Глухаўскага, Кролевецкага, увесь Погарскі *), Мглінскі, Новамескі **), заходняя часьць Сосьніцкага, Горадніцкі ***) павет і мясцовасьць Чарнігаўскага пав., ляжачая на правым баку Дзясны, маюць блізу што такую вымову, як у Беларусі й Ліцьве" ****). Тут ня так важна тое, што ў менаваных мясцовасьцях мова „блізу што такая, як у Беларусі і Ліцьве", бо няма ведама, што значыць „блізу што", як важна ўтассамленьне мовы часьцяў паветаў Чарнігаўскага, Сосьніцкага, Кролевецкага, Глухаўскага й Ноўгарад-Северскага з моваю паветаў Старадубскага, Новазыбкаўскага і інш., аб беларушчыне мовы каторых нямашака сумлеву. Значыцца, у пав. Ноўгарад-Северскі, у ляжачыя на поўнач ад Дзясны часьці паветаў Чарнігаўскага, Сосьніцкага й Кролевецкага і ў часьці Глухаўскага ўплыў украінскае мовы прыйшоў пазьней

*) Раўную да гутаркаў гэтых мясцовасьцяў, як мне найбалей знаных, але бяссумлеву ў паўднёвай часьці цэнтральнае паласы беларускага языка ёсьць гутаркі ня меней а хіба яшчэ балей блізкія да беларускага дыялекту Чарнігаўшчыны й часьці Трубчэўшчыны.

**) А. М. Лазаревскій, „Описаніе старой Малороссіи", т. II, бал. 3.

*) Ibid., бал. 1.

**) А. Ив. Рагельман, „Летописное повествованіе о Малой Россіи" М. 1847, бал. 142.

***) ibid., бал. 138.

*) м. Погар у прадваенным Старадубскім пав.

**) Пазьней Новазыбкаўскі.

***) Гараднянскі.

****) Пад Літвой тут разумеецца таксама Беларусь, але ня ўсходняя.

А. КЛІМОВІЧ.

# Апошнія гады паншчыны на Беларусі.

У гістарычным працэсе пераацэнак усякіх вартасьцяў, зямля вартасьці ня губляе. Таму рэформы ўсіх часоў і народаў у сваіх меркаваньнях ня толькі не маглі абмінаць зямельнага пытаньня, але блізу заўсёды з яго выходзілі і да яго кіраваліся. Больш таго: удача ці няўдача самых рэформаў, якія мелі на ўвазе сялянскую масу, заўсёды залежылі ад таго, як у праекце датычнай рэформы вырашалася пытаньне зямельнае.

І мы, беларусы, стаім сягоньня прад патрэбай вялікай рэформы, прад улажэньнем свайго собскага сьветагляду, абапёртага на дакладна дасьледжанай беларускай мінуўшчыне. Землябробскі характар Краю нашага вымагае асабліва правільнага вырашэньня зямельнага ў нас пытаньня на будучыню. Дзеля гэтага трэба добра ведаць мінуўшчыну, якая ў сэнсе гаспадарчым і асабліва зямельным дасьледжана вельмі скупа. Сёе - тое ведама яшчэ аб гэтым з боку гістарычнага, менш — з боку праўна-грамадзкага і найменш — з боку сьцісла гаспадарчага.

Ня месца тут дашуківацца прычын такога зьявішча. Сьцьвердзіць толькі трэба, што адсутнасьць сваіх працаўнікоў над вывучэньнем зямельнага ладу Беларусі заважыла над Краем проста фатальна. Разьбіраючы сягоньня сьляды працы на гэтым полі людзей чужых, раз за разам сустракаем супярэчнасьці ў самых навет падставовых пытаньнях. Доказ гэта, што людзі працавалі тут ня гэтулькі для самай навукі, для праўды, колькі для апраўданьня „рацыі“ раз адных, іншы раз другіх нашых суседзяў, каторых зацікаўленасьць беларускімі справамі выплывала з крыніц нам ня толькі чужых, але найчасьцей і цалком варожых.

Пры гэткім палажэньні, вывучэньне зямельнага ладу Беларусі становіцца заданьнем на колькі важным, на гэтулькі і нязвычайна цяжкім. Час аднак уцякае і адносячы ў няпамяць нядаўныя навет падзеі, наказвае пазнаваць іх, зьбіраць, укладаць і... карыстаць. На сыстэматычнае ўлажэньне ўсіх падзеяў, што адносяцца да гісторыі зямельнага ладу Беларусі, няма тымчасам ні ўсіх матар'ялаў да гэтага патрэбных, ні сілаў, ні часу. Усяму аднак свой час. Прыйдзе гэты час і на сыстэматычнае пазнаньне зямельнага ў нас пытаньня. Пакуль-жа гэта станецца, цэннай і неабходнай будзе кожная зацемка, кожны нарыс, які асьвятляў-бы справу з якога-колечы боку. З гэткіх зацемак з часам уложыцца цэласьць сваей беларускай гістарычнай канвы, на каторай можна будзе беспахібна снаваць і свой-жа беларускі ўзор зямельна-грамадзкага ладу.



Гэта маючы наўвеце, прыгледзьмася тымчасам на хвіліну да тых парадкаў, якія ў зямельным пытаньні мелі месца на Беларусі ў нядаўняй яшчэ мінуўшчыне: ад пачатку XIX стагодзьдзя да 60-тых гадоў таго-ж стагодзьдзя.

**Агульнае палажэньне.** Апошнія гады XVIII-га і першыя гады XIX-га стагодзьдзяў, гэта пара паступовага пераходу беларускіх зямель спад улады Польшчы пад уладу Расеі. Пасьля першага падзелу Польшчы ў 1772 г. адыйшлі да Расеі губэрні Магілёўская і Віцебская, пасьля другога падзелу ў 1793 г.—губ. Менская і пасьля трэцяга, у 1795 г., — губ. Віленская і часьць Горадзенскай. Беласточчына-ж апынулася ў межах Расеі толькі ў 1807 г., пасьля міравога дагавору Расеі з Францыяй (Напалеонам) у горадзе Тыльжы (ў Прускай Літве). Такім чынам ад 1807 г. ўсё жыцьцё беларускіх земляў кіравалася пад уплывам ўставадаўства расейскага. Каб зразумець аднак тагачасныя парадкі, трэба аглянуцца крыху ўзад.

Гісторыкі прадпадзельнай Рэчыпаспалітай (Польшчы), да якой тады належала большасьць Беларусі, вельмі нялюба адклікаюцца аб тагачасных у ёй парадках, проста навет кажучы, што сам упадак дзяржавы—гэта рэзультат самаволі шляхоцкага стану. Цярпеў ад гэтай самаволі селянін польскі, і — пэўне-ж — цярпеў ад яе ня менш і селянін беларускі. Першы падзел Польшчы здрыгануў сумленьнем лепшых сыноў краю. Сёе-тое пачалося рабіцца дзеля направы долі і беларускага сялянства. Да гэтае пары адносяцца між іншым натугі гэткіх людзей, як граф Яхім Хрэптовіч (1729—1812) у сваіх беларускіх дварох: Шчорсы і Нягневічы ў Наваградчыне ды Вішнева ў Валожыншчыне *), граф Бжостоўскі — у дварэ Паўлава пад Вільняй **) і інш. Адны з іх вытрывалі да канца (да уставовай рэформы 1861 г.), пакідаючы дагэтуль жывую і ўдзячную памяць у народзе, напр. Хрэптовічы, іншыя ўзноў, як граф Замойскі ў дварэ Бежунь ***), не канечна з благой волі, а хутчэй з простага зьняверанья ў пачатую саматужна справу, па колькінаццацёх гадох варочаліся да парадкаў старых... Пры гэтых-жа старых, згубных парадках, трывала і ўся мясцовая шляхта і таму палажэньне сялянства ў нас усьцяж горшала.

Крыху ў лепшых варунках былі сяляне вялікіх каралеўскіх двароў („каралеўшчын“); прынамся маглі яны, мелі права, жаліцца, тады як сяляне двароў прыватных залежалі ад шляхты цалком: шляхта выконвала над сялянамі ўсялякую ўладу, паліцыйную і нават судовую.

*) Проф. М. Д. Запольскій: Страница из исторіи крѣпостного права в XVIII—XIX вв. Масква, 1906 г. бач. 22 і наступныя.

**) Там-жа.

***) Там-жа бач. 23.

**Беларусь пад Расеяй.**

А. Турцэвіч*), якога ніхто хіба не западозрыць у малой адданасьці для Расеі, які Расею ўсюды хваліў, аб палажэньні беларускага сялянства з тае пары, як яно дасталася пад расейскае панаваньне, піша між іншым гэтак:

„з гэтага часу (ад часу прылучэньня да Расеі—А. К.) палажэньне іх (беларускіх сялян — А. К.) ні чуць не палепшылася. Перад усім ні колькі не палепшылася г а с п а д а р ч а е палажэньне сялян. Польская шляхта, страціўшы права жыцьця і сьмерці над сваімі падданымі, ува ўсіх іншых адносінах цалком захавала над імі сваю ўладу. Яна пастарому магла ўстанаўляць якія хацела павіннасьці... Так у адных дварох вельмі павялічыўся лік дабавачных прыгонных дзён, у другіх — мноства дані ў натуры, у трэціх—мноства падаткаў грашмі і г. д. Напр., у вялікім дварэ Казяны, Віленскай губ., які ў 1797 г. імп. Павал І падараваў графу Манузі, з чэцьверці валокі сяляне адбывалі гэткія павіннасьці: паншчыны — па 3 дні ў тыдзень, чыншу плацілі па 100 злотаў, сухой (?) арэнды — па 9 злотаў і па некалькі зл. за катлы; акрамя таго кожны селянін павінен быў даць памешчыку палову сабранага ім мёду і паставіць адну хурманку ў Рыгу, якая ацэньвалася на 40 злотаў**).

„Пасьля на беларускіх (у арыгінале, натуральна, „западно-русских“ – А. К.) прасторах значна ўсілілася п р а д а ж а с я л я н б е з з я м л і. Гэта галоўным чынам дзеля таго, што вялікарускія памешчыкі сталі ахвотна купляць тут сялян для здачы іх у рэкруты за сваіх людзей... Напр. у Віцебскім і Рагачоўскім паветах толькі ў працягу трынаццацёх гадоў было прададзена 48 сем'яў, што складаліся з 182 душ і асобна ад сем'яў 113 мужчын, 48 дзяўчат і 39 хлапчукоў, разам 382 душы. Цэны на сялян у сярэднім вывадзе можна прызнаць наступныя: сялянская сям'я цанілася каля 75 рублёў, дарослы мужчына—каля 50 рублёў і дзяўчына—каля 10 рублёў***)“.

В о л ь н ы я л ю д з і, якія да расейскага панаваньня жылі ў прыватных дварох на падставе дабравольных кантрактаў, цяпер таксама прыпісваліся да мясцоў свайго жыцьця і бяз ведама ўрадавых камісараў гэтага месца не маглі перамяняць. Гэткае ўзалежненьне людзей перад тым в о л ь н ы х прывяло іх цяпер у стан, які ня шмат розьніўся ад сапраўднай паншчыны... І так скрось і так усюды.

Чым усё гэта вытлумачыць?

Прычына галоўная была ў тым, што тагачасная Расея (першыя гады XIX стаг.) была наскрось прыгонная і ў далучаных беларускіх землях бачыла таксама толькі „вярхі“, шляхту.

*) А. Т у р ц е в и ч: Русскіе крестьяне под владычеством Литвы и Польши. Вільня, 1911 г., бач. 66 і наступныя.
**) Віл. Цэнтр. Арх. кн. № 12054, л. 519 (паводле Турцэвіча).
***) Віленскі Цэнтр. Архіў, кнігі Рагачоўскага паветавага суду пад нумарамі 1752—1765 і кнігі Віцебскага пав. суду пад нумарамі 137—156. (Турцэвіч).



Хочучы здабыць гэту шляхту для сваіх-жа расейскіх інтарэсаў, расейскі ўрад авансам нагараджваў яе тым, што Расеі нічога не каштавала: інтарэсамі беларускага сялянства, аддаючы іх на пачатак безкантрольна пад уладу шляхты.

Гэткае становішча і пагляд расейскага ўраду на тутэйшыя варункі трывалі ня толькі ў пару „лібэральнага“ Аляксандра I, але і за Мікалая I. Толькі Аляксандр II гі, падчас бытнасьці сваей ў Вільні ў 1860 г., заявіў маршалкам мясцовай шляхты: „Скажэце шляхце, што я з яе нездаволены; хай ведае яна і Эўропа, што гэта (—б е л а р у с к і я з е м л і—А. К.) ня Польшч*).

Тымчасам аднак шляхта гэта аддавалася старым сваім навыкам. Зьняверыўшыся да ўсяго, ці зьнявераньнем толькі прыкрываючыся, усё больш лік шляхты вяртаўся да землеробства і пачынаў гаспадарыць, замыкаючыся гэтак у вузкі круг сваіх прыватна-гаспадарскіх інтарэсаў. Пабуджала шляхту да гэтага і добрая тагачасная коньюнктура на сусьветным рынку, дзякуючы якой прадукты землеробства знаходзілі там вельмі добры збыт. Гэта так „узахвочвала“ шляхту да землеробства, што яна ўсё новыя абшары забірала пад сваю дворную гаспадарку, абрэзваючы гэтым самым надзелы сялянскія, або і цалком выкідаючы сялян з загаспадараваных сялібаў на бязвартасныя і зусім дзікія пустыры.

**Інвэнтарныя камітэты.**

Сяляне-ж пастарому былі зусім безбаронныя і, даведзеныя да астатку цярплівасьці, знаходзілі адзіны толькі спосаб — уцякаць, куды вочы сьвецяць. Калі гэткае ўцяканьне ставалася штораз часьцейшым, а нават масавым, у дварох пачаўся адчувацца недастатак рабочых рук. Не знаходзячы іншага спосабу папоўніць гэты недастатак, памешчыкі пачалі абкладаць сялянства йшчэ новымі, цяжэйшымі прыгоннымі забавязаньнямі**). Гэткае самавольнае павялічэньне паншчыны было нагэтульки цяжкім і дакучлівым, што раздражніла нават і беларускага селяніна, наагул зраўнаважанага і спакойнага. Пачаліся спачатку скрытыя, а пасьля і яўныя разрухі. На гэта аднак ня мог ужо астацца сьляпым і расейскі ўрад і, ня хочучы дапусьціць да горшага, прыняў гэтым разам выгодную для сябе міну абаронцы сялянства, наказваючы 15 красавіка 1844 г. сарганізаваць між інш. у Вільні Галоўны, а ў Коўне і Гораднi — губэрскія, гэтак званыя І н в э н т а р н ы я К а м і т э т ы, заданьнем якіх было сьпісаць усе прыгонныя забавязаньні і правы сялян перад дварамі ў кожным паасобным выпадку, у кожнага памешчыка. Гэтак устаноўленых забавязаньняў няможна было адгэтуль ні зьмяняць, ні павялічываць***).

Каб у малой хоць меры мець паняцьце аб тым, як выглядала ў нас паншчына ў 40-ых гадох мін. ст., пазволім сабе тут

*) „Pamiętniki Jakóba Gieysztora—Вільня, 1913 г., т. І. бач. 89.
**) W i t o l d S t a n i e w i c z: Rzut oka na rozwój dziejów agrarnych na ziemiach litewskich. Адбітка з „Ateneum Wileńskie“ № 5, Вільня, 1924 г.
***) W i t o l d S t a n i e w i c z: Rzut oka...

падаць кароткі пераказ такога інвэнтарнага апісаньня двара Клюшчаны ў Сьвянцянскім пав., памешчыка Яна Шырына *).

Усяго аромай зямлі ў дварэ рахавалася 278½ дзес., а сенажацяў (пожняў)—176 дзес. З гэтага да двору належала 69 дзес. аромай зямлі і 45 дзес. сенажацяў, а сялянам 209½ дзес. аромін і 131 дзес. сенажацяў. Поўны надзел сялянскі лічыўся ад 19 да 21 дзесяціны; з гэтага: 13 дзес. аромін і 8 дзес. сенажаці. Ураджай збожжа абазначаны „ў чатыры зярняты“, а сенажаці мелі даваць з дзесяціны па 6½ дзесяціпудовых вазоў сена. Гэткая сялянская гаспадарка ў сярэднім складалася з 10 душ, разам з старымі і малымі. Рухомая маемасьць яе прадстаўлялася гэтак: коняў—2, жарабё — 1, валоў — 4, кароў — 5, цялушак—2, авечак—9, сьвіней—4, козаў—2 і курэй— 9 **). Сенажаці ў інвэнтарным апісаньні гэтага двору названы „мурожнымі“, а палі — „чарназём з глінай“, хоць сягоньняшнія жыхары гэтых зямель, пры ўспаміне аб „мурогу“ і „чарназёме“ ў іх, пацiскаюць толькі плячыма. Высокая з боку памешчыка ацэнка якасьці грунту аднак зразумелая: памешчык гэтым тлумачыў Інвэнтарным Камітэтам—таксама з памешчыкаў зложаным—тыя забавязаньні, якімі былі абложаны сяляне ў ягоным прыгоне. А забавязаньні гэтыя сапраўды ня былі малымі.

Самага толькі сталага прыгону („работы“) з валокі было 8 (восем!) дзён у тыдзень, 4 мужчынскія (з упражай) і 4 жаноцкія. Апрача прыгону сталага, у рабочы час, ад 25 чэрвеня да 25 верасьня, „як з даўных часоў, так і цяпер“ (1844 г.) сяляне служылі йшчэ гэтак званыя згоны або гвалты, на каторыя ў год з гаспадаркі трэба было даць: 12 пешых дзён муж., 12 гэтакіх-жа дзён жан.,; да гэтага для працы ў гародзе па 2 дні вясной і 2 дні ўвосені, разам—28 дзён.

Але гэта йшчэ далёка ня ўсё. Увесь гной з двара трэба было вывезьці за 1 тыдзень, бяз увагі на тое, колькі яго ёсьць. Малацьба таксама была паза нармальнай колеяй: „звычаем даўных часоў кожны селянін (гаспадар) паколеі павінен прысылаць работніка ці работніцу ў панскі двор для малацьбы, да сканчэньня яе, у помач машыне“. Трэба аднак зазначыць, што губэрскі Інв. Камітэт нават ня прызнаў „звычаю даўных часоў“ і наказаў пану Шырыну на вывазку гною і на малацьбу браць людзей толькі звычайным парадкам, залічваючы дзень працы за дзень прыгону.

Дадаць тут трэба, што рабочы дзень у Клюшчанскім двары рахаваўся: вясной, улетку і ўвосень ад усходу да заходу сонца, а ўзімку—ад 5 гадз. рана да 7 увечары.

Часам прыгон мерыўся не на дні, а на „урокі“ (пасягоньняшняму—„акорд“) і тады: „за 4 дні муж. прыгону на адным тыдні трэба было выараць 2 маргі (паўтары дзесяціны) аромiны, забаранаваць за 3 дні, зжаць—за 4, або па 4 жанчыны назначаюцца на гэтым прасторы на 1 дзень... Вывазка куб. сажня дроў лічыцца за 4 дні“... Жаноцкая работа на „ўрокі“ лічыцца гэтак: за 4 дні спрасьці: лёну на талькі паўфунта, кужалю 1 ф., пачэсься 3 ф., зрэб'я 4 ф., воўны тонкай 1 ф., простай 2 фунты.

Для вывазкі дворных прадуктаў на рынак (у Вільню, Дзьвінск, Сьвянцяны) браліся з сялян хурманкі; 30 вёрст дарогі з возам у 20 пудоў рахавалася за 1 дзень прыгону. Аднак 82 вярсты дарогі кожны гаспадар штогод мусіў адбыць дарма (гэта звалася „падоршчынай“).

Не рахавалася ў прыгонныя дні і цяжкая павіннасьць начнога старажаваньня двору ад заходу да ўсходу сонца. Прыходзіла-ж на гэта кожны раз двое людзей „безнаганнага паводзеньня“.

Апрача гэтага была йшчэ павіннасьць „дабавачная“, якая з валочнай гаспадаркі выглядала гэтак:

Пража: талькі (талька=маток)—па ½ фунта, грубой пражы па 4 ф. і воўны—па 2 ф.

Дань: па 4 талькі пражы, па 3 курыцы, па капе яёк і па капе грыбоў (баравікоў).

Для поўнасьці зазначыць урэшце трэба, што — паводле таго-ж самага інвэнтарнага апісаньня — арэндная плата з вольнай рукі за валочную гаспадарку паказанай якасьці выносіла ў той час каля 45 руб. Дзень-жа працы ўлетку з упражным інвэнтаром рахаваўся за 15 кап., а бяз упражы (пешы) — 10 кап. Пуд жыта каштаваў 35 кап., пуд сена — 12 кап., курыца — 10 кап., капа яёк—20 кап. і капа грыбоў—6 кап. серабром.

* * *

Гэта некалькі толькі рысак да таго абразу, які прадстаўляе жыцьцё гэтак нядаўняе йшчэ нашае мінуўшчыны. Няпоўны гэты абраз і ня ўзяты да яго хварбы яскравыя. Але і гэтак, як ёсьць, паказвае ён досыць жудасьці, якая для нашых дзядоўпрадзедаў была штодзенным хлебам.

Нічога аднак няма на сьвеце вечнага. Крохкім ёсьць асабліва ўсё тое, што збудавана на людзкой крыўдзе: раней ці пазьней, але зломіцца яно напэўна, хоць і выглядае часам багатым, сільным, непераможным...

І паншчына гэткай быць здавалася, а ў сапраўднасьці быў гэта ў палове XIX стагодзьдзя ўжо толькі „асілак на гліняных нагах“, які зваліўся ад свайго собскага цяжару ў 1861 годзе. Гісторыя-ж пісаная „по особому заказу“ назвала гэта здарэньне „асвабаджэньнем сялян“.

Прычыны, што змусілі гэта „асвабаджэньне“ правесьці ў чын і парадак самага „асвабаджэньня“ паслужаць тэмай для наступнага разважаньня.

*) Віленскі Дзярж. Архіў: Arch. Deput. Szlach., Komit. Inwent., № 2113.

**) Гэтыя дадзеныя аб стане гаспадаркі, як і ніжэйпададзеныя прыгонныя абавязкі тыповай сялянскай гаспадаркі ўзяты з вышэйназванага інвэнтарнага апісаньня і адносяцца да гаспадаркі Івана К. з в. Казаноўшчына, якая належала да двара Клюшчаны.—А. К.

# Кнігапіс.

**МІХАСЬ МАШАРА: „На сонечны бераг!“, зборнік вершаў, Вільня, 1934 г., бач. 78 і „Сьмерць Кастуся Каліноўскага“, поэма. Вільня, 1934 г., бач. 19.**

Міхась Машара, гэта поэта самародак, які адзначыў выразны сьлед у нашай поэзіі Заходняе Беларусі, а нават і ўва ўсей сучаснай беларускай літаратуры наагул. Ёсьць ён найбольш плодным і папулярным беларускім поэтам на гэты бок рыскае мяжы.

Ідэолёгічны падклад творчасьці Машары і яе тэматыку я разгледзіў агульна ў сваім артыкуле „Аб беларускай літаратурнай сучаснасьці ў Заходняй Беларусі“ („Нёман“, кн. 5, 1932 г.). Тутака, бяручы за падставу менаваныя творы Машары, пераважна спынюся над іх артызмам.

Артыстычная вышыня твораў Машары даволі вялікая, хаця яе на першы пагляд не заўсёды можна спасьцерагчы й належна ацаніць. Гэта з дзьвюх прычынаў. У Машары, побач з вершамі сапраўды мастацкімі й тэхнічна выпрабленымі, спатыкаюцца, нажаль часта, вершы слабейшыя, з паважнымі заганамі, і яны ў вялікай меры абніжаюць агульную вартасьць яго твораў. Далей, Машара гэта поэта лірык, але перадусім лірык настраёвы. Праўда, спатыкаемся ў яго творах і з пачуцьцёвасьцю, якая часам, як напрыклад у некаторых мясцох лірычнае поэмкі „Сьмерць Кастуся Каліноўскага“, выбухае вялікай сілай, пераходзе ў напружаную дынаміку. Але бяручы агульна, настраёвасьць зьяўляецца галоўнай, дамінуючай нотай яго творчасьці, якая не адразу, не так беспасярэдна, як пачуцьцёвасьць, прамаўляе да чытача.

Машара глыбокі лірык. Лірызм ягоны выклікаюць розныя зьявы жыцьця, розныя думкі й станы псыхічныя поэта. Але найглыбейшы й найбольш чысты лірызм выклікаюць зьявы найбольш блізкія поэту, як пытаньні беларуска-грамадзкія, хараство прыроды, а таксама настроі асабістага характару. Гэтыя тры матывы, што становяць у пераважнай большасьці тэматыку твораў Машары, уліваюцца ў тры галоўныя цыклі ягоных вершаў: цыкль грамадзкі, прыродаапісальны і асабістых рэфлексіяў. Апошнія пераважна ўходзяць у вялікі цыкль вершаў Машары „Вандроўнае“, названы ў менаваным зборніку з „Торбы вандроўніка“. Над гэтымі трыма цыклямі вершаў поэта, як найбольш характэрнымі, коратка задзержымся.

У цыклю грамадзкіх вершаў Машары, у якіх ён з вялікім захапленьнем апявае красу Беларусі, сьніць аб яе сьветлай будучыні, пераважаюць тоны ўрачыстыя, якія аднак не пераходзяць ніколі ў ненатуральны патос. У гэтых вершах поэта, апяваючы найвялікшыя для яго цэннасьці, з якімі ён арганічна зросься, якія прадстаўляюць частку ягонага „я“, патрапіў выявіць многа артызму, патрапіў беспасярэдна прамовіць да чытача й выклікаць тыя ўражаньні, якія перажываў сам аўтар. Ладне такіх вершаў спатыкаем у зборніку Машары „На сонечны бераг“, а асабліва ў яго лірычнай поэме „Сьмерць Кастуся Каліноўскага“. Напрыклад:

О, мой народ!
О, Край мой сонны,
Цябе слабы я—ня збудзіў!
Ты сьпіш, як спаў душой пакорны,
І сонны блудзіш, як блудзіў.

І нат ня чуеш мукаў сына,
Якога выдаў сам на крыж.
За грэх які?—якія віны?
За што бязьвінны ты цярпіш?

Таксама вялікім захапленьнем і шырокім размахам адзначаюцца разьвітальныя словы Каліноўскага з беларускім народам:

О, Беларусь!—мая Марыська!
Каханьне шчырае маё.
Бывай!—расстаньне надта блізка,
Бывай змаганьне і жыцьцё!

Бывай няволя і пакута.
Народ, засьмягшы у паўсьне,
Яшчэ няскора ськінеш путы
І жыць пачнеш сабой сабе..

Гаворачы аб грамадзкіх вершах Машары, трэба падчыркнуць адну вельмі характэрную асаблівасьць поэта.

Ёсьць ёй вялікі оптымізм, глыбокая радасьць жыцьця і вера ў яго вартасьць. Як ведаем, асабістыя абставіны жыцьця поэта склаліся вельмі трагічна. Аднак сільны дух ягоны перамог жыцьцёвыя няўдачы і мроіць аб радасьці і шчасьці. Вось-жа гэтая агульная рыса Машаравых твораў, сьветлы і творчы оптымізм, з асаблівай яркасьцю выступае ў яго вершах грамадзкіх.

Цыкль вершаў прыродаапісальных Машары прадстаўляе таксама не малую цікавасьць. Поэта, апісываючы абразы беларускае прыроды ў розных яе праявах, перадусім бачыць у ей красу, ей песьціцца й захопліваецца. Дзеля гэтага вершы, у якіх апісвае поэта хараство прыроды, адзначаюцца лёгкім, пагодным тонам, многа ў іх пяшчотных і зьмяншальных словаў. Прырода ў творах Машары гэта нішто іншае, як адбітак вонкавага выгляду роднае краіны і яе хараства. З гэтае прычыны адносіны да яе аўтара глыбока суб'ектыўныя. У вершах прыродаапісальных мала спаткаем элемэнту об'ектыўна-апісальнага, эпічнага, у іх выступае цэлы рад лірычных матываў. Той ці іншы абраз прыроды пераважна выклікае ў душы аўтара адпаведныя пачуцьці й настроі. Прырода ёсьць такім спосабам нятолькі красой самой у сабе, але так-жа настраёвым фонам для думак і пачуцьцяў аўтара, якія суладна гарманізуюць з агульным характарам вобразу. Такі спосаб рэагаваньня поэта на хараство прыроды асабліва ярка выступае ў яго вершы „Вясна“. Абраз беларускае

вясны, якая родзіць новае жыцьцё, выклікае ў душы поэта многа жыцьцёвай радасьці і ён пяе:

Вясёла, вясёла, вясёла,
Вясьнянаю раньню я п'ян.
Ня помню ні суму, ні гора,
Ня помню ні болю ні ран.
Я сёньня ў жыцьці закаханы,
Асьвечаны блескам вясны,
Гатоў цалаваць на'т парканы,
Кусочкі абсохшай зямлі.
У сіняе неба над вёскай
Узьляцеў-бы, каб крыльля былі,
І ў песьні-б з жаўронкам расплёскаў
Запал свой юнацкай душы.

Вершы, у якіх Машара глыбака закранае асабістыя пытаньні на фоне пытаньняў агульных, шырэйшых, уходзяць у ладнай меры, як я зазначыў, у цыкль „Вандроўнае". Цыкль гэты, зразумела з многімі выняткамі, асабліва характэрны і рэпрэзэнтуе яшчэ адну, вельмі цікавую, рысу ягонага артызму. Зьмест іх прадстаўляе ўдалую мешаніну розных думак і настрояў. Будуць тут пытаньні асабіста-жыцьцёвыя аўтара, яго адносіны да жыцьця і людзей, спатыкаемся тут з матывамі грамадзкімі й прыродаапісальнымі. Але што цікавей, у многіх вершах гэтага цыклю поэта прабуе глянуць на сьвет і на самога сабе праз прызму іроніі. Залежна ад гэтага й хворма верша, дзякуючы сьмелым і арыгінальным стылёвым фігурам, прыбірае спэцыяльны адценак. Вось прыклад:

Галаву прыкрыўшы небам,
З кіем, босы па пяску,
Я пайду з вандроўным дзедам
Адганяць ад сёл тугу.

Такім-жа характарам адзначаецца цыкль вершаў Машары „Падарожнае".

Гаворачы аб фармальна-мастацкіх асаблівасьцях творчасьці Машары, трэба падчыркнуць некаторыя даволі паважныя заганы. Паколькі Машара з гледзішча колькасьці напісаных вершаў зьяўляецца вельмі плодным поэтам, патолькі за мала працуе над іх артызмам. Некаторыя вершы поэта бяз глыбейшага апрацаваньня пускае ў сырой нявыробленай хворме ў сьвет, абніжаючы агульную роўню сваей творчасьці І ў менаваны зборнік папала некалькі такіх вершаў, якія для ўласнага дабра самога аўтара не павінны былі, прынамсі ў такой хворме, наагул друкавацца. Ня віню ў гэтым выключна аўтара, бо, як мне вядома, над укладаньнем зборніка працавалі выдаўцы яго, а не аўтар. Большая будзе карысьць напісаць менш, але напісаць добра, прынамсі без заганаў тэхнічных.

З гледзішча артыстычнага творы Машары адзначаюцца даволі вялікай убогасьцю стылю і мовы. У вельмі невялікай колькасьці опэруе Машара стылістычнымі фігурамі, як у параўнаньні, мэтафары і інш., якія нормальна зьяўлаюцца неабходнымі дзеля вобразнасьці верша і стварэньня адпаведнага настрою. Таксама мова твораў Машары даволі аднастайная і ўбогая; поэта ня робіць высілку, каб сваю мову ўзбагаціць новымі славамі, сягнуць умела да правінцыяналізмаў, тварыць словы новыя. Адным словам над стылем і моваю мусіць Машара многа папрацаваць, каб выявіць поўнасьцю свой прыродны талент.

Гэтак сама не павінен Машара ігнараваць і тэхнікі верша, якая мае многа заганаў. У менаваным зборніку спатыкаем часта няроўны разьмер паасобных радкоў у вершы, у сувязі з рытмікай часта нарушае акцэнт слова, пераносячы яго зусім ненатуральна на іншы склад, а так-жа вельмі часта, дзеля вымаганае колькасьці складоў, надужывае Машара *ў* нескладовае, ужываючы яго па сугуках на месцы *у* складовага, і наадварот.

Канчаючы мушу зацеміць, што ўспомненыя заганы ў творах Машары я паказаў выключна з тэй мэтай, каб заахвоціць поэта да больш грунтоўнае працы над сваей творчасьцю. Бяручы пад увагу вялікія поэтыцкія здольнасьці Машары і яго прыродны талент, мы мусім ад яго шмат вымагаць, нятолькі з гледзішча колькасьці, але перадусім якасьці мастацкіх твораў.

**Ст. Станкевіч.**

---

## ТВОРЫ ЦЁТКІ АЛОІЗЫ ПАШКЕВІЧ.

**Беларуская Акадэмія Навук Інстытут Літаратуры і Мастацтва. Менск, 1934 г. бач. 92.**

Навукова дасьледаваць беларускую літаратуру ў нашых абставінах вельмі цяжка, а ў некаторых прыпадках проста немагчыма. Прычынай гэтага ёсьць нястача навуковых выданьняў поўных збораў твораў беларускіх поэтаў і пісьменьнікаў. У свой час падумаў аб гэтым Інстытут Беларускае Культуры ў Менску, намячаючы ў пляне сваей працы акадэмічнае выданьне поўных збораў твораў беларускіх поэтаў і пісьменьнікаў, у першую чаргу—Фр. Багушэвіча, М. Багдановіча, А. Гаруна і А. Цёткі Гэты плян пачала рэалізаваць Беларуская Акадэмія Навук, выдаючы ў 1928 годзе ў двух томах „Поўны Збор Твораў" Максіма Багдановіча. У першым томе былі зьмешчаны поэтычныя творы Багдановіча, пераважна дасюль недрукаваныя, у другім—усе творы прозаічныя, не выключаючы нават дробных газэтных артыкулаў і зацемак поэты. Выданьне зроблена бяз закіду, паводле апошніх навуковых вымаганьняў. Тэксты ўсіх твораў Багдановіча былі навукова ўсталены. Дзе толькі была магчымасьць, былі яны прыраўнаваны да рукапісаў і пададзены вар'янты й зьмены між друкаванымі тэкстамі і рукапісамі, або паміж некалькімі рукапісамі, калі такія захаваліся. Не ставала яшчэ толькі выданьня корэспондэнцыі (прыватных лістоў) Багдановіча, якая, як ведама, ёсьць заўсёды беспасярэднай крыніцай дзеля пазнаньня жыцьця

й творчасьці поэты. Але й паміма гэтага была ўжо створана магчымасьць навуковае працы над творчасьцю Багдановіча.

Такім спосабам пачатак быў вельмі добры. Нажаль ён астаўся і дасюль пачаткам. У 1929 г. Аладэмія Навук выдала творы Алеся Гаруна, але гэта ўжо ня быў навукова выданы „Поўны збор твораў", але толькі – выбраныя творы. Такімі-ж былі „Выбраныя творы" Паўлюка Труса, выданы ў 1931 г. і „Творы Цёткі", выданы ў 1934 г. Над гэтымі апошнімі мы й спынімся.

Выданьне „Твораў" Цёткі, як Гаруна й Труса, з выданьнямі навуковымі ня мае нічога супольнага з дзьвюх прычынаў: не зьмяшчае ў сабе ўсіх твораў поэткі, і што тэксты надрукаваных твораў навукова не ўсталены. Ёсьць гэта звычайнае папулярнае выданьне. Такія інстытуцыі, як Акадэмія Навук, у нормальных абставінах такіх выданьняў ніколі ня робяць, пакідаючы іх выдавецтвам агульным. Але ў Саветах, асабліва ў Савецкай Беларусі, гэта ёсьць магчымым, а часта канечным. Не гаворачы аб іншых галінах жыцьця ў Савецкай Беларусі, Беларуская Акадэмія Навук ад некулькіх год, побач з работай навуковай, мусіць рэалізаваць пляны чыста практычнага характару. Бальшавіцкія ўлады, выкінуўшы з Акадэміі большасьць шырока ведамых беларускіх навуковых працаўнікоў, змусілі гэтую Інстытуцыю, высокую па свайму назову й недалёкай традыцыі, вясьці камуністычную й русафільскую агітацыю, арганізаваць масавыя выступленьні сярод рабочых на хвабрыках і г. д. А калі і вядзецца навуковая праца, то яна ня служыць навуковым мэтам, але агітацыйным. Вось-жа і прычыну няпоўнага выданьня твораў Цёткі паясьняе Інстытут Літаратуры й Мастацтва Акадэміі наступным:

„У гэты зборнік твораў пісьменьніцы не ўвайшлі тыя вершы, апавяданьні і артыкулы, дзе асабліва выразна выяўлены буржуазна — нацыяналістычныя погляды Цёткі, яе арыентацыя на кулацкую, сялянскую гаспадарку, таксама як і тыя, дзе яна ідэалізуе дробна-буржуазныя нацыяналістычныя партыі, асабліва БСГ, (Беларускую Соцыялістычную Грамаду—Р э д.), якая на абвострaных этапах рэволюцыйнага змаганьня яскрава праяўляла сваю здрадніцкую ролю і з якой (партыяй БСГ) Цётка была зьвязана арганізацыйна"...

Падумае нехта, што такое выданьне „Твораў" Цёткі было падыктаванае мэтамі практычнага характару, а не навуковага. Аднак так ня ёсьць. Інстытут Літаратуры й Мастацтва Акадэміі гаворыць ніжэй у сваей прадмове, што менаванае выданьне „мае на мэце задаволіць патрэбы навукова-дасьледчага і навучальнага характару"... Прадмову, таксама „навуковую", аб жыцьці і творчасьці Цёткі, напісаў М. Пятровіч, якая стаіць ніжэй сэмінарыйнае працы першагодняга студэнта.

З гэтакай навуковасьцю, якую праявіла Беларуская Акадэмія Навук у выданьні „Твораў" Цёткі, далей Менску не заедзеш.

Пры гэтым варта зазначыць, што такое ігнараваньне навукі дзеля агітацыйных мэтаў робіцца толькі ў Савецкай Беларусі. Бальшавіцкія ўлады, закрываючы ўсякімі спосабамі нацыянальны характар беларускае культуры, консэквэнтна імкнуцца да русыфікацыі Беларусаў. У Маскве й Ленінградзе такіх экспэрымэнтаў з навукай, як гэта мы паказалі толькі на адным прыкладзе з выданьнем твораў Цёткі,— а такіх прыкладаў ёсьць мноства — ня робяць ніколі. Там і сяньня друкуюць і распаўсюджываюць поўныя выданьні твораў Пушкіна, Дастаеўскага і іншых дарэволюцыйных пісьменьнікаў. А хіба-ж ня трэба даводзіць, што творчасьць апошніх ёсьць больш „буржуазная", чымся Цёткі, натхнёнае пясьняркі рэволюцыі.

Канчаючы, трэба зрабіць яшчэ адну зацемку. Выданьне „Твораў" Цёткі зроблена паводле новага правапісу, што год назад прымусова ўвялі бальшавікі. Як ведама, гэтая зьмена правапісу была адначасна зьменай граматыкі: на мейсца некаторых хвормаў беларускіх уводзіла яна хвормы расейскія. Між іншым замест хвормаў беларускіх с ь в е т у, н а р о д у, прынята пісаць парасейску—с в е т а, н а р о д а. Замест б р а т о м, а б б р а т о х, к і р а ў н і к о м, а б к і р а ў н і к о х, накінуты расейскія хвормы— б р а т а м, а б б р а т а х, к і р а ў н і к а м, а б к і р а ў н і к а х. Вось-жа вельмі часта такія хвормы трапляюцца ў вершах на канцы радка. Прыстасоўваючы такім спосабам вершы нашых поэтаў да т. зв. новага правапісу, вельмі часта нарушаецца рымаваньне верша. Вось прыклад з верша Цёткі п. н. „Ласы":

Было дасюль:

Навяду масты з матэрыялу,
. . . . . . . . . . .
Але і пану генералу....

Цяпер:

Навяду масты з матэрыяла,
. . . . . . . . . . .
Але і пану генералу,...

Такім спосабам рымаваньне нарушаецца і верш многа траціць на сваей поэтыцкай вартасьці. І сапраўдны будзе вандалізм, як Беларуская Акадэмія Навук пачне такім спосабам перарабляць высока мастацкія і мілагучныя вершаваныя творы Я. Купалы і Я. Коласа.

**Ст. Ст.**

## RUCH REGJONALISTYCZNY w EUROPIE.

Książka zbiorowa pod redakcją Aleksandra Patkowskiego. Warszawa, 1934 r.
Wydawnictwo Sekcji Regjonalistyczno-Krajoznawczej Związku Nauczycielstwa Polskiego. t.t. I, II.

Пад гэткім назовам у канцы мінулага году на кнігарскім рынку паказалася двутамовая кніжка. Спатыкаем у ёй, як гэта відаць з самага загалоўку, апісаньне рэгіональнага руху ў большасьці дзяржаваў Эўропы. Рэгіональны рух кожнага краю апісваюць там аўтары, якія зьяўляюцца грамадзянамі яго.

Рэгіоналізм — ад лацінскага *regio*: краіна, ваколіца, правінцыя, — агулам яго разважаючы, азначае краезнаўства. Вось-жа беларускаму чытачу знаёміцца з літаратурай, апісваючай жыцьцё розных краёў і народаў, ёсьць рэчай пажаданай і карыснай. Пажадана і карысна беларусу такжа ведаць, як людзі апісваюць розныя краі і народы. Дзеля гэтага і пасьвячаем успомненай кнізе гэтых некалькі ўваг.

Прадусім трэба адзначыць, што агульная тэндэнцыя аўтараў паасобных артыкулаў у кнізе „Ruch Regjonalistyczny w Europie", гэта—з малымі выняткамі, апісваць рэгіоналізм дзяржавы, мінаючы нацыяналяныя рухі, якія ў іхных дзяржавах існуюць. І затым спатыкаем там шмат апісаньня рэгіоналізму адміністрацыйнага, гаспадарскага, геаграфічнага і інш., а як найменш рэгіоналізму культурна-нацыянальнага. Тымчасам ясная рэч, што ў пазнаньні кожнага краю, у кожным рэгіоналізьме, найважнейшай рэчай зьяўляецца пазнаньне ў кожным краю існуючага народу, яго патрэб і імкненьняў.

Характэрна, што рэкорд у гэтым кірунку пабілі польскія аўтары трох розных артыкулаў. Дарэмна ў гэтых артыкулах чытач шукаў-бы хоць успаміну аб беларусах, украінцах, літоўцах і аб іх краінах, што ўваходзяць у склад сучаснай Польшчы!

Аб тым, што ў Польшчы існуюць няпольскія народы, якія прадусім і мусілі-б быць галоўным крытэрыем рэгіоналізму, інформуе чытача „Ruchu Regjonalistycznego w Europie"... швайцарскі прафэсар Jean de La Harpe (II, 239), які дараджае Польшчы разьвязаць справу сваіх нацыянальных меншасьцяў праз шырока і шчыра зразумелы рэгіоналізм. Сапраўды, іронія лёсу!

Аб рэгіоналізьме ў Саветах апісвае расейскі праф. з Прагі Пётра Савіцкій. Да савецкага краезнаўства і рэгіоналізму, а разам з гэтым і да беларусаў, аднёсься ён цалком об'ектыўна, падчэрківаючы, што Саветы рэгіоналізм свой апёрлі бадай у першую чаргу на нацыянальнасьцях, надаючы аднак культурным іх рухам нацыянальную толькі форму, гэта знача—мову, а зьмест—выключна камуністычны.

**Ад. Ст.**

---



## Witold Dynowski: Barwne kufry chłopskie z okolic Wileńszczyzny i Pińska. Wilno, 1934 r. Nakładem Instytutu Naukowo-Badawczego Europy Wschodniej.

Гэта першая праца Сэкцыі Этнолёгічнай Інстытуту Навуковага Дасьледжваньня Эўропы Усходняй у Вільні. Вонкавы выгляд яе раскошны. Вокладка, папера, малюнкі, яўна сьведчыць аб заможнасьці Інстытуту. Коштаў, уложаных на выдавецтва гэтай кніжкі, нам беларусам хапіла-б ня толькі на „Barwne Kufry Chłopskie", але й яшчэ на сёе-тое шмат ад „куфраў" важнейшае.

Але паглядзім у сярэдзіну гэных куфраў, што ў іх? Вось-жа, калі йдзе аб зьмест гэнай кніжкі, дык мусім сьцьвердзіць, што аўтар у яе шмат улажыў працы і веды. Адведаў ён асабіста многія мясцы Віленшчыны і Палесься, вёў асабістыя гутаркі з асобамі, якія нешта знали аб куфрах, аглядаў не адзін куфар уласнымі вачыма, а так-жа выкарыстаў даволі багатую літаратуру, сярод якой так-жа й беларускую. Так напр. у сьпісе літаратурных крыніц спатыкаем працы датычныя беларускай народнай культуры: Баброўскага, Дэмбавецкага, Корэвы, Романова, Шэйна, Шлюбскага, Тышкевіча і Зеленскага.

Праца такім чынам В. Дыноўскага бязумоўна мае сваю навуковую вартасьць, што лёяльна і падчоркаваем. Аднак мусім сьцьвердзіць, што В. Дыноўскі, гаворачы аб куфрах на нашых землях не сказаў аб іх усей праўды. Ён галоўнае якраз схаваў у „куфрах" і беларускаму этнолёгу, які будзе карыстацца гэтымі „куфрамі" В. Дыноўскага, не адну рэч з іх прыдзецца выцягваць на верх: дапаўняць, выясьняць.

Справа ў тым, што „куфры" В. Дыноўскага, як прадметы культуры народу беларускага і літоўскага, гэтыя нацыянальныя адзнакі схавалі ў нутры сваім.

В. Дыноўскі, пішучы свае „куфры", даведваўся між іншым і аб варштатах, у якіх куфры ў нашым краю выраблялiся. Вось-жа інфарматарамі яго ў гэтай справе былі бадай выключна мяшчане-жыды: у Вільні, у Сьвянцянах, у Відзах, у Алькеніках, у Эйшышках, у Лідзе. Тымчасам аўтар не пастараўся знайсьці майстроў беларусаў і літоўцаў, якія так-жа існуюць і якія сапраўды маглі-б нешта цэннае сказаць аб прадмеце свайго культурнага творства.

Мінаючы, відаць сьведама, культуры беларускага і літоўскага народу, В. Дыноўскі часта спатыкае і сьцьвярджае на куфрах нашага краю ўплывы культуры Усходу і Заходу, але ня бача, што з крыжаваньня гэных уплываў, з сынтэзы іх, асабліва на беларускіх этнографічных землях, паўставала арыгінальная беларуская культура.

Прыкрым так-жа зьявішчам у працы В. Дыноўскага ёсьць і тое, што ён у нашым краю бачыць толькі „lud Wileńszczyzny i Polesia", (прычым пад словам „Polesie" крыецца беларуская

Наваградчына), а ня бачыць беларусаў і літоўцаў, бачыць у „куфрах“ гэтага „ludu“ імглістыя ўплывы старых культур Усходу і Заходу, а ня бачыць у іх сьлядоў арыгінальнай культуру народаў нашага краю. Ад. Ст.

---

**Józef Gołąbek: „LITERATURA BIAŁORUSKA“, „Wielka Literatura Powszechna“ pod redakcyją Dr. St. Lama. Nakładem Księgarni Trzaski, Ewerta i Michalskiego, t. IV. (539 — 546) i „LITERATURA BIAŁORUSKA“ t. VI (Antologja. Wybór tekstów i układ Alfreda Toma. 736—746). Warszawa, 1933 г.**

„Wielka Literatura Powszechna“ — гэта багатая энцыклёпэдыя сусьветнае літаратуры, хораша выданая ў шасьці томах вялікага фармату. У чатырох першых томах маем агульны агляд сусьветнае літаратуры ад часоў найдаўнейшых да сучаснасьці. У т. IV гаворыцца аб літаратурах славянскіх. У тт. V і VI (Антолёгія) зьмешчаны найбольш характэрыстычныя творы вялікіх поэтаў і пісьменьнікаў розных народаў у польскім перакладзе.

Артыкул аб беларускай літаратуры напісаў доцант Варшаўскага Унівэрсытэту Язэп Галомбак, ведамы із сваіх працаў з беларускай і іншых славянскіх літаратураў. Аўтар дае агульны агляд беларускае літаратуры ад пачатку яе разьвіцьця, канчаючы кароткімі зацемкамі аб сучаснай беларускай літаратуры ў Усходняй і Заходняй Беларусі. Агульны абраз разьвіцьця беларускае літаратуры аўтар намаляваў даволі добра; больш менш правільна прадставіў галоўныя яе кірункі і ўмела схарактэрызаваў у кароткіх словах творчасьць паасобных поэтаў і пісьменьнікаў. З гэтага боку артыкул Я. Галомбка ніякіх засьцярогаў не выклікае. Затое, гаворачы аб адносінах беларускай літаратуры да польскай, аўтар не патрапіў быць об'ектыўным. З усяго артыкулу выглядае, што беларуская літаратура, амаль праз увесь час свайго існаваньня, у пераважнай меры вырастала і разьвівалася на літаратуры польскай. Польскія ўплывы на беларускую літаратуру ў такой меры, як гэта бачыць аўтар амаль ўва ўсіх яе пэрыядах, можна спасьцярагаць толькі ў першай палавіне XIX ст., у творчасьці беларускіх романтыкаў, вышаўшых з польскае школы (Я. Чачот, В. Д. — Марцінкевіч і іншыя). Затое ўва ўсіх іншых пэрыядах, асабліва ў часе найбуйнейшага росквіту беларускае літаратуры, вырастала яна поўнасьцю на собскім грунце. А калі і спатыкаліся часамі ўплывы некаторых польскіх поэтаў, то былі яны спорадычнымі. На іх падставе аб залежнасьці беларускае літаратуры ад польскай гаварыць ня прыходзіцца, бо ёсьць зьявішчам нормальным, што ў літаратуры кожнага народу спатыкаюцца часта ўплывы чужых поэтаў і пісьменьнікаў.

Часам знаходзяцца і іншыя памылкі ў артыкуле Я. Галомбка. Аўтар гаворучы аб сучасным літаратурным пакаленьні ў Усходняй Беларусі, на чале яго ставіць М. Гарэцкага, А. Гаруна



і М. Чарота. Не гаворачы ўжо аб тым, ці належыць М. Гарэцкі да сучаснага літаратурнага пакаленьня, ці не, А. Гарун напэўна да яго не належыць, бо памёр у 1921 г.

У тэксьце артыкулу знаходзім фотографіі Фр. Скарыны, В. Д. Марцінкевіча, Фр. Багушэвіча, Я. Купалы і Я. Коласа.

У VI томе менаванага выданьня знаходзім пятнаццаць твораў вершаваных і прозаічных беларускіх поэтаў і пісьменьнікаў, выбраных проф. Альфрэдам Томам. Ён-жа быў і перакладчыкам значнага іх ліку. Апрача яго перакладалі А. Багуслаўскі, М. Рудзінская, Т. Радоньскі і інш. Тут беларускі аддзел пачынаецца вершам Я. Чачота „Каб у карчме не сядзеў“, — потым ідуць некаторыя творы В. Д. Марцінкевіча, Фр. Багушэвіча, Цёткі, Я. Купалы, Т. Гушчы, Ц. Гартнага, З. Бядулі — і канчаецца вершам М. Багдановіча „Слуцкія ткачыхі“. Пераклады беларускіх твораў на польскую мову вельмі добрыя. Яны дакладна перадаюць ня толькі зьмест твораў, але й іх тон і настроі, пры захаваньні агульнага характару верша. Ст. Ст.

---

# З жалобнае карты.

## ТОДАР УЛАДЗІМІРСКІ.

„Дзе жыць, дзе тварыць жыцьцё новае трэба,
Там сыплюць магілы, там—сьмерць, пахароны“.
Я. Купала.

У палавіне лістапада мінулага году адыйшоў на вечны супачынак на 65 годзе свайго жыцьця протаярэй Тодар Васільевіч Уладзімірскі, — уталентаваны кампазытар, выдатны арганізатар і дырыгент харавых сьпеваў.

Адыйшоў неспадзявана. Жыцьцё абарвалася, як струна, ня скончыўшая свае мэлёдыі, і жалобным акордам адгукнулася ў сэрцах тых, хто толькі знаў Нябошчыка.

Расеец па паходжаньню, Ён быў зьвязаны яшчэ да вайны з Вільняй і нашым краем. У 1917 годзе быў запрошаны ў склад прафэсарскай калегіі ў аддзеле тэорыі музыкі і сьпеву ў Беларускі Пэдагагічны Інстытут у Менску, дзе працавалі У. Ігнатоўскі, пазьнейшы прэзыдэнт Бел. Ак. Навук, і В. Івановскі, цяпер прафэсар Варшаўскай Палітэхнікі, і шмат іншых выдатных беларусаў.

Несьціхаўшыя грымоты вайны і рэвалюцыі бушавалі тады на Беларусі. Людзі зьнемагліся ад страшнай нэрвовай напружанасьці. Шукалі цішыні, спакою. І вось нябошчык Уладзімірскі, шукаючы гэтага спакою, у 1919 годзе прымае духоўны сан і выяжджае на парахвію ў м. Трабы, каля Валожына, адкуль, праз некалькі гадоў, пераеждждае на сталае жыцьцё ў Новую-Вялейку.

Выпаўняючы свае пастырскія абавязкі, ён не парывае і са сваей роднай музычнай стыхіяй. Спатыкаючыся беспасярэдня



5

з беларускай народнай творчасьцяй, с. п. Уладзімірскі распачынае сваю працу над гарманізацыяй беларускіх народных песьняў. У гутарках са сваімі знаёмымі, Ён ня раз з захапленьнем расказвае аб сваіх назіраньнях над характвам і арыгінальнасьцю беларускіх народных мэлёдыяў.

Даступны і ветлівы ў абыходжаньні, Ён ахвотна піша і дае для публічнага карыстаньня свае прыгожыя музычныя творы.

Амаль усе беларускія канцэртныя імпрэзы не абходзяцца без паказу яго творчасьці. Хоць і ня так многа зроблена нябошчыкам для беларускай песьні, але тое, што зроблена, мае вялікую мастацкую вартасьць. Вось кароткі пералік найбольш пашыраных беларускіх песьняў, напісаных Уладзімірскім для мяшанага хору: з Лідзкага павету — „Ў чыстым полі каліна стаіць“ (солё барытон і хор) і „А ў лузі каліна“ (солё альт і хор); з Пружаншчыны—„А ў гаспадара“ (калядка) і „Ў нашага дружэнька чорныя вочы“ (вясельная); з Маладэчанскага павету — „У даль па даліне“ (валачобная) і „Ой, бяда-ж мая“;—з этн. збор. М. Гарэцкага, — „Пастаўлю сьвятліцу“ і „Дзеўкі хмеля садзілі“; з Аўгустоўскага павету—дажынкавая песьня для 3-х жаночых галасоў: „Дажалі жыта да самага бору“. Апрача таго спэцыяльна для беларускай моладзі былі напісаны дзьве харавыя песьні: „У сонечных праменьнях“ на словы Журбы і „Сьняжыначкі — пушыначкі“ на словы Ясакара. Мастацкую вартасьць гэтых песьняў добра знае віленскае грамадзянства, якое цікавіцца беларускімі канцэртамі. Напрыклад „Сьняжыначкі“, на апошнім выступленьні беларускага хору ў Віл. Бел. Гімназіі, пад умелым кіраўніцтвам выдатнага культурнага працаўніка гр. Р. Шырмы, былі спатканы з такім захапленьнем, што хор быў змушаны паўтараць іх на жаданьне прысутных. Апрача таго Уладзімірскім задуманы былі вялікія харавыя працы над беларускімі народнымі песьнямі, як напр. сюіта „Чатыры пары году“ і інш., аднак на перашкодзе да выпаўненьня іх стала перадчасная сьмерць.

Вечная памяць, вечная слава няхай будзе гэтаму добраму прыяцелю Беларускага Народу!

**Л. К.**

## АЛЬБІН СТЭПОВІЧ.

Дня 18-га сьнежня 1934 г. у Віленскай Літоўскай клініцы памёр ад хворасьці сэрца Альбін Стэповіч, заслужаны беларускі культурны і палітычны працаўнік.

Сьв. пам. А. Стэповіч ёсьць родным братам ведамага беларускага поэта Каз. Сваяка (кс. Каст. Стэповіча), таксама ад 1926 г. ужо нябошчыка. Радзіўся А. Стэповіч у в. Барані, у Сьвянцяншчыне, 18-га сакавіка 1894 г.; вучыўся ў Віленскай музыкальнай школе ім. Монтвіла, а пасьля на праўна-грамадзкім факультэце Казанскага унівэрсытэту і на гуманістычным факультэце Віленскага Унівэрсытэту. Грамадзкім жыцьцём — не бяз уплыву брата Кастантага—А. Стэповіч пачаў цікавіцца яшчэ з вучнёўскіх часоў, хоць на беларускім грунце шырэй стаўся ведамым толькі ад часу павароту свайго з Казані ў Вільню ў 1921 г.

З гэтага часу бачым сьв. пам. А. Стэповіча на становішчах: настаўніка Віленскай Беларускай Гімназіі (сьпеў), старшыні Віленскага Аддзелу Бел. Інст. Гасп. і Культуры, віцэ-старшыні Ц.К.—Б.Х.Д. і пасла ў сойм ад імя тэй-жа Б.Х.Д. (1928—1930), супрацоўніка і выдаўца (1927—1930) „Беларускай Крыніцы“, кіраўніка Беларускага Касьцельнага Хору, ініцыятара закладчыка і кіраўніка вольных дыскусыйных вечароў, г. зв. „пятніцаў“, і пільнага рэфэрэнта беларускіх справаў у дзступнай яму замежнай і наагул небеларускай прэсе. Галоўным заняцьцем яго ў апошніх часох аднак была публіцыстыка. Але што раз больш аддаваўся ён і музыцы, — агульнай і беларускай перадусім. З працы гэтае выдадзены друкам аднак толькі лічаныя нумары, ды і то не асобна, а ў розных выданьнях і зборніках. Найбольшая аднак часьць працаў нябошчыка знаходзіцца ў рукапісах і чакае на сумленнага дасьледчыка і выдаўца. Асобна выдадзены дагэтуль толькі гімн Бел. Інстытуту Гасп. і Культ.: „Дзе чутны мовы нашай гукі“ — на 4 мяшаныя галасы à capella, да якога А.С. напісаў ня толькі музыку, але і словы. У апошніх днях жыцьця свайго ўлажыў нябошчык плян выдавецтва беларускіх популярных, народных і рэлігійных, песеньнікаў. З гэтага пляну пасьпеў аднак нябошчык выканаць толькі пачатак: хворым ужо будучы сьмяротна, выканчыў ён толькі першы сшыток гэтага выдавецтва, выхаду якога ў сьвет друкам аднак ужо не дачакаўся. Схварэлае сэрца перастала біцца. Асталася толькі памяць, якую патомнае пакаленьне захавае ў прыклад сабе і дзеля прадаўжэньня працы над усестаронным адбудаваньнем Беларусі, для каторай нябошчык быў верным да апошняй хвіліны. Вечная Яму памяць!

Экспортацыя цела з касьцёла сьв. Мікалая на могілкі Россы, на Горку літэратаў, і пахавіны адбыліся 19. XII. 1934 г.

# Культурная хроніка

## Зьезд пісьменьнікаў БССР.

Зьезд савецкіх пісьменьнікаў БССР зьяўляецца важным фактам у разьвіцьці беларускай што да формы, а сацыялістычнай што да зьместу культуры.

На гэтым зьезьдзе першы раз за ўвесь час свайго існаваньня БССР падсумавала зробленую за 15 год працу ў галіне літаратуры і мастацтва, намеціла плян далейшых шляхоў і падлічыла свае пісьменьніцкія кадры. Да зьезду рабіліся даўгія прыгатаваньні. Савецкая Беларусь прышла да першага зьезду пісьменьнікаў са значным багажом літаратурна-мастацкага творства і з вялікімі кадрамі старэйшых і малодшых пісьменьнікаў.

8-га чэрвеня 1934 г. у Менску — сталіцы Савецкай Беларусі

ў салі гарадзкога тэатру адкрыўся першы ўсебеларускі зьезд савецкіх пісьменьнікаў.

У зьезьдзе прымала ўдзел каля 100 дэпутатаў, у тым ліку дэлегацыі ўсесаюзнага аргкамітэту пісьменьнікаў на чале з Бахмецевым, дэлегаты заходняй вобласьці (Смаленшчыны), заслужаны артыст рэспублікі Міхоэльс, народны артыст рэспублікі Галубок, начальнік палітаддзелу N-скай дывізыі Крапачоў і інш.

Зьезд адчыніў старшыня аргкамітэту ССПБ (Саюзу Савецкіх Пісьменьнікаў Беларусі) М. Клімковіч.

У прэзыдыюм былі выбраны: Галадзед,, Чарвякоў, Рыскін, Конік, Кавальчук, Чарнушэвіч, Аўгустайціс, Домбаль, Ленцнэр, Ратнек, Варончанка, Клімковіч, Колас, Купала, Александровіч, Галавач, Дунец, дэлегаты ўсесаюзнага аргкамітэту і пісьменьнікаў заходняй вобласьці і інш.

У ганаровы прэзыдыюм выбраны Палітбюро ЦК ВКП(б) на чале з Сталінам, Бюро ЦК КП(б)Б на чале з Гікало, Тэльман (нямецкі камуніст), Дзімітраў (баўгарскі камуніст).

Ганаровым старш. зьезду выбраны А. М. Горкі. Зьезд пастанавіў выбраць Отто Шмідта ганаровым сябрам прэзыдыюму зьезду.

У салі было прысутных звыш 700 гасьцей--ударнікаў фабрык і заводаў і прадстаўнікоў партыйных, савецкіх і грамадзкіх арганізацыяў.

9-га чэрвеня паседжаньне зьезду адкрылася ў Доме Пісьменьнікаў дакладам М. Клімковіча на тэму: „Савецкая літаратура БССР за 15 год“.

М. Клімковіч у сваім дакладзе схарактэрызаваў згодна з прынцыпамі камунізму ідэолёгічны бок беларускай творчасьці, пачынаючы ад пісьменьнікаў Дуніна Марцінкевіча, Багушэвіча і інш., народніцкую і „нашаніўскую“ пару ўключна аж да Лютаўскай і Кастрычнікавай рэволюцыі, далей „нацдэмаўскую“ дзейнасьць на літаратурным фронце ў БССР і ўрэшце спыніўся над сучаснай мастацкай літаратурай БССР. Сьцьвярдзіў вялікія ідэолёгічна-камуністычныя недахопы сав. літаратуры БССР, якая толькі з вялікім трудам пачынае выламлівацца з нацыянальных рамак і выходзіць (у апошнія гады) на ўзровень інтэрнацыёнальнай літаратуры. Пасьля дакладу М. Клімковіча выступілі з дакладамі Бранштэйн—аб прозе і Кучар—аб паэзіі.

10-га чэрвеня зьезд заслухаў даклад Вольскага аб драматургіі і выступленьне Дунца аб жыдоўскай савецкай літаратуры БССР. Пасьля гэтага распачаліся спрэчкі аб дакладзе Клімковіча, Бранштэйна, Кучара і Вольскага. Першымі выступілі — Галавач, Колас і Мікуліч. Пасьля выступаў старшыня СНК БССР Галадзед. Прамова Галадзеда мела характар агульны і цалком палітычны.

11-га чэрвеня выступалі з прамовамі на зьезьдзе пераважна непісьменьнікі і ўраднікі савецкіх грамадзкіх установаў, напр. старшыня ЦК профсаюзу друкароў Магідаў, які прымаў удзел у работах зьезду пісьменьнікаў, народны камісар асьветы БССР А. Чарнушэвіч і інш.



Далей у гэты-ж дзень выступалі: Рубіна, Кірылаў (Саюз Пісьменьнікаў Мардоўскай рэспублікі), Орнштэйн (Саюз Савецкіх Мастакоў) і Леўман (сябра брыгады ўсесаюзнага оргкамітэту).

12 га чэрвеня зьезд выслухаў даклад рэдактара літ. газэты „Raudonasis Artojus“ Вайшнорэса, прысьвечаны літоўскай савецкай літаратуры БССР. На гэтым-жа паседжаньні з прывітаньнем ад імя камуністычнага ўнівэрсытэту нацменшасьцяў Захаду (Масква), выступіў Пранкунас, які таксама гаварыў аб становішчы і разьвіцьці літоўскай сав. літаратуры. Апрача літоўцаў з прамовамі выступалі: З. Бядуля, І. Шапавалаў, Ц. Гартны, М. Хведаровіч, М. Зарэцкі, Л. Кацовіч і Л. Бэндэ.

У адказ на выступленьні ад зьезду са словам выступіў вядомы дзіцячы пісьменьнік Янка Маўр.

На вячорным паседжаньні 12-га чэрвеня з прамовамі выступалі Ул. Бахмецеў (старшыня беларускай брыгады ўсесаюзнага оргкамітэту) і загадчык аддзелу культуры і прапаганды ЦК КП(б)Б Конік.

Пасьля прамовы Коніка, які прапанаваў зьезду зладзіць літаратурны паход імя І Зьезду Сав. Пісьм. Беларусі — зьезд пастанавіў арганізаваць гэты паход у калгасы і саўгасы.

Далей 13-га чэрвеня зьезд выслухаў выступленьні ў спрэчках Мальцінскага, Броўкі, Чарота, Некрашэвіча, Браўковіча і інш.

На вячорным паседжаньні гэтага-ж дня выступіў з вялікім рэфэратам А. Александровіч, які гаварыў аб выключнай патрэбе разгортваньня шырокай самакрытыкі, барацьбы за якасьць творчасьці пісьменьніка, супроць лёзунгаўшчыны і схэматычнасьці, за пролетарскую культуру і мастацкасьць мовы. Пасьля прамовы ў спрэчках выступілі: Глазарын, Кручкін, Раманоўская і Пётуховіч.

Выступленьнем Аўгустайціса закончыліся спрэчкі аб дакладзе М. Клімковіча, Бранштэйна, Кучара, Вольскага і Дунца. Заключнае слова зрабіў Дунец.

14 га чэрвеня Усебеларускі Зьезд Савецкіх Пісьменьнікаў зачыніўся.

Зьезд выбраў у сябры ўраду Саюзу Сав. Пісьм. Беларусі: Коніка, Клімковіча, Лынькова, Бранштэйна, Александровіча, Дунца, Харыка, Коласа, Купалу, Чарота, Браўковіча, Чорнага, Броўку, Вольскага і Галавача. Кандыдатамі выбраны: Жарскі, Крапачоў, Аксельрод і Гурскі.

У склад рэвізыйнай камісіі выбраны: Крапіва, Мурашка, Бядуля, Цішка Гартны і Кульбак. Адначасна зьезд вызначыў дэлегатаў на ўсесаюзны зьезд савецкіх пісьменьнікаў з правам рашаючага голасу 22 асобы і як гасьцей без права рашаючага голасу 12 асоб.

На старшыню ўраду ССПБ (Саюзу Савецкіх Пісьменьнікаў Беларусі) выбраны: М. Клімковіч, нам. старшыні Андр. Александровіч, адказным сэкратаром—Бранштэйн.

**М. Пяцюкевіч.**

## Зьезд славянскіх філёлёгаў у Варшаве 23 — 30 верасьня 1934 г.

На першым зьезьдзе славістых (славянскіх філёлёгаў) у Празе 1929 г. было пастаноўлена, каб кожны пяты год бывалі такія зьезды ў сталіцы якога славянскага гаспадарства. Другі зьезд славістых і быў летась у верасьні ў Варшаве.

Як звычайна на падобных зьездах, былі на ім ня толькі славяне, але й славістыя неславянскіх народаў. На апошнім зьезьдзе найболей было палякоў, бо зьезд быў у іхняй сталіцы, за палякамі па колькасьці йшлі чэхі й украінцы, а ў меншай колькасьці былі прадстаўнікі ўсіх славянскіх народаў. З неславянаў найболей было немцаў, але былі й французы, ангельцы, італьянцы, скандынавы, фіны і іншыя. Бальшавікі нікога на гэты зьезд ня пусьцілі, дык і ад беларусаў былі толькі прадстаўнікі із Зах. Беларусі, пайменна — д-р Я. Станкевіч і В. Грышкевіч *).

Зацікаўленьне беларушчынай на 2-м зьезьдзе было большае, як на першым. Відавочна прычыны гэтага таго-ж характару філёлёгічнага. Ня гледзячы на ўсе нягоды, беларуская філёлёгія памалу разьвіваецца, што спрыяе зацікаўленьню беларускімі тэмамі і на‘т наагул беларускім жыцьцём славістых славянскіх і неславянскіх народаў. Зрабіла тут сваё й „Родная мова", выдаваная ў 1930 — 1931 г. На зьезьдзе можна было даведацца, што яна выклікала зацікаўленьне да беларускага языка і яе славянскія філёлёгі цэняць.

Д-р Я. Станкевіч меў на зьезьдзе рэфэрат на тэму: „Заданьні беларускае дыялектолёгіі". З прычыны малое лічбы беларускіх дэлегатаў, усе іншыя рэфэраты на беларускія тэмы мелі на зьезьдзе небеларусы. Проф. Франц. Буяк чытаў рэфэрат на тэму: „Сяліба Радзімічаў і Вяцічаў перад іх прыходам на Сож і Аку". Тэма гэтая знаёма беларускім чытачом з арт. Я. Станкевіча „Беларускія плямёны і іхняе расьсяленьне" ў „Роднай мове" № 1—2 і 3—4. Флароўскі ў рэфэраце „Новае аб д-р Францішу Скарыне ў Празе" паведаміў, што д-р Фр. Скарына ў трыццатых гадох XVI стаг. быў лекарам на двары чэскага караля Фэрдынанда. Л. Асоўскі чытаў рэфэрат аб лінгвістычнай геаграфіі Заходняе Беларусі. Асоўскі, як у рэфэраце, так і ў артыкулах, выказуе знацьцё прадмету дасьледаваньня і патрапляе ўсьцерагчыся абмылаў, каторыя нярэдка грашаць дасьледавальнікі беларускага языка небеларусы.

На найшырэйшую тэму беларускую быў рэфэрат М. Рудзіншчышкі „Характарыстыка ўрадовага языка Вялікага Княства Літоўскага". Рудзіншчышка дайшла да агульнага выводу, што ўрадовым языком Вял. Кн. Літоўскага быў язык беларускі. Спачатку аднак — паводле Р.— урадовая мова Вял. Кн. Літоўскага была „ў рэдакцыі ўкраінскай", прычым гэта рэдакцыя ўкраінская ў Р. няўпрыцям пераходзіць у пераважаючы ўкраінскі элемэнт таго часу. З паглядам такім нельга згадзіцца, і ён ня быў даведзены Р. Што датычыць польскага ўплыву на старую беларускую мову літаратурную — адначасна ўрадовую Вял. Кн. Літоўскага,— дык ён у сваім часе (пачынаючы з XVI стаг.) быў, але быў у ладнай меры йнакшы, чымся яго прадставіла Р.

У сваіх агульных вывадах Р. меней дапяла, чымся гэта было даўно ўстаноўлена Карскім. Але яна ад доймаў і паглядаў перайшла да дасьледаваньня апрычоных асаблівасьцяў з гледзішча нацыянальнае прыналежнасьці менаванае мовы. Гэта вельмі важна. Р. узышла на праўдзівую дарогу.

Апрача таго на зьезьдзе разглядаліся тэмы, супольныя Беларусам з іншымі славянамі. **І. С.**

*) На першым зьезьдзе ў Празе ад беларусаў з Радавае Беларусі быў украінец П. Бузук, каторы лёяльна прадстаўляў беларускую навуку. Як перадавалі на зьезьдзе летась украінскія філёлёгі, П. Бузук быў пазьней арыштаваны ў Менску разам з беларускімі „нацдэмамі". Каб скончыць свае мучэньні ў турме, Бузук абліў там сябе бэнзынай і падпаліў. Яго адратавалі, але посьле перажытага ён страціў здольнасьць да навуковае працы.



## Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы пры Унівэрсытэце Сьцяпана Батуры ў Вільні.

Ужо пяты год вядзе на Віленскім Унівэрсытэце сваю працу Студэнскае Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы. Куратарам Т-ва ад яго закладзінаў зьяўляецца прафэсар У.С.Б. д-р Эрвін Кашмідар. Мэта Т-ва — гуртаваць людзей — перадусім студэнскую моладзь,— для навуковай працы ўва ўсіх галінах беларусаведы.

З пачаткам 1934—1935 акадэміцкага году ў Т-ве працуюць сэкцыі: філёлёгічная, этнографічная, гістарычна-эканамічная і літаратурная. Падчас васеньніх месяцаў м. г. адбылося 5 навуковых зборак Т-ва, на якіх чыталіся і абгаварываліся наступныя працы й рэфэраты:

4/XI — абс. Я. Хвораст прачытаў свой этнографічны матар‘ял аб вясельных абрадах на Палесьсі, сабраны летам.

11/XI — д-р Я. Станкевіч прачытаў рэфэрат „Беларусіка на Зьезьдзе Славянскіх Філёлёгаў у 1934 г.".

18/XI — абс. М. Пяцюкевіч прачытаў рэфэрат: „Марксіцкія мэтады ў этнографічных досьледах у СССР".

25/XI — д-р Я. Станкевіч, мгр. С. Станкевіч і студ. В. Тумаш адчыталі сваю колектыўную працу на тэму: „Мова беларускай прэсы ў Вільні.

16/XII — д-р Я. Станкевіч прачытаў рэфэрат: „Мейсца паходжаньня і аўтары беларускага летапісу".

Апрача працы над распрацаваньнем паасобных пытаньняў, Т-ва зьбірае этнографічныя і лінгвістычныя матар‘ялы, а таксама мае сваю, тымчасам вельмі скромную, бібліётэку. У бібліётэцы ёсьць каля 280 кніг навуковага і літаратурнага зьместу.

Збор рукапісаў мае ўжо некалькі дзесяткаў рукапісаў этнографічнага і лінгвістычнага матар‘ялу з зямель Зах. Беларусі.

Філёлёгічная сэкцыя Т-ва прыступае ў гэтым годзе да апрацаваньня практычнага польска-беларускага слоўніка. **В. Т.**

### Беларускі Загранічны Архіў у Празе.

Беларускі Загранічны Архіў у Празе існуе з 1928 году. Заснаваны стараньнем беларускае эміграцыі і знаходзіцца пад пратэктаратам Міністэрства Загранічных Справаў Чэхаславацкае рэспублікі. Мае на мэце зьбіраньне і перахоўваньне друкаваных, а таксама і рукапісных матар'ялаў з гісторыі беларускага вызвольна-адраджэнскага руху: гэта ёсьць архіў вызвольнага змаганьня. Мае чатыры аддзелы: 1) аддзел дакумантаў, які складаецца пераважна з архіўных матар'ялаў Ураду Беларускай Народнай Рэспублікі і дыплёматычных місыяў ураду Б.Н.Р.; 2) бібліётэка беларусазнаўства—беларускія выданьні і выданьні аб Беларусі ў іншых мовах; 3) аддзел пэрыядычных выданьняў—часапісы, газэты, аднаднёўкі і адозвы; 4) аддзел беларускае бібліографіі—гістарычная бібліографія і картотэка па ўсіх пытаньнях беларусазнаўства. Загадчыкам архіву зьяўляецца д-р Тамаш Грыб, а пратэктарам ад Міністэрства Загранічных Спраў Чэхаславацкае рэспублікі – проф. д-р Ян Славік, вядомы чэскі гісторык, шчыры прыхільнік беларускае справы. Адрас архіву: Tchecoslovaquie, Praha IV, Hradčanské námêsti, Toskansky palac. **Т. Г.**

### Жалобная Акадэмія ў чэсьць проф. Бр. Эпімах-Шыпілы.

У канцы мінулага году беларускае грамадзянства ў Вільні даведалася аб сьмерці проф. Браніслава Эпімах-Шыпілы, які памёр 6.VI. 1934 ў Ленінградзе. З гэтай нагоды Бел. Інст. Гасп. і Культуры ў чэсьць нябошчыка 8.XII. 1934 г. ладзіў акадэмію, на якой, пасьля ўступнага слова старшыні Інстытуту Кс. В. Гадлеўскага, аб жыцьці і дзейнасьці проф. Бр. Эпімах-Шыпілы прачытаў рэфэрат Кс. А. Станкевіч.

Проф. Бр. Эп -Шыпіла—гэта адзін з першых і найбольш заслужаных піонэраў і пачынальнікаў беларускага нацыянальнага адраджэньня.

Бліжэй аб гэтым Вялікім Беларусе грамадзянства наша даведаецца з наступнай кніжкі „Калосься", у якой будзе зьмешчаны аб ім рэфэрат Кс. А. Станкевіча.

—о—

### Беларуская мова на Гуманістычным Факультэце Унівэрсытэту Сьцяпана Батуры ў Вільні.

На аддзеле Славянскае Філёлёгіі Віленскага Унівэрсыт. ведамы проф. д-р Эрвін Кашмідар выкладае ў бягучым акадэмічным годзе беларускую мову паводле наступнае праграмы: 1. Гістарычная граматыка беларускае мовы—2 гадз. у тыдзень (аўторкі і пятніцы 8—9 гадз.) і 2. Чытаньне беларускіх тэкстаў і ацэнка сэмінарыйных працаў—2 гадз. у тыдзень (пятніцы 9—11 гадз.). Апрача гэтага пры Гуманістычным факультэце Унівэрсытэту стала існуе лектарат беларускае мовы, які вядзе знаны беларускі языкавед д-р Ян Станкевіч. Лектарат адбываецца два разы ў тыдзень (суботы ад 3 да 5 гадз.).

—о—

*Выдавец: Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры*

*Рэдакцыйная Калегія: М. Шкялёнак, Ад. Станкевіч, М. Пяцюкевіч, Ст. Станкевіч і Я. Шутовіч.*

*Адказны Рэдактар: Ян Шутовіч.*



# КАЛОСЬСЕ

*БЕЛАРУСКІ ЛІТАРАТУРНА-НАВУКОВЫ ЧАСАПІС*

**Кніжка 2. 1935 г. Год I.**

МІХАСЬ МАШАРА.

## На прадвесьні.

I.

Няхай мы сяньня блудзім сонна,
Няхай няволіць край туга,
І як даўней—яшчэ пакорна
І напалохана душа.

Няхай мы сёньня сонна блудзім,
Няхай трывогай сэрца б'е,
А ўсё-ж да новых дзён падходзім
І хутка днець ужо пачне.

І раньню зорнаму прыветам
Мы песьню новую складзём,
І ад плянэты да плянэты,
У даль бязьмежную сусьвету
Сыгналам мы яе пашлём.

. . . . . . . . . . . .

Ад зор да зор—зьвінячым рэхам,
Мы пераклічку завядзём
І брызьнем радасьцю і сьмехам
У твар прачнуўшымся братом.

II.

Надходзіць—сьвет!..
Зьнікае цемра чорная.
Прывет табе, прывет!
Краіна—родная!

. . . . . . . . . . . .

Шмат спала ты,
І спала нярухомая.
І сьнілісь мары—сны
Табе—вяковыя.

І ня жыла —
Гніла сям'я працоўная.
Цямней за ноч была
Душа іх сонная.

Але канец —
Табе цямра нягодная;
З прасоньня паўстаець
Краіна родная.

Пяе пятух,
Лунае песьня звонкая,
У вёсцы соннай рух —
Гул—над старонкаю.

Надходзіць—сьвет.
Ўстае сям'я працоўная.
Прывет табе, прывет!
Краіна—родная.

III.

Годзі ныць!.. Годзі плакаць і каіцца,
Што прайшло, нам таго не вярнуць,
Над зямлёю зара разгараецца;
І бадзёрыя песьні плывуць.

Бійся бура шалеючы лютая,
Ня стрымаць табе марш маладых.
У грудзях нашых сіла магутная.
Па жывое ідзём да жывых.

У мінулым—цямра беспрасьветная,
І сучаснасьць—паход пад крыжом,
Толькі песьні зьвіняць прадрасьсьветныя
Уставай,
Прачынайся,
Пайдзём!

Годзі ныць! Годзі плакаць і каіцца,
Што прайшло—нам таго не вярнуць.
Пілі досыць вякамі як п'яніцы
Марных сьлёзаў муць.

IV.

Там лунае песьня —
Песьня—маладая
І да нас прадвесьняй
Новай далятае.

Вёска, вёска—што ты,
Сумная такая?



Я з табой пад плотам
Плакаць не жадаю.

Над тваей дурнотай
Ныць ужо спакінуў,
Хоць твайму народу
Буду верным сынам.

Толькі песьні: суму,
Сьлёзаў і адчаю,
Зроджаных у глуме
Думна спакідаю.

Там чаруюць поле,
Там калышуць далі,
Бяз тугі і болю,
Новай песьні хвалі.

V.

Не малюсь, каб паслаў нам прарока.
Не прашу каб ізбавіў хто нас, —
Беларусь ужо сьпіць няглыбока
І растуць ужо скрылы у нас.

Будзе дзень..
Будзе радасьць і шчасьце..
Будзе сонца над новай зямлёй.
Будуць людзі бяз слёз і праклятцьця
Жыць у згодзе вялікай сям'ёй.

І аб чым так у змроку туманным
Цяпер мроім стамлёныя мы, —
Будзе зьместам прастым і рэальным
На запраўды аджыўшай зямлі.

VI.

Мне нічога, нічога ня трэба...
Мне запраўды нічога ня жаль.
Нада мной сінязорнае неба
І дарога у сьветлую даль.

І чаго нам жалець у мінулым?
Нам абрыд, наш нявольніцкі шлях.
Адраджэньня—хвалюючым гулам,
Славім песенны бунт і размах.

Дык над чым сумаваць маем, вёска?
Нам ня шкода мінулых ахвяр.
Ўсё жыцьцё —чорна-гладкаю дошкай
Выглядаў наш зьняможаны твар.

І пісала на ім гераґліфы,
Кабалістыкай чорная моц.
І душа была казачным міфам
Зацьвітаючым —
Адзін раз —
толькі раз,
у купальскую ноч.

Ўсіх кармілі працоўныя рукі,
Ўсім служылі бяз протэсту мы,
І за гэта прыгонныя мукі
Ад усіх нам заплатай былі.

Зьмест сучасны хваліць мы ня будзем,
Вельмі цяжка так жыць, як жывём.
Толькі знаюць усе,—што мы — людзі
І па новае з новым ідзём.

Нашы новыя песьні так гулкі
І вясёлы наш марш маладых.
Прачынайся, вясковая вулка:
Па жывое ідзем да жывых.
Абарваны, галодны і босы
Не саромся... да нас—у рады!
Хай там кпяць,
Хай кідаюць пагрозы —
З намі—мы!
І запал малады!

Усю павагу мінуты мы знаем
І адказам усім, і на ўсё: —
Мы сягоньня жывым абвяшчаем,
Што да іх мы ідзём—па жыцьцё!

15.II. 1935 г.
Таболы.



# Па хлеб*).

Я сяньня ўстаў рана, рана.

Устаў рана, бо сяньня іду шукаць працы. Жонка ўстала яшчэ раней і зьвязала мне вузялок з ядой, — з кіля чорнага хлеба і паўлітра малака.

Дзіцянё яшчэ спала. Баючыся абудзіць яго, я ціхачом заглянуў у калыску і выходжу на двор. Мяне праводзіў сумны і кахаючы пагляд жонкі. У мяне не хапіла сьмеласьці запытаць яе, ці яны маюць штось есьці.

На што? Ці я змог-бы штось даць ім? Ці яна скажа мне праўду? На што горш квяліць боль. А ў здагон мне штось шэпча ў душы. — Трус! Мазгай! Баішся глянуць праўдзе ў вочы? Праўда, трэба шмат адвагі запытацца ў бліскай істоты, якая аддае вам апошні кусок хлеба,—ці спакінула яна штось для сябе, згары знаючы, што ты ня зможыш нічога даць, ці спакінуць ім. І нізка спусьціўшы, як вінаваты, галаву, я выходжу на двор.

Ах, як прыгожая вясьнянай раніцай матка прырода ў абуджанай гармоніі жыцьцёвага рытму! Сонка толькі ўзыйшло і купае свае залацістыя косы ў крыштальным моры зьзяючых рос. Паветра сьвежае і чыстае. Так хочыцца жыць і чуць сябе жывым! Жаўрук сваім звонка пераліўным і безклапотным гымнам вітае ўсход залацістага сонца і пачатак новага дня, творчай вясны. На вулцы мяне чакаюць два таварышы. Мы моўчкі зьвяртаем у бок ад вёскі і ўсходзім на шырокі гасьцінец. Наўзбоч гасьцінцу, стройнымі радамі па бакох, стаяць магутна-зялёныя бярозы. Гутарыць неяк ня хочыцца. Моўчкі ідзём і думаем кожны сваю невясёлую думку. Па абодвых бакох гасьцінца, мінаем хутары і вёскі, што будзяцца да вясновай працы. Сяляне пачынаюць веснавую працу на полі. Там і сям кружаняюць спрэжаныя ў бароны коні. Там і сям ідзе араты за плугом, снуючы доўгія, чорныя кросны ральлі.

— Мець-бы кавалак сваей зямелькі, гэтак дзесяцін з дзесятак, — думае ўслух Алесь. А да іх: гаспадарачку, сваю хатку, жонку і дзетак, — кпіць з яго Васіль, — і жыў-бы чалавек, як у Бога за пазухай! Не, патвойму лепш цягацца гэтак і шукаць працы, як са сьвечкай іголку, — адцінае той. Зусім не памойму. Памойму—сабраць нейкім парадкам крыху манэты і махнуць кудысь у сьвет.

— Дзе даўно чакаюць на цябе бліны на варотах—памагае яму Алесь,—не, брат, так, ці йначай, а гэта трэба перачакаць тут.

— Перачакаеш! Чорт ведае калі гэта ўсё кончыцца — хмурыцца Васіль.

— А куды кінешся? Ты-ж кінуўся ў рай, ды грахі ня пусьцілі. Заледзь вылізаўся, што ізноў захацелася пакаштаваць дармовага хлеба.

*) Гэтае апавяданьне ёсьць уступным разьдзелам вялікае аповесьці Машары п. н. „Запіскі безработнага вяскоўца“.—Р э д.

Васіль маўчыць. Ён заўсёды маўчыць, калі хтось робіць прыцінак да яго няўдачнага пераходу „На той бок“, куды ён быў пайшоўшы ў шуканьню лепшай долі і адкуль яго вельмі хутка вярнулі і за што ён меў многа няпрыемнасьці ад тутэйшай адміністрацыйнай улады. Мо' дзеля гэтага ён заўсёды маўчаў, калі рэч заходзіла аб гэтым.

— Што ты на гэта Пятрусь?—зьвяртае памаўчаўшы ў мой бок Алесь.

Я маўчу... Душу агарнуў нейкі сьветла-тужлівы настрой. Штось расьце, расшыраецца ў грудзёх і разам з кожнай, новай зьвінячай трэльлю жаўрука падымаецца ў верх; так што адначасна хочыцца пяяць і плакаць.

— Ён сёньня ракам паўстаў, — кідае крыху памаўчаўшы Васіль, — кінь, брат, ці гэта паможа чаму? Так ён ужо подла створаны, гэты наш пракляты сьвет.

— Шкода, цябе ня было пры тварэньню! — і зусім ён не пракляты; нат прыгожы і вясёлы. Хіба мы? А Пятруся ты не чапай! Яго рэч другая.

Алесь мае чуткую душу і далікатную пашану да чужога смутку і гора. Ён малады, мае 22 гады. Яшчэ не старую маці. Пышную курчавую чупрыну. Вясёлы, усё праносячы характар, такую сякую хаціну, карову, нейкую дзесяціну зямлі і досыць вострый язык.

Васіль ужо лічыцца старым кавалерам. Мае 33 гады. Паходзіць з беднай і досыць вялікай сям'і. Абодвы яны досыць разгорнутыя, як на вясковых хлапцоў, ды яшчы з беднаты.

— Што там другая? Усім тут роўнае шчасьце. Усе мы цягнем адну лямку... Эх, закурыць-бы вось цяпер! —

— Пацярпі, крыху, браток, смачней будзе, — пацяшае яго Алесь.

Гутарка йзноў сама сабой абрываецца і мы йзноў пляцёмся ў ціхай задуме між пышна зялёных бяроз па шырокай дарозе.

Мы—безработныя вёскі.

Мы—лішнія дзеці зямлі.

Мы—з тых, праклятых ад стварэньня.

Мы—наймiты і батракі ідзём шукаць працы! Ідзём шукаць магчымасьці, сумленна і цяжка запрацаваць кусок чорнага хлеба.

— І ў поце твару твайго будзеш ты есьці хлеб свой.



* * *

З цыклю—вандроўнае.

Вясна...
Зноў дзень чароўны мая...
Брыду у сонцы між жытоў.
З надзеяй тайнай штось шукаю
І ў сэрцы чымсь крынічыць кроў.

І так заве кудысь сьцяжына
І на траве чыесь сьляды.
Ў грудзёх настрой—юнацка-зьвінны
І ўзноў увесь я малады.

Калосьсе першае рукамі
Пяшчу з дзіцячай чыстатой
І так зьвінеў-бы з жаўрукамі,
Да сонца ўзьвіўшысь над зямлёй.

Аб тым, што так вясной прыгожа
Цьвіце зялёным ўся зямля,
І так прыемна падарожжа
Вясьняным шляхам ў глыб жыцьця.

Закінуў сум, тугу і гора,
Я рад жыцьцю—жывой красе.
Уходжу ў сонечнае мора,
Напеў складаючы вясьне.

## Русалкі.

Там над рэчкай, дзе вярбіны
Пахіліліс да вады,
Дзе лазьняк, альха, ляшчына
Разрасьліся ў гай густы.

Наўзбоч гаю дзьве бярозы
Ды з дубочкам маладым
Абняліся так прыгожа,
На узгорачку крутым.

Тут вясной плятуць вяночкі
Дзеўкі з песьнямі цяпер.
Салавей-жа летняй ночкай
Разьлівае сваю трэль.

А даўней было ня тое —
Кажуць людзі, што была
Між бярозак на сустроме
Тут магілка бяз крыжа.

Ночкай толькі разгарыцца
Месяц з зорамі ў вышы.
Выплывае, весяліцца
Хор русалак у цішы.

Далікатнай павуцінай
Постаць месяц серабрыць.
Косы русыя, як ціна,
У вачох туга мігціць.

Ўсе паберуцца за рукі,
Карагод заводзюць свой
Вылiваюць сум і мукі
Ціхай песьняй над ракой

Хор русалак.

Выплыў месяц, сёстры, сёстры,
Над зямлёю цішыня.

Заплятайце яго ў косы,
Выплывайце ўверх са дна.

Ночка—матка нас акрые
Мяккай коўдрай цішыні
І пад шолахі начныя
Засьпяваем, сёстры, мы.

Ўспомнім мы жыцьцё былое,
Што мінула, што прайшло,
Маладое, удалое,
Што ня вернецца ужо.

Засьпявайма, сёстры, казкі,
Пакуль месяц не пагас,
Пра каханьне, шчасьце, ласкі
І пра гора чорны час.

1. Русалка.

Я ня маю што казаці:
Бедзен мой кароткі век;
Жыла ў мачыхі—бяз маці
Гора бачыла і зьдзек.

Цяжкім быў мой лёс сірочы,
Злая мачыха мяне
Утапіла цёмнай ночай
У глыбокім амуце.

Хор.

Шэльму бабу, ведзьму злую,
Дружным хорам праклянём,
А сіротку маладую
Песьняй гучнай памянём.

2. Русалка.

Пад бярозы, сёстры, сёстры,
Пакуль месяц не пагас.
Я ўспаміну пушчу кросны
І сатку вам мой расказ.

Хор.

Сядзім, сёстры, пад бярозы
Карагодам на траву.
Звонкай песьняй заваражым
Летняй ночкі цішыню.

2. Русалка.

Там за гаем, пад гарою,
Калісь вёсачка была.

У тэй вёсцы над ракою,
Тэй парою я жыла.

Невялічка была хатка,
Небагата мы жылі.
Ўся сямейка—бацька, матка,—
Гаравалі, як маглі.

Паднявольля злая доля,
Горкі, ты, прыгонны лёс.
Ўсё знасілі—зьдзек і болі,
Вылівалі многа сьлёз.

Цяжка ў полі працавалі,
Над сьпіной сьвістаў бізун.
Лютым катам быў над намі
Панскі найміт і цівун.

Хор.

Сёстры, сёстры—ўсю нядолю,
Ўсё цярпеньне, боль і зьдзек,
Паняверку і няволю
Праклінаем мы на век.

2. Русалка.

Каля нашай хаты з боку,
Жыў сусед—крывы Марцін.
У Марціна—чарнавокі
І прыгожы надта сын.

Мяне звалі—Кацярына,
Яго клікалі—Максім.
Ён—дзяцюк, а я дзяўчына,
Жыць хацелася жывым.

Пакахала я Максіма,
Пакахаў Максім мяне
І былі мы так шчасьлівы,
Як шчасьлівы—толькі ў сьне.

Хор.

Кацярыну і Максіма
Сёстры, сёстры, памянём.
Пра хлапца і пра дзяўчыну
Хорам песьню прапяём!

2. Русалка.

Наша шчасьце мы пясьцілі
І хавалі, як маглі.
Часта ночкай прыхадзілі
На узгорачак сюды.



Зоры чулі, як шапталі
Нашы клятвы—век кахаць
Прысягалі, прыракалі
Сваю долю адшукаць.

Краскай пышнай зацьвіцела
Ў сэрцы радасьць пачуцьця
І як ў казцы пасьвятлела
Сьцежка шэрая жыцьця.

І на памяць дзён шчасьлівых
Тут на ўзгорачку крутым
Дзьве бярозкі пасадзілі
І дубочак малады.

Хор.

Час вясёлы, час шчасьлівы,
Што мільгне, як сон, жыцьцём
І зьнікае дзіўным дзівам
Сёстры, сёстры, памянём!

2. Русалка.

Але радасьць так каротка;
Шчасьця блісьне толькі міг
І дарэмна так салодка
Сэрца б'ецца у жывых.

Лепш тэй красцы не цьвіцеці,
Што спаткаецца з касой.
Ходзіць горачка па сьвеці,
Бяду водзючы з сабой.

Ні якой жывой крыніцай
Волю ў сэрцы не згасіць.
Лепш таму і не радзіцца,
Хто ў няволі мае жыць.

Хор.

Ні якой жывой крыніцай
Сэрца смагу не згасіць,
Лепш таму і не радзіцца,
Хто ў няволі мае жыць!

2. Русалка.

Нечаканая, здалёку,
Падыйшла да нас бяда.
Зашумела ўсё навокал,
Загудзела грамада.

Ў панскім бары пад саснамі
Ноч у ноч гарацьагні.

Між рабамі залуналі
Гарачэй агня славы.

І што ноч, то горш сваволюць,
Людзі воляй у бары
І да іх з усіх ваколіц
Пайшлі хлопцы—бунтары.

Хор.

Слава тым, хто промень волі
Ў сэрцы сьветачам насіў
І працуючых з нядолі
Падымаючы будзіў!

2. Русалка.

Кліч дайшоў і да Максіма
І Максім пайшоў да іх.
Я дарма яго прасіла,
Не паслухаў слоў маіх.

І Максімка, мой любімы,
Чарнавокі мой... і ён,
Бунтаром пайшоў з дубінай
Здабываць сабе закон.

Загарэлася змаганьне,
Закіпеў сьмяротны бой,
І крывавае паўстаньне
Залунала над зямлёй.

Хор.

Хто за праўду йшоў змагацца
І за крыўды, боль і зьдзек,
Хто з жыцьцём нат змог расстацца,]
Той запраўды—Чалавек!

2. Русалка.

Яркім полымем пажараў,
Сьмерцю жорсткаю ў баю
Правы новыя пісалі,
Праўду новую сваю.

Задрыжэлі перад імі
Багачы і свалата.
Разгулялісь па краіне
Бунтары і галіта.

Сьветазарнаю вясёлкай
Усьміхнулась воля ім.

Усьміхнулася—ды толькі
Хутка згасла у крыві.

Хор.

Не загасьне, не, ніколі
Сьветач праўды на зямлі
І людзкую смагу волі
Ня утопіш у крыві!

2. Русалка.

За Дзьвіною чорнай хмарай
Разасланіся палкі.
Па крывавую ахвяру
Прышлі—кат і казакі

Й па загаду царскіх катаў,
Шлі салдаты на братоў
І чынілі суд—расплату
Над сем'ямі бунтароў.

Вёскі гінулі ў пажары,
Людзі—ў петлях і крыві,
Ўсё дрыжэла перад карай,
Пекла стала на зямлі.

Хор.

Хто за волю гінуў сьмела,
Хто змагаўся і цярпеў!
Толькі той у праўду верыў
І па праўдзе жыць хацеў!

2. Русалка.

Улавілі і Максіма
Цёмнай ночкай у бары.
І павісьлі на асіне
Нашы хлопцы—бунтары.

З вёскі нашай—тэй з-за гаю
Засталіся—вугалькі
І пайшлі далей па Краю
Сьмерць, пажар, і казакі.

Страх усюды... енк і сьлёзы.
Праклінаў жыцьцё—жывы,
Цёмнай ночкай, да бярозак,
Я прышла адна сюды.

Памянула тут Максіма, —
Перажыты шчасьця міг.
Так балюча сэрца ныла,
Стаў нямілым сьвет жывых.

Ціха рэчанька бруіла,
Штось шаптаў чарот вадзе
І салодка так маніла
Супакоем да сябе.

Мяне клікаў чорнавокі,
Яго голас чуўся мне;
І амут, амут глыбокі,
Як дачку прыняў мяне.

Хор.

Мы ахвяра злой нядолі,
Гора горкага і бед.
Ўсе, як цяжкую няволю,
Пакідалі белы сьвет.

2 Русалка.

І прачнулася русалкай
Мая чыстая душа,
Бяз трывог і смагі палкай,
На дне чыстым амута.

Рыбакі зпавілі цела
Са снапом аўсяных кос
І з трывогаю нясьмела,
Пахавалі між бяроз.

Але блекнуць сталі росы.
За ракой пяе пятух.
Дык хутчэй зьнікаем, сёстры,
Пакуль месяц не патух.

Хор.

Ўжо блекнуць сталі росы,
За ракой пяе пятух.
Дык хутчэй зьнікаем, сёстры,
Пакуль месяц не патух!

Таболы
24.І. 1935 г.



НАТАЛЬЛЯ АРСЕНЬНЕВА.

## Яшчэ адна вясна.

Мінулі халады і сьнег дадзелы тае...
У лужынках вады, у белых аблакох,
У яркай сіняве, што ў небе расьцьвітае
— Вітаю я вясну на полі, між дарог...

Йдзе новая вясна... йдзе новая адвечна,
Як сотні год назад—праменны, дзіўны чар.
А сэрца горкае смуціцца недарэчна,
Бо для яго што год... слабей вясеньні жар.

Калісь расло яно, ірвалася увышу,
Збывалася вясной хаценьняў і клапот.
Цяпер-хоць зноў вясна—шукае сэрца цішы,
Ня сьніць, не лятуціць—закутае у лёд.

І нават слоў няма, каб прывітаць гарача
Каханую вясну так, як калісь, даўней.
Ўсё-ж нешта у душы пяе, а можа плача?
І сонца сьвеціць мне ясьней, ясьней, ясьней.

М. ДАЛЬНЫ.

## Сыпаліся вішнёвыя краскі.

У кішані сьціскаў фінскі нож. Другой рукой моцна прытрымліваў яе. Рытмічна раздаваліся шагі. Адліга. А далёкія агні, як лямпачкі, у тумане. Прадмесьце Вільні. Нізенькія домікі. Пакрыўленыя платы.

Прыціскае моцна за руку. Валасы яе ў стылі фільмовых артыстак. Разьвеяныя—як на ветры—з пад бэрэту пяшчотна казычуць шчаку. Яна! Пяе яна ў сэрцы нечым вясеньнім. Здрадлівыя завулкі прадмесьця. Нераз крычыць у мёртвую глуш дзікі голас. Нераз надрываецца нейкім плачам крыўда, нераз п'яныя галасы рассыпаюцца аб шыбы акон.

Крокам пэўным ідзе.—А вочы – быстрыя.

Вядзе ён бой за дзяўчыну. А прадмесьце не сваіх ня любіць. Але сягоньня прайшоў спакойна. Ніхто не зачапіў.

Вось і варотцы. Разьвіталіся. Абняў моцна. Пацалаваў доўгім пацалункам. Мяккая пяшчота абдала жарам. А яна пабегла. Памахала на сходках рукой.

Пастаяў крыху, бо ў сэрцы нешта недаказана, нечага не хапае. Глянуў у даль вуліцы. Шэра. У паветры павісьлі рэдкія ліхтары. Засьвяцілася акно. І цень — як крыло вялікай птушкі—замітусіўся — за фіранкай. Пастаяў і паволі пабрыў да цэнтру

места. А ў сэрцы нешта недаказана. Нечага не хапае.—Усё бліжэй, бліжэй вялікія—радасныя агні. Шумныя вуліцы. Расьцягнуліся шнюром вялікачацьвярговыя сьвечкі—агні.

П'яніць адліга.

---

Абарвалася срэбраплынная струна. Абляцелі беласьнежныя кветкі. Разьвеяліся злотаіскрыя мроі.

Ах—яна! Дзяўчына прадмесьця! У сэрцы кіпіць, кіпіць. Што ён мог зрабіць? Гімназіст. Выабражае. Яна з шофэрам—муж!—едзе. Палахлівая! Не! Яна невінавата! Яна... нават уцякла з вясельля. І доўга туліў яе ў гарадзкім садзе. А пасьля — уцёк, як шалёны. Бег, а сэрца то білася прыбоямі,—то замірала зьнямогай. Не! Яна — невінавата! А пасьля — яе бацька, пагрозы. Дзе яна? Былі разам!

Паплылі хворыя дні.—У адчыненае акно плакаў сум з струн. Вучыўся змалку іграць. Маса акуркаў на падлозе.

А вясна сьмяялася.

---

Лекцыі. Сонца радасьцю пераліваецца на школьных лаўках. За акном зялёныя пакаўкі. І чароўная недасяжная даль за дахамі.

Лекцыі. Усё глупства. Ну і што? Што з гэтага? Які сэнс? Купала пісаў. Напісаў „Раськіданае гняздо". А цяпер піша аб Сталіне. Бесканечнасьць і вечнасьць. Як зразумець? А чалавек кожны дзень глытае бактэрыі. Вось у клясе — на вуліцы—усюды—тэ-бэ-цэ. Сьмерць. І ён памрэ. Ляжыць белы—навокал кветкі—калегі глядзяць. Жаўцеюць старым воскам сьвечкі—зіхацяцца пазалочаныя абразы. Вечная памяць. А які-ж сэнс усяго?

А вечарам. Сіня-сьветлае неба. Неапісаная хварба. Рожавеючыя просьвецьці вечарэючых вуліц.

---

Вечар.
На вуліцах рух.
Вясеньнія вопраткі.
Сходкі ў падвал—кнайпа. Столікі.

Скрыўленыя твары. У люстры бледны твар—белая палатніна. Душна. Муць. Агідна і сорамна. Безнадзейна балюча. Сядзіць нярухома. Прыходзяць мужчыны — кабеты. Відаць ножкі вышэй кален. Сьмех. Вось дзе першабытны чалавек.

Ня памятае. А калегі—так—так—калісь палілі ў клясе анучкі—чад рабілі, каб звольнілі з лекцыяў.

Гавораць нешта.
Гул толькі. Русь. Расія.
Так—так. Усё роўна.
А пасьля—туман.

---

Афрыка. Пяскі. Сонца пячэ. А ён ідзе з сябрамі—у няведамую даль. Згіне ў чужыне—невядомы—забыты.

На канвэрце надпіс.



.... Консулят ..... аддзел чужаземнай легіі.

Думкі плывуць далёка—далёка. Лета, у садзе раськідана на галінах радасьць. Пахне зеленьню і мёдам. За платамі рожавы летні вечар. З мястэчка з ветрам набягае аркестра. Молада і пяшчотна пяюць гукі ў паветры.

За сталом у садзе бацька і маці. Прад імі паведамленьне гімназіі.

— Што гэта з ім?—пытае бацька. І ціха апускаецца галава. Быццам не пяюць молада гукі,—быццам ня пахне зеленьню.

---

Перавялі ў VIII-ую клясу. Цягнік прымчаўся з сінеючага прастору. Сьвежасьць вечару. А ў садзе яшчэ цьвітуць кветкі і—яблычны пах. Успаміны. А на душы соладка і спакойна.

— У Вільню!

---

Студэнскі Саюз. Накурана. Сіня. Прамаўляе студэнт — эмігрант.

— Мы—Беларусы.
— Гісторыя пайшла наперад.
— Мы—моладзь.
— Ня здрадзім народу.

Разыйшліся шумна. Правёў студэнтку. Ізноў—як тады—прадмесьце. Цёмная ноч. У сэрцы—новы напеў.

Ішоў назад. Глуха адбіваюцца шагі. Успаміны. Фінскі нож. Расія. Русь!

О, як прыемна тварыць новую гісторыю.
Новае ў сэрцы.
Бе—ла—русь.

---

Яна выяжджае. Зайшлі ў вагон. Закурылі. Яна курыць! Пачуў, што пакахала. Напішаце?—Напішу. Яшчэ раз—ужо цягнік рушыў—пытаньне: напішаце? Адказаў — замахаў рукой. Паволі плылі вагоны. Зьнiклі вочы. Але ведаў: і бачыць яго. Згінуў цягнік за стрэлкамі і рэйкамі. Ужо поле беларускае сьмяецца ёй.

---

У садзе—студэнты — студэнткі. Дыскусія. А пасьля гітара, песьні. Сыпаліся краскі вішняў. Ціха кружыліся ў рожавым вечары. Міхась ляжаў на траве. Сыпаліся вішнёвыя краскі. Кружыліся. І кружыліся думкі.

---

# Балёнік.

Прывяла Агата кароўку ў места прадаваць. Да паўдня стаяла. Мух адганяла. Таргавалася. Прадала ўрэшце. Падвязала Агата мацней хустку, грошы—у вузёлчык ды моцна сьціскае, каб ня згубіць дзе. Ідзе ды разглядаецца. Што-б гэта купіць? Грошаў шмат ня выдасьць: паўморга зямлі яны ў Сьцяпанчыхі купляюць. Але вось для дзяцей гасьцінчык купіць так яе штосьці тоўхае. Захацелася ёй балёнік купіць дзеткам. Такі-ж ён забаўны! Усьцешацца моцна. Каштуе, пэўне, няшмат, а дзецям радасьць вялікая. Раскруціла асьцярожненька вузёлчык у хустачцы і выняла дробненькую манэтку. А балёнікі пераліваюцца небам вясковым, быццам чысьціня нябесная ў іх адбіваецца. Калышуцца балёнікі, як карабельчыкі разнакалёрныя, ціха, стройна плывуць пад гоман кірмашны. Не ўцярпела Агата — купіла балёнік ды моцна ў руцэ трымае. Каб хлапец які вясковы, разудалы, жарту не састроіў, з рукі ня выбіў. Пагляне Агата на балёнік, а ў ім — кірмаш увесь разгарнуўся, а ўсё, як быццам за імглой чароўнай, як быццам зямля разгораная дыхае раніцай сьвежай... Цягне Агату гэтая чысьціня нябесная, вабіць сінь пералiўная. А ў сэрцы—радасьць матчыная.

Сьціскае Агата балёнік, ды грошы ня ўпускае. Але кепска так, нязручна, нявыгадна. Узяла ды прывязала вузёлчык з грашыма да балёніка. Разам сьціскае. Цяпер—пэўная. Ідзе па рынку. Суседку сустрэла. Загутарылася. Кароўкі, вядома, шкада, але - купяць цялушку. Канечне купяць. Няма й мовы. Каб хоць сэрца павесяліць. Але паўморга ня выпусьцяць. Так надарылася, побач іх поля якраз... Лугам, праўда, ідзе ладны кавалак, але вырабяць з часам...

Паправіла Агата хустку ды не заўважыла, як балёнік паплыў ціхенька, роўненька. Толькі, як ужо над крамамі падняўся ды ўсе пазіралі з цікавасьцю—схамянулася. Божа-ж мой! Людцы мае! Анямела Агата. Кінулася бегчы, енчыць пачала. Стала Агата белая, як палатно. Дрыжыць уся. Калоціцца. У грудзі біць пачала. А балёнік плыў і меншаў. Паволі падымаўся ў неабнятную сінюю вышыню.

Каб як яго ўхапіць, каб падскочыць ды дастаць. Каб пярун у яго ўдарыў. Усе глядзелі навокал Агаты. А ёй чамусьці прыпамяталася, як у месячную ноч яна з цёткай Дамініляй ячмень жала. Сьпелы, прасьпелы ячмень. Сыпецца, як град. Ціхенька яны сярпамі займаюць, асьцярожненька складаюць на перавяслецы. Шасьцяць каласы і пакорна ўміраюць пад сярпамі серабрыстымі. А ночка месячная такая... І тады яна з Дамініляй аб паўморгу пачала лятуцець.

Ад гэтых успамінаў Агата ня ўстрымалася й выбухнула плачам. А мае-ж вы, родненькія, а мае-ж вы, саколікі...

Дарога ў вёску пачыналася блізка за рынкам. Пахнула ў твар сьвежасьцю палёў, а навокал, дзе ні глянь, разгораная, пухкая зямля вабіла нейкім цяплом і сырасьцю. 1934 г.



ХВЕДАР ІЛЬЛЯШЭВІЧ.

* * *

Цягнікі і станцыі —
У шыбе—сонца сполахі —
Родная краіна — —
Ты плывеш—плывеш — —
Поле —
Апаянае Купалай і Коласам —
Паясамі слуцкімі сьцелецца ў бязьмеж —
У гэтай далі сонечнай —
Калыхацца сьпевамі —
Птушкай лёгкакрылаю ў небасхіле млець —
У гэтай далі сонечнай
Каласамі сьпелымі —
Сінім летнім вечарам ціха шапацець —
На шляхох - бярозы шэраньню займляцца
Падаючай зоркай —
блісьне цімафор —
Вечар навявае сэнс дзіўной загадцы
У блакітным тумане пацеркамі зор —
Еду —
еду — —
еду — — —
Цішыня навокал —
Толькі ў сэрцы п'яна —
звонкі перапуд —
Толькі заграхоча —
то замрэ—далёка — — —
Перагонка колаў—разьвясёлы гуд —

* * *

Ноч ужо.
Я ня сплю.
Не кладуся.
Белы месяц праплыў даўно
Ў мітусьлівых дум завірусе,
Не засну я спакойным сном.
Ўспамінаю.
Розныя твары
Выплываюць з мінуўшчыны дна.
Часта мы аб нечым марым,
Што ў жыцьці было...
як вясна.
Дні насталі ўжо вясеньнія.
Ноччу—намаразі серабро
Мо' таму караблі—лятуценьні
Паплылі кудысь уразброд.
Разьзьвінелася сэрца трывогай.

Чую нейкі на вуліцы крок...
Як прыемна ў хвіліну зьнямогі
Лавіць з станцыі сьвіст—гудок.
Ноч ужо.
Я ня сплю.
Не кладуся.
Белы месяц праплыў даўно
Ў мітусьлівых дум завірусе
Чую нейкі крык за акном.

1935 г.

---

А. БЯРОЗКА.

## Зімовым вечарам.

Пад ціхі шум твайго верацяна
Снуюцца думкі плоймамі —
Узоры ткуць ў лучыны сінім дыме
І ўецца ніць, як тонкая струна.

Кажы, бабулька, казку векавую,
Што вее чарамі заклятых сноў;
Хай слова ціхае ўскрынічыць кроў,

Патушыць сум і душу зачаруе.
Ўлажы ты ў словы дух сівых вякоў,
Дыхні ў іх волю моцную, сьвятую,

Што ў сэрцы загуляе, як вясна,
Як Нёман, хвалі бурныя падыме...
Мо' сьціхне жаль прад казкамі тваімі,
Мо' змоўкне боль пад шум верацяна...

* * *

Грам. Машары на выезд у Гдыню прысьвячаю.

Заснула ноч. Павісьлі ціха зоры
У цёмным небе панад морам бурным;
На хваль хрыбтох вятры пяюць ноктурны
І ходзяць хвалі—вадзяныя горы.

Там грані скал развесіліcь на моры,
Як чарапы разьбітай чорнай урны;
Вятры галосяць нейкі плач хаўтурны,
Ім глуха ўтораць водныя прасторы.

Вось выплыў месяц ціхі палахлівы;
Нейк сумна, сумна неба даль чарнее;
Навісла ймгла заслонаю маўклівай...
Патухлі ў думках мроі і надзеі...
Я тут адзін. Далёка нашы нівы...
Ад Бацькаўшчыны вецер не павее...

6.X. 1934 г.



## Фрагмэнт.

Ноч сьціхла. Імгла над зямлёю насілась
І ледзь-ледзь прыметна трава варушылась,
Здалёка дзесь шум данасіўся.
І месяц задуманы выплыў над борам

І жабы ў балоце азваліся хорам...
Туман над ракою зьявіўся.
Шаптала штось вішня тапалі ля хаты,
Пад імі вясёла пялі дзяўчаты;

У лесе глухім штось гукала...
Над рэчкай таёмныя цені мігалі —
А песьні ліліся, душу калыхалі —
І сэрца чагосьці чакала.

* * *

Шуміць Нёман...
За хваляю хваля ідзе
І ў бурлівай пяністых хрыбтоў чарадзе
Там, далёка, б'е ў бераг высокі.
З шэрых даляў даносіцца гоман:
Вецер гудзе, шуміць —
Шумяць сухія асокі...
Вецер б'ецца, а хваля бяжыць
Ў бездарожны, далёкі прастор...
Мо' няма там нуды,
Ні няволі, няшчасьця і сьлёз?
Можа хвалі імкнуцца туды,
Дзе пад ціхімі іскрамі зор
Расьцьвітаюць вясны лятуценьні
І дзе сонца зіяюць ірдзеньні,
Дзе апошні енк болю заціх,
І дзе ў сэрцах людзкіх
Хрыстос ускрос?..

---

# З Усходняе Беларусі.

ЯЗЭП ПУШЧА *).

## Мне чупрыны ня хочыцца зьвесіць.

Беланогі, расчухраны месяц
лявоніць у лісьці кляновым;
мне чупрыны ня хочыцца зьвесіць
ў гэты вечар аўсяна-зялёны.

Хай туман сырадсем абмые
мае веснамайскія кудлы.
Затуліўшыся ў сочнай каліне,
расцалуюся з месяцам блудным.

І пайду сінявою мурожнай
да начлежнікаў хлопцаў буяных.
Хай прыгорне мяне вербалозьзе,
бо я хмелем сягоньнешнім п'яны.

Ой вы, поплавы, ў шэрай сярмязе
веснавейце ў лагчыне імглістай!
Мяне праменем сонца абвяжа
напярэдадні ў зелені лісьцяў.

Закалосяцца песьні па лесе,
усьміхнецца, як раніца ў клёне.
Ой, чупрыны ня хочыцца зьвесіць
ў гэты вечар аўсяна-зялёны!

*) Язэп Пушча (Плашчынскі) зьяўляецца адным з найбольш выдатных і глыбокіх лірыкаў Усходняе Беларусі. Радзіўся ён у сялянскай сям'і ў 1902 г., у Ігуменскім павеце Меншчыны. Друкаваць свае вершы пачаў у 1923 г. У сваей аўтобіографіі ён пісаў: „Мне вельмі падабаецца вобразнасьць народнай поэзіі, я хацеў і хачу ўдасканаліць яе ў сваей рытмічнановай песьні". І сапраўды, вершы свае стылізуе Пушча на ўзор народнае песьні, удасканальваючы іх даволі вялікім талентам. Яго лірыка носіць шчыра суб'ектыўны характар, у якой часта спатыкаем матывы глыбока патрыётычныя. З гледзішча артыстычнага творчасьць Пушчы вельмі цікавая. Поэт, рэалізуючы постуляты сучаснае поэзіі, стараецца, каб верш ягоны быў сьпеўны і свабодны, адзначаўся сьмелымі і арыгінальнымі прыраўнаньнямі і выражэньнямі. У мове Пушчы спатыкаем вельмі многа поэтыцкіх нэолёгізмаў, умела створаных поэтам. У апошні час быў Пушча моцна прасьледаваны бальшавіцкімі ўладамі. Што з ім сталася, ня ведаем. Адно ведама, што Пушчы нічога цяпер ня друкуецца ў Усходняй Беларусі. Выдаў наступныя зборнікі вершаў: „Раніца рыкае", Менск, 1925; „Vita", Менск, 1926, „Песьні на руінах", Менск, 1929 г.; апрача гэтага многа яго твораў друкавалася ў розных часапісах. Першы верш Пушчы перадрукоўваем з „Выпісаў з бел. літ. XIX і XX ст." У. Дзяржынскага, Менск, 1926 г., тры апошнія—із зборніку „Песьні на руінах".



* * *

Я сын дубровы кругалістай,
я сын сялянскіх ураджаяў.
О, як да сэрца гэта блізка! —
яно хмель—песьню абуджае.

Скажы, „рахманая" о вёска,
чаму люблю твой твар я загарэлы?
Чаму напеў я свой расплёскаў
па сонца жытняй акварэлі?

Чаму вясна зялёным малачаем
у песьні любіць усьміхнуцца?
Няхай, няхай рабочы прабачае,
што я поэт сялян—„бяспуцьця".

Даруй і ты мне, златазубы горад,
што я пясьняр табе нядродны.
Ой не запражэцца больш у песьню гора, —
яно сплыло ў раздум'і бродам.

Сплыло у цемень дзён мінулых
і стуль ня вынырне на хвалі;
але нашто нам песьні муляць,
калі ў іх толькі поўдзень хвалім?

Жыцьцё-ж бывае часта рубам, —
ну, дык аб чым-жа пець сягоньня нам?
Ці-ж толькі аб фабрычных трубах,
што дымяцца між жалезных брам?
. . . . . . . . . . . . . . .

Няхай паслухае лапцюжнік
напеў прасьцяцка-сакаліны,
няма ў ім болей слоў: ланцужнік,
жыцьцё—расьцьвіўшы куст каліны.

Няхай памые вечар бровы
у вадаспадзе яго лір—частушак.
Я к вам іду, лясы, дубровы,
у звычным звоне песень—птушак!

Дык слухай, вёска, не скажу ніколі,
што я твой ліст, вясной апаўшы,
што сэрца маё восень кволіць,
што для цябе я ўжо прапаўшы.

О не! Я сын тваіх аколіц,
тваіх кашуль, хоць і радняных,
і сэрца радасьцю сваволіць,
як толькі ўспомню пра парканы.

* * *

Эх, вёска!
Саламяная радасьць дуброў,
ну чаго так зайшліся цымбалы?
Ці ня высеяць хочуць мінулага боль,
палыном што у сэрца запала?

Яе выпіў я поўную чару
ў застаронку мужычых сяліб.
Мне тагды усьміхаліся чары,
калі сонца цадзілася з ліп.

Мае вусны ня ведалі сьмеху,
ён у прочках блукаў без мяне.
Бывала, як едзеш з начлегу,
ён шопатам ціхім каня абміне.

Дык, мае залатыя цымбалы,
насявайце балючыя зыкі!
Ня ўзыйсьці ім у новую весну.
Гэтак грае апошні музыка,
ля вясковых паломаных весьніц.

---

## На ростані.

Прастор, агарунены шумам бяроз,
Напевы рассыпаў у хвалях крынічных.
Мэлёдыі іх разьліваюцца скрозь,
Мэлёдыі іх у маршчынах аблічча.

Лазьняк на балотах увесь не пасох, —
Шчэ доўга з ім будуць хістацца чароты.
Краіна мая шумазвонных лясоў,
Твае на курганах губляюцца тропы.

Праходзілі імі вячэрняй парой
Ў навале сузмроку навалы чужынцаў.
З іх кожны ў пакорнае вока пароў,
Крывавай сьлязою хацеў пажывіцца.

На ростані ўсходня-заходніх дарог
Цябе, дарагая, яны ўкрыжавалі;
Твой сын весялосьці таму й не зьбярог,
Згубіў ён яе у шалёных навалах.

А ветры разьнесьлі з імглой навальніц,
Таму вось, часамі, й заходзяцца струны,



Таму вось, часамі, душа і смыліць,
Бы хто палівае пякельны яд-трунак.

Прастор, агарунены шумам бяроз,
Напевы рассыпаў у хвалях крынічных.
Мэлёдыі іх разьліваюцца скрозь,
Мэлёдыі іх у маршчынах аблічча.

---

## Як люба тут...

Як люба тут, ля родных каляін,
Дзе сонца з ветрам песьню калыхалі;
Іду сьцяжынай сумнаю адзін
І зрок губляю ў задумённых хвалях.

Душа мая расхрыстана зусім, —
Усе з яе сарваны параліны.
Якая сочная над лесам сінь,
Якія тоны ў жытніх пераліваx!

Дуброва ветліваківае галавой;
Гамоніць з далямі сівая Сьвіслач.
Крынічны плёск на росных паплавох
Сялянскія люляе думы-мысьлі.

Я тут правёў свайго маленства дні,
Тут беднасьць песьціў кволымі рукамі.
Здаецца мне—за ўзгоркам сьпелых ніў
І сёньня, як і ўчора, раніца рыкае.

У гэтай, у вялікай прастаце
Прыгожае пазнаць мне давялося.
На вадапоі дзён краса расьце, —
Хвалюецца, шуміць яе калосьсе.

Зажынкі я спраўляю кожны год, —
Мэлёдый сонечных люблю пахмельле.
Адным кілішкам п'е са мной народ
Пітво не падфарбованае зельлем.

Суседзям-жа з кляновых дам дайніц,
А з чары сэрца дам сваёй матулі.
Хай песьня льлецца музыкай крыніц,
Хай да сябе асьмееных прытуліць.

---

# Ня стлеў, ня згас!

Вярнуўся зноў да родных берагоў, —
Тут хвалі дзён паіншаму шумяць,
Тут хвалі дзён пайшлі у карагод —
Плыве чубоў зялёных сенажаць.

Гады мае, майго юнацтва дні,
Ня ведалі вы ўцешнасьці часін!
Прайшоў я з вамі скрозь людзкой ганьні,
Бы вецер—шэлестам сівых асін.

Прайшоў і рукі ў далях распасьцёр, —
Маіх сустаў ня ўкурчыў яшчэ курч.
Пачаў гукаць там да сваіх сясьцёр:
Нясеце мне залочаны мой ключ!

— Я сёньня адамкну ім Сьпеў Зямлі,
Азорацца мэлёдыі жыцьця.
Лістамі клёны ў сіні разьвялі
І сонца мне разьвесіла свой сьцяг.

На ім тады пакінуў надпіс я, —
Пачалі ўчытвацца ў яго здалёк.
Сачылася па сонцы кроў з пісьма,
Як-бы з параненых багнэтам шчок.

Затрэслася істота ўся мая,
Ў ваччу паўзьлі зьмяіныя вякі...
Якраз тады пясьнярская сям'я
Ішла аздобліваць чало ў вянкі.

— Як многа зьзяе у тумане зор,
Праслáвіць хай іх ода, гімн! —
Які пабожны і пакорны хор
Ім славіць толькі з кліраса багінь.

Ня хочу я складаць на гэты лад, —
Для ўцехі старасьці пакіну вам.
Ах, як шуміць запушчаны наш сад!
Яму свой сьпеў засмучаны аддам.

Пайшла сям'я да славы лёгкіх слоў.
А я спрачаюся з сабой, з людзьмі.
Няўжо шляхі да песьні занясло
І пыл назойлівы яе зацьміў?

Няўжо так сталася, няўжо?
О, не зьняверуся й на гэты раз.
У садзе ліст апошні не ажоўк,
А ў песьні жар ня стлеў, ня згас!



МІХАСЬ ЛЫНЬКОЎ *).

# Воўчы лог.

Хораша ў полі зімою... У полі асьнежаным, дзе такія гурбы прыгожыя, неахопная шырыня і празрыстае неба, што пачынае цямнець з надыходам вечару.

Серабрыцца сьнег, мігацяць нязьлічоныя мільёны брылянцістых іголак, вецер-кусака шчыпле шчокі і нос. Забіраецца за каўнер, нявідзімкаю прабіраецца пад кажух з сваёй халоднай пяшчотай. Тулішся, пацягваешся, падбіраеш пад сябе ногі, да якіх вельмі ахвоч мароз з сваімі балючымі пацалункамі.

Але ўсё-ж ткі добра. Так бадзёра скрыпяць палазы, сьнежны пыл ляціць з-пад капыт, абдае цябе ледзяністымі пырскамі, аж зажмурваеш вочы. А коні бягуць — падганяць ня трэба—дарога—крышталь, дарога сьлізкая, чаму-ж ня бегчы.

Надыходзіць вечар, сінеюць сьнегавыя гурбы, ад бледнага месяца цягнуцца празрыстыя промені і ня зьзяюць, а тлеюць над лесам і полем. Сінія цені плывуць за кустамі, кладуцца ў баразёнкі, у сьнегавыя калдобіны. А зоры, тыя нібы вылецець хочуць з сваіх недасяжных гнёздаў, да таго зыркія, бліскучыя яны ў марозным паветры.

І салодкі сум закрадаецца ў сэрца, ціхі сум, непазнаны. Здаецца, што пяюць над табой срэбныя жаўранкі, заліваюцца таемныя бомы цудоўнымі танюсенькімі пералівамі, якія казычуць кроў, перамешваюць радасьць і сум, акунаюць цябе ў нябыцьцё... Нібы вясна абыймае цябе пахучымі кветкамі.

Ты пачынаеш драмаць...

— Н-но... гняды...

І зноў скрыпяць палазы, скрыпяць упарта і мілагучна. Іх скрып далёка разносіцца па полі, здаецца, ад гэтага скрыпу зацярушыўся сьнег вунь з тае сагнутай галінкі бярозы, што прытулілася ля дарогі.

Скрыпяць палазы...

А ноч спускаецца ніжэй і ніжэй на сьнегавыя абшары і ўсё навокал пачынае прымаць воблік нявыразнай фантастыкі. Вунь бяроза насоўваецца на нас нязграбнаю цёмнаю гурбаю, дубовы куст—ня куст, а таемны цуд. Нават здаецца, што варушыць ён пакручастымі рукамі, маніць, вабіць да сябе варожай таемнасьцю. Цішыня навокал, ні гуку, ні зыку, і яшчэ больш панадліва скрыпяць палазы.

Уязджаем у лес. Спачатку рэдкія хвойкі, голыя бярозы, алешнік. Чым далей у лес, тым гусьцей дрэвы, тым вышэй ма-

---

*) Аб творчасьці Міхася Лынькова чытач даведаецца із рэцэнзіі ягонай повесьці „На чырвоных лядах“, якую зьмяшчаем у гэтай кніжцы „Калосься“. Апавяданьне „Воўчы лог“ передрукоўваем із зборніку пісьменьніка „Андрэй Лятун“, Менск, 1930 г.—Рэдакцыя.

гутныя сьнегавыя шапкі, што маўчаць, не зварухнуцца, нібы думаюць думу, нібы мараць у халодным сьне. Аб чым? Запытай іх, мо' даведаешся. Мо' аб леце цёплым, аб прамяністым сонцы, аб бярозавым соку вясновым, аб бліскучым дубовым лісту... Маўчаць сьнегавыя шапкі, пахіліліся галіны пад белым уборам. Унізе змрок і ў ім бледыя плямы ад месяца. У іх калмаціцца асьнежанае ламачча-гальлё, выступаюць пні ў прытульных сьнегавых ямках.

Добра ў лесе і страшна, прызнацца. Прыгнятае нязвычайная цішыня, якая нібы павісла ў паветры, не зварухнецца. Толькі гайданецца часам галіна і пасыпіцца з кудлатае хвоі срэбны пух, зацярушыцца ціха, ціха па зялёных іголках. А вуха адразу напружана ловіць гэтыя ледзь чутныя гукі, настарожваецца, гатова праглынуць, уцягнуць у сябе ўсю цішыню, каб не прапусьціць, не абмінуць аніводнага шораху, ні трэску замерзлай галінкі.

А сьлядоў колькі ў лесе, розных сьлядоў. І вялікія, і маленькія, разьбягаюцца ўва ўсе бакі па чыстым сьнягу і сплятаюцца ў сьнегавыя ўзоры, разыходзяцца пад навіслым гальлём, хаваюцца пад елкі і хвоі.

— Вунь заяц прабег, а то воўк сігануў ад дарогі, бач, на сажань скочыў... А тут, бач, цэлае вясельле прабегла, бач, абтаптаны сьнег каля хвоі...

Коні ідуць паволі, часам старожка натапырваюць вушы, порскаюць, калі ў змрочным гушчары трэсьне замарожаная галінка, ці мякка ўпадзе сьнежны камяк з абцяжаранае яліны.

Дзед Ігнат здымае свае паўпудовые сподкі, дастае капшук і ў хуткім часе на яго твары пачынаюць граць яскравыя водбліскі, а сам ён увесь хаваецца ў шэрых слупох даўкага дыму. Люлька дзеда смыліць ва-ўсю. А калі люлька гарыць, значыць дзед Ігнат неадменна што-небудзь ды скажа, такі ўжо дзедаў звычай.

— А мароз мацнее...

— Чаму-ж яму і не мацнець, яго-ж сьвята, піліпаўка.

— Яно так, піліпаўка. Н-но, гнядыя, варушэцеся, а то адубееце з холаду. Але хіба і разгорнішся тут. Дарога кепская, хоць-бы хутчэй выбрацца з гэтага воўчага логу.

— Чаму воўчы?—пытаю.

— А хіба я ведаю, так ужо людзі празвалі, дый апавядаць доўга—даўно было.

Вядома, дзед раскажа. Яму ня стрымацца, бо любіць стары пагаварыць,ператрэсьці ў памяці мінулае, даўно пражытое. Але-ж трэба трохі пафанабэрыцца, звычайна гэта ўжо ў чалавечай натуры.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Ну, дык вось слухай. Жыў калісьці ў маёнтку нашым пан. Пан як пан і звычайная душа панская — жыў, гуляў, пеставаў паню. А пані была дзіўная. Ня то, што дзіўная, а ня проці ночы кажучы, шатан шатаном, з нячыстай сілай была ў вялікім сваяцтве. Але што гаварыць, сабой была вельмі прыгожая, і такія вочы былі прыгожыя, што зірнеш у іх і холадна стане на сэрцы, нібы вып'юць цудоўныя вочы тваю душу да дна і пакінуць пустэчу.

Адкуль узялася яна — ніхто ня ведаў. Казалі адны, нібы прывёз яе пан з-пад Турэччыны, другія казалі, што яна была з Вэнгрыі. Але толькі ніхто ня ведаў, дый няцікава гэта. Ведалі толькі, што вялікую сілу мае яна над панам, такую сілу, як ніхто. Ходзіць пан у яе на ланцужку. З намі грозны, а перад ёй ніжэй травы, цішэй вады. Так і пасьцілаецца лістом асеньнім, выпаўняе прыхамаці заморскай пані. Але дзе яму выпаўніць, стары быў ужо, недалужны.

Затое і былі заўсёды навальніцы ў панскіх пакоях. Вышчырыцца яна на яго, а ён толькі лыпае вачыма, трымціць, як асінавы ліст. Трымціць, трымціць, а злосьць спаганяе на парабкох ды на парабчанках.

Вось каму жыцьцё не за жыцьцё было, а адна пакута. І да чаго дапякаў іх пан, да чаго зьдзекваўся—утапіцца мала.

Але справа ня ў гэтым. Пачалося ўсё вось з чаго. Было ў пана сямёра парабкоў, адзін аднаго прыгажэй і здатней. Прыгожыя былі хлапцы, падабраў іх пан з усяе акругі, бач, клапаціўся, каб прыемна было вачом пані глядзець на іх—любіла яна ўва ўсім красу і здатнасьць. Але на сваю бяду панабіраў іх пан. Мусіць занадта чорныя вочы былі ў пані і занадта многа агню ў яе палкай крыві, толькі стала пані лашчыцца да хлапцоў. Ні то што лашчыцца, а так цёмнаю ноччу якой падбярэцца да таго, да другога, абаўе сілком рукамі за шыю, ды шэпча на вуха:

— Кахай мяне, будзеш вечна шчасьлівы, іначай... пагібель...

А парабкі, вядома, хлапцы пужаныя, баяліся пана горш сьмерці, дый сама пані дзіўная—рабіліся вочы яе на сінія агнькі падобныя. Нібы тыя агні, што гараць па начох на нашых балотах, па бяздонных, непралазных нетрах. Уцякалі хлапцы ад пані, баяліся духу яе, баяліся яе пацалункаў нячыстых, якія пяклі шатанскім агнём і высушвалі сэрца. І вялікая злосьць запанавала тады ў сэрцы пані. Яна паскардзілася старому пану, нібы парабкі хацелі ўзяць яе бела, як сьнег, цела, забрудзіць яе ледзяныя грудзі, замуціць ясныя вочы векавечнаю ганьбаю.

Чаго толькі ня было тады. Цэлыя ночы сядзеў пан у сваім пакоі, думаў усё ды абдумваў, якую кару даць парабком за нявечанае іх злачынства. А хлапцоў пасадзіў у падзямельны склеп, панавешваў замкоў, варту прыставіў. Нібы хмары панавісалі тады над старым замкам, кожны абыходзіў яго, баючыся зірнуць на вокны, каб ня стрэць нячыстага зірку, не загубіць сваей душы.

А ў старым парку лёталі совы ўночы і круціліся кажаны паміж дрэў. Ды з цёмнага склепу вырываліся часам глухія стогны ды прыдушаны стук кайданаў.

І было раз у цёмную, цёмную восенскую ноч, калі ня відна ні зор, ні месяца, калі вые толькі вецер па лясох ды балотах, засьцілае вочы дажджовай мітульгою. Вышла пані з пакояў

у стары парк. Загудзеў ён нячуванымі галасамі, зашумелі векавыя ліпы абамшэлым гальлём, закруцілася пажоўклае лісьце — нібы нечысьць уся пазьляталася з усіх бакоў, павылазіла з сваіх патаемных нор і прышла да сваей гаспадыні.

Кажуць людзі, падышла да склепу пані, адамкнула замкі заржавелыя, пачала казаць замовы:

— Ня бачыць вам долі людзкой і людзкога шчасьця, ня ўзірацца ў блакітныя вочы дзявочыя. Вам радзіма-балота і глухія лясы, нагарода вам—воўчае сэрца. Бяжэце-ж ваўкамі шэрымі па нязнаных сьцежках лясных, шукайце шчасьця ваўчынага, шукайце долі сваей у хмызьняковых і непралазных нетрах...

І прабегла па цёмным парку сем шэрых ваўкоў, усе адзін у аднаго.

Даўно гэта было і аб парабкох ня стала ні слуху, ні духу, ні почату, нібы і ня было іх на сьвеце, нібы і ня былі яны ў нашым маёнтку.

— А прычым-жа тут воўчы лог?

— Эх, пруткія вы маладыя, вам адразу і падай усё ў рукі, адразу хочаце ўсё схапіць адным махам. Не, пачакай, дай давесьці ўсё па парадку... Бачыш, капліца стаіць, вунь, вунь, паза хвояй...

Сапраўды, на раскрыжаваньні дарог у самым непралазным гушчары стаяла невялічкая капліца і глядзела з-за хвоі сваімі цёмнымі, павыбіванымі вакенцамі. Гэтыя вакенцы, нібы запалыя мерцьвяковыя вочы, жудасна пазіралі з-пад навіслых лап старых ялін і разгацістых галін хвоі, што стаялі навокал, вартавалі пакой гэтай дзіўнай, нікому непатрэбнай будыніны. Каля капліцы стаяла некалькі струхнелых пахіленых крыжыкаў. На іх вісела, страціўшы свой колер і выгляд, некалькі выпетраных ветрам і нягодаю хвартушкоў. Хто іх вешаў, хто вышываў руплівою рукой выцьвелыя пад сонцам і сіверам узоры, чые падзеі ўкладаліся ў гэтыя „божыя ручнікі“ — мусіць, ведаць толькі старым хвоям, ды старым ялінам. Наўкола была сумная цішыня, цішыня старога немярэчча, дзе ні песьняў, ні радасьці, ні вясёлага гоману-шуму.

Мярцьвячына, цьвіль...

— Дык вось... Справа была ў піліпаўку. Кажуць людзі, завеі былі вялікія, трашчалі маразы лютыя, ніхто ў дарогу ня ехаў, сядзелі па хатах. Надыходзілі каляды. Паехаў пан з паняю ў горад. Ні то ў госьці, ні то так куды, адным словам, панскія справы. Ноч у той час была асаблівая, такая замець узьнялася, што суседняй хаты ня ўбачыш, ня толькі што. Навеліла замець такія гурбы, што з канём утапіцца можна.

І праходзіць дзень, праходзіць другі, ня чуваць ні пана, ні пані. Прайшло колькі дзён і зьвярнуўся ў маёнтак фурман панскі. Дзіўны зьвярнуўся — ні слова ад яго не пачулі людзі талковага, такое верз — няма ведама што. Звар'яцеў хлапец. Толькі і разабраць можна было—ваўкі шэрыя, шэрыя... а вочы—сьвечкі, ды вострыя зубы...



А ў хуткім часе знайшлі і пана. Ня пана, а косьці яго пад старою хвояй. А пані і сьлед прастыў і ніхто ня бачыў яе з таго часу, ня чуў аб ёй і ня ведаў. Праўда, знайшлі пастушкі пярсьцёнак залаты з дыямэнтам — усё, што засталося ад пані. Прынесьлі ў вёску яго, паказалі ўсім. Цудоўны персьцень, так і гарыць агнём яго камень чырвоны. Але ўсе, хто толькі глядзеў на гэты персьцень, нудзіліся потым, на сэрца сохлі. І казалі яшчэ, калі паглядзець на персьцень апоўначы — убачыш страшныя вочы пані ў дыямэнце цудоўным. Але ніхто не глядзеў, баяліся, бо толькі надыйдзе цёмная ноч, ды разгуляецца ў полі віхура, падыходзяць пад вокны шэрыя ваўкі, вышчэрваюць зубы, уныпяць вочы свае агнявыя ў няшчасную хату, дзе ляжаў пярсьцёнак, ды як завыюць, завыюць, ніхто ў сьвеце такога выцьця ня чуў.

Кінулі потым персьцень у гэта балота, закінулі ў непралазную дрыгву, каб не спакушалася чалавечае сэрца на страшны блеск дыямэнту. І вось балота, дзе было гэта ўсё, і празвалі воўчым логам, а на месцы тым, дзе загінуў пан, сваякі яго капліцу паставілі. Сказаць паміж намі — непакойнае месца тут, ня к ночы кажучы: прытулак усяго нячыстага. Колькі раз траплялісь нашы людзі на нядобрыя здарэньні каля капліцы, то сядзіць на хвоі белая здань, то плача нібы хто, ці скаголіць у капліцы, то гоніцца нібы хто страшэнны, цудоўны за падарожным, ці за праежджым, асабліва калі ідзеш ці едзеш адзін, сам-на-сам.

Дзесьці далёка, далёка, вярсты за тры, за чатыры завыў у адзіноце воўк. Выцьцё было ціхае, працяглае, поўнае нейкай нявыразнай жудасьці, безнадзейнасьці.

Праз хвіліну раздалося другое выцьцё больш грубое, больш гучнае, дзесьці бліжэй... А там трэцяе, чацьвертае, пятае, і хутка жудасны канцэрт апанаваў усім лесам, перапоўніў яго страхам і жудасьцю. Коні пужліва заматалі галовамі, натапырылі вушы. Дзед Ігнат прыціх адразу, скорчыўся ў камячок на сваіх развалках, перахрысьціўся і пужліва пачаў падганяць коняй. Ён спалохана, няўпэўнена махаў пужкай і ціха, але настойліва занукаў:

— Н-но... но... Чаго прысталі... Хутчэй дома будзем...

І толькі праз хвіліну, прыслухаўшыся да лясных гукаў, Ігнат гаварыў ужо весялей:

— Мусіць, пайшлі мохавым балотам, цяпер ужо далёка, каля самых паплаваў будуць. Дый лепей... ну іх, ня варта з імі ў дарозе сустракацца, лепш далей ад грэху...

Лес станавіўся радзей і радзей, хутка выехалі на чыстае поле і ў перадзе зазьзялі дыямэнтамі-зоркамі яскравыя аганькі. То сьвяціліся электрычныя лямпачкі заблытанай сярод лясоў і балот гуты.

Недалёка ўжо было і да гэтых лямпачак, але ўсё навокал прыняло на сябе другое адценьне, другі характар. Зьніклі спалохі лесу, адпачывала вуха ад настарожанае цішыні, напружа-

ныя шолахі ночы зьніклі з усёй сваёй фантастыкай, чароўнай таемнасьцю. І камень-самацьвет, семера шэрых ваўкоў, і белыя здані пад абамшэлай капліцай—усё гэта адразу згінула, засталося дзесьці далёка-далёка з-заду, засталося прыгожаю казкай, усхваляваўшы на хвіліну выабражэньне.

Нават зьмяніўся сам Ігнат. Ён загаварыў пра рабочых, пра гуту.

— Бач, сьветла як. Хіба было так за панам—была гута калісьці панскай. Куды там, было цёмна, хоць вока выкалі. А цяпер, ого!..

І Ігнат пачаў расказваць, як жыве яго сын на заводзе, як распальвае ён страшэнныя печы...

— Мо' страшней дыямэнту і шэрых ваўкоў? Камень тут ні прычым... Што і гаварыць... Камень там — у лесе, у балоце, вунь, у нетрах у тых, дзе гараць па начох сінія аганькі... А тут, ды што казаць... Н-но, гняды, варушыся!..

Палазы заскрыпелі гучней, дзед прысьвіснуў на коней, і сані паімчаліся віхрам па крыштальнай, наежджанай дарозе.

---



АД. СТАНКЕВІЧ.

# Прафэсар Браніслаў Эпімах-Шыпіла.

(*З яго жыцьця і працы*) *).

Сапраўды ў дзіўных жывём часох—аб сьмерці найлепшых сыноў Беларусі, памёршых на ня так ужо й далёкай чужыне, даведваемся толькі за якогаа паўгоду. Вось толькі некалькі месяцаў таму дайшла ў Вільню сумная вестка з над берагоў Нявы аб сьмерці ў хмарным Ленінградзе вялікага і заслужанага Беларуса, высокадастойнага чалавека, прафэсара Браніслава Эпімах-Шыпілы.

На жаль, аб Шыпіле ня маю столькі вестак, сколькі мець іх трэба для адмаляваньня поўнага абраза ягонай асобы. Сабраць належныя аб ім весткі можна было-б прадусім там, дзе ён жыў і працаваў: у Ленінградзе і ў Савецкай Беларусі. Тымчасам на перашкодзе гэтаму стаіць ня толькі граніца палітычная, якая дзеліць Беларусь, але так-жа і граніца ідэёвая, якая дзеліць беларускія душы. Але справа і з гэтым не безнадзейная—час сваё зробіць і направіць, будучыня згладзіць, зраўняе няроўнасьці, направіць памылкі і недахопы мінуўшчыны.

Цяпер-жа я зрабіў тое, што змог; дзялюся з грамадзянствам тымі весткамі аб Шыпіле, якія захаваліся ў маей памяці з часоў асабістага майго з ім спатыканьня і знаёмства, а так-жа тымі весткамі, якія мне ўдалося сабраць з літаратуры і ад ягоных знаёмых.

Тым усім асобам, якія дапамаглі мне ў зьбіраньні гэтых вестак аб праф. Шыпіле, як гр. гр.: Сталыгва, Кс. В. Гадлеўскі, М. Пяцюкевіч, Адв. Будзька, інж. Л. Дубейкаўскі, Кс. В. Шутовіч, Ян Шутовіч, д-р Т. Грыб, а так-жа д-р Я. Станкевіч, які даставіў фатаграфію памёршага прафэсара, — на гэтым месцы выражаю шчырую падзяку.

* * *

Сьветлай памяці праф. Браніслаў, сын Ігната, памёр 6 чэрвеня сёл. 1934 г., дажыўшы да старэчых паважных 75-х гадоў. Радзіўся ў канцы першага дзесятку другой паловы мінулага 19-га стагодзьдзя—4 верасьня 1859 г. у хвальварку Будзькаўшчына, Лепальскага пав., Віцебскай губэрні.

Дату і месца яго нараджэньня ўдалося ўстанавіць на падставе савецкіх літаратурных крыніц, у аднэй з якіх (Наука и научные работники СССР ч. IV. Ленинград, 1928 г., бач. 503) чытаем даслоўна: „Бронислав Игнатьевич Эпимах-Шыпилло: действительный член Института Белорусской Культуры; директор Словарной Комиссии по составлению академического словаря живого бело-

*) Рэфэрат чытаны на жалобнай акадэміі, ладжанай Бел. Інст. Гасп. і Культ. у Вільні 8/XII 1934 г.

русского языка при Институте; классическая филологія, лингвистика; белорусскій язык; составленіе словарей белорусского языка (4.IX. 59. усадьба Будьковщина, Лепальск. у. Витебск. г.)".

Бацькі Шыпілы, пасьля нараджэньня Бураніслава, хутка апынуліся ў іншым хвальварку Залесьсе, таго-ж Лепальскага пав., недалёка ад Полацку. Відаць гэта з таго, што малодшы на пяць гадоў брат яго Ўладыслаў, аб якім будзе зацемка ніжэй, ужо радзіўся ў Залесьсі („Лучынка", кн. 6, 1913 г.). Вось-жа тут правoдзіў сваю моладасьць і малады Бураніслаў. Паходзіў з дробнай каталіцкай беларускай шляхты, якая хоць пры помачы польскага касьцёла была сыстэматычна і безаглядна польшчана, усёждыкі аканчальна ня спольшчылася і агулам захавала сваю родную беларускую мову, а так-жа й лепшыя традыцыі беларускай мінуўшчыны. Вось у такой сямейнай атмасфэры і сярод толькі-што прабіраючагася з паншчыны на волю беларускага сялянства рос і гадаваўся малады Шыпіла. Гімназію мусіў скончыць або ў Рызе, дзе яе канчаў яго брат Уладыслаў („Лучынка", там-жа), або ў недалёкім Віцебску. Вышэйшыя навукі прайшоў у Пецярбурзе, дзе скончыў гістарычна-філёлёгічны Інстытут, на аддзеле клясыкі. Знаў больш 20-х моваў, між якімі Быў выдатным моваведам, знаў больш 20-х моваў, між якімі прадусім стара-грэцкую, лацінскую, індускі санскрыт і цэлы рад моваў розных народаў сучасных.

Беларускай нацыянальнай сьведамасьці Шыпілы, як ужо сказана, спрыяў беларускі асяродак, у якім ён гадаваўся, а перадусім гэтай справе спрыялі мовазнаўчыя студыі. Дзякуючы гэтаму, ужо за сваіх часоў студэнскіх цікавіўся ён праблемай беларускай нацыянальнасьці, мовы, гісторыі і быў фактычна сьвядомым Беларусам. Няменш урэшце дадатна дзеіў на фармаваньне ў Шыпілы беларускага нацыянальнага сьветапагляду і той час, у якім ён адбываў свае навуковыя студыі. Не забываймася, што былі гэта 70—80-ыя гады мінулага стагодзьдзя, гады пачаткаў адраджэньня народу украінскага, літоўскага, латыскага і інш. народаў-нявольнікаў царскай Расеі, — гады вызвольнай працы палякоў і народавольскіх імкненьняў самых-жа расейцаў.

Дарэчы тут адзначыць, што Шыпіла, будучы ў пачатку нашага стагодзьдзя прафэсарам у Р-К Дух. Акадэміі ў Пецярбурзе праз некаторы час працаваў разам з кс. праф. Яўнісам, ведамым літвіном філёлёгам, які паддзержаваў літоўскі нацыянальны рух сярод літоўцаў акадэмікаў і спрыяў беларусам.

Цэнтрам гэтых рухаў быў перадусім сталічны Пецярбург, асяродкам-жа гэтых розных народаў імкненьняў была перадусім студэнская моладзь. Першыя расткі беларускага романтызму, як культурнага, навуковага, так і палітычнага, Шыпіле ня былі няведамы. За часоў дасьпелай моладасьці Шыпілы жывымі яшчэ былі традыцыі творчай працы на беларускай ніве Баршчэўскага, Рыпінскага, Чэчата, Дунін-Марцінкевіча і інш., а так-жа й палітычныя натугі К. Каліноўскага. Многае-ж узноў з праяваў беларускага жыцьця бачыў Шыпіла яшчэ за часоў моладасьці і сваімі ўласнымі вачыма. На яго, можна сказаць, вачох адбылася сьмяротная трагедыя цара Аляксандра II, паўшага з рук беларускага народавольца Ігната Грынявіцкага; знаўся Шыпіла і нават у блізкіх быў адносінах з Фр. Багушэвічам, тварцом беларускай нацыянальнай ідэолёгіі, знаўся так-жа з вучоным сабіральнікам памятак беларускай мінуўшчыны Сапуновым, з вялікім прыяцелем беларускага народу Ал. Ельскім і інш. прадстаўнікамі беларускага романтызму, пачынальнікамі беларускага нацыянальнага адраджэньня.

За часоў так-жа дасьпелай моладасьці Шыпілы рабіліся між іншым спробы русыфікацыі Беларусаў каталікоў і праз каталіцкі касьцёл, у які ў тыя-ж 70—80-ыя гады мінулага стагодзьдзя царская палітыка намагалася ўвесьці расейскую мову. Усё гэта разам узятае, чаго ці праз жывую яшчэ традыцыю ці чаго сам асабіста Шыпіла быў сьведкам, угрунтоўвала і ўцьвярджала яго ў правільнасьці і неабходнай патрэбнасьці нацыянальнага адраджэньня беларускага народу. Вось-жа гэтай справе, цалком адрокшыся асабістага жыцьця і асабістага шчасьця, Шыпіла ўсёцэла і пасьвяціў сябе.

Беларуская і агулам грамадзкая і навуковая дзейнасьць прафэсара Браніслава Ігнатавіча Шыпілы відацца ўжо вось з гэткіх яго тытулаў: Лектар грэцкай мовы ў Імпэратарскай рымска-каталіцкай Духоўнай Акадэміі, Памоцнік бібліятэкара Імпэратарскага Пецярбурскага Унівэрсытэту, Лектар лацінскай мовы на вячэрніх агульна-навуковых курсах для дарослых А. С. Чарняева, Вучыцель гімназіі для хлапцоў пры касьцеле сьв. Кацярыны, Чынны сябра Віцебскай навуковай Архіўнай Камісіі, Сябра Інстытуту Беларускай Культуры і пазьней сябра Беларускай Акадэміі Навук у Менску.

* * *

Праца Шыпілы дзеліцца на два пэрыяды: на дарэвалюцыйны і парэвалюцыйны. Зачнём з першага.

Бліжэй апісваючы беларускую дарэвалюцыйную працу Шыпілы, трэба зазначыць, што ішла яна перадусім у трох кірунках: сабіраньне кніжак і агулам культурных памятак беларускай мінуўшчыны, гадаваньне, арганізаваньне і ўсьведамляньне беларускай моладзі і ўрэшце арганізаваньне беларускай культурнай, перадусім выдавецкай працы.

1. У скромнай сваей кватэры ў Пецярбурзе (4 лінія 45—16) грамадзіў Шыпіла рэдкія беларускія, або беларускай справы датычныя, рукапісы, кніжкі і іншыя забыткі. Пазнаць-жа гэтыя беларускія культурныя цэннасьці апрача сваіх студыяў, меў ён магчымасьць будучы дзейным сябрам Архіўнай Камісіі ў Віцебску, ад імя якой у 90-х гадох езьдзіў на Архэолёгічны З'езд у Рыгу, а так-жа спаўняючы абавязкі дырэктара Імпэратарскай Пецярбурскай Бібліятэкі. Праўда, афіцыяльна ён лічыўся „памоцнікам бібліятэкара" — гэта знача памоцнікам дырэктара, але

фактычна быў ён дырэктарам, якім афіцыяльна быць ня мог з прычыны свайго каталіцкага веравызнаньня.

Зьбіраючы беларускія культурныя забыткі, у Шыпілы паўстала думка стварэньня з іх як-бы беларускага нацыянальнага музэю, які паводле яго думкі меў памяшчацца ў родным фальварку Залесьсі, паложаным, як ужо ўспомнена, блізка гістарычнага беларускага цэнтру Полацку. Думка гэта ў яго ня была пустой. Ён зусім паважна думаў рэалізаваць яе. Дзеля гэтай мэты ў Залесьсі ўжо нават быў збудаваны дом, у якім з цэнных беларускіх забыткаў ужо сёе-тое было памешчана. На няшчасьце аднак дом гэны згарэў і надта магчыма — аб чым пэўнасьці ня маем—не адна згарэла з ім і цэнная беларуская рэч. Дзякуючы Шыпіле, перайшоў беларускаму народу ў спадку не адзін цэнны забытак.

І так, як падае Карскі (Карскій,—Бѣлоруссы III, 3, бач. 61, 74, 76) у Шыпілы аказалася: добрая копія, зроблена з арыгіналу ў Ал. Ельскага „Залётаў" Марцінкевіча з 1870 г., а так-жа рукапісны зборнік беларускіх вершаў, які сабраў той-жа Шыпіла ў 1889 г. У склад гэтага зборніку ўваходзяць вершы розных беларускіх, пераважна нязнаных, поэтаў. Між імі ёсьць вершы Фэлікса Тапчэўскага (Фэлька з Рукшэня), шляхціца з Лепальшчыны, якія Шыпіла перапісаў з орыгіналу. У тым-жа зборніку Шыпілы спатыкаем адзін беларускі верш, які прыпісваюць Яхіму Тамашэвічу. У Шыпілы так-жа знаходзілася ў рукапісе „Беларуская Скрыпачка"—Фр. Багушэвіча.

Дужа цэнную і вялікую бібліятэку, зьбіраную праз доўгія гады, праф. Шыпіла перадаў у бібліятэку Беларускай Акадэміі Навук у Менску. Вось што аб гэтым чытаем у „Полымі" з 1929 г.

„Проф. Эп.-Шыпіла перадаў Бел. Ак. Навук сваю бібліятэку, якую ён зьбіраў на працягу 40 гадоў. Бібліятэка складаецца з 5.000 кніг розных назоваў. Бібліятэка будзе зьмешчана ў асобным пакоі і будзе складзены асобны каталёг" („Полымя", чэрвень, 1929 г., бач. 217).

Гэтак пісаў савецкі часапіс на пярэдадні вялікага паходу Саветаў на беларускую культуру і на яе тварцоў. Дык трудна спадзявацца, каб гэны намер што да бібліятэкі Шыпілы ды быў сяньня споўнены. Астаецца толькі пацяшацца думкай, што беларускі культурны скарб, сабраны Шыпілай, знаходзіцца ў бібліятэцы Бел. Акадэміі Навук і што нічога яму не пагражае.

2. Другой галінай беларускай працы Шыпілы, як ужо ўспомнена, была беларуская моладзь. Моладзь любіў ён шчыра і ад усей душы. Сам будучы бязжэнным, усё сваё лепшае—і духовае і матар'яльнае—пасьвяціў моладзі. З натуры добры, шчыры, чулы, высока этычны, стаўся праўдзівым апякуном і бацькам моладзі, якой ён памагаў духова і матар'яльна. Сколькі разоў прыходзілася мне асабіста бываць у Шыпілы, заўсёды я спатыкаў там беларускіх студэнтаў, якія прыходзілі да яго ў розных справах ідэёвых і навуковых, а так-жа многія часта і для





Прафэсар БРАНІСЛАЎ ЭПІМАХ-ШЫПІЛА
(4.IX.1859 — 6.VI.1934).

таго, каб выпіць гарбаты, паабедаць ды рубля якога дастаць гатоўкай. Асаблівым разьвясяленьнем маладых гасьцей Шыпілы быў грамафон, які з беларускай пліты бойка высьпевываў „Чаму-ж мне ня пець“... Заводзіў Шыпіла гэты грамафон пераважна тады, калі прыходзілі да яго новыя студэнты. Помню, як ён і мяне спатыкаў з гэным грамафонам.

Пад Шыпілы кіраўніцтвам, а прынамсі пры яго жывым учасьніцтве, адбывала студэнская моладзь розныя ідэёвыя зборкі, нарады, лекцыі, ладзіла аматарскія тэатры.

Працу сваю над беларускай моладзяй праводзіў Шыпіла ў двух кірунках — у кірунку беларускай студэнскай моладзі духоўнай і сьвецкай. Спрыялі гэтаму, як ня трэба лепш, тыя навуковыя становішчы, якія Шыпіла займаў: лектарат грэцкай мовы з 1902 г. у Дух. Акадэміі, пасьля фактычнае дырэктарства ўнівэрсытэцкай бібліятэкі і лектарат лацінскай мовы на агульна навуковых курсах Чэрняева. На гэтых курсах гадаваў ён між іншым і вялікага беларускага паэта Янку Купалу.

Гэтыя становішчы далі Шыпіле вялікую магчымасьць зблізіцца з беларускай студэнскай моладзьдзю, як сьвецкай, так і духоўнай, гуртаваць яе і павесьці сярод яе шырокае народнае ўсьведамленьне. Найбольш любым спосабам ягонай у гэтым кірунку працы, апрача жывога слова і ўласнага прыкладу, была кніжка.—А вось прачытайце, дужа цікавая рэч—казаў ён студэнту, падносячы яму навуковую кніжку аб Беларусі.

Сапраўды, Шыпілу бяз кніжкі трудна сабе й прадставіць. Як жывы стаіць ён мне ў ваччу на калідорах і ў салях Духоўнай Акадэміі даслоўна з бярэмям кніжак, якія прыносіў нам сам паводле сваей уласнай волі і на нашу просьбу. Цікавыя і часта рэдкія былі гэта кніжкі, якія ён даставаў ня толькі з Бібліятэкі Унівэрсытэцкай, але з Акадэміі Навук, з Бібліятэкі Публічнай і з прыватных збораў сваіх уласных і іншых.

Так у беларускай усьведамляючай сярод студэнства працы Шыпілы кніжка была апошнім доказам. Пазволю тут сабе расказаць наступны ўспамін. Будучы яшчэ ў Віленскай Духоўнай Сэмінарыі, калі аб Шыпіле нічога я і ня чуў і ня знаў, бліжэй я зжыўся з клерыкам, які называўся Вінцэнты Рыжы. Прыбыў ён да нас у сэмінарыю нешта з трэцяга курсу матэматыкі Пецярбурскага Унівэрсытэту. Дружба мая й прыязьнь з Рыжым была-б сапраўды поўнай, каб не адна „дробная“ рэч—ён лічыў сябе стопрацэнтным паляком, а я сябе гэталькіх працэнтаў беларусам. Разумеецца, былі ў гэтай справе частыя, часам дужа доўгія і гарачыя спрэчкі, у якіх я з усіх сіл няраз стараўся праканаць Рыжага, што і ён беларус, аб чым між іншым мела сьведчыць і тое, што паходзіў ён з Віцебшчыны. На гэта мне раз казаў Рыжы:—Ды адчапіся, усё роўна ты мяне не пераканаеш, мяне ня гэткія пераконвалі і то нічога; за мной у унівэрсытэце проста па пятах хадзіў Шыпіла, даказваючы, што я беларус, а калі я аставаўся пры сваей польскасьці, ён на разь-

вітаньне звычайна торкаў мне якую кніжку аб беларусах і казаў: а ўсёждыкі прачытайце, цікавая рэч, пераканаецеся! Але ўсё гэта Шыпіла рабіў дужа асьцярожна і далікатна, ня так, як ты—канчаў Рыжы свой зусім прыпадковы ўспамін аб Шыпіле.

Вынік такой працы прафэсара Шыпілы быў той, што многія сяньняшнія выдатныя беларусы—яшчэ жывыя і ўжо памёршыя,—як Я. Купала, Тарашкевіч, Жылуновіч (Цішка Гартны), Душэўскі, Грыб, Заяц, Варонка, кс. кс. Лісоўскі, Грынкевіч, Будзька, Абрантовіч, Гадлеўскі, Хвецька, Станкевіч, Цікота, Шутовіч, Лупіновіч, Хоміч і інш. гэта ў большай або ў меншай меры ўсё ягоныя духовыя дзеці.

Але Шыпіла меў беларускае значэньне ня толькі сярод моладзі, з якой беспасрэдна стыкаўся, без яго ў беларускіх культурных і навуковых справах не абыходзіліся часта і беларусы старэйшыя, ужо працуючыя на беларускай ніве, асабіста з ім нават незнаёмыя. Вось напр. Цётка, ведамая беларуская паэтка і пісьменьніца, культурная дзеячка і народная рэволюцыянерка, будучы ў 1906 г. на эміграцыі ў Львове, піша да Шыпілы гэтак: „Wybaczajcie, szto nieznajomaja i piszu da Was, Ja Paszkiewiczanka, Wam aba mnie kazaŭ Iwanoŭski, bo to kaliś prabawała wierszy pisać i ich Wam czytali, Woto-ż ciapier żywu ja u Lwowi, z ukraincami-rusinami i unijatami zawadżu znakomstwa. Szmat nam spryjajuć, pamohuć u czym siła. Ciapier poki szto buduć drukawać pa biełarusku. Kali majecie szto, to pryszlecie. Ja chaczu dawiedacca ad Was, szto czutno z bukwarom, ci ŭžo hatoŭ, ci u nas budzie fonetyka nasza biełaruska. Heta wielma ważna, bo budu ciapier wydawać papularnyja reczy dla narodu dy nia wiedaju jak czaho trymacca. Skora wyszlu knižki ab unji dla akademikaŭ duchoŭnych na Wasz adrys dla Budźki. Wy, szanoŭny prafesar zakińcie pierad imi słowa za uniju, bo jany Was wielmi szanujuć i pawažajuć“... (Ю. Бібіла—Матар'ялы да біографіі Цёткі. Запіскі Аддзелу Гуманітарных Навук Інст. Бел. Культуры, Кн. 2, т. 1, бач. 296).

Быў урэшце Шыпіла так-жа й душой беларускіх работнікаў, сярод якіх шырока праводзіў народна-культурную працу і якія яго дужа любілі і паважалі.

Да рэчы будзе ўрэшце адзначыць, што беларускую працу сярод моладзі Шыпіла праводзіў ня толькі сам, але яму памагаў у гэтым асабліва ў галіне сцэнічнай ягоны малодшы брат Уладыслаў, які вучыўся ўсваім часе ў Пецярбурскім унівэрсытэце на фізыка-матэматычным факультэце, пасьля быў чыноўнікам у Міністэрстве Фінансаў і памёр 6 траўня 1913 г. Вось што аб гэтым піша „Лучынка“, літаратурна-навуковы месячнік беларускай моладзі (1913 г., шостая кніжка):

„Праца дзеля куска хлеба адарвала яго (Уладыслава—А. С.) ад роднай старонкі на змаганьне з жыцьцём сярод чужых, але нябошчык цэлае жыцьцё шчырай душой рваўся да працы для сваей роднай бацькаўшчыны і чым мог стараўся прылажыцца



да будовы яе сьвятлейшай будучыны. Жыцьцё яго суцэльна вяжыцца з жыцьцём пецярбурскай студэнскай моладзі, перадусім з яе працай на беларускай сцэне. Калі ў 1905 г. усё, што жыло, варам закіпела, пецярбурскія студэнты пачалі гуртавацца і думаць аб працы для свайго гаротнага народу. Зразумеўшы добра, як вялікае маюць значэньне роднае слова і родная песьня, яны пачалі ладзіць вечарніцы—ігрышчы з беларускай сцэнай. Тут іх правадыром, загадчыкам і разам першым таварышам быў сьветлай памяці Уладыслаў. Яго рупнасьць і маладая ахвота зьдзівіла куды ад яго маладзейшых. Заняты службай, сям'ей ён умеў аднолька-ж урваць крыху часу і для сцэны, дзе ён быў душой кожнага беларускага прадстаўленьня. Вучыў другіх і сам іграў з вялікім зразуменьнем беларускага жыцьця і таго, якое значэньне мае роднае слова. У працягу колькі год пры яго помачы былі пастаўлены на сцэне беларускія тэатральныя творы: „У зімовы вечар“, „Па рэвізыі“, „Пашыліся ў дурні“, „Міхалка“, „Паўлінка“, „Хам“ і др. У кожным творы ён умеў зрабіць жывы тып і сваёй чыстай і зычнай гутаркай цешыў сэрцы беларусаў спрагнёных роднага слова, дарагога зыку ў чужой, сумнай і пахмурнай старане“.

Беларуская стыхія, як бачым, жыла ня толькі ў душы Браніслава Шыпілы, але жыла яна так-жа і ў душы яго брата Уладыслава, а гэта пазваляе думаць, што стыхію гэту яны вынесьлі ў сьвет шырокі ад бацькоў і дзядоў сваіх.

3. Але беларускую піонэрскую сваю працу праф. Шыпіла вёў ня толькі зьбіраючы беларускія культурныя забыткі, ня толькі гадуючы беларускую моладзь, але так-жа ўмеў ён гэтую працу праводзіць больш плянова і арганізацыйна, разьлічваючы яе на далейшую мэту, на больш трываласьць. Гэткай працай было, наладжанае ім беларускае выдавецтва.

У 1906 г. у тым-жа Пецярбурзе паўстала беларуская выдавецкая супалка „Загляне сонца ў наша ваконца“ *). Мэтай гэтай супалкі, як гаворыцца ў яе статуце, было: „Выдаваць і пашыраць выданьні беларускія і ўсё, што стыкаецца з жыцьцём Беларусі“. Да супалкі гэтай належылі старыя беларускія дзеячы: цяперашні праф. Варшаўскай Політэхнікі В. Іваноўскі, Ант. Трэпка, В. Сталыгва, А. Грыневіч і інш., аднак душой яе быў праф. Шыпіла. Супалка мясьцілася ў ягонай кватэры і ён перадусім рупіўся аб яе дзейнасьці.

Супалка гэта пратрывала да 1913 году. Для беларускай нацыянальнай сьведамасьці і для беларускай культуры, як на пачатку, даканала яна дужа многа. За ўвесь час свайго шасьцігодняга існаваньня выдала яна 22 беларускія кніжкі, зьместу агульна прасьветнага, сцэнічнага і літаратурнага, а ў ліку гэтых апошніх і большасьць твораў бацькі беларускай прыгожай літарату-

*) Выд. супалка „Загляне сонца і ў наша ваконца“ заложана 13.V. 1906 г.; узноўлена была 30.IV. 1909 г. („Наша Ніва“ 1909 г., № 43).

ры В. Марцінкевіча. Гэта-ж супалка ў тым-жа Пецярбурзе ад 1912 г. выдавала беларускі літаратурна-навуковы часапіс—„Маладая Беларусь“, які, з бліжэй няведамых прычын, спыніўся ў 1913 г. Часапіс гэты выходзіў непэрыядычна, у меру таго, як быў назьбіраны матар'ял. Усяго „Маладой Беларусі“ вышла тры сшыткі па 160 бачын вялікай васьмёркі кожны.

* * *

Пасьвяцім цяпер колькі ўваг працы і жыцьцю праф. Шыпілы ў другі, парэволюцыйны, пэрыяд яго жыцьця.

Яшчэ падчас вайны, астаючыся на старых сваіх становішчах, Шыпіла, хоць ужо не ў такіх разьмерах, праводзіў яшчэ сваю звычайную беларускую працу. Варункі-ж гэтай працы цалком зьмяніліся і сталіся немагчыма цяжкімі з надыходам і паглыбленьнем вялікай расейскай рэвалюцыі і асабліва рэвалюцыі бальшавіцкай. Дык цалком зразумела, што праца Шыпілы ў міжчасе 1918—1925 г. спыняецца. Праўда прабываў Шыпіла ў гэтым часе і далей пераважна ў Ленінградзе і далей стараўся праводзіць беларускую працу, але магчымасьці гэтай працы ўжо былі невялікія, а часта й ніякія. Цярпеў у гэтым часе ў Ленінградзе Шыпіла дужа многа і што не памёр з голаду яшчэ тады, гэта заслуга беларускага работніцтва, якое рупліва ім апякавалася. Наагул у гэтым часе аб Шыпіле было ціха і глуха.

Беларускае грамадзянства ізноў даведалася аб сваім нацыянальным павадыры ў 1925 г., калі ў сталіцы Беларусі Менску ў Інстытуце Беларускай Культуры наладжваліся сякія-такія магчымасьці больш-менш нармальнай навуковай працы.

У Гэтым 1925 г., калі Шыпіла прабываў тады яшчэ ў Ленінградзе, Народны Камісар Асьветы БССР—між многімі іншымі—назначыў яго на сапраўднага сябру Інбелкульту ў Менску.

У тым-жа часе Соўнарком БССР проф. Бр. Эпімах-Шыпіле вызначыў пачэсную пэнсію.

Пасьля гэтага Шыпіла з Ленінграду прыбыў у Менск і прыступіў да навуковай працы ў Інбелкульце. („Полымя“ № 1, 1925 г., бач. 182 і 183, а так-жа № 3, бач. 167).

Сьляды яго працы ў Інбелкульце ўдалося мне напаткаць гэткія. У працах Інбелкульту: Запіскі Аддзелу Гуманітарных Навук (Кніга 2, т. I, бач. 377—380) з 1928 г. спатыкаем грунтоўную мовазнаўчую рэцэнзію Шыпілы на этнографічны зборнік Сержпутоўскага: „Казкі і апавяданьні беларусаў з Слуцкага павету“.

У тым-жа 1928 г. у кастрычніку месяцы, Інбелкульт перайтвараецца ў Беларускую Акадэмію Навук. У сувязі з гэтым гістарычным фактам у гісторыі культуры беларускага народу, на бачынах „Савецкай Беларусі“ (з дня 16 кастрычніка 1928 г.) спатыкаем наступную зацемку: „Няхай жыве маяк беларускай культуры. Для Савецкай Беларусі ўтварэньне Беларускай Акадэміі



Навук зьяўляецца бязьмерным шчасьцем. Гэта зьяўляецца актам вялікага гістарычнага значэньня на шляху стварэньня беларускае культуры.

Уся працоўная Беларусь павінна быць удзячна ўраду БССР за перайменаваньне Інбелкульту ў Беларускую Акадэмію Навук. Гэты акт робіць беларускую культуру больш вядомай за межамі. Гэта таксама дасьць магчымасьць больш глыбока і шырока разгарнуць працу па вывучэньні ўсіх патэнцыяльных сіл Беларусі.

Беларуская Акадэмія Навук стане пуцяводнай зоркай для ўсяго беларускага народу. Яна будзе сьвяціць яскравым агеньком і для тае часткі Беларусі, якая зараз ня можа прыняць удзелу ў будаўніцтве беларускай культуры, што шырока разгарнулася ў Савецкай Беларусі.

Няхай рунее Беларуская Акадэмія Навук, як маяк беларускай культуры! Праф. Б. І. Эпімах-Шыпіла“.

Далей, з 1929 г. спатыкаем выданы ў Менску ўжо Беларускай Акадэміяй Навук „Краёвы Слоўнік Чэрвеншчыны“, (гэта мае значыць—Ігумэншчыны), М. Шатэрніка, пад рэдакцыяй М. Я. Байкава і Б. І. Эпімах-Шыпілы.

* * *

Але, як ведаем, вясна беларускай культуры ў Савецкай Беларусі трывала нядоўга. Хутка на зьмену ей, мінаючы цалком лета, прышла панурая восень і сьцюдзёная зіма. Маю на ўвеце, як лёгка дагадацца, тую барацьбу маскоўскага III камуністычнага інтэрнацыяналу, які апошнімі гадамі, у імя бліжэй неакрэсьленага шчасьця працоўных, павёў жорсткую фанатычна-сэкцярскую барацьбу проціў беларускага народу, як нацыі і, што з гэтага вынікае — проціў усіх тых творчых праяваў: культурных, эканамічных і грамадзка-палітычных, якія гэтую беларускую нацыю ўгрунтоўваюць.

Вось-жа гэта хваля нішчэньня бальшавікамі беларускага народу ня мінула і праф. Шыпілы, як народу гэтага вернага сына, піонэра яго адраджэньня і гарачага патрыёта.

У рукі мае трапіла пісулька, пісаная ў гэтым часе Шыпілам ужо з Ленінграду, да ведамага беларускага дзеяча Кс. Віктара Шутовіча, які цяпер прабывае, як прывыклі мы называць, у „польскай Сібіры“—ў Хорашчы за Беластокам, а які, за сваю беларускую працу духоўнай уладай пазбаўлены парахвіі, апынуўся тады аж у Злуч. Станах Амэрыкі. Пісулька гэна вымоўна і трагічна малюе апошнія гады жыцьця дастойнага праф. Шыпілы. Вось даслоўны зьмест гэнага дакуманту: „Ленінград, 1-га лістапада 1930 г. Паважаны Зямляча! Вельмі даўно ўжо ня меў я ад Вас ані якай весткі, ды й сам я даўно ўжо ня пісаў да Вас. А здарылася гэта з незалежнай ад мяне прычыны. Прошлым летам спаткала нашу А... (Акадэмію—А. С.) вялікая бяда, ад каторай уцярпеў і я. 19-га ліпеня пасьля вобыску, у часе каторага былі забраны Вашы лісты і фатаграфія, я быў зьняволены і прасядзеў 1929

два месяцы. Выпушчанаму казана мне пакінуць Менск і я мусіў выехаць у Ленінград, дзе апынуўся выкінутым на брук, бо вось ужо месяц, як з прычыны вялікай залюднёнасьці і цяжкага жыльлёвага крызысу, не магу знайсьці сабе ня толькі кватэры, але хоць-бы пакойчыка і можа прыдзецца згінуць дзе на вуліцы ад холаду і голаду. Такім чынам не магу ўжо болі пасылаць Вам беларускія кніжкі, каторых пазбаўлены і сам. Калі атрымаеце гэту пісульку маю, то паведомце мяне адкрыткай кароценька, што Вы атрымалі, паводлуг адрасу: Ленінград . . . . . . . . . .

Дагадкі Шыпілы, што „можа прыдзецца згінуць дзе на вуліцы ад холаду і голаду", як бачым, збыліся. 6.VI. 1934 г. ён з гэтым сьветам расстаўся. Пэўне, у яго сьмерці адыграў нейкую роль і яго старэчы век, але ня меншую роль у гэтым адыгралі і варункі палітычнага ссыльнога, з роднай Беларусі выкінутага на брук Ленінграду. Характэрна, што яшчэ ў 1929 г. так цэнную 5-ці тысячную бібліятэку забралі бальшавікі для Бел. Акадэміі Навук, а сабіральніка яе выкінулі на брук. Сапраўды, якая этычная прымітыўнасьць!

* * *

Гэтак скончыў сваё жыцьцё праф. Бр. Эпімах-Шыпіла,—піонэр беларускага адраджэньня, апостал — як некаторыя яго завуць — беларускага народу, апякун беларускай моладзі, ідэовы працаўнік на ніве роднай культуры, гарачы патрыёт, высока-дастойны чалавек і ўрэшце, як трапна кажа д-р Т. Грыб, тварэц у беларускім адраджэньні пары „загляне сонца й у наша ваконца", або пары шыпілаўскай, якая папярэдзіла пару нашаніўскую.

Вялікім у гісторыі беларускага рэнэсансу ёсьць Фр. Багушэвіч, што першы стварыў беларускую нацыянальную ідэолёгію,—няменшы ад яго і — ягоны праз некаторы час сучасьнік— Бр. Эпімах-Шыпіла, што тэорыю Багушэвіча праводзіў у шэрае жыцьцё беларускага народу. Гэтым стварыў ён сабе ў народзе памятнік нерукатворны, да якога вякамі не зарасьце сьцежка травою і які трываць будзе так-жа вякамі...

---



Д-р Ст. ГРЫНКЕВІЧ.

# З зацемак аб характары Беларусаў.

Нашая публіцыстыка даволі шмат ахвяравала месца пытаньню „дзьвёхдушнасьці" ці „двоедушнасьці". Пытаньне гэтае мае сваю пазыцыю і на бачынах літаратуры прыгожае ў прозе і паэзіі. Сяньньня аднак, прынамся ў Заходняй Беларусі, некалькі вось ужо гадоў тэмы гэтае ніхто не чапае, думаю, што на нашым Усходзе яна таксама ня існуе. На гэта апошняе ёсьць свае, усім вядомыя прычыны.

„Дзьве душы"—гэта толькі адна старана пытаньня з галіны досьледаў псыхолёгічных і трэба думаць, што само зьявішча, у форме, у якой яно было абгаворвана ў нашай літаратуры, мае толькі дачасны характар на аснове агульнага развою суцэльнасьці народу, хаця бязумоўна зьявішча вельмі характэрнае і важнае.

Ня думаю спыняцца над аналізаю „дзьвёхдушнасьці", яе прычынаў, асноваў, пэрспэктываў на будучыню, а хачу падчыркнуць, што тутака мы бачылі адну із спосабаў аналітычнага падыходу да праблемы нацыянальнага характару. Спробы-ж падыходу сынтэтычнага да гэнае стараны душы народу, наскольki мне вядома, надта нялікія. І трэба сказаць, што нялікасьць гэная шкодная ў першую чаргу для нас самых.

Іншая справа, ці ёсьць даволі „сырца", з якога можна было-б пабудаваць будыніну больш менш рэальную душы народу беларускага. Кажу аб сырцы, апрацаваным навукова. Хаця зьяўляецца адначасна думка, хутчэй пытаньне, поўнае сумліваў, ці сапраўды гэныя абразы духовага быту, пабудаваныя на канве фактаў сабраных дасьледчыкамі з галіны этнолёгіі, мовазнаўства, гісторыі і г. д. больш блізкія да таго, што зьяўляецца заўсёды нечым няўяўленым ды аднаначасна найважнейшым, а на што мы кажам „душа народу", ці мо' лепш яе бачаць у вагні натхненьня людзі, што завуцца песьнярамі-прарокамі...

Тое ўсё, што мы ведаем аб Беларусе, пакідаючы на старане анэкдотычны хутчэй тып мужычка хітруна, хаця і прыбітага бядою, загнанага ўсімі, замкнёнага ў сабе ці зноў апрача таго аснаўнога тону бядульлівасьці, распаўсюджанага і праслаўленага нашымі паэтамі нядаўніх дзён, — ясна, што не адказвае поўнаму абразу чалавека.

Дык калі сяньньня і немагчыма нам даць поўнага нарысу аснаўных старон характару — гэнае свомасьці чалавека найважнейшае ў сэнсе вартасьці адзінкі ў плошчы практычнага дзеяньня яго ў жыцьці, усё-ж такі можна прабаваць уявіць тое, што магло быць зафіксаванае на бачынах беларускае характэролёгіі.

Папытаем, што гэта такое наагул характар?

Адказаў пачуем шмат. Возьмем хаця-б такі сказ Гётэ: „Жыцьцё чалавека — гэта ягоны характар"... Характар, знача,

зьяўляецца тою найважнейшаю пружынаю, якая вызначае ўсе шляхі, якая дае аканчальна рэалізацыю тых ці іншых ідэалаў і ідэяў, якая робіць больш ці менш вартасным самое жыццё.

Абойм такога акрэсьленьня вельмі шырокі, адначасна аднак рэальна паказуе, што каб сказаць нешта аб характары адзінкі, дык трэба ўзяць ейнае жыцьцё ў цэласьці. Характар—гэта свомасьць вельмі сталая, хаця адначасна быццам цякомая. Характар, як кажа адзін з вядомых псыхіятраў і псыхолёгаў (Кронфэльд), гэта нарадзіны індывідуальнае апрычонасьці ў суадносінах адзінкі з жыцьцём. Інакш кажучы, характар—гэта індывідуальная праява рэакцыі на вонкавае дзеяньне. Ня будзем уваходзіць у спрэчкі паміж адумыслоўцамі, якая розьніца паміж канстытуцыяю ў сэнсе псыхо-этнічнае асноведзі чалавецкага ці нацыянальнага „я", а тэмпэрамантам і характарам. Адно ясна, што тэза аб працяжнасьці лініі жыцьцёвае мае сваю вялікую тутака вагу. Гэта бязумоўны факт, што бяз мінуўшчыны немагчыма нічога сказаць аб будучыні, як немагчыма добра ацаніць сучаснасьць. Гэныя ўсе праявы стульна злучаны паміж сабою.

Дык дасьледжываючы беларускі характар, трэба нам зьвярнуцца да гісторыі і ў мінуўшчыні шукаць адказу на пытаньне. У гісторыі мы наглядна пабачым, што сапраўды гэнае нешта невагомае вызначае рэакцыю адзінкі і згуртаваньня большага ці меншага людзей.

Ігнат Абдзіраловіч у кніжыцы „Адвечным шляхам" падчырківае аснаўную лінію характару беларускага народу, а мяноўна „ваганьне" паміж Усходам і Заходам. Гэнае ваганьне ня будзе хістаньнем паводле аўтара, гэным тэрмінам хоча ён назваць нейкую асаблівую собскую лінію, якое трымаюцца Беларусы на сваім шляху гістарычным. Ужо першы вучоны беларускі, д-р Францішк Скарына, вызначаўся тым, што духова не належаў ані да заходу ані да ўсходу, і гэта магло паказываць, што не здаволівала яго культура ні рымская ні візантыйская, ён шукаў свае арыгінальнае лініі. Адно цікаўнае зьявішча трэба падчыркнуць у думках аўтаравых, што ваганьне, аб якім ён гаворыць, трэба разумець, як асаблівую кансэрватыўнасьць. Беларус неахвотна прымае новае, усёроўна, адкуль яно ідзе і хто яго прыносіць з сабою.

Другая рыса характару, якая кідаецца ў вочы, спыніўшысь на мамэнт толькі на падзеях гістарычных Беларусі, гэта ейная міралюбівасьць, антымілітарызм, як мы казалі-б сяньня. І вось антымілітарызм і кансэрватызм пакідаюць яркія сьляды ад самага раньняга жыцьця Беларусі, як асобнае псыхо-этнічнае адзінкі. Кансэрватызм—гэта свомасьць да некаторае граніцы агульна чалавецкая. Заўсёды можна судзіць аб чалавеку, якім ён будзе, мяркуючы паводле таго, якім ён быў дагэтуль. Рэвалюцыі мае кожны чалавек, аднак рэвалюцыя астаецца заўсёды рэвалюцыяю, значыцца нечым вынятковым, з чым трэба рахавацца пастолькі,



пасколькі. Сяньня маем ужо навучны грунт дзеля разуменьня гэнага кансэрватызму.

Беларусы, як адзінка дзяржаўная, выступаюць на арэну гістарычную даволі позна, хаця не пазьней, як іншыя славянскія племеньні, асабліва славяне ўсходняе групы. Племеньні, з якіх аканчальна вырас народ беларускі, значыцца Крывічы, Радзімічы, Дрыгавічы і Севяране, былі параськіданы сярод балотаў і лясоў, дык ня мелі быццам на першы пагляд ніякіх граніцаў і мелі яны іх адначасна ў гэных самых лясох і балотах, якія баранілі іх ад усялякіх навінак, што маглі лучыць з далёкага сьвету. Гэныя ўмовы геаграфічныя пакінулі, зразумела, сьледамкі на псыхіцы людзей. Тутака крыніца неспагаднасьці ўсяму новаму, неспагаднасьці хутчэй пасыўнае, дзеля таго, што ў гісторыі нашай нідзе не наглядаем больш яркага пратэсту. Гэта між іншым пакінула свае сьледамкі на ўсім, што толькі бачым у Беларусаў: у распарадкаваньні жыцьця ўнутранага і арганізацыі вонкавае, ці ў сэнсе рэакцыі на небясьпеку (вайна абаронная) ці імкненьня да карысьці (прыкладам вайна зачэпная).

Каб добра ацаніць павагу гэнага зьявішча, трэба ўмець глянуць на сваю гісторыю так, як яна была ў сапраўднасьці, трэба мець свае „акуляры", каб добра бачыць. Мы лішне часта глядзімо вачыма дасьледчыкаў ці афіцыяльных гісторыкаў расейскіх ці польскіх. Возьмем прыкладам факт, як трэба ацаніць слабасьць дзяржаўную чыста беларускіх твораў з пары полацкае? Ці гэта была няўмеласьць арганізавацца самым? Чаму-ж тады гэныя самыя князі ў пару літоўска-беларускую нашае гісторыі ўмеюць гэтак складна і вясьці войны і будаваць шырока культуру ў галіне праваdаўства і пісьменства? Адказ на гэта знаходзім уявіўшы сабе, што маса беларуская заўсёды ўмела вясьці сваё арганізацыйнае ўнутранае жыцьцё. Сям'я, вёска, грамада (як найніжэйшая адзінка адміністрацыйна-самаўрадавая) стаялі заўсёды надта высока і новыя ўмовы з мамэнтам новага правапарадку пасьля скасаваньня паншчыны зноў выявілі, што лепш як дзе ў іншым месцы Расейскае Імпэрыі — этнаграфічная Беларусь умела правясьці распарадкаваньне валасное гаспадаркі.

Гэны вось антымілітарызм побач традыцыяналізму, як мы сяньня казалі б, паясьняе нам тую эпоху сужыцьця ў камплексе Літоўска-Беларускае гаспадарсьцьвенасьці. Літоўскія князі сарганізавалі гэны новы дзяржаўны камплекс. Адначасна бачым мы крыху нечаканае зьявішча. Ліцьвіны заваявалі бяскроўна Беларусь, а Беларусы, быццам падняволеныя, пачынаюць кіраваць гэнаю дзяржаваю. Паясьніць гэта нехта хацеў-бы вышынёю культуры тагачаснае Беларусі і ніжэйшым роўнем яе на Літве. Але ці гэтакі адказ можа нас поўнасьцю задаволіць? Некаторыя падзеі сучаснасьці, якія адбываюцца на нашых вачох, паказуюць, што незаўсёды вышэйшая культура перамагае ў жыцьці. Ня буду паклікацца на праслаўлены ўжо сказ аднаго з польскіх прэм'ер-міністраў аб ліквідацыі беларускага пытаньня ў працягу

50 гадоў. Сучаснасьць зьяўляецца найлепшым адказам на натугі полёнізацыйныя. Суадносіны паміж чужым элемэнтам і масаю беларускаю паказываюць, што гэны загнаны гаротнік селянін умее зашчапіць свой сьветапагляд, свае абычаі насланаму з культурнаю місіяю да яго асадніку.

Дык ёсьць тады ў нявыразнасьці „хістаньня“ беларускага нейкая суцэльнасьць, сіла і трэба папытацца — ці гэта сапраўды нявыразнасьць, ці гэта мо‘ толькі іншыя адносіны да жыцьця? У гэтай сіле асыміляцыйнай ёсьць мо‘ нешта, што мерыць трэба мерамі ня розуму, а катэгорыямі рэпрэзэнтаванымі ў паэзіі... Новая пара ў развою падзеяў гістарычных на тэрыторыі беларускай у сувязі ўжо з Польшчаю вызначаецца адыходам вярхоў грамадзянства, якія губляюць свой твар нацыянальны і ў працягу некалькі стагодзьдзяў прытуляюцца да чужое ім псыхікі мазурскае. Ясна, што гэта ня была суцэльнасьць нацыі беларускае, што адкалолася ад свайго камля,—маса, шырокія сфэры грамадзянства асталіся пры берагу гэнае хвалі. Ня гледзячы на гэта „панскія“ сфэры, усе тыя вяльможы і магнаты, да канца Рэчыпаспалітае пачувалі сваю апрычонасьць. Лішне далёкаю была псыхіка людзей, якія гаварылі на тую пару аднолькаваю моваю, значыцца польскаю, у Беларусі і ў Польшчы. Няма што ўжо казаць аб мяшчанстве і сялянстве.

Я не ўваходжу ў прычыны, якія выклікалі гэныя працэсы, ці яны былі абаснаваныя і на чым былі абаснаваныя. Бязумоўна тутака, у гэнай плошчы матар‘ялістычная дыялектыка магла-б трыумфаваць, яна паказала-б і даказала-б, што шляхта беларуская імкнулася да тых здабычаў сацыяльных і клясавых, якія мела на тую пару шляхта польская.

Цікавімся мы аднак зусім не аб тым. Мы хочам знайсьці толькі адказ на тое, чым зьяўляецца і якім зьяўляецца характар Беларуса не як адзінкі, а як народу. Дык адыход цэлае клясы народу мае свой тутака асаблівы зьмест. Пасыўныя адносіны масаў паказываюць дужа добра на характар полёнізацыі. Гэта быў выплад дзяржаўнае толькі палітыкі, а ніколі нейкае вышэйшасьці, перамогі багацейшае культуры. Што вышэйшасьць культурная мела ды мае ў такіх сытуацыях адноснае значэньне —паказвае хаця-б прыклад падзеяў на польскім Шлёнску. Вялікая і багатая культура нямецкая не магла перамагчы інэртных адносінаў польскага работніка і селяніна. Калі ўжо гутарка аб вышыні культураў, дык можна папытацца, дзе яна была большая ў XIV—XV стагодзьдзях — на Беларусі, з ейнымі жывымі і сьвежымі традыцыямі з Візантыі, ці ў сярэднявечнай тагачаснай Польшчы?.. Які настрой доўга яшчэ вітае сярод сполёнізаваных сфэраў шляхоцкіх — бачым яшчэ ў Міцкевіча, прарока новае польскае эры, у сказе: „Літва, зямелька родная“...

Прыходзіць падзел Польшчы. Дзеля вышэй прыведзеных прычынаў, зразумела, што гэны мамэнт не закрануў глыбей масаў беларускіх. Астаюцца яны чужыя на лёзунгі інтэлігенцыі



польскае ці расейскае, якія хадзілі ў народ з рознымі заклікамі. Селянін беларускі не лавіў паўстанцаў у 1863 г., як гэта было нат‘ мясцамі ў каранной Польшчы. Мясцамі ён спагадна паглядаў на натугі шляхты прагнаць маскалёў, найчасьцей аднак аставаўся інэртным. Усё гэта ня была ягоная справа. Павадыры тагачасныя ішлі да народу з лёзунгамі далёкімі і чужымі, што ня ўмелі закрануць душы. Тыя павадыры і народ ня мелі супольнага языка. Яшчэ адзін прыклад з адносінаў масы і ейнае рэакцыі з апошніх дзён. Думаю тутака аб Грамадзе. Магутны ўздойм, шуканьне свае формы ўскалыхнула народам і паклікала армію ў рады сялянска-работніцкае арганізацыі. Ці гэта быў сапраўды волат на гліняных нагах, ці ў Грамадзе мо‘ было яшчэ за шмат чужога?.. Адказываць на гэта было-б сяньня захутка, сяньня маем лішне мала фактычнага матар‘ялу ў руках, каб рабіць стансўкія прысуды.

Характар адзінкі зьяўляецца выпладам спадчыны па продках з судзеяньнем асяродзішча. Тое самае трэба сказаць аб характары народу. Асяродзішчам будзе ён сам і ягоныя суседзі. Адначасна падзеі гэнага-ж чалавека ці цэлага народу паказацівамуць на ягоны характар.

Дык што можна казаць аб нашым нацыянальным характары? Апрача вышэй названых і падчыркнутых нахілаў да спакойна-кантэмпляцыўнага жыцьця і любасьці да свайго старадаўняга, трэба сказаць, што не паказаў ён аканчальнае свае формы, у якой ён быў-бы зусім сабою. Паасобныя ўздоймы рэвалюцыйныя—гэта толькі паказальнік, што ёсьць туга, шуканьне свайго шляху. Калі дагэтуль народ беларускі не праявіў у шырэйшым маштабе свайго твару, дык бязумоўна дзякуючы сваім аснаўным рысам, а перадусім вонкавым умовам жыцьця, у якіх ён дасюль знаходзіўся.

Ці гэныя аснаўныя рысы часам ня маюць у сабе прысуду на будучыню, інакш кажучы, ці ня будуць яны тым дзейнікам, дзякуючы якому народ не астоіцца перад азброеным сьветам, асабліва гэным блізкім сьветам суседзяў? Дасюлешняя практыка казала-б нам хутчэй аб тым, што гэная вонкавая нядужасьць мае ў сабе таёмную сілу апору. Жыцьцё цячэ; новыя надыходзячыя хвормы дадуць калісь і Беларусу паказаць сябе, заняць сваё месца паміж іншымі народамі.

Цяжкі шлях Беларуса быў дагэтуль, ня лёгкі ён будзе ў бліжэйшай будучыні. Мы лішне далёкія і іншыя ад сумежных з намі народаў, каб маглі лёгка знайсьці сябе самых. Зарука нашае будучыні ў дзеяньні ў сваёй собскай форме, адказываючай нашаму характару.

---

Д-р Я. СТАНКЕВІЧ.

# Асабовыя назовы па бацьку ў Беларусаў.

Як ведама, у Расейцаў і Украінцаў ёсьць асабовыя назовы па бацьку із суфіксамі — *іч*,—*овіч*, — *евіч*. Гэтак у Расейцаў *Івана Хамёнка* (сына Хамовага) завуць *Іван Фомич*, *Івана Пятронка* (сына Пятровага) завуць *Іван Пятрович*. Таксама ў Украінцаў — *Павло Петрович* Макаренко і інш. Іншыя славянскія языкі гэткіх назоваў па бацьку цяперака ня знаюць. А ў Беларусаў ці ёсьць гэтакія назовы па бацьку? Калі зьвернемся да мовы беларускага народу, дык у ёй назоваў па бацьку на—*іч*,—*овіч*,—*евіч* цяперака не пачуем. Праўда, ня вылучана, што на беларуска-маскоўскім пагранічу языковым можа быць гэткае называньне, але там яно выясьняецца маскоўскім уплывам. Але даўней да XVI стаг. ўлучна ў Беларусаў былі асабовыя назовы па бацьку на — *іч*, — *овіч*, — *евіч*. Гэта ведаем з мноства дакумантаў беларускіх, захаваных з таго часу. Дык чаму аддаць пяршынство—навіне ці старыне? Мова ёсьць зьявішчам жывым, яна разьвіваецца, хоць надта памалу, і разьвіваючыся мяняецца. Дзеля таго новым зьявам маем аддаваць пяршынство перад зьявамі даўнейшымі, умерлымі. Тут трэба аднак уважаць, каб зьмены, страта аднаго ці паўстаньне другога зьяўляліся, як рэзультат *развою*, а ня лічыць самыя зьмены развоем. Бо ня кожная зьмена—развой. Калі чалавек скалечыцца—страціць нагу, руку ці іншую часьць цела, дык гэта таксама зьмена, але ніхто яе развоем не палічыць, хоць-бы нагу дарабілі, а зубы замест „простых" касьцяных уставілі з „дабрароднага" кову—золата. Дзеля таго трэба даведацца, ці страта ў Беларусаў назоваў па бацьку на — *іч*, — *овіч*, — *евіч* зьявілася з прычынаў існуючых у самым беларускім языку ці мо' была занесена ўплывам чужым. У даным прыпадку мог-бы быць толькі ўплыў польскі, бо з моваў, аказуючых уплыў на беларускую, толькі польская ня знае назоваў па бацьку. Польская мова зрабіла ўплыў на асабовыя звароты ў Беларусаў (таксама як у Ліцьвіноў і Украінцаў). Даўнейшых нашых—*спадар*, *спадарыня*, *спадарычна*, каторыя яшчэ ў XVII стаг. даволі шырака ўжываліся, а раней праявілі экспансію, пашыраючыся ў Маскоўшчыне ў хворме *сударь*, *сударыня* *), памалу, у працягу вякоў замяніліся польскімі *пан*, *паня*, *паненка*. Гэты самы „пан" ёсьць складовай часткаю нашага неагульна-беларускага „васпан" (з „вашая міласьць пан"). Аднак зварот „пан" і нат' „васпан" ня вылучны ў беларускім языку. Ужываньне яго невялічкае ў прыраўнаньню да іншых асабовых зваротаў беларускіх. Можна сказаць, што наагул „пан" у Беларусаў ужываецца ў васносінах да „паноў", у клясавым значэньні гэтага слова, ды ў вадносінах да тых, што „выйшлі ў людзі" і з імі быццам зраўняліся *). Шмат балей за „пан" пашырана ўжываньне асабовых зваротаў „*дзядзька*, *цётка*" ў вадносінах да старшых, „*ваша*, *вашаць*" (з „вашая міласьць"). У Магілеўшчыне і Чарнігаўшчыне ды хіба ў сумежных з імі землях жанчыны адны адных завуць „*тайка*, *таечка*". З гэтага відаць, што ня „пан" выцісну ў нашыя даўнейшыя назовы па бацьку на — *іч*, — *овіч*, — *евіч*. Апрача таго „пан" і „спадар" мелі значэньне аднолькавае, дзеля таго яны ўжывацца разам доўга не маглі і пры спалячэньні вышшае шляхты беларускае і княскіх родаў мусіў перамагчы „пан", тым балей, што „спадар" меў праціўніка і з другога боку—царкоўна-славянскага, у слове „*господь*", бо словам „спадар" зварочаваліся даўней Беларусы і да Бога („спадару Божо наш", маліліся калісь). Тымчасам значэньне слова „пан" і назоваў па бацьку, хоць і падобнае, але неаднолькавае, і маглі яны ўжывацца побач. Гэта-ж раней „спадар" зусім добра ўжываўся з назовамі па бацьку. Із сказанага ясна, што беларускія назовы па бацьку на—*іч*,—*овіч*,—*евіч*, шчэзьлі незалежна ад чужога ўплыву.

Цікава аднак даведацца, што было прычынаю шчэзьненьня ў Беларусаў менаваных назоваў па бацьку. У XIV стаг. і раней асабовыя назовы на—*іч*,—*овіч*,—*евіч* (Ільлініч, Пятровіч, Смолевіч) былі толькі назовамі па бацьку, а ня прозьвішчамі. У XVI стаг. асабовыя назовы на—*іч* і г. д. былі часткова яшчэ назовамі па бацьку, а часткова ўжо прозьвішчамі. Той самы Пятровіч быў у вадным прыпадку сынам Пятровым, у другім гэта было прозьвішча. Але з часам, у меру таго, як гэтыя назовы робяцца балей і балей прозьвішчамі, яны касьцянеюць, перастаюць быць жывымі назовамі, дык і немагчыма стала іх тварыць ад бацькавага імені, а тым самым іх ужываньне як назоваў па бацьку чэзьне. Значыцца новае, прозьвішчнае значэньне разгляданых назоваў прычынілася да іх амярцьвеньня, бо калі хто незалежна ад імені бацькі будзе, прыкладам, Хадасевічам, дык гэткі назоў траціць сваё жывое значэньне, робіцца ўмоўным азначэньнем, так як гэрб. У рас. мове, дзе прозьвішчы на—*іч*,—*овіч*,—*евіч* не паўсталі, назовы па бацьку з гэтымі суфіксамі захаваліся дагэтуль. У Украінцаў адно крыху ёсьць прозьвішчаў на — *іч* і г. д. і то галоўна на паўночна-украінскіх землях, дзе яны маглі паўстаць пад беларускім уплывам. Дзеля таго ў украінскай мове захаваліся менаваныя назовы па бацьку. Былі ў старыну назовы па бацьку ў Палякоў, Чэхаў і інш. славян, аб чым сьведчаць географічныя назовы на—*ice* (Katowice), адпавядаючыя беларускім

*) З мясцовага, усходне-беларускага спудар (як і цяперака ў Смаленшчыне кажуць кувалак) па выкіненьню п паўстала судар.

*) З выняткам апошняга часу ў Зах. Беларусі, калі ўсе раптам „распанелі", сталі „панамі" й „панямі". „Паненка", праўда, была й перад вайною болей пашырана, але далёка ня ўсюдых ды й то адно ў „далікатных" зваротах дзяцюкоў. Можна спадзявацца, што гэтае „панства", як і іншыя дзівосныя навіны, з часам шчэзьне.

на *—ічы* (Баранавічы). Прычыны іх шчэзьненьня ў Палякоў і Чэхаў былі накшыя, чымся ў Беларусаў.

Страціўшы адны назовы па бацьку, Беларусы захавалі іншыя іх хвормы, із суфіксамі—***ёнак, - онак*** (з *енъкъ*), ***- ук,—ік,—(ык),*** ***—ок*** у сыноў (сын Каралёў — Каралёнак, Рыгараў — Рыгаронак, Карпаў—Карпёнак, Карпюк—Карпік, Касьцюкоў — Касьцючонак, Касьцючок, а ў дачок із суфіксамі — ***ішка*** (з — ***іщька*** з — ***іхъка***) і—***анка, — янка*** (Каралішка, Карпішка, Касьточышка, Каралянка, Карпянка, Касьцючанка). Гэтыя назовы па бацьку таксама даставалі значэньні прозьвішчаў, але не перасталі й дагэтуль ужывацца і як назовы па бацьку, бо не замерлі дзеля таго, што маюць апору ў звычайных словах, такіх, як ***маладзёнак*** і пад., ***камлюк, сябрук, турук*** (зьмяншальныя ад ***камель, сябра, тур***), ***кошык, ножык, столік, зубок, грыбок, каток***. Апрача таго назовы па бацьку із суфіксам — ***енак, — онак*** (*Міхасёнак*) належаць да сям'і назоваў дзяцей на—*нё (ня)—дзіцянё—(ня)*, піліпянё, гусянё, чарцянё і інш. Імёны на—*нё (—ня)* абазначаюць дзяцё (*Піліпянё, Куранё*), а на—***енак (—онак)*** сына (*Піліпёнак*). Дык зусім забясьпечана быцьцё назоваў па бацьку із суфіксамі — ***енак — (онак), ук — (юк), ік — (ык), ёк — (ок)***, дык-жа словамі, што не дастаюць значэньня прозьвішчаў.

Існуючыя беларускія назовы па бацьку ўжываюцца дзеля тачнейшага азначэньня таго, аб кім гутарка. Гэтак, калі ў якой мясцовасьці ёсьць колькі Міхалоў Міхневічаў, дык дзеля адразьненьня трэба называць і па бацьку—*Міхась Каралёнак Міхневічык*, а жанатага ці наагул незалежнага *Міхал Каралёнак Міхневіч*, а другога *Міхась Васілёнак Міхневічык* (або *Міхневіч*) і інш. Дзеля тачніні назоў па бацьку астанецца ў дачкі й тады, калі яна выйдзе замуж. Гэтак, калі Ганна дачка Васілёва Міхневічышка выйдзе замуж за Вайніловіча, дык яна будзе *Ганна Васілішка Міхневічышка Вайніловічыха*. Называньне гэтакае прасьцейшае, Мягчэйшае й лепшае, як ужыванае ў польскай мове Anna Wojniłowiczówna, córka Wasyla, nazwisko panieńskie Michniewiczówna.

Напасьледак трэба зацеміць, што таковыя называньні пабеларуску, як прыкл. ***Дзянісаў,—ва, Явэпаў—ва*** ня ёсьць назовамі па бацьку, але толькі прыналежнымі прыметамі. Скажуць ня толькі Міхал Дзянісоў, Марыля Дзянісова, але так-жа й конь Дзянісоў, сьвінка Дзянісова.

На падставе вышэйсказанага ясна, што асабовыя назовы па бацьку, як Антон *Міхайлавіч*, Сымон *Ігнатавіч*, і пад. сяньня зьяўляюцца чужымі ў беларускім языку і не павінны яны ўжывацца.

---



А. КЛІМОВІЧ.

# Скасаваньне паншчыны на Беларусі.

За няцэлы год, бо ў лютым—сакавіку 1936 году, міне роўна 75 гадоў ад таго часу, калі на прасторы б. расейскай імпэрыі, куды належала тады і Беларусь, афіцыяльна скасавана была паншчына. Пастанова аб гэтым была абвешчана маніфэстам цара Аляксандра II-га з дня 19 лютага (ст. стыль) 1861 году.

Ніжэй сабрана колькі ўваг аб тым, што змушала касаваць паншчыну і як гэта касаваньне адбывалася на землях этнографічна беларускіх. Згары трэба пры гэтым зазначыць, што беларускія землі ў той час адміністрацыйна падзелены былі на дзьве няроўныя часьці — усходнюю і заходнюю — і ў кожнай з іх, у справах скасаваньня паншчыны, абавязвалі хоць і падобныя, але далёка не аднолькавыя праўныя нормы. Граніцы гэтых часьцей не пакрываліся з граніцамі сучаснымі. Усходняя частка афіцыяльна называлася „беларускімі губэрнямі"; належалі да яе: уся тагачасная губэрня Магілёўская і гэтак званыя „беларускія паветы" Віцебскай губэрні, паветы: Віцебскі, Вяліжскі, Гарадзецкі, Лепельскі, Невельскі, Полацкі, Себежскі і Суражскі. Уся Смаленшчына была зарахавана да групы губэрняў „вялікарасейскіх", а беларускія паветы Чарнігаўшчыны, як і ўся Чарнігаўская губэрня, — да групы губэрняў „маларасійскіх" (чытай — украінскіх). Гэту часьць Беларусі ўмовімся называць Беларусьсю Усходняй.

Асобнымі правамі кіравана было касаваньне паншчыны ў заходняй часьці беларускіх земляў, якая ў той час ня мела йшчэ асобнага афіцыяльна-урадавага назову (пазьнейшы „Сѣв. Зап. Край") і называлася проста „Губэрні Віленская, Горадзенская, Менская". Сюды належалі так-жа гэтак званыя „ліфляндзкія паветы" Віцебскай губэрні: Дзьвінскі, Дрысенскі, Люцынскі і Рэжыцкі Да гэтай таксама групы належала і губэрня Ковенская, якую аднак, як не беларускую, мы тут не бяром пад увагу. Землі абнятыя губэрнямі: Віленскай, Горадзенскай, Менскай і „ліфляндзкай" часьцю губэрніі Віцебскай (Дзьвінск, Дрысса, Люцын і Рэжыца) ў дальшых нашых разважаньнях умовімся называць Беларусьсю Заходняй.

Падзел гэты аднак мае значэньне чыста ўмоўнае і адносіцца толькі да разгляданай тут пары 60-тых гадоў XIX стагодзьдзя.

**Прыгатаваўчая пара.**

Скасаваньне паншчыны актам 19 лютага 1861 г. ня было неспадзеўкай з чыейсь міласьці. Была гэта канечнасьць. Сам цар Аляксандар II-гі выразна сказаў, чаму ён налягаў на скасаваньне паншчыны; ён казаў, што трэба сялянам даць волю зьверху, каб яны самі не ўзялі яе зьнізу. А да гэтага хоць памалу, але няўтомна даходзіла.

Гэтак сама разумелі справу і папярэднікі, і таму, хоць карысталіся прыгоннай працай селяніна, то аднак адчувалі ўсю ненармальнасьць і тады ўжо — сто гадоў перад 1861 г. — былі

змушаны думаць аб тым, як перайсьці да палажэньня хоць больш-менш нармальнага. З падобнымі стараньнямі спатыкаемся яшчэ ў часы самага росквіту паншчыны, пры Кацярыне II-ой. Тагачасныя „стараньні“ аднак былі няшчырымі. Доказ гэтага — здарэньне пісьменьніка Радищева, каторы за апісаньне сваей „Падарожы з Пецярбургу ў Маскву“ і за апублікаваньне канкрэтнага пляну скасаваньня прыгону быў сасланы на доўгалетнюю ссылку ў Сібір *).

Агулам узята, пачынаючы ад часоў панаваньня Кацярыны II (1762—1796), пры Паўле I (1796—1801), Аляксандры I (1801—1825), Мікалаі I (1825 — 1855) і ў пачатку панаваньня Аляксандра II (1855—1881) блудзіла па галовах думка аб тым, як-бы пазбыцца адказнасьці за бязчынствы прыгону, але і захаваць някранутымі ўсе памешчыцкія землі. Іншымі словамі, тагачасныя дзеячы былі заняты „асвабаджэньнем“ сялян, але без надзяленьня іх зямлёй. Малым адступленьнем ад гэтага агульнага кірунку быў закон 1803 г. аб г. зв. „вольных хлебапашцах“, перайменаваных пасьля пры Мікалаі I у „казённых сялян“; вось-жа гэты закон пазваляў (не наказываў!) памешчыкам звальняць сялян ад паншчыны цэлымі сёламі і дварамі, за плату ці бясплатна, але канечна з зямельным надзелам **).

Пры Мікалаі I пачынаюць працаваць над пытаньнем паншчыны г. зв. „сакрэтныя камітэты“. Першы такі К-т быў устаноўлены 6 сьнежня 1826 г. пры ўчасьці ведамага дзеяча Сперанскага. Паважнейшых пладоў працы гэтых Камітэтаў ня было, бо ў склад іх уваходзілі пераважна самі толькі зацікаўленыя ўтрыманьнем паншчыны памешчыкі ды вышэйшае чынавецтва.

У гэту пару ўжо аднак пачынаюць насьпяваць іншыя пытаньні, каторыя справу прыгонных сялян выразна падганялі, хоць-бы і проці волі самых памешчыкаў. Напалеонаўскія войны пхнулі земляробскую гаспадарку б. Расеі на новыя, датуль нязнаныя шляхі. Добрыя цэны на прадукты земляробства „заахвочвалі“ памешчыкаў да палепшаньня спосабаў гаспадаркі: да завядзеньня земляробскіх машын, да лепшага абрабляньня глебы, ужываньня заводнай сяўбы і г. д. Усё гэта вымагала большых коштаў і каб яны аплаціліся, трэба было застасаваць і раўнацэнную працу людзкую. А гэтага ад чалавека прыгоннага, працуючага не з сваей волі, а з мусу, ня можна было ні спадзявацца, ні вымагаць. Дзеля гэтага ў тагачасным грамадзянстве аўтаматычна паўстала пытаньне аб выгаднасьці для самых памешчыкаў ужываць у дварох вольнанаёмную працу.

Да звальненьня прыгонных сялян на волю было аднак яшчэ далёка і ў найлепшым прыпадку пачалася толькі замена прыгону (работы) на грашовы чынш (аброк).

*) Рожков: Исторія крѣпостного права в Россіи, Растоў н/Д. 1905 г., бач. 38.

**) Рожков: там-жа, бач. 40.



Пры пачатым працэсе аднак ня можна было ўжо астанавіцца на поўдарозе—трэба было йсьці далей—да поўнай замены прыгону на працу вольнанаёмную. Інакш, гразіў упадак усей сыстэме тагачаснай гаспадаркі. Некаторыя з памешчыкаў ратаваліся паваротам з чыншу ў прыгон і павялічваньнем прыгонных павіннасьцяў. Прывяло гэта ў 1844 г. да ўстанаўленьня з боку ўраду на зах. беларускіх землях (Віленшчына, Горадзеншчына, Меншчына) ведамых Інвэнтарных Камітэтаў, „заданьнем якіх было сьпісаць усе прыгонныя забавязаньні і правы сялян перад дварамі ў кожным паасобным выпадку, у кожнага памешчыка. Гэтак устаноўленых забавязаньняў ня можна было адгэтуль ні зьмяняць, ні павялічываць“ *).

Апрача паказаных прычын прыватна-гаспадарскіх, былі йшчэ і справы іншыя, у каторых зацікаўлена была царская казна і наагул дзяржава. Злоўжываньні прыгонных парадкаў спанукалі сялян да адкрытых бунтаў, лік якіх пры цары Мікалаі І-ым узрос да 556 **). А гэта, пры насьпяваўшай небясьпецы звонку—Крымская вайна—было для ўраду вельмі небясьпечным. Да таго-ж гаспадарскае жыцьцё ўсё больш замірала, падаткі памешчыкамі не плаціліся, казна пуставала. Промысел і гандаль, пры фатальных шляхох спалучэньня (дарогах), былі таксама ў упадку. Для падняцьця і ажыўленьня ўсяго гэтага патрэбны былі супольныя сілы ўсяго народу, які наўперад аднак мусіў быць вольным.

**Рашучыя меры.** Словам, усё вымагала скасаваньня паншчыны. К чэсьці памешчыкаў з беларуска-літоўскіх зямель трэба сказаць, што яны, хоць перадусім у сваім собскім інтарэсе і пасвоему разумеючы, але ўсё-ж адны з першых з б. царскай Расеі адкрыта выступілі з дамаганьнем вырашэньня сялянскага пытаньня ***). Шляхта зямель гістарычна-літоўскіх (Віленшчына, Ковеншчына, Горадзеншчына) выступала з такімі дамаганьнямі йшчэ ў 1807 і 1818 гадох ****), Смаленскае дваранства дамаганьнем устанаўленьня ў іх Губэрнскага Камітэту для сялянскіх справаў выступіла ў 40-вых гадох мін. ст. *****). Але найбольш важкім для справы скасаваньня паншыны ўва ўсёй б. Расеі было выступленьне шляхты з прастору Віленскага генэрал-губэрнатарства падчас каранацыі цара Аляксандра II у 1857 г. Дамаганьні гэтай шляхты асвабаджэньня сялян ад паншчыны, але без зямлі на ўласнасьць, а толькі з правам карыстаньня ёй на падставе інвэнтарных апісаньняў, былі сьпісаны на сойміку

*) „Калосьсе“, кн. I, бач. 53.

**) Н. Рожков: там-жа, бач. 43.

***) Выперадзілі беларуска-літоўскіх памешчыкаў толькі бароны Курляндыі, дзе ўжо 25.VIII. 1817 г. быў выданы закон аб скасаваньні паншчыны, але без зямельнага надзелу (Pamiętniki J. Gieysztora“, том I, бач. 64).

****) Z. Ludkiewicz: „Podręcznik polityki agrarnej“, том I, бачына 70, Варшава, 1932 г.

*****) Рожков: там-жа, бач. 43.

гэтай шляхты ўлетку 1857 і ў верасьні таго-ж году былі ўручаны цару асабіста Віленскім ген.-губэрнатарам Назімавым. Паслужыла гэта падставай да ведамага царскага рэскрыпту на імя ген.-губэрнатара Назімава з дня 20 лістапада 1857 г. *). Быў гэта афіцыяльны пачатак вялікай рэформы.

Далёка было йшчэ ў гэтым рэскрыпце да сапраўднага скасаваньня паншчыны: прызнавалася ў ім права ўласнасьці памешчыкаў на ўсю зямлю, але сялянам дадзена было права выкупу на ўласнасьць самай сялібы з агародамі ды права карыстацца пэўным абшарам аромай зямлі, сенажацяў і лесу за аброк або прыгон на карысьць памешчыка і далей, пазвалялася сялянам арганізаваць свой вясковы самаўрад, выбіраць солтысаў і г. д., але над усім і далей захоўвалася панская паліцыя і суды.

Мала гэта было, але пачатак быў зроблены і водступу ня было. Апошні „Сакрэтны Камітэт", устаноўлены 3.І. 1857 г., у пачатку наступнага 1858 г. быў перайменаваны ў „Галоўны Камітэт для сялянскіх спраў", каторы не бяз урадавага націску арганізаваў, натуральна—памешчыцкія г. зв. „Губэрнскія Камітэты" для сялянскіх спраў.

Ад часу, калі на чале „Галоўнага Камітэту" стаў мікалаеўскі генэрал-ад'ютант Я. І. Ростовцев, пад уплывам Мілютина ў праграму дзейнасьці Галоўнага Камітэту былі паложаны наступныя пункты: 1) асвабаджэньне сялян бяз выкупу іхняй асобы, 2) арганізаваньне вясковага самаўраду без памешчыцкай („вотчыннай") паліцыі і юстыцыі (судоў) і 3) асвабаджэньне сялян з зямлёй (сялібы, поле, луг, лес і г. д.).

Усьлед за гэтым былі сарганізаваны тры г. зв. Рэдакцыйныя Камісіі: 1) для утварэньня агульных праўных асноваў аб сялянах, што выйшлі з паншчыны, 2) для утварэньня такіх-жа асноваў памесных і 3) для падрабязнага апрацаваньня спосабу выкупу зямлі. Для абсуджэньня (але не пастанаўленьня) працы Рэдакцыйных Камісіяў двойчы былі вызваны прадстаўнікі „дэпутаты" ад Губэрнскіх Камітэтаў. Гэтыя прадстаўнікі, а таксама і Галоўны Камітэт (пасьля сьмерці Ростовцева ў пачатку 1860 г.) вельмі абрэзалі праекты сялянскіх надзелаў і паднялі выкупную за іх плату. Яшчэ больш зьмяніліся на горшае варункі надзелу ў Дзяржаўнай Радзе („Государственный Совѣт"), дзе ўрэшце 7 лютага 1861 г. **) разгляд праекту закону быў закончаны і 19 лютага падпісаны ведамы „маніфэст", аб'яўлены 5 сакавіка 1861 г. У Вільні і Віленшчыне гэты акт быў абвешчаны толькі 9-га сакавіка 1861 г. ***).

---

*) Pamiętniki J. Gieysztora, том I, бач. 56, Вільня 1913 г.

**) П. И. Лященко: История Русского Народного Хозяйства—Масква — Ленінград 1930 г.

***) „О дѣйствіях Виленского Губернского по крестьянским дѣлам присутствія", Віленскі Архіў: K. G. G., 1861—1862 г. № 931.



Гэтак скончыўся ў нас адзін з многіх этапаў,—але не апошні,—барацьбы за зямлю і за волю.

**Важнейшыя пастановы рэформы 19.II. 1861 г.**

Пасьля афіцыяльнага скасаваньня паншчыны ўсё гаспадарчае жыцьцё — часткава і самаўрадавае—кіравалася: агульным законам („палажэньнем") аб сялянах, што выйшлі з паншчыны, памеснымі законамі, асобнымі для беларускіх земляў на ўсходзе і асобнымі на заходзе і шмат іншымі, спэцыяльнымі. Ацэнка гэтых законаў вымагала-б сьпісаньня цэлых тамоў. Да атрыманьня зямлі, паводле выдадзенага закону, былі ўпаважнены толькі тыя поўналетнія паншчызьняныя гаспадары, якія былі ўпісаны ў агульна расейскі перапіс („рэвізію") 1858 г. Аб самым-жа надзеле агульна можна сказаць, што ён быў так абмяркаваны, каб мог толькі прывязаць сялян да зямлі і гэтым самым забясьпечыць памешчыкам танныя работніцкія рукі ды пазволіць ім здаваць зямлю ў арэнду за нячувана высокую цану.

Афіцыяльна паводле закону з 19.II. 1861 г. сяляне да часу ўстанаўленьня „устаўных грамат" *) асталіся на тых гаспадарках, дзе яны былі прад „асвабаджэньнем" і адраблялі за гэта пастарому паншчыну ці плацілі чынш умоўлены ў інвэнтарных апісаньнях.

У справе выкупной цаны закон устанаўляў цьвёрдую цану толькі на сялібы і агароды, а аб рэшце трэба было селяніну „вольна" ўгаварвацца з памешчыкам. Пры выкупе зямлі асабліва цяжкай для сялян была г. зв. с ы с т э м а г р а д а ц ы й, паводле якой першая дзесяціна надзелу цанілася як палова ўсяго надзелу, другая дзесяціна — як чвёртка гэтага надзелу, а ўся рэшта разам узятая — таксама як чвёртка. Пры гэтай сыстэме выкупу памешчыкі фактычна бралі забаронены афіцыяльна выкуп асобы селяніна.

Тых сялян, каторыя „дабравольна" адказваліся ад права на надзел, закон пазваляў надзяліць чвёрткай належнага ім надзелу, але бясплатна. Скарысталі з гэтага асабліва буйныя памешчыкі, а сяляне—„дарственьнікі"—сталіся першымі кандыдатамі ў батракі і да жабрачай торбы.

Выплата надзелу была так абдумана, што селянін меўся сплачываць свой надзел казьне ў працягу 49 гадоў, а казна сама разрахоўвалася з памешчыкамі. Гэтак устаноўленая сплата мелася кончыцца толькі ў 1932 г., але скончылася ўжо па першай расейскай рэвалюцыі ў 1905 г.

Устанаўляўся ўрэшце вясковы самаўрад, з сваімі сходамі і сваім валасным судом.

---

*) „Устаўныя граматы" гэта нібы „купчыя" на сялянскія надзелы. Мусілі яны быць кончаны за 2 гады ад часу выданьня закону, г. зн. да 19.II. 1863 г.

**Памесныя законы для беларускіх зямель.**

Памесны закон для ўсходніх беларускіх земляў — аднолькавы з законам для земляў вялікарасейскіх — устанаўляў два разьмеры надзелаў: вышэйшы і ніжэйшы. Ніжэйшы надзел раўняўся аднэй трацiне надзелу вышэйшага. Вышэйшы надзел у гэтай часьці Беларусі па паветах прадстаўляўся гэтак: па $3^1/_2$ дзесяціны *) у Смаленскім павеце, па 4 дзесяціны—у паветах: Мсьціслаўскім, Ельнінскім, Красенскім і Рослаўскім; па $4^1/_2$ дзесяціны—у паветах: Віцебскім, Лепельскім, Невельскім, Себескім, Гомельскім, Клімавіцкім, Капыскім, Магілеўскім, Аршанскім, Сеньнінскім, Чаўскім, Чэрыкаўскім, Бельскім (Смал. губ.), Дарагабускім, Духаўшчынскім і Парэцкім, па 5 дзесяцін —у паветах: Гарадзецкім, Полацкім і Сураскім і па $5^1/_2$ дзесяцін —у паветах: Вяліскім, Быхаўскім і Рагачэўскім.

За ўстаноўлены такім чынам вышэйшы надзел той-жа закон устанаўляў наступны аброк: па 8 руб. — у беларускіх паветах Віцебшчыны і ў паветах: Бельскім, Дарагабускім, Духаўшчынскім, Ельнінскім, Красенскім, Парэцкім, Рослаўскім і Смаленскім—Смаленскай губ., па 9 руб. ува ўсей Магілёўшчыне.

Прыгону (работы) за адзін вышэйшы надзел у тэй самай часьці беларускіх земляў назначалася 40 дзён мужчынскіх і 30 дзён жаноцкіх.

Варункі надзелу і сплаты ў беларускіх паветах Чарнігаўшчыны былі іншыя. І так: у паветах Старадубскім і Чарнігаўскім вышэйшы надзел і агародняй зямлі выносіў 4 дзесяціны, а вышэйшы разьмер пешага ўчастку (?) польнай зямлі — 6 дзесяцін. Адпаведныя надзелы ў паветах: Мглінскім, Сураскім і Навазыбкаўскім былі $4^1/_2$ дзесяціны і 7 дзесяцін. За дзесяціну польнай зямлі ў першых двух паветах законам у год было назначана 14 дзён прыгону або 1 руб. 60 кап. чыншу, а ў апошніх трох паветах—12 дзён прыгону або 1 руб. 40 кап. чыншу.

На заходня-беларускіх землях павіннасьці сялян за надзел і далей, да часу „ўстаўных грамат“, кіраваліся забавязаньнямі Інвэнтарных Камітэтаў, з нязначнымі толькі аблягчэньнямі, касуючымі павіннасьці дадаткавыя і рачовыя. Рабочы дзень улетку рахаваўся 12 гадзін, а ўзімку—9 гадзін. У „ліфляндзкіх“ паветах Віцебшчыны (Дзьвінск, Дрыса, Люцын, Рэжыца) лік працоўных дзён за надзел калыхаўся ад 12 да 23, залежна ад таго, да каторай з 9-цёх катэгорыяў належаў дадзены двор.

Абавязкі чыншовых сялян на зах.-беларускіх землях аблічаліся, паводле закону, на падставе агульнай вартасьці (ў грашах) павіннасьцяў запісаных у інвэнтарным апісаньні, але ня больш 3 руб. за дзесяціну надзелу. Тыя-ж абавязкі сялян за дзесяціну надзелу ў Віцебскіх паветах калыхаліся, залежна ад катэгорыі двору (1—IX), паміж 1 р. 65 кап. і 3 руб.

*) На „рэвісскую душу“, г. зн. на поўналетняга мужчыну запісанага ў 1858 годзе.



Усё гэта толькі сухія нормы закону, які меўся абавязываць на нашых землях ад 19.II. 1861 г. Жыцьцё аднак шмат зьмяніла, аддаючы кіраўніцтва сялянскім пытаньнем таго часу ў рукі перадусім гэтак званых „Губэрнскіх канцэлярыяў для сялянскіх справаў *). Рассьледаваньне архіваў гэтых установаў—сягоньня на вялікі жаль мала, а па часьці і зусім недаступных — павінна кінуць больш сьвятла на цэлую справу. Сягоньня-ж, ацэньваючы самы акт 19-га лютага 1861 г. з пэрспэктывы трох чвертак стагодзьдзя, ня можна ня прызнаць працы і добрай волі тых людзей, каторыя гэты закон стараліся правесьці.

На сваю пару быў гэта пачын не малы. Каб скасаваць аднак паншчыну і ўсё, што з ёй лучылася, самага толькі закону было йшчэ мала. Для сапраўднага раскрэпашчэньня сялянства патрэбны былі сільныя людзі, якія падчас узрастаньня на сіле рэакцыйных колаў ня мелі доступу да ўрадавых установаў. Таму іскра волі тлела аж да часу 1-ай (1905-6 г.) і асабліва 2-ой (1917 г.) расейскай рэвалюцыі, выбухаючы падчас гэтай апошняй у вялікі пажар, які не загас яшчэ да сягоньня і які напэўна не супакоіцца датуль, пакуль чалавек наш ня толькі на словах, але і на дзеле не перастане быць прыгонным нявольнікам ды не зажыве на сваей зямлі, як непадзельны гаспадар.

---

# Кнігапіс.

**Міхась Лынькоў: „На чырвоных лядах“, повесьць, кніга першая — „Ціхія сялібы“. Менск 1934 г. бачынаў 322.**

Малады беларускі пісьменьнік Міхась Лынькоў, знаны дасюль з сваіх высокамастацкіх апавяданьняў, прыступіў цяпер да вялікае повесьці „На чырвоных лядах“, якой частка першая п. н. „Ціхія сялібы“ выйшла ўжо ў сьвет. Гэты твор вышынёй свайго артызму як і літаратурнай культурай аўтара належыць да ліку найлепшых беларускіх повесьцяў і дзеля гэтага варта над ім шырэй задзержыцца.

Першую рэцэнзію гэтае повесьці даў Якуб Колас у першай кніжцы „Полымя Рэвалюцыі“ за 1934 год, разглядаючы твор Лынькова з пункту гледжаньня марксаўскае крытыкі, г. зн шукаючы ў ім перадусім утылітарных вартасьцяў, а амаль зусім памінаючы яго вартасьці артыстычныя. Мы пастараемся падыйсьці да гэтае повесьці з гледзішча артыстычнага, уважаючы згодна з сучаснай заходня-эўрапэйскай крытыкай, што вартасьць літаратурнага твору залежыць не ад ідэолёгіі, у ім выражанай, але ад яго мастацкасьці. Ды ўрэшце іначай цяжка нам падыходзіць да літаратурных твораў, што выходзяць у Радавай Беларусі, дзе

*) „Губернскія по крестьянским дѣлам присутствія“.

дзякуючы жорсткаму палітычнаму рэжыму аўтары вельмі часта мусяць праводзіць такую думку, якая для іх самых ёсьць чужой і якой з прыемнасьцю выракліся б пры іншых абставінах.

У першую чаргу трэба адцеміць, што Лынькоў, дзякуючы вялікім літаратурным здольнасьцям, патрапіў стварыць повесьць новага тыпу, адказуючую вымаганьням сучаснае эстэтыкі, прыгэтым добра апанаваў тэхніку вялікшага літаратурнага твору. Агульны характар повесьці ёсьць эпопэічны. Аўтар дае нам малюнак жыцьця беларускага прыдняпроўскага мястэчка ў часы сусьветнае вайны, перад самай рэвалюцыяй. Гэты малюнак ёсьць поўны, тыповы і рэпрэзэнтатыўны для дадзенае пары, бо аўтар вельмі шырака й рэалістычна закрануў цэлы рад жыцьцёвых пытаньняў і праблемаў, паказаў вельмі вялікі лік, можа нават за вялікі, розных тыпаў сялянскіх, жыдоўскіх, чыноўніцкіх, духоўных, не забываючыся нават аб уцікачох з Горадзеншчыны і аб пленных аўстрыяках. Гэтае грамадзянства прадставіў аўтар зусім натуральна, у плошчы соцыяльных узаемаадносінаў, паказваючы з аднаго боку масу эксплёатаваную, а з другога—самых эксплёататараў, з пасярод якіх асабліва рэалістычна намаляваў кулака Цыбала і некулькі жыдоў-местачкоўцаў. Паміма нязвычайна вялікага ліку пэрсонажаў, повесьць ня робіць уражаньня пераладованай, бо кожная асоба мае сваё месца, кожная думае пасвойму і мае іншы знадворны выгляд. Аўтар з вялікаю ўмеласьцю патрапіў углыбіцца ў псыхолёгію беларускага селяніна і жыда-местачкоўца і дзеля гэтага ягоныя тыпы зьяўляюцца проста ўзятымі з жыцьця.

Усе асобы зьяўляюцца ўмела ўплеценымі аўтарам у акцыю повесьці і паказаны на шырокім і багатым фоне знадворнага быту беларускага сялянства і яго звычаяў. Няма тут амаль ніводнага абраза ці сытуацыі, зьвязаных з вясковым жыцьцём, якія-б ня былі паказаны ў асьвятленьні тыпова беларускім. Ці гэта будзе апісаньне ўнутранага сямейнага жыцьця, хатніх сварак і клопатаў, ці жыцьця больш агульнага,—як сялянскія сходкі, фэст царкоўны,—ці ўрэшце палявой працы або сьвяточнага адпачынку,—усюды вельмі выразна зарысоўваецца беларускі бытавы малюнак. Маючы наўвазе прадставіць поўны й рэалістычны абраз беларускага жыцьця, аўтар не апісвае выпадкаў і здарэньняў нязвычайных, рэдкіх, агранічваючыся амаль выключна да зьяваў штодзенных, шэрых, якія з кожным днём прыносіць жыцьцё. Прыгэтым Лынькоў ніколі не стараецца ідэалізаваць беларускага сялянства, наадварот, прадстаўляе яго такім, якім яно ёсьць, апісваючы яго добрыя й благія бакі. Усё гэта прыдае повесьці высока рэалістычны характар, якім апраўдываюцца некаторыя вульгарныя выражэньні і звароты, што спатыкаюцца ў повесьці, а за якія абураецца Колас. Гэтая рэалістычная бытавая абрысоўка, побач з умелым адбіцьцём сялянскай псыхолёгіі, стварае такое ўражаньне, што повесьць Лынькова зьяўляецца асабліва бліскай і мілай для беларускага чытача; калі-б



яе, здаецца, перакласьці на чужую мову і даць прачытаць чужніку, які ня знае беларускага сялянскага жыцьця, то выдалася-б яна для яго бледнай і аднастайнай.

Калі глянуць на кампазыцыю повесьці, то і тут заўважым цікавае зьявішча, у значнай меры ўзалежненае ад вельмі шырокага бытавога малюнку твору. Агульнай фабулы, як і аднаго ці некулькіх галоўных герояў, каля якіх гуртаваліся-б усе эпізоды і матывы повесьці, у „Ціхіх сялібах“ няма зусім, а ўспомненыя абразкі й эпізоды можна часам перастаўляць з аднаго мейсца на другое, што нічым повесьці не пашкодзіла-б. Такі тып эпічных твораў у новай сусьветнай літаратуры спатыкаецца вельмі часта; у нашай літаратуты можна ўспомніць хоць-бы камэдыю Я. Купалы „Тутэйшыя“, якая фактычна ня мае т. зв. драматычнага вузла, ня мае дзеяньня, а ўся яе сцэнічнасьць палягае выключна на прадстаўленьню найбольш характэрыстычных тыпаў сучасных аўтару людзей і іхніх паглядаў на сьвет. Другое, што варта адцеміць у будове повесьці, гэта яе вялікая зьлітнасьць. Тут мы ня знойдзем доўгіх і нудных абразоў і апісаньняў, як напр. у повесьцях Ц. Гартнага. Дзеяньне тут разгортваецца шыбка, аўтар ніколі доўга не задзержываецца над адным прадметам. Напр. абразы прыроды, якія ў Коласа вельмі шмат займаюць месца, тут прадстаўлены коратка, але затое метка і выразна. Гэтак сама характэрызуе Лынькоў свае асобы ўсяго толькі некулькімі словамі, але гэтыя асобы, дзякуючы адпаведным прыраўнаньням, зарысоўваюцца ў нашым выабражэньні вельмі выразна, напр.: „На клірасе дзяк пеў. Сухі, як тая трэска, ён выгінаўся ўюном, над дзяўчатамі камандаваў і над сухарукім Яўхімам“. Усяго некулькі слоў патраціў аўтар, каб паказаць сухога, як трэску, дзяка, што выгінаецца ўюном перад хорам. І гэтак усюды.

Лынькоў на акружаючы сьвет і людзей стараецца глянуць праз прызму хараства. Шматлікія абразкі з штодзеннага сялянскага і жыдоўскага жыцьця, непазбаўленыя жыцьцёвай шэрасьці і аднастайнасьці, а часам агіды, якія, здавалася-б, павінны выклікаць адʼемныя эстэтычныя ўражаньні, выходзяць у Лынькова вельмі поэтычна. У сваім адчуваньні красы там, дзе яе для звычайнага вока няма, пісьменьнік падобны да М. Багдановіча, які ў постаці вясковай дзяўчынкі „ўпэцканай, і хілай, і худой“, бачыў абраз Рафаэляўскай Мадонны („У вёсцы“). Гэтая рыса вельмі характэрная для Лынькова, дзеля гэтага прыгледзьмася ей бліжэй. Напрыклад абдзёрты і запэцканы жыд выдаецца аўтару прыгожым у сваей няпрыгожасьці: „У Іцкі агнём гараць на сонцы і доўгая рудая барада, і космы валос, і пераліваецца ўсімі вясёлкавымі колерамі прамусоленае крысо залапленага, зашытага і перашытага адзеньня“. Вельмі цікавы абраз, у якім аўтар апісвае багаслужэньне ў царкве. Згодна з савецкімі вымаганьнямі аўтар павінен чарніць рэлігію і змагацца з ей, а тымчасам Лынькоў з любасьцю ўглядаецца на абраз багаслужэньня ў цар-

кве, які цікавіць аўтара перадусім з боку мастацкага: „Адны стаялі ўнурыўшыся і падцягнуўшы сухія паблеклыя вусны, узіраючыся туды, дзе грала сонца пазалотаю аўтара, адкуль расплываліся блакітныя клубы салодкага дыму, адкуль чашу поп выносіў, дзе адчыняліся і зачыняліся залатыя палавінкі дзьвярэй з чырвонай заслонай. Старэйшыя варушылі вуснамі і ў шэптах тых усё больш Багародзіца была, дзева тая прачыстая, Мацер Божая".

Напасьледак коратка трэба зьвярнуць увагу на стыль і мову повесьці, якая таксама прадстаўляе не малую цікавасьць. У стылю, як і ў іншых элемэнтах повесьці, знаць вялікі рэалізм і імкненьне ўлавіць і перадаць памастацку тон і характар народнае мовы. Але апрача гэтага ў стылю Лынькова ёсьць і нешта зусім асаблівае, часамі ён выдаецца вельмі аднастайным і манатонным, часам чуваць у ім архаічны лад, але разам з гэтым адзначаецца ён мілагучнасьцю і плаўнасьцю. У мове Лынькова спатыкаем вельмі многа магілеўскіх правінцыяналізмаў, з пасярод каторых ёсьць многа нязнаных у літаратурнай мове. З гэтае прычыны Я. Колас зрабіў закід Лынькову. На наш пагляд пісьменьнік у гэтым не памыліўся, бо ягоная мова суладна гармонізуе з высока рэалістычным характарам повесьці і моцна падчырківае яе лёкальны грунт дзеяньня. І Міцкевіч у сваіх польскіх творах многа ўжываў беларускіх словаў і выражэньняў, якія артыстычна былі апраўданымі і дзеля якіх ніхто з польскіх дасьледчыкаў яму закідаў не рабіў.

З гэтых агульных увагаў вынікае, што „Ціхія сялібы" ў разьвіцьці беларускае повесьці займаюць выдатнае мейсца, як твор вялікае артыстычнае вартасьці. Аўтар повесьці, Міхась Лынькоў, стаўся адным з найздальнейшых сучасных пісьменьнікаў побач з Міхасём Зарэцкім, Кузьмой Чорным і многімі іншымі беларускімі прозаікамі Усходняе Беларусі. **Ст. Станкевіч.**

---

**„Księga pamiątkowa ku uczczeniu czterechsetletniej rocznicy wydania Pierwszego Statutu Litewskiego** pod redakcją doktora Stefana Ehrenkreutza, Wilno 1935, Rozprawy Wydziału III Towarzystwa Przyjaciół Nauk w Wilnie, Tom VIII, str. 362".

Як паказывае сам назоў і кароткая прадмова рэдакцыі, кніга гэта была распачата яшчэ ў 1929 г. з прычыны прыпадаўшых у ім 400-тых угодкаў І Літоўскага Статуту. Няспрыяючыя абставіны перашкодзілі выдаць яе раней як у сёлетнім годзе і ў разьмеры меншым, чымся намерана. У кнізе зьмешчаны працы выдатных польскіх гісторыкаў і праўнікаў. Працы прысьвечаныя аналізе І Літоўскага Статуту невялікія і разглядаюць паасобныя праўныя інстытуцыі Статуту. Гэтак праф. Фр. Боссоўскі разглядае квэстыю ўлады бацькоў пазбаўляць дзяцей спадчыны ў прыпадках цяжкай з іхняга боку зьнявагі, Кароль Караны разглядае некаторыя пастановы Статуту ў галіне права каральнага, Рафал Таўбеншляг разглядае квэстыю позву ў І і ІІ Статутах і ўрэшце Station Станіслаў Пташыцкі ў двух артыкулах закранае ўжо ІІІ Літоўскі Статут („Pierwsze wydanie trzeciego Statutu i jego przeróbki" і „Konfederacja Warszawska 1573 r. w trzecim Statucie Litewskim").

Вялікшае значэньне маюць і падрабязьней распрацаваны артыкулы на тэмы гістарычныя. З іх трэба перадусім адцеміць працу Яна Адамуса пад наз. „Państwo Litewskie w latach 1386—1398". Аўтар разглядае тут праблему інкорпарацыі гістарычнае Літвы да Польшчы на аснове акту Крэўскае вуніі. Дзеля таго, што ў гэтым годзе прыпадае юбілей Крэўскае вуніі, праца Я. Адамуса ёсьць асабліва актуальнай. Дагэтуль ды й цяпер у польскай гістарычнай навуцы пануе пагляд, быццам Крэўская вунія пазбавіла гістарычную Літву (г. зн. Беларусь) яе дзяржаўнае самастойнасьці і зрабіла з яе звычайную польскую правінцыю, а толькі салінскія здарэньні 1398 г. ці акты віленска-радамскія 1399—1400—1401 гадоў вярнулі йзноў Літве ейную дзяржаўнасьць. Гэты пагляд зьяўляецца зьместам г. зв. „тэорыі інкорпарацыі" Літвы да Польшчы, якой найгалаўнейшым прадстаўніком у польскай гістарычнай навуцы быў А. Левіцкі. Паўстала-ж гэта тэорыя дзеля таго, што няма беспасярэдніх доказаў, быццам існаваў агульны акт інкорпарацыйны, які ўлучаў Літву да Польшчы як правінцыю. Абаронцы інкорпарацыі маглі апірацца толькі на гіпотэзах, дзеля абаснаваньня каторых шукалі тых ці іншых гістарычных здарэньняў.

Ян Адамус у сваей працы вельмі падрабязна і пераконываюча зьбівае прынятыя дагэтуль аргуманты за тэорыяй інкорпарацыі. Перадусім-жа аўтар адрозьнівае два паняцьці сярэднявечнае інкорпарацыі ў форме ўлады беспасярэдняе ці пасярэдняе над тэрыторыяй інкорпорованай і кажа, што калі і прыняць за факт інкорпарацыю Літвы да Польшчы ў 1386 г., дык магла-б гэта быць толькі інкорпарацыя пасярэдняя. Наагул-жа Адамус уважае, што адзінага інкорпарацыйнага акту ня было, але былі меншыя акты і кожны з іх зьдзейсьніваў часткова інкорпарацыю на малой тэрыторыі. Дзеля гэтага аўтар з усіх дасюлешніх аргумантаў за інкорпарацыю выбірае фактычна адзін. Ёсьць ім г. зв. „гомогіяльныя акты" літоўска-бел. князёў з 1386 — 1398 гадоў. У гэтых-жа актах, паводле інтэрпрэтацыі праф. Бальцэра, літоўска-бел. князі выказывалі адзнакі падданства (hołdu) ня толькі Ягайлу, але і Ядвізе і асабліва Польскай Кароне. З гэтага быццам і выплывае вывад, што гэныя князі паасобку прызнавалі сваю залежнасьць ад кароны, а дзеля таго інкорпарацыя ў сэнсе „ўлады пасярэдняе" была і правялася паступова прынамся адносна тэрыторыяў гэтых князёў.

Трэба аднак зацеміць, што калі аўтар вельмі ўдала зьбівае аргуманты за існаваньнем адзінага інкорпарацыйнага акту, дык

выдаецца рызыкоўным апіраць частковую інкорпорацыю, у разуменьні аўтара, толькі на ўспомненых актах гомогіяльных. Перадусім, сам аўтар добра зьмяншае іхняе значэньне, калі кажа, што знаходзяцца яны ў якойсь мала выразнай сувязі з венам (wianem) для Ядвігі на землях беларуска-літоўскіх. Факт запісу Ягайлай на карысьць Ядвігі вена на абясьпячэньне ейнага пасагу (хоць-бы гэтага пасагу й ня было) не падлягае сумлеву. І правільна аўтар далей заўважае, што сучасьнікі лучылі адносіны Польшчы да Літвы з адносінамі пасагу да вена. А калі-ж беларуска-літоўскія князі ў успомненых актах і зьвярталіся апрача Ягайлы і да Ядвігі, дык гэта ня можа быць бясспрэчным доказам інкорпорацыі, бо асоба Ядвігі юрыдычна ня была ім чужой. Наступна няма зусім згоднае інтэрпрэтацыі гомогіяльных актаў і квэстыя гэтая вымагае свайго дасьледаваньня. Урэшце супроць прыняцьця інкорпорацыі нават частковай і ў разуменьню аўтара (форма пасярэдняга ўладаньня) сьведчыць і той факт, што ў пазьнейшых актах, якія гэтую інкорпорацыю быццам касуюць, няма аб ёй успаміну (а гэта-ж было-б здарэньне першараднае вагі), хоць гэтыя акты зьявіліся праз 12 гадоў, значыцца ў часе, калі памяць аб ёй павінна была-б быць асабліва жывой. Можна было-б прытачыць яшчэ аргуманты супроць інкорпорацыі, але і вышэй пададзеныя прамаўляюць затым, што гіпотэза інкорпорацыі нават юрыдычнай ёсьць надта слаба абаснаванай, фактычнае-ж інкорпорацыі бязумоўна ня было.

Гэнрык Лоўмянскі даволі падрабязна спыняецца над асновамі грамадзкімі і гаспадарчымі вуніі („Uwagi w sprawie podłoża społ. i gosp. unji jagiellońskiej"). Аўтар апіраецца часткова і на ўспомненай вышэй працы Адамуса, аднак у поглядзе на інкорпорацыю з ім не згаджаецца і трымаецца погляду выробленага Левіцкім. З цэлай працы насоўваецца між іншым вывад, што ў Бел. Літоўскай дзяржаве існаваў вялікі антаганізм між элемэнтам этнографічна - літоўскім (аукштота і жмудзь), і рускім (беларускім і пачаткова ўкраінскім) і што этнографічныя Літоўцы, падбіўшы элемэнт „рускі", імкнуліся да ўтрыманьня свайго пануючага становішча над элемэнтам беларускім нават коштам дзяржаўнае незалежнасьці. Гэты вывад трэба прызнаць памылковым. Калі напачатку літоўскіх „падбояў" і магчымы быў гэты антаганізм, дык у кожным прыпадку ён хутка зьнік. Прычынаў да гэтага было шмат. Перадусім літоўскія „падбоі" былі такога роду, што вельмі часта беларускія князі лучыліся з Літвой дабраахвотна. Далей ўтар адумысна зьмяншае ўплыў рускай (беларускае) культуры на ліцьвіноў этнографічных. Ужо за Альгэрда пры літоўскім двары панавала беларуская мова, а Ягайла інакш не гаварыў, як пабеларуску, беларуская мова зрабілася ўрадаваю нават у часы гэгэмоніі этнографічна-літоўскага элемэнту; ліцьвіны хутка зжываліся з рускай (беларускай) люднасьцю і асымілюваліся, што сьцьвярджае і аўтар. Падобныя зьявішчы былі-б зусім немагчымымі, каб дапусьціць, што антаганізм між этнографічнымі літоўцамі (аукштота і жмудзь) быў на толькі вялікі, каб прымушаў першых дзеля барацьбы з другімі гадзіцца нават із згубаю дзяржаўнае незалежнасьці! Апрача гэтага аўтар апэруючы статыстычным матар'ялам, вартасьць каторага вельмі сумлеўная, нязвычайна зьмяншае ролю беларускага элемэнту ў супольнай дзяржаве.

Г. Лоўмянскі стараецца паказаць, што важнымі прычынамі да вуніі з Польшчай былі зьявішчы натуры грамадзкае і гаспадарчае ў тым сэнсе, што Літва, каб дапяць у сябе пажаданых эканамічных ці грамадзкіх рэзультатаў, сьведама йшла на вунію, а пасьля па дасягненьню іх „ня думала аб сплаце доўгу ўдзячнасьці і акты вуніі de facto анулявала". Што эканамічныя і грамадзкія фактары пхалі паасобныя краіны да бліжэйшага злучэньня — рэч вядомая, але ўплыў гэтых фактараў, як прадстаўляе аўтар, зьяўляецца незразумелым. Адсюль і супярэчнасьці ў вывадах аўтара. Між іншым ўтар заўважвае, што аукштота і жмудзь імкнуліся да вуніі з Польшчай, каб утрымаць гэгемонію над рускім элемэнтам і што Польшча сваё забавязаньне споўніла цалком, толькі этногр. ліцьвіны былі няўдзячнымі. Тымчасам паводле аўтара аказалася, што польская помач прычынілася да роўнапраўнасьці рускага элемэнту ў гіст. Літве. Але-ж аб гэтым аукштота і жмудзь, нават паводле аўтара, Польшчы не прасілі і замеру такога ня мелі і чаму павінны былі мець удзячнасьць за такую ўслугу. Падобнага роду навязаньне гістарычных здарэньняў ёсьць немагчымым.

На наш пагляд немагчыма абаснаваць польска-літоўскіх вуніяў інакш, як толькі ўмовамі характару палітычнага. У хвіліну вонкавае небясьпекі Літва лучылася цясьней, а калі небясьпека мінала, вунія фактычна пераставала існаваць і злучаны зьвяз распадаўся лёгка.

На гэтым кончым агляд успомненай кнігі. Кніга бязумоўна павінна быць прастудыявана беларускімі гісторыкамі, бо ў агульную скарбніцу веды аб Вялікім Княстве яна ўносіць вартасны ўклад.

**М. Шкялёнак.**

---

# З жалобнае карты.

## УЛАДЗІМЕР ЖЫЛКА.

Нядаўна атрымалі мы сумную вестку ад Беларусаў з Латвіі аб сьмерці маладога беларускага поэты Уладзімера Жылкі. Але, як падае „Родны Край" 10.V. с. г. № 10, на падставе інфармацыі аднаго з беларускіх уцікачоў з Менску, Жылка памёр яшчэ ў 1933 г. на Паволжы, куды быў сасланы бальшавіцкімі ўладамі за сваю беларушчыну.

Поўных дадзеных аб жыцьці поэты нажаль ня маем. Радзіўся праўдападобна ў 1900 г. у Меншчыне. Вышэйшую асьвету

здабыў у Празе Чэскай, дзе студ'яваў славянскую філёлёгію і будучы ўжо абсольвэнтам выехаў у 1926 г. у Менск, каб узяць удзел у канфэрэнцыі дзеля рэформы белар. правапісу. У Менску Жылка астаўся на сталае жыцьцё. Там прыступіў да шырокай поэтыцкай працы, аб якой, за выняткам некалькіх вершаў, надрукаваных у 1927 г. у часапісе „Узвышша", нічога нажаль ня ведаем. У літаратурным жыцьці быў Жылка бясспрэчна дзейны, бо калі ў 1929 г. пачалося вострае прасьледаваньне бальшавіцкімі ўладамі беларускіх культурных працаўнікоў у Б.С.С.Р., уважалі яго за вялікага шкодніка. Нават яшчэ ў мінулым годзе бальшавіцкія крытыкі на бачынах „Полымя Рэвалюцыі" кляймілі творчасьць Жылкі, як „нацдэмаўскую", ставячы поэту ў радзе слаўнае поэтыцкае чацьвёркі (У. Дубоўка, М. Лужанін і Я. Пушча), якая не захацела прызнаць сваіх памылак, падзяляючы з гэроізмам лёс многіх Беларусаў.

Першыя творы Жылкі друкаваліся ў Вільні: у 1923 г. лірычная поэмка „Уяўленьне", а ў 1924 г. зборнічак вершаў „На ростані". У № 5 „Студэнскае Думкі" за 1925 г. знаходзім некалькі высокамастацкіх вершаў Жылкі з цыклю „Вільня".

Ідэйным зьместам сваей творчасьці і яе мастацкімі асаблівасьцямі належыў Жылка да новага пакаленьня беларускіх поэтаў, якое, вызваліўшыся з „нашаніўскіх" традыцыяў, пачало тварыць новы літаратурны кірунак. Замест дасюлешняга суму й жальбы над нядоляй народу, галоўнай нотай твораў Жылкі,— гэта радасьць, вялікая бадзёрасьць, моцная вера ў будучыню, а ў сувязі з гэтым іх урачысты тон.

Брацьці, зраблю вас багатымі,
Зорамі высаджу край.
Сонцам зазьзяе над хатамі
Словаў маіх каравай.

Большасьць дагэтуляшніх аглядчыкаў твораў Жылкі згодна падчырківаюць адну іх рысу галоўную — адраджэнскія матывы. Прадметам поэтыцкіх захапленьняў ёсьць Беларусь, яе сучаснае адраджэньне і недалёкая будучыня, якую поэта бачыць сьветлай і шчасьлівай; апрача гэтага ўчуцьцёвасьць поэты моцна рэагуе на вонкавае хараство Беларусі, яе прыроду.

Як артыст, Жылка стаіць у радзе вельмі здольных беларускіх паваенных поэтаў. Мінаючы некаторыя заганы ў яго творчасьці, пераважна тэхнічныя, — творы Жылкі адзначаюцца глыбокім лірызмам, гарачымі захапленьнямі поэты над прадметам сваіх успрыйманьняў і вялікаю размавітасьцю рытмікі. Прыкладам, некаторыя часткі „Уяўленьня", дзякуючы багацьцю рытмаў і іншым артыстычным дзейнікам, зьяўляюцца запраўднымі пэрламі.

Перадчасная сьмерць Жылкі—гэта вельмі вялікая страта для нашай літаратуры. Але і тое, што пакінуў нам у спадчыне, сабранае і належна ацэненае, будзе вялікім укладам у скарбніцу нашае поэзіі, а сьветлае памяці Імя Поэты азорыць несьмяротнасьцю.

Ст. Ст.



# Культурная хроніка.

## З дзейнасьці Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

На агульным гадавым сходзе Рады Інстытуту дня 31.III. сёлета была падлічана дзейнасьць гэтае інстытуцыі за мінулы год і апрацаваны плян працы на год наступны. Было сконстатавана, што асабліва цяжка весьці арганізаваную культурную працу на правінцыі дзеля розных прычынаў; з розных прычын адміністрацыйныя ўлады ў многіх мейсцах закрылі існуючыя гурткі Інстытуту (паветы: Маладэчанскі, Ашмянскі і Баранавіцкі), а так-жа не дазволілі закладаць новых (пав.: Наваградзкі і іншыя). Паміма гэтага Інстытут мае сяньня ў розных паветах Заходняе Беларусі больш чымся 20 дзейных гурткоў, з іх амаль кожны мае сваю бібліятэку і праяўляе культурна-асьветную працу. І так у справаздаўчым годзе адбылося ўва ўсіх гуртках каля 100 вечарынаў і іншых таварыскіх імпрэзаў, каля 40 лекцыяў, больш 50 тэатральных прадстаўленьняў.

У цэнтры Інстытут зьвяртае вялікую ўвагу на працу навуковага характару і з гэтай мэтай яшчэ ў мінулым годзе зарганізаваў чатыры сэкцыі: а) эканомікі і статыстыкі, б) этнографіі і архэолёгіі, в) гісторыі і социялёгіі і г) літаратуры і мастацтва. Сэкцыі апрацавалі ўжо рэгуляміны свае дзейнасьці і прыступілі цяпер да працы. Апрача гэтага Інстытут прыступіў да арганізаваньня агульнай бібліятэкі і музэю; праца ў гэтым кірунку вядзецца з добрым пасьпехам. Наладжаны абмен выданьнямі з навуковымі ўстановамі ў краі і заграніцай, між іншым з Беларускай Акадэміяй Навук у Менску. У бягучым годзе пастаноўлена зьвярнуць асаблівую ўвагу на выдавецкую працу і распачаць між іншым перадрукі лепшых твораў беларускіх поэтаў і пісьменьнікаў Усходняе Беларусі.

Т.

—о—

## Дзесяцігодзьдзе беларускай савецкай кіноматаграфіі.

У першай палавіне сакавіка сёлета ў Савецкай Беларусі адбылося ўрачыстае сьвяткаваньне 10-цігодзьдзя беларускай савецкай кіноматаграфіі. Праўда, юбілей гэты прыпадаў у 1934 годзе, але сьвяткаваньне яго чамусьці адбылося ў сёлетнім годзе. У юбілейныя дні савецкая прэса апублікавала спэцыяльныя артыкулы, якіх аўтары падчырківаюць дасягненьні беларускай савецкай кіноматаграфіі за 10 год яе існаваньня.

Беларуская савецкая кіноматаграфія, як і ўсяго Савецкага Саюзу, ёсьць магутным дзейнікам камуністычнай агітацыі і пропаганды бальшавіцкіх ідэяў. Рэпрэзэнтуе яна адну з вельмі важных галін культуры Савецкай Беларусі,—нацыянальнай па форме і камуністычнай па зьместу.

Над разьвіцьцём беларускай сав. кіноматаграфіі працуе спэцыяльная, адна з маладзейшых у Сав. Саюзе— з увагі на арганізацыйнае афармленьне — кіноарганізацыяў, т. зв.

Белдзяржкіно - трэст (Трэст Беларускага Дзяржаўнага Кіна пры С.Н.К. Б.С.С.Р.). Ня маючы сільнай тэхнічнай базы, Белдзяржкіно пачало сваю працу ў 1924 годзе ад маленькай кінохронікі. Але ўжо ў 1927 годзе прыступіла да пастаноўкі вялікіх мастацкіх абразоў, як „Лясная быль". У канцы гэтага 1927 году яна мела ў Ленінградзе сваю кінофабрыку — п. н. „Савецкая Беларусь". Спатыкаючы сваё другое дзесяцігодзьдзе, Белдзяржкіно мела каля 40 мастацкіх фільмаў (гукавыя і нямыя), 23 інструкцыйна-навучальныя і 17 абаронча-навучальных.

У супярэчнасьці з ацэнкай якую падаў б. дырэктар кінофабрыкі „Савецкая Беларусь" А. Некрашэвіч у сваім артыкуле п. з. „Шлях беларускай кінематаграфіі" (№№ 11 і 12 часапісу „Советское кино" 1934 г.), кажучы, што „беларуская кінематаграфія за 10 гадоў не дала ні аднаго яркага, арыгінальнага, бліскаючага сьвежасьцю твора", — Б. Шумяцкі, начальнік галоўнага кіраўніцтва кіно-фотапрамысловасьці пры СНКСССР, у артыкуле „Дзесяць гадоў беларускай кінематаграфіі" („Звязда" №53, 1935 г. Менск) кажа, што „барацьба за якасьць прадукцыі для работнікаў беларускай кінематаграфіі была справай актуальнай і першачарговай важнасьці" і гэта, паводле яго думкі пацьвярджаюць такія фільмы, як „Лясная быль", „Нянавісьць", „Да заўтра"— рэжысара Тарыча, „Шчасьце"—рэжысара Файнцымэра, „Зварот Нейтана Бекера" — рэжысараў Шпіса і Мільмана, „Першы ўзвод" — рэж. Корша, „Двойчы народжаны"—рэж. Аршанскага, „Першае каханьне" — рэж. Шрэйбэра, „Паручык Кіжэ" — рэж. Файнцымэра.

Калі ходзіць аб тэматыку бел. сав. кінематаграфіі, то ня мела яна тэматыкі толькі беларускай, абмяжаванай граніцамі БССР, не адлюстроўвала яна ў мастацкіх абразох дасюль — нават у марксыцка-ленінскім асьвятленьні—барацьбы беларускага народу. Праўда, былі фільмы: „Кастусь Каліноўскі", „Песьня вясны" і інш.—продукцыі Белдзяржкіно—якіх тэмай была нацыянальна-вызвольная барацьба беларускага народу, але гэтыя фільмы ў выніку проціўбеларускага паходу ў Савецкай Беларусі—зьняты з экрану.

Успомнены ўжо намі А. Некрашэвіч, які ў сваім часе граміў беларускую нацдэмаўшчыну, а катарага сяньня „Звязда" бічуе за ягоны быццам бел. нац.-дэмократызм, у артыкуле сваім кажа, што з 40 мастацкіх фільмаў выпушчаных за 10 гадоў існаваньня Белдзяржкіно, толькі 15 зьвязаны з беларускай тэматыкай і што „большасьць тэмаў беларускага савецкага кіна магла быць вырашана любой, савецкай кінематаграфіяй". „Задачай першых гадоў надыходзячага новага дзесяцігодзьдзя — кажа далей Некрашэвіч — зьяўляецца рашучы паварот к нацыянальнай тэматыцы і праз яго да стварэньня яркіх мастацкіх твораў, надаючых сваё асаблівае творчае „я" ўсей прадукцыі. Карацей кажучы, твораў пасапраўднаму нацыянальных па форме і соцыялістычных па зьместу". З гэтага бачым, што тэматыка ў беларускіх савецкіх фільмах дасюль ня мела амаль нічога супольнага з жыцьцём беларускага народу, з яго гісторыяй, барацьбой, рэвалюцыйным рухам, была яна тэматыкай агульнасаюзнай. Ясная рэч, што такі стан тэматыкі і, як пабачым ніжэй, стан работніцкіх кадраў у беларускай кінематаграфіі — гэта вынік вялікадзяржаўніцкага расейскага шавінізму.

З новых фільмаў, якія фігуруюць у пляне вытворчасьці ў 1935 г., сцэнары якіх ужо знаходзяцца ў стадыі абгаварэньня і зацьверджаньня, — гэта „Акадэмік Зорын"—аб праблемах вялікага Дняпра, „Стварэньне сьвету" — аб перасяленьні жыдоў у Бірабіджан, „Дняпро ў вагні".

Сярод рэжысараў, якія працуюць у Белдзяржкіно, вызначыліся ў першую чаргу—І. В. Тарыч, В. В. Корш, А. М. Файнцымэр і іншыя.

У сцэнарнай рабоце праявілі дзейнасьць: Брадзянскі, М. Чарот (напісаў сцэнарый для фільму „Лясная быль"), Таўбэ, Тынянаў, Кобец і інш. Работнікі кіно ня маюць яшчэ патрэбнай творчай сувязі з беларускімі пісьменьнікамі. У характары апэратараў выявіліся Кальцаты, Шлюглейт, Рабаў, у характары актараў—Кміт, Сьвердловая і інш.

Сярод рэжысараў, сцэнарыстаў і іншых катэгорыяў работнікаў, няма амаль зусім беларусаў. Кіраўніком Белдзяржкіно ад 10-ці гадоў зьяўляецца А. І. Галкін, нагароджаны за сваю работу ордэнам працоўнага чырвонага сьцягу.

У галіне разьвіцьця вясковай і гарадзкой сеткі кінотэатраў Белдзяржкіно выканала за 10 гадоў не малую работу. У Савецкай Беларусі ў 1924 г. былі 63 кінотэатры, а ў 1934 г. 982, („Звязда" № 57, з 11 III. 1935 г) Паводле Шумяцкага—у 1925 г. было кінотэатраў 63, у 1934 — 1227, з іх вясковых 567, у гэтым-жа ліку 58 гукавых. Шумяцкі не гавора нічога аб межах тэрыторыяльных кіносеткі.

Фабрыка Белдзяржкіно „Савецкая Беларусь", якая знаходзіцца яшчэ цяпер у Ленінградзе, у пачатку 2-га дзесяцігодзьдзя будзе пераведзена ў Менск, у гэтым часе будзе ў Менску пабудавана новая кінофабрыка.

Я. Ш.

—о—

## Выстаўка абразоў Аркадзя Салаўёва.

1-28 лютага сёлета адбылася ў Празе, у галярэі Рубэша, выстаўка абразоў маладога беларускага мастака Аркадзя Салаўёва. Гэта выстаўка — другая ўжо, як і першая, ладжаная ў красавіку 1933 году, мела вялікую прыхільнасьць у чэскага грамадзянства. Ветліва і прыхільна адняслася крытыка. У справаздачах, якія зьмешчаны аб выстаўцы ў штодзенным друку: „Narodni Listy", „Narodni Politika", „Narodni Osvobozeni", „Lidove Listy", „Pravo Lidu", „Poledni Listy" ды інш.—аднагалосна падчырківаецца, што наш беларускі мастак, вучань прафэсара Отакара Нэедла (школа пэйзажу), не змарнаваў апошніх двух гадоў, не супакоіўся і ня спыніўся на сваіх першых творах — ідзе далей, уважліва і пільна працуе над сабой, над удасканаленьнем тэхнікі сваё мастацкае творчасьці: прыбірае і ўводзе новыя колеры, паглыбляе кампазыцыю сваіх абразоў. У яго творчасьці праяўляецца значны поступ: зьнікае шэрая цьмянасьць і зьяўляюцца праменьні сонца. Адчуваецца ўплыў француское школы пэйзажу; асабліва Каррота.

Нельга не адзначыць, пры гэтым, што ў творчасьці А. Салаўёва ўсьцяж ёсьць нешта сталае і трывалае: ён быў і астаецца сумна-тужлівым лірыкам прыроды. Ці гэта будуць вербы над рэчкаю ці адзінокія сосны ў лагчыне, бярозавы гай на прадвесьні—на ўсім ляжыць адзнака смутку і ціхай тугі, быццам у чаканьні чагосьці. Нават і залатыя праменьні сонца ўпіраюцца недзе ў шэра-цьмяныя хмары і толькі водблескам сваім асьвятляюць даліну з яе расахатымі дрэвамі, зялёным дываном травы і колернымі плямкамі кволых кветак, адлюстроўваюцца ў цьмяна-праглядней вадзе сажалкі, быццам у ціхай задуме ўзіраюцца ў вочы глядзельніка, выклікаюць пачуцьцё тугі і жаданьня — больш волі, больш сонца!

Як гэта мо' і ня дзіўна, але мастацкая ўява прыроды ў Аркадзя Салаўёва мае нешта супольнае з тымі колерна-апісовымі абразамі беларускае прыроды, якія сустракаемо ў вялікага мастака беларускага слова—у Якуба Коласа (Тараса Гушчы). Прырода ў іх творчасьці—гэта быццам маладая матка, якая чакае нараджэньня свайго першага дзіцяці: поўна нязьведанай тугі і кволай ласкі.

Аркадзь Салаўёў паходзіць з Дзьвіншчыны. Радзіўся ў мястэчку Колуп у 1902 годзе. У 1920 годзе скончыў Дзьвінскую рэальную гімназію. У 1921 годзе быў слухачом на курсах беларусазнаўства, якія ладзіла Т-ва „Бацькаўшчына", прымаў дзейнае ўчасьце ў беларускім жыцьці ў Дзьвіншчыне. У 1922 годзе паехаў на студыі ў Прагу. Спачатку паступіў на тэхніку, але яго вабіла мастацтва. У 1924 годзе вытрымаў конкурсны экзамен у Чэскую Акадэмію Мастацтва, якую скончыў у 1931 годзе з пахвальным дыплёмам, як адзін з найлепшых вучняў праф. О. Нэедла. Яшчэ на акадэмічных выстаўках — вясеньнія выстаўкі ў Акадэміі Мастацтва, якія ладзіліся кожны год,—А. Салаўёў вызначаўся мягкасьцю колераў сваіх настраёвых краявідаў з некаторым адценкам засмучанасьці і тугі па сьвеце, па шырокай прасторнасьці. За свае працы атрымліваў пахвальныя ды-

плёмы і камандыроўкі ў Італію, Францыю, Нямеччыну. Апошнія чатыры гады працуе ў сваім атэльe ў Празе, часам выязджаючы на вёску. Матывы свае творчасьці чэрпае з чэскае прыроды, пераважна з тых яе мяйсцовасьцяў, якія зблiжаюцца да нашай беларускай прыроды, з яе нізінамі і прасторнымі лугамі. Асабліваe замілаваньне мае да вазёрна-балоцістых пэйзажаў.

Трэ' спадзявацца, што з часам, калі разьвеiцца шэра-цьмяны туман над нашай роднай краінай і ўзыйдзе сонца волі, якое сваімі праменьнямі асьвеціць працу ўсіх яе верных сыноў, Аркадзь Салаўёў вернецца на бацькаўшчыну і прыме дзейнае ўчасьце ў будаўніцтве Беларускае Акадэміі Мастацтва. Мо' зьменіцца тагды і характар яго творчасьці — зьдзейсьніцца туга па ясным сонцы!

Т. Г.

—o—

## 25 гадоў беларускага тэатру.

Дня 25 лютага сёлета мінула 25 гадоў ад часу, калі адбылося першае легальнае беларускае прадстаўленьне. У гэны памятны дзень 25 лютага 1910 г., у Вільні, у залі т. зв. Палескага Клюбу (сягоньня заля Віленскай літоўскай гімназіі) першы раз адбылася легальная б е л а р у с к а я вечарына, у праграму якой між інш. уходзілі: зьбеларушчаная п'еса Крапіўніцкага „Па рэвізіі", хор пад кіраўніцтвам ведамага кампазытара Л. М. Р а г о ў с к а г а і народныя беларускія танцы пад кіраўніцтвам І г н а т а Б у й н і ц к а г а. Самым прадстаўленьнем кіравалі Бурбіс і Францішк Аляхновіч. Бурбіс—сягоньня ўжо нябожчык, а Аляхновіч працуе над беларускім тэатрам дагэтуль і сьвяткуе таксама 25-тыя ўгодкі гэтае працы.

З сьвяткаваньнем падвойнага юбілею—тэатру і працы для тэатру Фр. Аляхновіча—віленскія беларусы крыху прыпазьніліся, бо сышліся толькі 17 сакавіка сёл. У гэты дзень у залі Віленскай Музычнай Кансэрваторыі быў сарганізаваны адумысны вечар, у праграму якога ўвайшлі 1) рэфэрат гр. В. Грышкевіча; 2) трэці акт драмы Аляхновіча „Цені", і яго-ж 1-актавая камэдыя „Чорт і баба", 3) беларускі хор пад кіраўніцтвам Р. Шырмы і 4) беларускія народныя танцы („Лявоніха").

Варункі працы для справы беларускага тэатру ў мін. чэцьверці стагодзьдзя былі вельмі трудныя. Значная зьмена на лепшае зарысавалася прад 1929 годам у Радавай Беларусі' дзе тэатральная праца была пастаўлена на адпаведнай вышыні. У Заходняй Беларусі ў тую-ж пару для справы беларускага тэатру добра прыслужылася тэатральная аб'ездная трупа Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры. Тут так-жа нямала зрабілі для справы мясцовыя гурткі таго-ж Інстытуту і Т-ва Бел. Школы.

Па гэтай кароткай вясьне аднак раптам наступіла сьцюдзёная зіма. У Заходняй Беларусі польскія ўлады не пазволілі аб'езднай трупе Інстытуту весьці сваю працу, а ў Усходняй Беларусі падзеі ведамыя пад назвай „чысткі ад нацдэмаўшчыны", калі ня спынілі ўсяе справы, дык вельмі яе выкрывілі і затармазілі, адбіраючы ўсей тэатральнай працы беларускі зьмест. Пры гэткіх невясёлых вонкавых абставінах мінула 1-шая чэцьверць стагодзьдзя працы над беларускім тэатрам. На самым парозе 2-гой чэцьверці пачаў у Вільні працу над беларускім тэатрам заслужаны працаўнік на гэтай ніве грам. Фр. Аляхновіч і ў кароткім часе патрапіў сарганізаваць тымчасам 2 прадстаўленьні.

Пажаданьнем усяго беларускага грамадзянства ёсьць, каб прадстаўленьні беларускія, на пачатак прынамсі ў Вільні, перасталі быць спорадычнымі, а выліліся ўрэшце ў арганізаваную хворму с т а л а г а б е л а р у с к а г а т э а т р у

А. М.

*Выдавец: Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры*

*Рэдакцыйная Калегія: М. Шкялёнак, Ад. Станкевіч, М. Пяцюкевіч, Ст. Станкевіч і Я. Шутовіч.*

*Адказны Рэдактар: Ян Шутовіч.*





# КАЛОСЬСЕ

*БЕЛАРУСКІ ЛІТАРАТУРНА-НАВУКОВЫ ЧАСАПІС*

**Кніжка 8.** **1935 г.** **Год І**


ХВЕДАР ІЛЬЛЯШЭВІЧ

## Васеньняя поэма

Неба — сіні плякат —
Серабрыстымі ніткамі выткала
восень —

Яблык сьпелы ў руках
Басаногая дзеўчынка ў вуліцы
носіць —

У жоўтым лісьці гарыць
Белы вечар, напудраны заравам
раньня —

А ўначы — на драты
Начаваць разьлятаюцца зоркі
ў тумане —

З вуліц — рыжых іржышч
У прастор крыкнуць хочам штось нема
табе мы —

І ізноў у душы
Aпадаюць разьдзелы васеньняе
поэмы —

1935.





* * *

Зацьвітай, родны край, зацьвітай,
Гінуць годзе ў завеі і сьцюжы,—
Хай далінамі сонечны май
Успалымнее вагнямі ружаў!

Ў тваіх песьнях—нядолі іржа—
Уздыхні-ж песьняй новай, вясёлай.
Раздавайся юнацкі наш шаг
Па дарогах радзімых сёлаў!

З моцнай верай у лепшыя дні
Беларускую даль ускалосім—
Ў электрычным скупаем агні
Твае постаці цёмныя вёсак.

І на шыбах заплесьнеўшых хат
Сядзе радасьць вясёлкай ірдзістай—
У паходны расходзьцеся тахт
Пераборы рукі цымбаліста.

Зацьвітай, родны край, зацьвітай,
Гінуць годзе ў завеі і сьцюжы!
Хай далінамі сонечны май
Ўспалымнее вагнямі ружаў!

1935

* * *

Па вёсках Беларусі
Сялянскі едзе воз.
На ім труна ў дзярузе —
Ў труне той — поўна сьлёз.

Ляжыць на веку ліра —
Ў ёй струнаў цэлы рад.
Галосяць яны шчыра
На нашаніўскі лад.

Выходзяць людзі гурмам
І жаласна глядзяць,
А гэты воз хаўтурны
Здалёк усё чуваць.

1935





## З ЦЫКЛЮ „ВЯСЬНЯНКІ“

* * *

Як не кажы,
Якіх ня роб там прыпушчэньняў,
А ад мяжы і да мяжы
Хвалюе сэрца Адраджэньне.

Вось хоць-бы я,
Унук прыгоньнікаў звычайных,
А Муза звонкая мая
Ня знае сёньнека адчаю.

Зьвіні, зьвіні,
Мая бунтуючая ліра!
На вазе сёньня нашы дні
І пераважуць праўдай шчырай.

Ідзе з цямры
З гарачым сэрцам надта многа,
Ідуць шукаць свой шлях яны
І ня стрымае іх нічога.

Дык хай душа,
У бунце песельным згарае!
Бо хто ня мае ні шыша,
Шчасьлівы тым, — што страт ня знае.

Я рады — тым,
Што я ня ў неба пальцам торкаў,
А быў, як трэба быць, — жывым
Ў наш час нярадасны і горкі.

Аддам усё,
Хоць сьветлай радасьці ня знаю.
Калі ў крыві бруіць жыцьцё, —
Над чым-жа плакаць сяньня маю?

* * *

Прышла вясна. Вясна прыгожая,
Цьвітуць навокал ўсе сады,
А сэрца радасьцю у кожнага,
Хто духам чыст і малады.

На полі ціш... Цяпло — чароўнае...
Чувацца нават рост травы

І самі просяцца пакорныя
У верш — узорныя славы.

І вёска ўся ізноў рухлівая,
Калышыць даль яе шляхі.
І як папы крыклівыя
Пяюць малебен пятухі.

Лунае сьмех і радасьць звонкая
На вуліцы — дзяцей.
Рассыпалась вясёлкамі
Вясна ў вачох людзей.

* * *

Праскакаў лівень вясьняны,
Аджыла ізноў зямля.
Чымсь таёмна ўсхваляваны,
Чагось надта рады я.

Страхануў з душы клапоты;
Ўвесь жыцьцёвы грэх і сум,
Ціхай сьветлаю пяшчотай
Прывітаю веснашум.

Навакол палі рунеюць,
Красак бель і чыстата.
Ад красы душа хмялееець,
Каля кожнага куста.

Столькі радасьці і сонца
На палёх, лугох у нас!
Эх вы, бледныя мястоўцы,
Як цяпер мне шкода вас!

* * *

За сялом палосы,
З баразной пачатай
І снуе, як кросны,
За плугом аратай.

Ветла ў твар касматы
Заглядае сонца.
— Гэй, мой конік, кратай
— Ў роўнай баразёнцы.

У канцы з суседам
Пусьціць дым з махоркі,
А там бач — з абедам
Ўжо надходзяць жонкі.



Ну прысесьці-ж трэба,
Пэўна-ж, з жонкай разам.
Кашу з чорным хлебам
Запівае квасам.

А пад'еўшы — гэтак,
Ветла жонцы кажа:
— Занясі-ж і дзеткам,
— Бо смачная каша.

* * *

Пад старой бярозай,
Над ракой шырокай
З дзеўчынай прыгожай
Хлопец сінявокі.

Заглядзеліся ў тоні
Рэчанькі бягучай:
— Ты скажы — сягоньня,
— Сэрца мне ня мучай! —

Ён — дзяцюк звычайны,
Яна-ж — не графянка:
— Ты адзін — каханы,
— Ты — мой любы Янка.

З сонечным прылівам
Вецярок шапочыць,
А у іх — шчасьлівым
Зацьвітаюць вочы.

* * *

Чуеш брат малады,
Як бурліў і зьвіняч веснашум?
Няма слёз,
Ні нуды,
Ні бяды.
У душы
І ў крыві,
Толькі хмель разхвалёваных дум.

Мы стаім перад тайнай сьвятой
Адраджэньня — жыцьця —
Ад таго і ў грудзях непакой,
Ад таго і прыбой
За прыбоем ў крыві пачуцьця.

* * *

Панад вуліцай вясковаю
Распусьцілісь тапалі.
Кожны дзень — то радасьць новая
На аджыўшай зноў зямлі.

Зноў над ліпамі ірдзістымі
Зазьвінеў пчаліны рой,
Неба сонечна і чыстае
Сінім морам над зямлёй.

Над палямі, над зялёнымі
Веснапесьні жаўрука,
Ўжо ня надта так стамлёны
Твар працоўны мужыка.

Вецер шэпчыць штось пяшчотнае
Расхвалёванай траве,
Штось блізкое — надта роднае —
Ёсьць ў вясьняным харастве.

Вось аселіца ля порама, —
Як аджыўшы луг прыгож!
І абняць зусім нясорамна,
Як дзяўчыну — стан бяроз.

* * *

На вуліцы сьвяткуючы,
Сабраліся сяляне,
Аб тым, аб сім талкуючы —
Настрой усіх вясьняны.

Парэнчу прыдарожную
Пад вербаю абселі.
Наўзбоч сьцяной прыгожаю
Стаіць вішняк у белі.

Кашулі палатняныя
Дабелівае сонца.
У ветра песьні п'яныя
І радыя бяз конца.

Журчаць славы пагодныя,
Журчаць славы жывыя,
Як вецярок — лагодныя
І як вясна жывыя.



А там прыпеўку модную
Дзяўчаты запяялі.
Калышуць песьню родную
Лясы, палі і далі.

* * *

Як вось цьвітуць сады вясной,
Як вось пад бельлю пышнай вішні,
Здаецца мне — ў сям'і людзкой
І я патрэбны і ня лішні.

І так салодка жыць і чуць
Ў крыві юнацкія прылівы,
І хоць кароткі надта пуць,
А ўсё-ж жывы — жыцьцём шчасьлівы.

Я рады чуць сябе жывым,
А наша лучнасьць гэта з цьветам
Адзін выразны сынонім
Між камаром — і ўсім сусьветам.

Салодка чуць і разумець
Ўсю гэту лучнасьць між жывымі,
Калі вясна калышыць брэдзь
Цьвятоў і песьні салаўінай.

Тады кахаю я усё,
Дзіцячай радасьцю бяз маскі.
Вітаю песьнямі жыцьцё
І веру ўсім прыгожым казкам.

---

## СЁМУХА.

У сонцы купаецца вёска,
Пахне прыемна язьмін.
Раніца... чыста дарожка,
Неба — бяздонная сінь.

Сёмуха сёньнека — сьвята.
У красачнай белі сады.
Тонуць у зелені хаты,
Зелень хвалюець палі.

Тоўпамі, з вёсак па сьцежках,
Моладзь па полі плыве.
Вецер вандроўнае нешта
Шэпчыць залётна вярбе;

Да дзевак падскочыць дуронік
Раптам сукенку задзьме.
Хлопцы рагочуць — шалёны!
Сорамна нам за цябе.

Далі нясецца па нівах,
Зелень хвалюе жытоў;
Песьню сьпявае аб дзівах
Зноў зацьвіцеўшых палёў.

1.VI.35.
Таболы.

* * *

В. К—ЧУ.

Не хвалюй майго сэрца жальбой
Сумных песень аб роднай Краіне;
Глянь, як пышны пад новай красой
Зацьвіцеўшы язьмін і каліна.

Што ў мінулым было, то прайшло,
Хоць пакінула чорную памяць.
А цяпер мы ідзём у жыцьцё
Нашу радасьць вясьняную славіць.

Дык спакінь свае песьні жальбы
І ня кратай мінулага болю,
Мы цяпер на шляху барацьбы
За жыцьцёвую радасьць і волю.

Пэўна кінеш дакорам ты мне,
Што ня бачыш тэй радасьці сёньня.
Глянь навокал! — Краіна жыве,
А нядаўна ляжала ўся соннай.

2.VI.35.
Таболы.

* * *

Знаю, знаю, я ня першы
Бескарысна так крычу,
Біць-бы ў сэрцы вам ня вершам
А... ды лепі прамаўчу.

Лепш схаваю гэту тайну
Ў сэрцы з крыўдаю на дне.
Што здаецца вам звычайным,
Чаму ж мучае мяне?



* * *

Едзе шпарка там хтось па дарозе,
Так разгоніста бомкае медзь.
Наша моладасьць хутка праходзе
І ня ўбачыш, як станеш старэць.

Не вярнуць нам на‘т мігу з учора,
І ня знаем, што заўтра нясе.
Пражытыя радасьць і гора,
Заціхае і гасьне ў працьме.

Што быцьцё? што імкненьні ўсе нашы,
З прагавітаю смагай жыцьця?...
Зацьвіціць, адцьвіціць і заляжыць
У бяздонную муць забыцьця.

Хтось праехаў з званком па дарозе,
Адзьвінела і сьціхнула медзь.
Ўсё жыцьцё наша гэтак праходзіць.
І ня ўбачым, як пройдзе — мінець.

---

А. БЯРОЗКА.

## НОЧ ІДЗЕ...

Прасьцягам палёў бесканечным
Цёмныя цені крадуцца, паўзуць, заліваюць
Воблакі, неба, зямлю... А на захадзе ў цемры канаюць
Іскры апошнія дня. Песьняю казкай адвечнай
Лес-багатыр зашумеў. Ціха на ціхай вадзе
Вецер ў аеры шуміць і шасьціць...
Ноч ідзе...

Вось ужо бліснулі зоры і вецер улёгся гульлівы;
Не скалыхнецца ў цішы палахлівы асіны лісток.
Месяц у хмарах заграз і злавесна свой стомлены ўзрок
Стужкамі сумнымі лье... Пахіліўшысь над соннаю нівай
Шэпчуць бярозы-сіроты, што вецьцем чуткім спляліся:
„Ноч ідзе!.. Цемра ідзе!.. Сьцеражыся!..“

* * *

На раскутай з пад сьнежных пялёнаў зямлі
Нова-ўстаўшая рунь зелянее;
Ў цёмнай гушчы лясной, у цішы расьцьвілі
Кветкі-зоры вясны — расьцьвілі канвалеі.

Доўга з бурамі жорсткую спорку вялі
Дубы — старцы лясныя, натужыўшы грудзі;
Доўга хмары ліхія над полем злавалі
І шалёна круціліся кудасы хвалі,
Ў вочы небу сьнягамі мялі...

Прамінулі і шчэзьлі...
Як мары...
Як людзі...

Ідзе дзень... Ўстануць руні на нашых палёх!..
Вецер хмары-нягоды разьвее,
Сьлёзы — сонца абсушыць... Магутны араты
Выйдзе з песьняй і плугам з прабуджанай хаты
Новы шлях праараць між цярністых дарог...
Расьцьвітуць канвалеі...

11.V.35.

* * *

Вось ізноў плачуць струны гітары тваей
Як калісь,
Ў тыя дні, калі білася сэрца жывей,
Калі мроі плялісь...

І пяюць твае струны нясьмелай жальбой
І акордамі ціхімі сьняць аб мінулым...
Мо' шкадуюць, што доля жалезнай рукой
Ў пыл і попел надзеі твае абвярнула?

О, ня йграй гэтак сумна, ня йграй,
Мук і ценяў былых не ўскрашай!

Бо даўно прамінулі яны, як імгла —
Заснавалі іх часу туманы;
Сонцам новага дня на душу ціш сплыла,
Загаіліcь балючыя раны.

Ды вось зноў плачуць струны гітары тваей,
Як калісь,
Ў тыя дні, што стралою між бур і завей
Пранясьлісь...

29.IV.35.



# З Усходняе Беларусі

СЫМОН БАРАНАВЫХ *)

## Прысады

Міхалка ня мог дачакацца Андрэя. Тупаў каля маладога саду, рукі цёр ад сіверу, а таго Андрэя ня было.

— Чалавек... — бурчэў сабе пад нос Міхалка Белячок. — От-жа мешкаваты чалавек! Можна было справіцца за гэты час дзесяць разоў...

Вецер, здаецца, наўмысьля злаваў Міхалку: — быў вельмі-ж золкі, халодны, як тое жалеза. І бадай таму быў золкі сівер, што ішоў ён з рэчкі Галай, з поўначы.

Малады калгасны сад — вось-жа ён — над крутым берагам рэчкі. Можа трыццаць якіх крокаў ад саду да рэчкі. Некалі быў тут гарод фальваркоўца Пліса. Агарод быў абсаджан ад рэчкі ліпамі, між ліп сустракалася, часамі, і бяроза.

І ўсё гэта было ў Плісавых руках аж да самай рэвалюцыі. А прыйшла рэвалюцыя — адабрала ад Пліса ўсю зямлю з прысадамі, з хараством, ды аддала ўсё гэта карзюкоўцам у рукі. Толькі карзюкоўцы, — яны і самі ня ведаюць, куды дзеліся, куды зьніклі прысады. Зямля, вось, засталася, агарод застаўся; і на гародзе гэтаю вясною пасадзілі малады сад; а прысады — нібы іх у адну навальнічную ноч некуды зьнесла бураю. Бо гэта-ж так даўно было... Нават калі сказаў, гэтымі днямі, Міхалку, брыгадзір Банэдзік, што трэба засадзіць ад рэчкі прысадамі, той ажно лыпнуў вачыма.

— Як-жа гэта... Нашто тыя прысады!

Чамусьці здалося Міхалку, што прысады растуць там праз увесь час. Але ён не дагаварыў, быў, сваей думкі.

— Дапраўды—успомніў ён,—ня відаць нешта такі тых даўнейшых прысадаў.

Ён папраавіў тады на поўслове сваю разгубленасьць і дагаварыў:

— Але-ж... гэта-ж вецер дзьме цэлы год з гэтай Галай. А наш малады сад, канешне, можа вымярзнуць.

---

*) Хоць ідэолёгія калгаснага ладу, выражаная ў „Прысадах“, ёсьць нам чужая, друкуем тут гэты твор дзеля яго мастацкае вартасьці і пазнаямленьня чытача з даволі выдатным беларускім пісьменьнікам. Сымон Баранавых — гэта адзін з лепшых маладых беларускіх празаікаў Усходняе Беларусі. Да лепшых яго твораў належыць повесьць „Межы“. „Прысады“ перадрукоўваем із часапісу „Полымя Рэвалюцыі“, кн. 4, 1935. Рэдакцыя

І вось яны ўдвух з Андрэем Верамейчыкам былі вызначаны на пасадку дрэў. Учора і пазаўчора яны ўдвух капалі ямкі і клялі тых людзей, што пазразалі такія-та ліпы.

Прыселі, былі — Андрэй на старым ліповым пні, а Міхалка каля Андрэя на куркішках—круцілі папяросы ды:

— Я памятую,—казаў Міхалка, закручваючы канец папяросы,—тут вось такая, такая была ліпа! Гладкая і тоўстая. Адзін не абдымеш. Мусіць нехта зрэзаў яе на начоўкі.

— Ёсьць што гаварыць,— даючы Міхалку прыкурыць, казаў Андрэй, — усе яны былі адна ў адну. З іх і начовак нехта нарабіў і дыляў навыразаў.

— Дзіва што навыразаў!—выпускаючы праз нос збэрсаныя пасмы дыму, сплёўваючы асеўшыя на губе карашкі, праказаў Міхалка.—Дылі... ого! З ліповых дыль які можна зрабіць тапчан. Унь у Ахрэмчыка ліповы тапчан, жоўты, як жаўток. І ніколі не пацямнее.

— Каб ён жытла ня ведаў, хто гэта пазразаў!

— Дай-жа ты рады... Каб яго рэзала рэзь!

— Пакуль-жа яны, цяпер, вырастуць!

— Вырасьці то вырастуць. І яшчэ, ведаеш, лепшыя як былі. Мы іх пасадзім—будуць адна ў вадну! Толькі вось адразу ня будзе зацішна саду нашаму...

— От, ёсьцяка-ж на сьвеце ўсякія злыдні!

— Уга! Яшчэ-ж і якія!

Памаўчалі. Сівер дзьмуў з рэчкі. Восень ужо зусім сьмела хадзіла каля рэчкі Галай. Гальлё пад нагамі, лісты — усё было мокрае. Гэта-ж цэлую ноч быў надакучлівы золкі дождж-імжак.

Першым узьняўся на ногі Міхалка. Ён тужэй зацягнуў па сваёй салдацкай ватоўцы папругу, нязручна неяк крутнуў рукой у паветры, праказаў:

— Каб застаў такога чалавека... я-б такога гада на дзесяць год!

Узьняўся з пня таксама і Андрэй. Кінуў акурак на мокрае лісьцё, скрозь зубы сплюнуў ды:

— На дзесяць, не на дзесяць, а на пяць год упёк-бы.

Акінуў цэлы шар выкапаных ямак—нібы зважыў сваю сілу, што аддаў на гэтыя ямкі, дагаварыў:

— Такога чалавека, лепш за ўсё—самасудам. Прыпілнаваў, злавіў, адняў глузды і няхай, тады, сохне, як гэты пень! І больш нічога!

Прайшло ўжо, бадай, больш гадзіны, а Верамейчыка Андрэя ўсё-ж ня было. Міхалка, чакаючы яго каля ямак, зусім зьмерз. То сюды, то туды тупаў каля ўчарашняга пяску, рукамі разводзіў—зводзіў, як малады фізкультурнік і—ня мог сагрэцца. Ён агонь расклаў-бы, дык было тры запалкі—галоўкі пазьлятвалі. Мусіць адсырэлі.

Ужо плюнуў на ўсё, Міхалка, халодную злосьцю—ісьці хацеў дадому, у калгас: „хай тады адзін садзіць!“.



І нават ступіў, азіраючыся, некалькі крокаў, аж—едзе Андрэй. Вунь паказаўся ён з за ўзгорку з маладымі прысадамі.

Маладняк на прысады капаў Кандрацюк з Рыгоравым Лявонам у Грабеншчыне і Андрэй паехаў па яго. Тут-жа поўгадзіны язды, а ён, немаведама дзе прападаў. Як паехаў Андрэй па прысады, Міхалка яшчэ унь колькі быў на калгасным двары. Канюх Лаўрык чысьціў каля канюшні жарабца Ляха, а Міхалка да яго зайшоў, закурыў. Гаварылі тое-сёе... Пра кабыліцу Муху, што добрае будзе племя ад Ляха, пра грузавік, што прыбыў для калгасу на шаснаццаты разьезд. Потым пайшоў Міхалка павольна да гэтых ямак і вось...

— Дзе цябе трымала тое, нядобрае! — яшчэ здалёку, калі пад'яжджаў Андрэй, накінуўся Міхалка.—Гэта ж можна было за гэты час зьезьдзіць аж у Анупрова і назад прыехаць! От-жа чалавек!

Андрэй пад'ехаў да самых ямак, злосна смаргануў каня, застанавіўся.

— То трэба было самому ехаць, калі такі спрытны. Стой!— крыкнуў ён на каня ды больш заспакоеным голасам:—Прыехаў, а яны-ж не накапалі. Яшчэ трэ' было выкапаць тры штукі. А потым ускладі, выехаў з лесу, гляджу—рэхва... Скінулася з кола рэхва. Добра, што агледзеўся. Дык пакуль узагнаў яе з большага, камянем...

Міхалка кінуў беглы позірк на кола, ступіў двумя крокамі да Андрэя:

— А табе трэ' было запрэгчы ў новую драбінку, а ня ў гэта стар'ё.

Пераступіў з нагі на нагу і з большым задорам:

— Ты тут яго чакай, а ён майструе старое кола! А што-ж тады будуць рабіць нашы кавалі?

Падбіраючы лейцы, завязваючы іх за поўшары, Андрэй не сьцярпеў:

— Няхай сабе і старое, але гэта-ж мае калёсы. А я не хачу, каб мая снасьць была без дагляду?

— Што твая, то твая, — з усьмешкай праказаў Міхалка. — Я добра памятую, як ты, будучы аднаасобнікам, фарсіў на ёй. Бывала—дзьве лёсткі з аднаго боку, поўтары лёсткі—з другога... без передка, без задка—пыл ажно курыць! Але якая-ж яна цяпер твая. Тым больш, што калгас паўстаўляў ёй новыя лёсткі. Хіба ты не абагульваў яе, ці што?

Андрэй разгубіўся:

— Пры чым тут „абагульваў“, не „абагульваў“!

Ён раскілзваў Беляка, не ўзьнімаў на Міхалку вачэй, гаварыў:

— Няма табе чаго, вельмі, выскаляцца, як і на чым езьдзіў я. Ня вельмі ўжо і ты езьдзіў... Ды і ня думай сабе, што такая работа аднаго толькі каваля. Таксама—гаспадар!

Міхалка не адказаў. І ў гэтай маўклівасьці Андрэю здалося,

што ўзяў ён над ім верх. Тады яшчэ, нібы сам сабе, марматаў пад нос:

— Гаворак тых колькі хочаш! Абы сход—кожны і гаворыць: трэба глядзець у калгасе, трэба даглядаць за ўсім усякім. Адзін аднаму гаворыць. Лепш чым гаварыць, глядзеў-бы...

Апошніх Андрэевых слоў Міхалка ня чуў. Ён ізноў падышоў цяпер да кола. Нібы хацеў зрабіць ён праверку:—ці сапраўды ськідвалася рэхва, і чаму яна ськідаецца?

А рэхва была ўзьдзета на калодку кола касяком. Ведама, камянем узганяў яе Андрэй — нязручна было. Яна толькі для прыкляпу трымалася на коле. Ад яе колу ня было ніякай карысьці. Рэхва гэта і ськінулася мусіць ня з тэй прычыны, што рассохлася кола. Вось-жа яна—ніт... Некалі была відаць зьнітавана не ў каваля, не агнём, а дрылем — самадзельна, самым гаспадаром.

— Гэта-ж мая рэхва!—нечакана ні для сябе, ні для Андрэя, вырвалася з Міхалкавых вуснаў.—Дзе ты яе ўзяў?

Адзін аднаму, момант, пазіралі ў вочы. Андрэй першым узрушыўся з месца. Як быў на тым баку драбінкі, перайшоў на гэты бок. Яго апанавала раптоўная злосьць.

— Твая?! Як-жа гэта „твая“? Гэта-ж былі некалі мае калёсы і яна мая, а не „твая“!

Стаялі каля кола хвіліну, ня зводзілі вачэй з рэхвы. Потым Міхалка не сьцярпеў:

— Ён будзе мне яшчэ гаварыць! От-жа—ніт. Я сам дрыляваў! Нават памятую—ня было падхадзячага цьвіка для ніту, дык свайго хлапца пасылаў к Юзіку. .

І раптам, як узьняў, так і абарваў свой голас. Нібы яму стала няёмка, што з-за гэтай рэхвы такая спрэчка, нібы нешта прышло на розум, успомнілася. Ён нават на цэлы крок адступіўся ад Андрэя.

— Твая, дык, няхай сабе, твая,—сказаў заспакоеным голасам.—Я-ж яе ад цябе не адбіраю.

Такі раптоўны пераход Міхалкавай гаворкі не задаволіў Андрэя. Андрэй хацеў давесьці, што няхай ня думае Міхалка, нібы ён украў у яго гэтую рэхву.

— Што ты мяне, вельмі, робіш тым злодзеем ці што?—сказаў Андрэй,—на якое ліха мне твая рэхва. Я яе, калі на тое пайшло, знайшоў. І тут, вось... яшчэ калі былі прысады, пасьвіў каня і знайшоў.

Па Міхалкавых вуснах прабег штучны сьмех. Ён адвярнуўся, ступіў да перадка драбінкі і пазіраючы на маладыя ліповыя дрэўцы:

— Ніхто цябе тым злодзеем ня робіць. Чаго ты крычыш? Усё адно яна цяпер твая і мая. Падумаеш—ёсьць аб чым гаварыць! Бяры, вось, давай будзем садзіць!

...Цэлы дзень садзілі маладыя ліпы і больш пра рэхву не гаварылі. Гаварылі пра Пліса... якія некалі тут, у Пліса, расьлі



агуркі. Гаварылі пра рыбу... невядома ці будзе ў гэтым годзе чысты лёд, ці будуць глушыць рыбу. І кожную гаворку пачынаў Міхалка. Пачынаў і на тым канчаў. Нeяк ня клеілася гаворка. Ня было спрэчак, альбо каб з пачатай гаворкі нарадзіліся новыя ўспаміны ці сьвежыя думкі.

А самым зьмерканьнем перад канцом работы, закурываючы Андрэй сказаў, што гэты год у яго будзе ўмалотным:

— На сто сорак працадзён больш як у мінулым годзе. От калі яшчэ з месяц працягнецца да гадавога падліку — наскрабу каля васьмісот.

— Каб я, гэтак як і ты,—утраіх ішлі штодня,—Міхалка ўставіў спачуваючае слова,—і ў мяне ня менш было б..

І як і пра што яны не гаварылі, Андрэю ўсё-ж рупіла рэхва. Яму хацелася ўвесь час проста і адкрыта сказаць Міхалку: „Што ты мне загаварваеш зубы. Ты, чалавеча, быў з канём, зразаў ліпу і згубіў тут рэхву. Ты думаеш, што ты разумны, а я дурачок і нічога не разумею“. Толькі ніяк ён ня мог гэтага выказаць. Можа таму ня мог, што ён таксама быў вінават. І нават невядома, хто з іх двух больш вінаваты. Хоць Андрэй і ня лічыў сваёй віны за віну, але ўсё-ж яна непакоіла яго. Андрэева віна цяпер загарэлася тарфяною іскраю—(ня відаць, а пякучая)—і тлела недзе глыбока ў яго нутры.

---

Было гэта, бадай, калі адлістаць гадоў з восем назад. Нeяк пасьля заходу сонца Андрэй навастрыў нож і вышаў з хаты.

Па зямлі ўжо разаслаўся вячэрні змрок, а на траву пала раса. Густымі пластамі ўздымаўся ад рэчкі туман. Недзе ў чаротах рэчкі, а мо‘ ў аеры—трашчэў драч.

Андрэй ішоў паўз рэчку, поплавам, а як параўняўся з ліповымі прысадамі—спыніўся. На адным месцы прастаяў хвіліну,— нібы лавіў невядомы, схаваны шорах чаротаў—глядзеў у адзін бок, у другі—слухаў. І калі пераканаўся, што ніхто яго ня бачыць, — хутка закрочыў напрамкі, па густой траве, да ліповых прысад. Ён нават і не заўважыў, што ішоў па высокай траве, што абрасіў калошы сваіх зрэбных порткаў да самых кален. Ён сьпяшаўся: — „хаця-б хто не падгледзеў“. А калі падышоў да першай ліпы, забыўся на ўсё. Андрэй любаваўся ліпаю. Яна была ў самым цьвеце. Над ёю гулі вячэрнія хрушчы..

Андрэй яшчэ раз і яшчэ—уважліва аглядзеў дрэва. Потым нож заткнуў за папругу, якой падперазаны былі яго порткі, сплюнуў на даланю, пацёр сьліну і палез па гладкім камлі дрэва аж у гушчар лісьцяў, цьвету.

— Ах, якія хвацкія сукі!—рукамі мацаючы ліповую кару цешыўся Андрэй,—не сукаватыя, маладыя... З аднаго такога сука— пара лапцей!

Зручна ўсеўся на суку ды ў сваіх думках:

— Ні стуку, ні груку... Ніхто нават і не падумае на мяне Усё адно нейкі лысы чорт будзе спажываць гэтыя лыкі. А чаму ня я?

За якую гадзіну Андрэй абабраў усе лепшыя сукі, і калі зьлез з ліпы, не паверыў сам сабе. Вельмі-ж кідалася ў вочы ліповая бель у вячэрнім змроку! Здавалася, нібы нехта ўсьцягнуў на зялёную, цьвітучую ліпу шкілет нейкага вялікага зьвера. Нават на момант зрабілася жудасна.

Тады хутка пакруціў ліповыя луты ў вярчы. Цэлае вышла вясло. Нераўнуючы, як вясло тых кірмашовых абаранкаў.

Дадому ідучы развaжаў:

— З такога вясла... з такога вясла выйдзе дзесяць пар лапцей. А мо' нават і больш!

Вось чаму ня важыўся Андрэй і выказаць Міхалку сваёй думкі. А віна Андрэява была большая за Міхалкаву і вось у чым:

Карзюкоўцы, тады, абадраную ліпу заўважылі толькі праз два дні. Ня было мусіць нікому патрэбы хадзіць у рабочы час каля прысад.

Перш-на-перш убачыў белыя сукі Лявон Кірэйчык і сказаў Захару, а Захар Міхалку. Міхалка вельмі-ж зьдзівіўся такой рабоце: „Як не кажы—прысады ўсіх карзюкоўцаў“. Плісава зямля, канешне, падзелена, а прысады—агульная маемасьць вёскі.

— Каб застаў такога чалавека,—казаў Міхалка,—скуру злупіць з такога чалавека і то мала.

Гаворак было на некалькі дзён. Потым усе гэтыя гаворкі ўлягліся. Ліповыя прысады хутка адцьвілі і лыка на іх не адставала. Падыйшла восень з сваімі замаразкамі, і рэчка Галая замерзла. Цэлымі днямі карзюкоўцы хадзілі па чыстым лёдзе ды глушылі даўбешкамі рыбу. І неяк у адну такую марозную раніцу Міхалка быў на рэчцы з даўбешкаю і здалёк заўважыў абадраныя сукі ліпы.

— Яна напэўна сохне, — падумаў Міхалка і сышоў з рэчкі. Ён перайшоў мерзлы поплаў і падышоў да самага дрэва. Нібы першы раз ён убачыў яго.

— От-жа нехта абчысьціў, — пазіраў, галаву задраўшы, на аголеныя сукі.—Ну і людзі-ж...

Думаючы так, Міхалка нібы зьбіраўся выратаваць ліпу—загаіць яе балючыя раны. (Памазаць сукі тарпэтынаю, абвязаць сукі рагожаю, замазаць глінаю сукі). Бо вось-жа надыходзіць зіма і мароз бяз літасьці будзе смактаць мядовы сок з голага яе цела.

Але ў Міхалкі былі другія меркаваньні. Калі гаварыў думкамі сам з сабою, што сохне ліпа, і кляў чалавека, які абадраў яе сукі, — такімі думкамі цешыў сябе. Ён сьціраў перад ліпаю сваю віну, якую меўся зрабіць.

Яшчэ з лета, калі першы раз убачыў яе абадраную, насьпела думка: „З такой ліпы—ах начоўкі!“

Стоячы цяпер каля дрэва, Міхалка яшчэ раз і яшчэ акінуў



сьціплым позіркам ліповы камель. Ліпа была ў камлі вельмі-ж гладкая. Камель быў такі, што аднаму не абняць.

— Каб толькі, хаця, ня было дупля,—меркаваў Міхалка, ня зводзячы з яе сваіх вачэй. Яшчэ зірнуў і яшчэ:—не павінна! Ліпа маладая! Я-ж памятую, калі яна была яшчэ падліпкам. Тут зямля тарфяністая, яе і выгнала.

Тады абышоў наўкол, зірнуў на самы яе верх, потым адвёў вочы на дарогу, што ідзе за былым Плісавым агародам, і ў сваіх думках:

— І надвор'е як наўмысьля! Зямля мерзлая і ніякага сьледу. Та-а-к... З яе можа быць..- адзін рэз, два, тры... З яе можа быць чатыры кавалкі па дзьве плашкі з кавалка,—васьмёра начовак. Ды ня тое, што асінавых начовак, а ліповых!

У тую ноч, як наўмысьля і вецер быў вялікі. Гуло ў комінох, а зямля яшчэ больш мерзла. І з тэй ночы першую ліпу прысад нібы зьнесла сіверным ветрам. Больш ніколі не палохала яна ўначы сваімі абадранымі сукамі.

Міхалка, цяпер, добра ведаў: канечне, ён згубіў рэхву як рэзаў тую ліпу.

Колы Міхалкавай драбінкі тады патрэбна было перацягваць. І шына на яго колах чапалася. І рэхвы на калодках ледзь ліпелі. Калі ня было маразоў—гразь была—замочацца колы і нічога. А прыўдарылі, былі, марозы,—зямля стала грудаю, рагляком. Дык недзе едучы раздрогалася, а тут зачапілася ў кустох і згубілася.

Праз увесь дзень Міхалка думаў і ня выпускаў з галавы:

— Пацягнула мяне нядобрая за язык! Нібы ў мяне хто пытаў—мая гэта рэхва, ці не мая! На якое ліха яна мне, як калгаснаму чалавеку, патрэбна, хоць сабе і мая?

Міхалка ня ведаў, што Андрэй абадраў ліпу. Каб ведаў ён—малы клопат быў-бы. Ды які клопат?—Уся віна была-б Андрэева: „Патрэбна было ня драць, а ён-бы яе і ня рэзаў“! Міхалку проста рупіла: цэлы дзень Андрэй такім насупістым. Буркне слова, другое, ды маўчыць. Міхалку ўвесь час думалася, што Андрэй напэўна мяркуе: „Міхалка рабіў бандарку і ён пазрэзаў усе прысады на клёпкі“.

Нават аж крыўда агарнула. Ён добра памятае: на другую ноч, як зрэзаў тую абадраную ліпу, нехта зрэзаў аж дзьве ліпы. Тады была заварушылася ўся вёска. Гаварылі: „Трэба прыпілнаваць“! І Міхалка канечна не палез больш у гэту бяду. Бо і сапраўды хадзілі пілнаваць. Макась, што жыве каля Гіляра, дык хадзіў, каб ніхто і ня ведаў. Яго цікавіла ня толькі тое, каб злавіць чалавека, а каб і ведаць, хто мае такі спрыт. Потым Макась выехаў на настаўніцкія курсы, прайшоў тыдзень, другі — і зноў нехта зрэзаў дрэва. Пачалі менш гаварыць, нібы ў закон увайшло сяды-тады рэзаць па аднаму, па два дрэвы. А пакуль ішла марудная хадою зіма, ад рэчкі ачысьцілі ўвесь бераг.

І нават зусім пакінулі дзівіцца.

Так і зьніклі, невядома дзе дзеліся, ліповыя прысады.

..Калі зьбіраліся сёньня садзіць прысады, і ў думках ня было, што скончаць яны такі доўгі шар. Брыгадзір Банэдзік так і разьмеркаваў—„на два дні“. Ім і самым ня верылася, як гэта яно здарылася.

А яны садзілі прысады з нейкім нявыказаным імпэтам. Міхалка сваім спрытам хацеў сказаць Андрэю: „Ты думаеш, што калі я зрэзаў тую прысаду, дык я вораг для савецкай уласьці? Яшчэ, мы, гэтага паглядзім!“ Андрэя, дык яго толькі крыху скрэбла сумленьне: „Драў я некалі лыкі, а цяпер давялося садзіць. І пасаджу!“

Андрэй вельмі быў рад, што ні адной ня зрэзаў прысады. Ад гэтага куды больш шчымела-б цяпер сэрца. Не без таго: — калі зьявіліся пні на прысадах — Андрэй у адзін вечар таксама хацеў паехаць. Ён думаў тады цэлы дзень. Але пад вечар пашоў сьнег і Андрэй вырашыў: „Паеду, нараблю сьлядоў. Нехта цэлую восень рэжа, а я за ўсё буду адказваць“.

І не паехаў. Цяпер, Андрэй, проста дзякаваў першаму сьнегу, што ён затрымаў яго. Нечага, на сэрцы чыстае сумленьне. „Толькі-ж вось, гэтыя лыкі... Можна-ж было лазы надраць, дык не!“

Зусім зьмерклася, калі Міхалка з Андрэем ехалі дадому. Конь ішоў павольным крокам. Лейцы аслаблі ў Андрэевых руках. Міхалка сядзеў на біле калёс. Абапёрся аб біла абедзьвюма рукамі, нагой упёрся ў лёсткі драбінкі, другую—падагнуў пад сябе. „Каб ня выкінуцца, калі дзе падскочыць кола на каляіне“.

Змрок вечара згусьцеў, як тое цеста. І скрозь асеньнюю густату вечара блішчэлі толькі адны аганькі. Здавалася здалёк, што гэтыя аганькі — шматлікія ліхтары на нейкай вялікай чыгуначнай станцыі.

Яны пад‘ яжджалі да свайго калгасу і маўчалі.

Конь спускаўся з гары ў лагчыну і хацеў бегчы. Андрэй напяў лейцы і нібы з кпінкаю, з дакорам, на каня:

— Ціш! Цішай! А то зноў пагубляеш Міхалкавы рэхвы!

Міхалка, як сядзеў на біле калёс, аж прыўзьняўся.

— Няма табе чаго выскаляцца!—праказаў голасам вялікай крыўды,—я табе, можа, не Лявонаў Стасік!

Андрэй такі ня даў каню разгону. Хамут налез на конскія вушы, а конь перабіраў дробным крокам, як на парадзе.

— Я і не высkaляюся...—праказаў бязуважна.—Я-ж кажу, што рэхвы слаба трымаюцца на колах.

Міхалка сеў на памост драбінкі. Яму хацелася заплакаць ад крыўды, як таму маладому дзіцяці. Ён сьцяў зубы і прамаўчаў цэлую хвіліну. Потым узьняўся — стаяў каленкамі на голым памосьце ды абуджаным голасам:

— Андрэй! Ведаеш што, Андрэй... Ну, я зрэзаў. Я, можа, і дарогу ўсім паказаў. Бо я перш-на-перш зрэзаў. Я зрабіў пачатак. Тую зрэзаў, што нехта драў з яе лыкі. Нейкі недавярак абадраў яе, а я думаў, што яна ўсё адно ссохне...

Па Андрэевым целе перабеглі халодныя дрыжыкі. Як трымаў лейцы,—смаргануў каня, нават крыкнуў на Міхалку:

— А хто ў цябе пытае?!

Конь ірвануўся, а Міхалка абхапіў рукамі білы калёс і нейкім надламаным голасам:

— Як,—гэта хто пытае? Я можа сам у сябе пытаю?. Я яе зрэзаў і яна збуцьвела лежачы ў таку. Шашаль зьеў яе. А я сёньня садзіў гэтыя дубчыкі. Я ў цябе пытаю: калі гэтыя дубчыкі вырастуць?

Андрэй зьдзіўлена азірнуўся на Міхалку. Ён проста не хацеў чуць, слухаць таго, пра што думаў сам. Ён абвярнуўся тварам да Міхалкі, сустрэў яго твар ды:

— Ці не звар‘яцеў ты? Я-ж кажу:—хто ў цябе пытае? Нашто табе леташні сьнег?

— Не, брат, ня леташні сьнег! Я не хачу, каб мяне мучыла сумленьне. Не адзін я рэзаў прысады, а я сёньня бачыў, што ты злуеш на мяне аднаго. Ты думаеш—я не чалавек, а той гад, якога мы ўчора клялі? А я нават скажу перад усімі калгасьнікамі. Пабажуся табе, што скажу! Паглядзіш!

І ён змоўк.

Яны пад‘яжджалі да самага калгасу. Міхалкавы словы нават расчулілі Андрэя. Ён хацеў цяпер сказаць яму: „Ня ты першы вінават, а я. Мая была першая віна. Давай ня будзем успамінаць старых прысад, а будзем даглядаць за новымі“.

Але ён не сказаў. І можа таму не сказаў, што конь рысьсю ўбег у вішнёвыя прысады калгаснай вуліцы. А можа таму, што выказаў Андрэй сваю думку і за сябе і за Міхалку. Гэта, бадай, праўда! Бо цяпер зусім лёгка стала на сэрцы, весела.. Узьедуць яны зараз на калгасны двор, а Міхалка каго спаткае, першаму і скажа:

„Пасадзілі маладыя прысады, і няхай паспрабуе хто-небудзь крануць хаця пальцам! Хай паспрабуе...“

Яны абодва цяпер маўчалі і здаецца бачылі:

Вось ужо і вырасьлі маладыя ліпы і як прыемна маладому калгаснаму саду! У сад не залятае нават шолах ветру.

Летні, сонцам заліты дзень. Цьвітуць ліпы... Колькі, колькі вунь, на ліповым цьвеце пчол! Ліпы сьпяваюць тонкаструннай музыкай. Кожны ліповы цьвецік прымае дарагіх гасьцей, частуе іх, усьміхаецца сонцу! З маладых ліп, з сочных, капае перасьпелае, асыпанае сонцам жыцьцё.

Сярод ліп—цьвіце вясна.

А цень ліповы—мяккі, ціхі... Гэта цень з-пад дзявочых расьніц! А потым вечар... Над маладымі ліпамі кружацца, наўзахапкі снуюць кросны майскія хрушчы. І зноў не змаўкае музыка ліп. Толькі яна цяпер была музыкай басэтлі, мяккай як плюш...

Сакавік, 1935 г.

УЛ. ДУБОЎКА*)

## ПАЧЫНАЕЦЦА З ПАД ХМАР ВАНДРОЎНЫХ

Пачынаецца з пад хмар вандроўных,
пачынаецца з лясоў шумлівых.
Захадзіла сонца ціха — роўна,
а на захадзе чырвань нехта выліў.

І замоўклі дразды над балотам,
і у лесе сівакракі замоўклі.
Ноч пацягнула бяліць палотны,
Разьвіваючы непразрыстыя столкі.

Паляцелі вятры над далінай,
вышывалі расою сьцяжынкі...
Выхадзілі істужкай цьвятлівай
маладзіцы й дзяўчаты з дажынкаў...

Ад цямна і да цёмнага ў полі
за сярпом яны беглі гарбатым.
Дык таму ў паясьніцы ім коліць
і пякельна смыляць іх пяты.

Кажуць словы — жыта яны жалі,
а пяецца іншае ў песьні:
Пабіралі па загонах сьлёзы жалю,
вырасьлі што сёлета ў Палесьсі.

Песьня імчыцца, а жыцьця ня хваліць,
песьня стогне з пошчакам балюча.
Гэта Прыпяці стромкія хвалі
скаржацца аж да пяскоў зыбучых.

Сум вялікі, ой! узрос бязконца,
дзе-ж і лета, дзе і месяц ліпень?
Вусны пашчапаліся ад сонца
і да плеч кашулі зрэбныя прыліплі.

---

*) Уладзімер Дубоўка належыць да групы маладых поэтаў Усходняе Беларусі, якіх жорстка прасьледавалі бальшавіцкія ўлады за беларускі характар іх творчасьці. Ад некулькі год поэта нічога ня друкуе, ня маем ніякіх вестак, што з ім сталася наагул. Ягоная творчасьць, якая мае глыбокі індывідуальны характар, вызначаецца даволі цікавымі экспэрымэнтамі ў кірунку арыгінальнай, сучаснай хвормы. Паходзіць ён з сялянскай сям'і ў Вялейскім павеце. Першы зборнік сваіх вершаў п. н. „Строма“ выдаў у Вільні ў 1923 г.; наступныя зборнікі: „Трысьцё“ 1925, „Credo“ 1926, „Там дзе кіпарысы“ 1925 (поэма) друкаваў у Менску.

Першы верж і перадапошні перадрукоўваем із зборніку „Трысьцё“, а другі і апошні — із зб. „Credo“. Рэдакцыя.



Праляцелі вятры над далінай,
праляцелі вятры праз сасоньнік.
Серп гарбаты на хмары ускінуць,
хай ускінуць яны сягоньня.

Людзі скажуць, што гэта месяц,
што зубілі яго там, дзе зоры.
На яго з зямлі засьмяецца
Электрычная жнейка скора.

---

## ПАЛЯЖАМ МЫ

Паляжам мы і вецер косьці нашы
паточыць, пылам над лясамі разьнясе.
Ужо сьціскае грудзі цяжкі кашаль
і вусны песень не нясуць красе.

Такі і лёс, такая перагаса:
маркотна мне і рады не дасі.
Задумаешся непакойна часам
і закалоцішся жыцьцём асін.

Чаму ня так, як сэрца хоча, просіць:
наадварот і супаратнасьць скрозь.
Пайду у сенажаці як на росы,
каб супакойна адпачыла скронь.

Іграй, іграй, каханы цымбалісты,
каб дні вясны маёй са струн зьляталі.
Ішлі яны пад вэлюмам імглістым
і гінулі ў жыцьці, як хвалі ў хвалях.

Не шкадаваў, не скардзіўся нікому —
хоць часам дух зьвіваўся ў немы лямант.
І сьвет увесь, нязнаны і знаёмы,
мне выдаваўся нейкай чорнай плямай.

Іграй, іграй, каб струны галасілі
і захліпаліся, як я сягоньня.
Загіну з гукамі ў тумане сінім
а ня схілю ні галавы, ні скроні.

Аддам усё за гукі шчырай песьні,
пакіну гукі ў новым барваваньні.
Ад Віленскіх вазёр да сумнага Палесься
я разьлію душу і згіну у нірване.

Дык грай-жа, грай, каханы цымбалісты,
каб дні вясны маёй са струн зьляталі.
Ішлі яны пад вэлюмам імглістым
і сьцежкаю ішлі... краіна дарагая!..

---

## МОЖАЦЕ ЛАЯЦЦА

Можаце лаяцца да сыці,
да сквілу,
можаце клікаць і ночы, і дні.
Вока маё ня міргне палахліва,
хоць і ёсьць, як і быў, адзін.

У прасьцягах празрыста-
нязнаных
думка імклівіць нясупынны лёт:
Сьвяткую дубэльты сваіх
выгнаньняў,
як зялёнае сьвята штогодзіць
народ.

Помню і помніць буду
да жвіру
словы і сьпевы, дзе слоў
ня было.
Сенажаць зорак маўклівых
турбавала на хвалях вясло.

Соўкала човен нямое
прадоньне,
месяц і сонца цьвятлівілі.
шлях
Дарагое і апрыкрае сягоньня,
будзеш і ты ляжаць далавах.

Заўтрашняе чую, істотай вітаю
Кленчу на дзіды, растайны пыл.
Вясна мая, жыцьцём маладая,
табе я ня здрадзіў, з табою быў.

---

## НЯ МОЖА АБЫЙСЬЦІСЯ БЯЗ ЛІРЫКІ

І ціхазвонна і паволі восень
лісьцё наземіць, сьцеле у даліны.
Хвіліну вецер іх цярушыць, носіць,
пакуль зямлі на грудзі ня ускіне.

Няма жалобы, ня чуваць і скаргі:
тугу жыцьцё ў лісьці пазалаціла.
На Беларусі і ў пяскох Сахары
адна уцеха ім і роўная магіла.

А дні вясны маёй? Паволі так-жа
і ціхазвонна ў нябыцьцё зьнікаюць.
У памяці іх сьлед ня згіне — ляжа,
і цяжкі часам, ён, як дзікі камень.

А я! Благаслаўляю дні, што зьніклі,
вітаю дні наступнага ў трывозе.
Няўжо і вы, як гэны камень дзікі,
на шыю занізьзю мне ляжаце увосень?

З трывогай гэтай аб адным малюся:
каб дні жыцьця майго па вітай сьцежцы
вялі мяне да любай Беларусі,
дзе кожны з дрэва ліст мне сэрца цешыць.

---



СТ. СТАНКЕВІЧ

# Беларускія філёмацкія вершы Яна Чачота

Агульна ведама, што ўсе філёмацкія поэты, а разам з імі і Адам Міцкевіч, з вялікай любоўю адносіліся да беларускага народу і яго творчасьці, чэрпаючы з яе вельмі многа матываў да сваей поэзіі, а так-жа ўводзячы да свайго літаратурнага языка мноства беларускіх асаблівасьцяў. Іхняя творчасьць, як паказываюць сьціслыя навуковыя досьледы, у вялікай меры вырасла на беларускім народным падкладзе, творачы ў польскай романтычнай літаратуры самародную рэгіёнальную плынь. З пасярод поэтаў філёмацкіх ярка выдзяляецца постаць Чачота, каторы патрапіў найбліжэй зрадніцца з беларускай народнай творчасьцю і найбольш беспасярэдна перадаць яе ў сваей поэзіі; пішачы ў ладнай меры пабеларуску, належыць ён адначасна да польскай і беларускай літаратуры.

Ян Чачот быў пераважна дасюль знаны нашай літаратуры, як першы сыстэматычны зьбіральнік і выдавец беларускіх народных песьняў, і як аўтар дваццаці дзевяці беларускіх вершаў, напісаных пасьля павароту із ссылкі (г. зн. пасьля 1833 г.), а надрукаваных у ведамых яго зборніках *Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny* з 1844 і 1846 г. Гэтыя яго вершы, як і фольклёрыстычная праца, маюць вялікае значэньне ў дасьпяваньні беларускага літаратурнага адраджэньня і вызначаюць у ім Чачоту адно з найбольш выдатных месцаў.

Аднак значэньне Чачота, як аднаго з першых пачынальнікаў беларускай адраджэнскай літаратуры, выдасца нам без прыраўнаньня большым, калі ўявім сабе, што яшчэ шмат раней, бо ў дваццатых гадох мінулага стагодзьдзя, з вялікім посьпехам пісаў ён некаторыя свае вершы пабеларуску і ў творах польскіх вельмі ахвотна выкарыстоўваў беларускія народныя матывы. Гэтыя творы былі да нядаўняга часу пераважна няведамыя. Чачот, дзякуючы сваей вялікай скромнасьці, рэдка спатыканай сярод поэтаў, беспрэтэнсыянальнасьці ў паглядах на сваю літаратурную прадукцыю, якая аднак артыстычным роўнем перавышшала іншых філёмацкіх поэтаў, пры жыцьці нічога не друкаваў з гэтага пэрыяду, а па сьмерці яго творы доўга спачывалі ў рукапісах, пераходзілі з рук у рукі, шмат з іх пагінула, а шмат яшчэ й сяньня старанныя дасьледчыкі выносяць на дзеннае сьвятло.

Гэтак між іншым проф. пазнанскага унівэрсытэту В. Клінгер натрапіў у 1922 г. у Лодзі на тры рукапісныя зборнікі няведамае поэзіі Чачота, якія зьмяшчаюць больш за дзьвесьце дробных вершаў з часаў філёмацкіх, з пасярод іх каля 170

песьняў, перважна эротычных, прысьвечаных дачцэ рэктара віленскага унівэрсытэту Зосі Малеўскай*). Гэтыя песні ў ладнай меры зьяўляюцца пераробкамі або стылізацыяй беларускіх народных песьняў; поэта вельмі часта да сваіх песьняў пазычаў мэлёдыю (г. зн. рытміку і разьмер верша) з беларускіх народных песьняў, зазначаючы аб гэтым у адносьніках. Дзеля прыкладу зьвернем увагу толькі на некаторыя песні. Прыкладам, песьня Чачота *Młodości luba czemuż tak marnie* укладзена поэтам на мэлёдыю папулярнай народнай песьні „Oj wałyž maje, dy pała-wyje"; патрыётычная песьня *O ty, ziemio nieszczęśliwa* мае адносьнік: „nóta—Paniczyku, karoliku—puskaj-ža nas da domeńku—Žeńcy w Nowogródzkiem śpiewają"; урэшце адна з найпрыгажэйшых песьняў Чачота *Przez me podwórze Cieciera leciała* напісана на ўзор народнае песьні „Da cieraz moj dwor laciela Ciaciera", якую між іншым любіў сьпяваць у свае дзяцюцкія годы Адам Міцкевіч. Такіх песьняў Чачота, стылізаваных на ўзор ведамых яму беларускіх народных песьняў, спатыкаем у менаваных рукапісных зборніках каля дваццаці.

Ідучы за тагачасным романтычным кірункам, прабаваў Чачот шукаць свайго таленту і ў галіне баляды. Напісаў іх восем: *Bekiesz, Zamek Nowogródzki, Szczupak Kołdyczewski, Górka dzwoniąca w Puzieniewiczach, Radziwiłł—czyli założenie Wilna, Uznoby, Myszanka* і *Świteź*. Рукапісы гэтых балядаў загінулі і аб іх ведаем усяго толькі із справаздачы Я. Г. Рыхтэра (*Jan Czeczot i jego nieznane poezje*. Ognisko domowe, 1887), у якой знаходзім дакладны зьмест і цікавейшыя адрыўкі кожнае баляды. Гэтыя баляды, як могуць так-жа сьведчыць іх назовы, зьяўляюцца аснаванымі на беларускіх народных легендах, зьвязаных з канкрэтнымі мясцовасьцямі, пры гэтым іх народныя сюжэты адзначаюцца вялікай сьвежасьцю і фольклёрыстычнай праўдзівасьцю, што зусім ня відаць пасярэдніцтва поэты.

Як бачым, кірунак поэтыцкае творчасьці Чачота ярка вызначыўся ўжо ў яго раньняй моладасьці, калі, будучы арганічна зьвязаным з беларускай зямлёй і яе жыхарамі і культывуючы сьвядома й консэквэнтна гэтую лучнасьць у сваей псыхіцы, зьвярнуўся па поэтыцкі матар'ял перадусім да беларускай народнай творчасьці. Беларускі кірунак творчасьці Чачота найвыразьней праявіўся ў яго філёмацкіх вершах, пісаных пабеларуску. Гэтыя вершы, як і ўся поэзія філёматаў наагул, былі доўгі час няведамыя. Толькі ў 1922 г. надрукаваў іх Ян Чубак у зборніку, выданым Кракаўскай Акадэміяй Навук, п. н. *Poezje Filomatów*.

Першым філёмацкім творам Чачота, напісаным у беларускай мове, ёсьць верш на імяніны Старшыні Таварыства Філёматаў Язэпа Ежоўскага, сьвяткаваныя 19 сакавіка 1819 г. У вершы, напісаным у хворме дыялёгу, выступаюць беларускія сяляне, прамаўляючы сваім уласным языком, — як цівун, войт, дзесятнік, хор хлапцоў, хор дзяўчат і сьпеў Мікіты. Патрапіў тут поэта з вялікай умеласьцю ухапіць народны тон. Рэалізм і прасьціня жыцьця сялянскага захаваныя тут поўнасьцю, сяляне захоўваюцца і прамаўляюць так, як у сябе дома. І гэты „цівун з двара", што прыходзіць на чале сялян, і „сельскі дзесятнік", што „лысіну гладзіць", і войт, „што уса круціць, чалавек бывалы", а так-жа экс-жаўнер і вясковы музыка — гэта людзі, узятыя жыўцом з народнага асяродзьдзя. Найпрыгажэйшымі адрыўкамі твору ёсьць песні, якія сьпявае хор хлапцоў і дзяўчат. Не народныя гэта песні, бо поэта мусіў іх прыстасаваць да таварыскае ўрачыстасьці, але іх хворма мае многа супольнага з беларускімі песьнямі народнымі. Характар народнае песьні асабліва надае ім умелае ўжываньне доўгіх, вобразных прыраўнаньняў, браных із сьвету вясковае прыроды. Напрыклад:

Lisiczka žouty hrybok,
Slimakou nie baicca;
Nie toczyć jaho czerwiaczok,
Jon u lesie zdarou bliszczycca.

Konik pa polu dureje,
Choć kopy wozić nia dbaje.
Saławiej charaszo pieje,
Samiczku k sabie sklikaje.

Budź, jak lisiczka, zdarowy,
Jak konik, wiesioł pry trudzie;
Niech Twajo pismo, razmowy
Jak saławja hołas budzie.

Такія прыраўнаньні зьяўляюцца тыповымі ў народнай песьні, якая звычайна пачынаецца ад якога небудзь абраза альбо зьявы ў прыродзе, пераходзячы потым да прыраўноўванага прадмету. Зусім зразумела, што гэтая песьня найбольш спадабалася філёматам; будуць яе сьпяваць падчас розных сваіх абходаў, а І. Дамэйка прыпомніць яе нават па підзісяці гадох*).

Наступная песьня, якую сьпявае хор хлапцоў, зьмяшчае ў сабе таксама характэрныя звароты, будучыя ўмелым стылізаваньнем народнае песьні:

Kolki ŭ snopie jeść ziernietek,
Tolko žyj szczaśliwych letek;
— — — — — — — — — — —
Kolko za adnym pakosom
Kasiec dobry trau schędožyć,
Tolko Tabie piered nosom
Boh niechaj czerwońcou złožyć.

*) Аўтографы гэтых зборнікаў знаходзяцца сяньня ў маладога польскага поэты Сьвятаполка Карпінскага, а іх філёлёгічная копія, зробленая проф. Клінгерам, з якой і я карыстаўся, — у бібліятэцы Полёністычнага Сэмінара Віленскага Унівэрсытэту.

*) Ign. Domejko, Filareci i Filomaci, у кнізе H. Mościckiego, Z filareckiego świata. Варшава, 1924, 87. A. E. Odyniec, Domejko w domu rodzinnym (Kłosy 1884, II, Nr. 99). Korespondencja Filomatów, I, 142, 297 i 281.

A jak my zausze da lesa
Ad niekrutou uciekajem,
Tak niechaj bieda da biesa
Uciecze, niech jej nie znajem.

Зацемка ў апошняй зваротцы дакладна ілюструе тагачаснае палажэньне беларускае вёскі, калі ўцяканьне ў лес перад „некрутамі“ было штодзенным зьявішчам.

Падобных месцаў, маючых выразна народны характар, знойдзем у першым беларускім творы Чачота мноства, але і гэтых хопіць дзеля паказаньня яго сувязі з народнай творчасьцю.

Некалькі слоў трэба пасьвяціць мове верша, будучага першай пробай Чачота пісаць пабеларуску. Трэба прызнаць, што проба ўдалася, бо мова беларускага сялянства ўхоплена тут досыць трапна. Хаця ня было яшчэ ўсталенага правапісу і граматыкі беларускай, паэта патрапіў, зразумела з выняткамі, верна перадаць фонэтычныя і морфолёгічныя асаблівасьці гэтае мовы. Гэта сьведчыць, што ўжо тады прысвоіў ён даволі добра беларускую мову, над якой шырэй задзержыцца ў уступе да аднаго із зборнікаў *Piosnek wieśniaczych* і падасьць праект яе граматыкі. Імкненьне да рэалізму і праўдзівасьці ў прадстаўленьні народнае сфэры выразна адбілася і на языку. Такія часткі твору, як хор дзяўчат, хор хлапцоў і песьня Мікіты, напісаныя чыстай беларускай мовай, тыповай для Навaградчыны, адкуль поэта паходзіў, затое прамова Дзесятніка, які ў сувязі з сваім становішчам мусіў мець кантакт з дварам, пераплятае Чачот польскімі выражэньнямі.

Вялікім пасьпехам цешылася беларуская песьня Чачота *Da pakińcież horła drać*, напісаная на імяніны Дыянізага Хлявінскага, якую потым поэта перарабіў і прыстасаваў да імянінаў Фр. Малеўскага, сьвяткаваных 1 лістапада 1819 г. Чачот, паведамляючы Міцкевіча аб таварыскай урачыстасьці, піша: „Na imieniny Djoniza ułożyłem kilka chłopskich piosenek, między któremi ostatnia „Da pakińcież horła drać“ najlepiej przypadła Tomaszowi (Зану) do smaku; wykoncypował, jak wiesz, nutę i z tą się wszędzie, jak Cygan na jarmarku, popisuje. A że się podoba, musiałem tyle wierszy i dla Jarosza (гэтак празывалі філёматы Фр. Малеўскага) i od tegož samego wiersza *Da pakińcież* poczynając, do niej wysztukować“ *). Што тычыцца гэтых іншых „kilka chłopskich piosenek“, якія напісаў Чачот, нічога ня ведаем, бо ў філёмацкім архіве не захавалася апісаньне імянінаў Хлявінскага. Крыху сьвятла кідае на гэтую справу карэспандэнцыя Чачотавых сябраў. Т. Зан у лісьце да Міцкевіча з 1 сьнежня 1819 г. успамінае, што „Jarosz oskarżył Tomasza, że śpiewa, a mianowicie sławną oną *Lisiczka žouty* etc. i sławniejszą co do muzyki ową *A jak przydzie kalada*, etc., do Dyoniza zrobioną, musiał śpiewać“ **). Таксама: Малеўскі інфармуе аб гэтай песьні

*) Koresp. Fil., I, 275; II, 415.
**) Ibidem, I, 281.



Міцкевіча, называючы яе „pieśnią faworytną“, каторая „milej się słucha, niżby się słuchało *God sawe the King*“ *). Хоць аўтара песьні ніхто не падае, найбольш аднак праўдападобна, што ёсьць гэта песьня Чачота, напісаная, як успамінае Зан у сваім лісьце, на імяніны Дыянізага Хлявінскага, якая, нажаль, загінула. Таксама ня ведаем пачаткавага тэксту песьні „Da pakińcież horła drać“, напісанай для Дыянізага, а маем толькі тэкст пазьнейшы, перароблены для Фр. Малеўскага. Што тэкст пачаткавы мусіў быць іншы, аб гэтым сьведчыць доўгі адрывак у захаваным тэксьце, у якім поэта зычыць Малеўскаму, каб ён хутка закахаўся і ажаніўся. Да Д. Хлявінскага, які прыгатаўляўся да духоўнага стану, Чачот такім спосабам прамаўляць ня мог.

Гэты невялічкі вершык Чачота, як і першы яго беларускі твор, дзякуючы свайму рэалізму і простым, штодзенным выражэньням, зьбліжаецца да народнае песьні. Апрача гэтага знаходзім тут цікавы народны звычай:

Da daj krasnu dziewaczku,
Kab jon z serca pakachau,
Da z harełkoj plaszeczku,
Swat ad niaho k niej jechau.
Hajda, hajda, hajda, hajda.
Da jechau, da to skazau,
Da nasz Hieranim, nasz byk
K waszej ciałuszcy prywyk.
Daj Boh jeje pojmaci,
Da da byczka zahnaci...

Ёсьць гэта адна з многіх народных формулаў, ужываных падчас абраду сватаньня. Калі бацькі маладой просяць свата сесьці за сталом, ён, паведамляючы аб прычыне свайго зьяўленьня, звычайна гаворыць:

Дзякаваць! Сядзелі на гэтай нядзелі!
Ды што з таго будзе? Наш бык
Ды к вашай цялушцы прывык!
Каб даў Бог таго нам дaждаці
Каб вашу цялушку да нашага быка загнаці **).

Апошнім захаваным беларускім творам Чачота з часоў філёмацкіх ёсьць верш на прыезд Адама Міцкевіча, які зачынаецца ад слоў „*Jedziesz, mileńki Adam*“. Быў ён дэклямаваны на імянінах А. Міцкевіча і Т. Зана, сьвяткаваных супольна 24 сьнежня 1819 г. Вызначаецца ён тымі самымі асаблівасьцямі, што і іншыя беларускія вершы Чачота, г. зн. мае многа рэалізму і сьвежасьці дзякуючы зьбліжэньню да народнае песьні, якая пакінула асабліва выразны сьлед на другой яго частцы:

Nie tak nam sonka jasno
Bliszczyć, jak ciebie niet.
Radaści iszczem naprasno;
Uwieś nam niemił świet.

*) Koresp. Fil.: I, 302.
**) I. Носовичъ, Белорусскія песни, 134.

Saławiej nie tak nam pieja,
Rožy nie pachnie ćwiet,
Nie tak nam bieła laleja,
Kali ciabie tut niet.

Bez ciebie usio tut smutno,
Pa tabie płacze haj,
I reczki pływuć mutno,
U žałobie uwieś kraj.

Вось-жа і ў народнай песьні ў падобны спосаб выражае народ свой сум. З тугою закаханых альбо з нешчасьлівым лёсам замужняе жанчыны звычайна гармонізуе прырода, набіраючы адпаведны учуцьцёвы адценак.

І яшчэ аб аднэй беларускай песьні Чачота трэба тут успомніць, якой, сьпяваючы ў цэлі Т. Зана падчас сьледзтва філёматаў, разбудзіў імпровізатарскі талент Міцкевіча. Гэтая песьня, як і многія творы Чачота, загінула; ведаем аб ёй толькі із справаздачы О. Сьлізьня*) і А. Э. Адынца**), навочных сьведкаў. Апошні запамятаваў два яе вершы: „Było nas kilkunastu wieczorem w celi Tomasza Zana, gdzie też przyszli Suzin i Czeczot. Ten ostatni zanucił przy gitarze świeżo ułożoną przez siebie piosenkę w ludowym djalekcie rusińskim (białoruskim), której dwa tylko wiersze pamiętam:

Da latuć, latuć, da dzikije husi,
Da nas pawiazuć do dalokoj Rusi.

Treść dalsza wyrażała sprzeczne uczucia tych lecących dobrowolnie na południe, i tych wiezionych na północ z nadzieją i bez nadziei powrotu, i tak wszystkich wzruszyła do głębi, że płacz ogólny stał się wtórem pieśni, a śpiewak przedmiotem uścisków ***). Зацытованыя Адынцам два радкі песьні Чачота маглі быць модыфікацыяй першага радка шырока ведамай народнай песьні:

Да ляцелі серыя гусі із Русі ****).

Вершы Чачота, пра якія была тут мова, ня могуць раўняцца з яго беларускімі вершамі пазьнейшымі, якімі хацеў беспасярэдна прамовіць да сялянства і гэтым самым практычна прызнаваў патрэбу беларускае нацыянальнае літаратуры. У часы філёмацкія поэта напэўна не адчуваў яшчэ гэтае патрэбы, хаця чуўся арганічна зьвязаным з беларушчынай і народную беларускую творчасьць прызнаваў адным з найгалаўнейшых пунктаў свае поэтыцкае праграмы. Аднак-жа і гэтыя вершы Чачота могуць мець некаторае значэньне для беларускае адраджэнскае літаратуры, як адныя з першых яе памятнікаў.

*) Otto Ślizień, Z Pamiętnika (1821—1824), у кніжцы H. Mościckiego Z Filareckiego świata, 140.
**) J. Tretiak, Młodość Mickiewicza. Petersburg, 1898, II, 287 і А. E. Odyniec, Wspomnienia z przeszłości, Warszawa, 1884, 285.
***) A. Odyniec, l. c., 285.
****) І. Носовичъ, l. c., 210.



В. ГАДЛЕЎСКІ

# Стагодзьдзе новага беларускага друку

**(Да 100-тых угодкаў выхаду ў сьвет беларускай катахізмоўкі)**

Сёлета мінае 100 гадоў ад надрукаваньня беларускай катахізмоўкі, якая зьяўляецца пачаткам новага беларускага друку і дзеля гэтага выхад яе ў сьвет становіць, можна сказаць, эпоху ў беларускім культурным жыцьці.

Стары беларускі друк, які пачаўся 6 жніўня (ст. стылю) 1517 году надрукаваньнем Ф. Скарынай у Празе Чэскай „Псалтыра“ і які ў тым-жа 16 і часткова 17 стагодзьдзі дайшоў да найбольшага свайго росквіту, у 18 стагодзьдзі заняпаў зусім. Многа прычынаў зложылася на гэты заняпад. Галоўнай прычынай было тое, што наша тагачасная інтэлігенцыя раздвоілася: адна часьць пачала пераймаць польшчыну, а другая — царкоўна-славяншчыну. Першая частка ўводзіла ў беларускую літаратуру столькі слоў, хвормаў і зваротаў польскіх, што тагачасныя беларускія друкі, пачынаючы ад 17 стагодзьдзя, маюць характар нейкай моўнай трасянкі, зложанай з беларускіх і польскіх слоў. Гэтакай трасянкай пісалі тыя, што пераймалі каталіцтва і разам з ім польшчыну; яны з часам перайшлі цалком на польскую мову. Тыя-ж, што аставаліся пры праваслаўі, таксама кідалі беларушчыну, варочаючыся да царкоўна-славяншчыны, або лепш кажучы—да стара-баўгаршчыны, якою былі пісаны царкоўныя кнігі. Павадыры праваслаўя ў нашым краі жадалі гэтым прыблізіць жывую беларускую мову да „любезнѣйшого“ (як яны выражаліся) і „сутельнѣйшого языка словенского“. Жаданьне гэтае выплыла ў іх з зусім фальшывых асноваў, што быццам калісь усе славянскія плямёны мелі тую славянскую мову, якая перахавалася несапсаваная ў царкоўных літургічных кнігах. Дзеля гэтага павадыры праваслаўя ў нас стараліся ўдзяржаць гэту мову ўва ўсіх ня толькі царкоўных, але і сьвецкіх кнігах, каб такім спосабам захаваць еднасьць славянскіх плямёнаў ад Адрыятыкі да Ноўгараду*). У імя гэтай еднасьці вучыцялі забаранялі вучням брацкіх і наагул царкоўна-рэлігійных школ гаварыць мовай народнай („простай“), а загадывалі ўжываць мову славянскую або грэцкую**). Ясна, што мова, якая ня мела апорышча ў народных масах, інакш кажучы, якая **ня жыла**, не магла ўдзяржацца на ўзьверху жыцьця і мусіла заняпасьці; а з заняпадам мовы заняпаў і стары беларускі друк.

Адраджэньне новай літаратуры і разам з ёю беларускага друку пачалося ў першых гадох 19 стагодзьдзя. Прычыніліся да

*) Hl. W. Łastoŭski. Historyja Biełaruskaj (Kryŭskaj) knihi. 1926 h. str. 497—8.
**) Голубевъ. Исторія Кіевской Академіи. т. I, стр. 198.

гэтага новыя, часта рэвалюцыйныя ідэі, якія прыходзілі да нас з Заходу ў часы напалеонаўскіх войнаў, а так-жа і пазьней, — і рабілі некаторыя зьмены ў паглядах і настроях грамадзянства, а асабліва моладзі, якая гуртавалася тады каля Віленскага Унівэрсытэту (1803—1832 г.г.). Шмат прычыніўся да адраджэньня нашай літаратуры і друку кірунак званы романтызмам, які разбудзіў любоў да народу і народнай творчасьці. Пад уплывам романтызму трацяць сваю сілу даўнейшыя пагляды на псэўдаклясычную літаратуру, якая не прызнавала „простых“ хвормаў і „простых“ моваў, але прабуджаецца ў грамадзянстве зацікаўленасьць мінуўшчыняй свайго краю і народу і разьвіваюцца краёвыя імкненьні.

У гэтым-жа часе паўстаюць на Ўсходзе Беларусі першыя творы новай беларускай літаратуры, як „Энэіда на выварат“, напісаная ў пачатку 19 ст. па прыкладу такога-ж твору ў украінскай мове — „Энэіды“ Катлярэўскага, паўстаюць у тым часе і першыя творы Яна Баршчэўскага—паэма „Рабункі мужыкоў“, верш „А чым-жа твая, дзеванька, галоўка занята“ і іншыя. Гэты апошні верш, хоць зьяўляецца адным з першых твораў новай беларускай літаратуры (напісаны быў у 1809 г.), то аднак друкаваны быў у 1843 г. Таксама пазьней траплялі ў друк іншыя тагачасныя творы, як „Энэіда навыварат“, а паэма „Рабункі мужыкоў“ дайшла да нас толькі ў невялічкай частцы, запісаная ад народу ў неаднолькавых рэдакцыях і надрукаваная шмат пазьней у розных кніжках. Значыць, уся тагачасная беларуская літаратура чыталася ў рукапісах, а ў друку не паяўлялася.

**Першай** беларускай кніжыцай, якая выйшла з друкарні і зрабіла пачатак новага беларускага друку, ёсьць, як мы ўжо ўспаміналі, беларуская катахізмоўка з 1835 году. Дзеля гэтага яна становіць новую эру ў гісторыі беларускага друку.

„Летапіс Беларускага Друку“ (Менск, 1929 г.) пачынае свае бібліяграфічныя весткі аб новым беларускім друку ад даты выхаду гэтай кніжыцы, г. зн. ад **1835 году** *).

Пярэйдзем цяпер да разгляду самай кніжыцы.

Фармат яе невялікі: 15×10 цм., бачын мае 24. На першай бачыне загаловак у мове польскай: „*Krótkie zebranie nauki chrześcijańskiey dla wieśniaków mówiących językiem polsko-ruskim wyznania rzymsko-katolickiego*“. *Wilno, w drukarni dyecezalnej, 1835.*

На другой бачыне знаходзіцца духоўная апрабата такога зьместу: „Roku 1835. dnia 5 Czerwca w Wilnie. Ten krótki Katechizm, zawiera w sobie naukę zdrową i dla prostaczków pożyteczną. Biskup Rządzący Dyecezyą Wileńską Orderów Kawaler

*) „Летапіс Беларускага Друку“ пачаў выходзіць у Менску ад 1925 г. (цяпер „Летапіс Друку БССР“). Першы сшытак, які меў абыймаць старадаўныя беларускія друкі, дагэтуль ня выйшаў, другі сшытак (з 1929 г.) абыймае новыя бел. друкі ад 1835 да 1916 году, трэці—ад 1917 да 1924, чацьвёрты падае бел. пэрыядычны друк ад „Мужыцкай Праўды“ (1863 г.) да 1926 г. уключна.



*Jędrzej Benedykt Kłągiewicz*“. Пад гэтым зараз маем яшчэ і дазвол расейскай цэнзуры: „Pozwolono drukować. Wilno 12. Czerwca 1835. roku. *Cenzor P. Kukolnik**). Зьмест кніжыцы такі: на бачынах 3—15 зьмешчаны каталіцкія катахізмы ў беларускай мове; на бачынах 15—18 пацеры — папольску; на бачынах 19—24 малітвы (акты веры, надзеі і любові, ахвяраваньне сьв. Імшы і песьня: О мой Божа, веру табе) ізноў пабеларуску.

Загаловак кніжыцы, як мы ўжо бачылі, трохі задаўгі і ў сваім зьмесьце для сучасных можа нават незразумелы. Перадусім кідаецца ў вочы, што пададзены ён у мове польскай, а прыгэтым нашу мову называе „językiem polsko-ruskim“. Чаму так сталася? Адказаць на гэтае пытаньне, ня маючы адносных з таго часу дакумантаў, даволі трудна. „Chryścijanskaja Dumka“ (№ 9 г.г.), пішучы ў гэтай справе, кажа, што назваць уласным імем беларускую мову ў выдаўца (аўтара) або ня было адвагі, або ня было належнага зразуменьня, пры гэтым „Chr. D.“ робіць заўвагу, што яшчэ і сягоньня многія палякі як украінскую мову, так і беларускую любяць называць рускаю“. Здогад „Chr. D.“ нам выдаецца трапны, але на наш пагляд трэба тут дапусьціць яшчэ адну гіпатэзу, а іменна, што тады ня было яшчэ агульна-прынятага назову адносна нашай мовы. Бо калі некаторыя тагачасныя пісьменьнікі (Баршчэўскі, Рыпінскі) выразна завуць яе беларускай, то іншыя (напр. Чачот) называе яе „крывіцкай“ **). Аўтар катахізмоўкі, дзеля няведамых прычын, назваў яе „польска-рускай“. Але справа не ў назове, а ў характары самой мовы, а мова гэта, трэба прызнаць, чыстая беларуская. Здараюцца аднак словы польскія, якіх аўтар, відаць, ня мог ці не хацеў заступіць беларускімі, напр. nayświętszy, poświęcenia; ёсьць крыху і расейскіх, напр. прасьціж, Істынному, тот, прінімалі; ёсьць і формы расейскія, напр. стыдзясь, бажась; але наагул бяручы, як мы ўжо казалі, мова ў катахізмоўцы чыстая беларуская. Возьмем для прыкладаў пару мясцоў:

Jak nas adkupiu Syn Božy? Astauszy się czławiekam sam siebie addau na ciažkie muki i na kryžu umior cierpiuczy i pakutujuczy za naszyie hrechi. Hdzie ciapier jość Syn Božy? U Niebie na praway ruce Boha Atca i u Najświętszym Sakramencie, to jest, u naszey Kamunij...

Czyž takim sposabam jość Pan Jezus u nayświętszym Sakramencie, jak u niebie pa praway ruce Boskiey? Nie ni takim sposobam, bo ŭ nayświętszym Sakramencie ukryty, a u Niebie nie ukryty. A czy jość u światoy Kamunii chleb? Nie, nietuci, ni troszki chleba, no tolki znak chleba biełaść, kruhłaść i smak...

Szto jość hrech? Hrech jest dabrawolnoje prestuplenie prykazania Božaho albo cerkownaho...

Wieru szto Boh jość adzin u Troycy Światoy Boh Aciec, Boh

*) Знакі прыпынку, правапіс і курсыў так як на арыгінале.
**) Гл. Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny. Wilno. 1846.

Syn, Boh Duch Światy—try asoby adzin Boh. Wieru szto Pan Boh jość sprawiedliwy dobrym dajeć Nieba, a złych wiecznym piekłam karaić. Wieru szto Syn Božy druhaja asoba Troycy Światoy Jezus Chrystus dla naszaho zbawienia naradziusia z Maryi Dziewicy i umuczany umior na kryžu, wieru szto u Prenayświętszym Sakramencie jość praudziwaje cieła i krou Jezusa Chrystusa, žywy Chrystus i praudziwy Boh. Wieru szto dusza ludzkaja jość nieśmiertelnaja. Wieru nakaniec usio toja, szto wieryć i uczyć cerkwa światąja Katalickaja Rymskaja i u etay wiery Bože moy chaczu žyć i umierać bo to ty Bože nieamylny tak abjaviu i wieryć prykazau..*)

З гэтых прыкладаў відаць, што мова беларуская мае побач з славамі польскімі і расейскімі, словы ўсходніх (віцебскіх і магілёўскіх) беларускіх гаворак („нетуці“), так што трэба дагадвацца, што і аўтар гэтай катахізмоўкі быў родам адтуль. Дзеля таго, што сам біскуп Клонгевіч быў родам з Віцебшчыны, насоўваецца думка, ці ня ён сам быў аўтарам гэтай катахізмоўкі? А калі ня ён, то пэўне нехта з яго прыбліжаных. Але гэта можна было-б сьцьвердзіць толькі на падставе дакумантаў, якіх, нажаль, дастаць цяпер ня было магчымасьці.

(Аўтар гэтых радкоў, хочучы дасьледзіць прычыны і грунт, на якім паўстала гэтая катахізмоўка, а так-жа, хто быў аўтарам яе, хто выдаўцом, хто цэнзарам, пры якіх варунках і абставінах была дадзена духоўная апрабата, ці паміж выданьнем гэтай катахізмоўкі і пачаткам тагачаснага беларускага пісьменьніцтва была якая сувязь, — з гэтай мэтай адведаў Віленскую Арцыбіскупскую Курыю, просячы дазволу пераглядзець адносныя архіўныя дакуманты, але ў Курыі яму заявілі, што такіх дакумантаў няма, бо перад нямецкай акупацыяй яны былі вывезены ў Расею і дагэтуль ня вернены, як спорныя паміж Польшчай і Літвой. Дык асталося адлажыць досьледы над усімі нявыясьненымі пытаньнямі да лепшых часаў).

Катахізмоўка гэта—цяпер бібліяграфічная рэдкасьць. У Вільні, наскольні ведама, ёсьць два экзэмпляры: адзін у зборах „Беларускага Каталіцкага Выдавецтва“, падараваны туды некалькі гадоў таму кс. Ул. Талочкам, а другі — у беларускім Музэі ім. І. Луцкевіча. Першы экзэмпляр дайшоў да нашых рук дзякуючы кс. Язэпу Авіжонісу, як аб гэтым сьведчыць надпіс, зроблены алаўком на самай катахізмоўцы: Ex libris sacerdotis Josephi Avižonis **). Адзін экзэмпляр, як падае „Летапіс Бел. Друку“, знаходзіцца так-жа ў Бібліятэцы Ленінградзкага Унівэрсытэту.

Гэтулькі можна сказаць цяпер аб гэтай кніжыцы, якая пачала сабою новы друк. Спадзяёмся, што далейшыя досьледы выясьняць прычыны яе паўстаньня, яе аўтара, а так-жа той грунт, на якім яна ўзрасла.

---

*) Іншыя прыклады мовы ў гэтай катахізмоўцы гл. „Chr. Dumka“ № 9 г. г.

**) З кніг ксяндза Язэпа Авіжоніса.



Ул. Талочка

# Да справы веравызнаньня Фр. Скарыны

**(З нагоды працы кс. др. К. Кантака „Bernardyni Polscy“. Lwów 1933)**

Асоба Фр. Скарыны з гістарычнай цемры выяўляецца прад намі штораз больш. Вось нядаўна кс. праф. др. Каміль Кантак (Пінск) у вышэй успомненай сваей двутамовай працы нямала кідае сьвятла на нявырашаную дагэтуль справу веравызнаньня гэтага беларускага дзеяча з XVI ст.

Аўтар гэты, гаворачы аб кляштары ў Полацку Бэрнардынаў і аб іх там дзейнасьці, між іншым выражаецца гэтак: „...między nawróconymi znalazła się także rodzina Skorynów, jak o tem świadczy imię znakomitego wydawcy Franciszek“ (I, 179).

Гэтае цьверджаньне, ведама, апрача праверкі, вымагае так-жа асьвятленьня варункаў і асяродка дзейнасьці Бэрнардынаў у Полацку.

Кароль польскі і вялікі князь літоўскі Аляксандра адносна да каталіцтва праводзіў палітыку свайго бацькі Казімера Ягайлавіча; за яго часаў ордэн Бэрнардынаў або йнакш Францішканаў „antiquae observantiae“ прыбыў на Беларусь і хутка здабыў пашану ў манарха, а так-жа часткова й у беларускага насельніцтва. Вось-жа ў 1498 г. Бэрнардыны аселі ў Полацку і павялі працу ў кірунку наварачваньня Беларусаў праваслаўных на лацінскае каталіцтва. Не бяз прычыны маскоўскі цар Іван III ужо ў 1502 г. з абурэньнем выражаўся, што ў Полацку паўстала „Рымская бажніца“ (Daniłowicz J. — „Skarbiec dyplomatów“, II, Wilno 1862. Nr. 5119).

Кляштар Бэрнардынаў знаходзіўся ня ў самым Полацку, але за горадам, на прадмесьці Заполацьце, на захад ад даўнейшага княжага замку, недалёка ад утоку Полаты ў Дзьвіну. Месца гэта можна азначыць на найдаўнейшым пляне Полацку з 1579 г. (А. Сапуновъ — „Рѣка Западная Двина“. Витебскъ, 1893, 426—7). Кляштар, як і касьцёл пры ім, збудаваныя былі з дрэва і падчас войнаў у XVI ст. былі спалены, а пасьля адбудаваныя ўзноў. Касьцёл называўся „Ara Coeli — Брама Неба“.

Лік каталікоў лацінянікаў ужо тады ў Полацку быў даволі значны. Нават адзін з каталікоў быў бурмістрам (Daniłowicz, 2104).

Рэлігійны і маральны ровень беларускага насельніцтва быў тады дужа нізкі. Многія ня былі нават хрышчаны. Аб рэлігійнай сьведамасьці агулам не магло быць і мовы. Вось-жа ніва для працы была шырокая й запушчаная і Бэрнардыны горача на ёй узяліся за працу. Яны многіх ахрысьцілі, а многіх навярнулі з праваслаўя на каталіцтва. Дзякуючы іх працы, каталікоў у Полацку пасьля некаторага часу налічалася некалькі тысячаў (Kantak, I, 179).

Запазнаўшыся з каталіцтвам праз Бэрнардынаў у Полацку ў маладых сваіх гадах, Скарына, відаць, прыняў каталіцтва і новае імя Францішак, культ якога ў каталікоў быў у Эўропе дужа вялікі.

З той-жа працы кс. Кантака даведваемся яшчэ, што полацкія Бэрнардыны „posługiwali się mową ruską“, што, пэўне-ж, азначае мову беларускую. Ведама, з гэтага ня вынікае, што яны сталі ў касьцеле гаварыць пабеларуску навукі, хоць няма доказу, што й так ня было,—але карысталіся мовай беларускай часад-часу, як мовай успамагальнай. У кожным выпадку, як на канец XV і пач. XVI ст. і гэтага было многа. Вось-жа і гэты факт у працэсе зьмены сямьёй Скарынаў праваслаўя на каталіцтва мог мець сваё значэньне.

Можна спадзявацца, што далейшыя навуковыя досьледы над мінуўшчынай Полацка*) і над біографіяй слаўнага Францішка Скарыны, доктара з Полацка, дапамогуць аканчальна выясьніць, дагэтуль нявырашаную, справу яго веравызнаньня.

Справа-ж гэта мае важнае значэньне, як для выясьненьня эпохі, так і культурнай дзейнасьці Францішка Скарыны.

Было-б урэшце дужа пажадана, каб прадстаўнікі маладой беларускай навукі магчыма ў найхутчэйшым часе прыступілі да апрацаваньня й выданьня кнігі агулам аб Скарыне, аб якім сапраўды мала ведама, а часта й тое, што ведама—ня сусім пэўнае.

---

*) Сяньня над мінуўшчынай Полацка й Полаччыны працуе віленскі праф. Меніцкі. (Ул. Т.).



ДР. СТ. ГРЫНКЕВІЧ

# З зацемак аб тэатры

Роля тэатру вельмі важная ў жыцьці чалавека і народаў. Ёсьць некаторыя, што кажуць, быццам само жыцьцё гэта бязконцы, значыцца ад пачатку існаваньня чалавека да ягонага канца, тэатр.

Ці правільна гэта ці не - спрачацца ня будзем, адцемлюючы толькі, што бязумоўна значэньне і роля тэатру вельмі важная і гэта выявілася ў надта далёкай ужо мінуўшчыне, калі ледзьледзь чалавек пачаў арганізаваць першую грамаду, калі сышлося некалькі чалавек, каб супольна бараніцца перад зьвяром ці перад благім чалавекам. Дык усюды, дзе ёсьць грамадзкае жыцьцё, усюды ёсьць і тэатр.

Незаўсёды завем тэатральнае запраўдным імем — значыцца тэатрам. Возьмем народныя абрады, возьмем хрэсьбіны, возьмем хаўтуры, успамянем задушкі, дзядоў, ці возьмем вясельныя, жніўныя ці іншыя абрады — усюды ў іх мы знойдзем магутныя доказы тэатральнага інстынкту паміж Беларусамі. Гэта ведама, свомасьць шмат шырэйшая і не абмяжоўваецца выключна Беларусамі і тэрыторыяю Беларусі. Аб тэатры чуем у надта далёкай мінуўшчыне, да сяньня яшчэ глядзельнікі захопліваюцца трагэдыямі старых Грэкаў, столькі ў іх зьместу багатага, агульна чалавецкага.

Тэатр—патрэба натуральная і вельмі важная ў жыцьці грамадаў людзей. Тэатр ня толькі мілая гульня, гэта магутны нахіл адзінкі ўявіць праўду, абычаі, спасьцярогі пры помачы канкрэтных абразоў. Бяз помачы гэных пачуцьцёў, якія выклікае тэатр, няпрывыкшаму да абстрактнага думаньня некаторыя паймы астаюцца чужымі, ён ня можа ўявіць сабе іх зусім.

Дзеля гэтага наглядаем ува ўсіх культах рэлігійных гэткі развой тэатральнасьці. Духоўнікі, людзі пакліканыя, каб некаторыя праўды паказываць, распаўсюджываць, былі прымушаныя дэманстраваць Найвышэйшую Істоту абразна, каб думаючы аб Ёй было лягчэй уявіць, каб гэная Істота была нечым, каб гэта ня быў толькі адзін парожні гук.

Адначасна тэатральнасьць мае іншыя жаролы ў чалавеку. Кожны чалавек мае свае думкі, настроі, кожны імкнецца па меры магчымасьці падзяліцца з імі са сваім асяродзішчам; выказываючы свае, яшчэ мо' ня зусім уяўленыя думкі, чалавек пачынае лепш бачыць іх у сабе. Толькі вось ня ўсенька можна выказаць словам. Іншым разам аж нешта сьціскае пад сэрцам, а ня ведаеш, што яно там сапраўды, нечага чалавек хоча, за нечым тужыць, аб нечым лятуціць. Гэта ведае кожны, адзін больш, другі менш, аднак гэта свомасьць надта характэрная

ў людзей. Маладыя маюць „настроі“ больш ярка падчыркнуты, у іншых да познага веку астаюцца яны вельмі моцнымі і жывымі.

Гэныя вось настроі ўяўляюцца найлепш у вершах, музыцы, скоках, адным словам у абразным прадстаўленьні. Ясна, хворма гэтага прадстаўленьня будзе розная, залежна ад роўня культуры, ад багацьця хвормаў, якімі карыстаецца і якімі валадае дадзенае згуртаваньне людзей. Аснаўны аднак характар астаецца ўсюды той самы, і настолькі нам накідаецца, што нават часта зусім нам далёкае і адлежнасьцю геаграфічнаю і ўмовамі жыцьця самога гаворыць да нас абразамі кожнаму блізкімі і зразумелымі.

Заўсёды, думаючы на гэту тэму, накідаецца мне на памяць абразок з жыцьця маляйскае вёскі. Некалькі гадоў таму назад адзін з нямецкіх цыркаў вандроўных (цырк між іншым сусьветнае славы „Hagenbecka“) вазіў з сабою горбу гэных, як мы кажам, „дзікуноў“, напалову апранутых, заўсёды зьмерзшых, ня гледзячы на гарачую летнюю пару. Гэныя людзі паміж розных сваіх штукаў паказвалі перад глядзельняю свае абычаі вясковыя ў хворме быццам карагодаў, песьняў супольных грамадзкіх. І калі-б заплюшчыць вочы, каб ня бачыць чужых твараў, ці каб прынамся апрануць гэных людзей у выбражэньні ў нашыя шэрыя сьвіткі, дык была-б абсалютная ілюзія беларускае вёскі, з яе сумнымі матывамі хаўтурнымі ці на‘т жніўнымі.

Дык тэатр гэта зьявішча незалежнае ад эканамічных мамэнтаў, незалежнае ад змаганьняў соцыяльных, незалежнае ад злыбядаў грамадзкіх і прыватных, гэта ў пэўным сэнсе зьявішча ўнівэрсальнае, прысутнае на кожным пункце кулі зямное. Кажу незалежнае зьявішча, маючы на ўвеце аснаўныя рысы тэатру, бо ў працягу вякоў тэатр апранае розныя хвормы, ён багацейшы ці бяднейшы, ён пакідае па сабе большыя ці меншыя сьледамкі ў сэнсе ўзгадаваньня, бо-ж тэатр узгадоўвае, што зразумець вельмі лёгка, гэта ўсенька залежна ад таго, якія агульныя канюктуры, якія магчымасьці грашовыя, якімі праблемамі жыве чалавецкая грамада і г. д.

Ёсьць пэрыяды заняпаду тэатру, хаця не прападае ён ніколі; ён патрэба душы, як хлеб патрэба цела. Побач з хлебам будуць рознаякія стравы, ад пары да пары тая ці іншая страва мо‘ вельмі смашная будзе на нашым стале, аднак да хлеба заўсёды мы вернемся.

Пэрыядам заняпаду тэатру, праяваў тэатральных, быццам на‘т інстынкту тэатральнасьці, былі нядаўнія ў нас гады, калі чужое ў нас духавенства, асабліва каталіцкае, у сваём змаганьні (што за парадокс!) з „брэднюшкамі“, як гэта яны казалі, пачалі выганяць з хатаў старыя абычаі, песьні, абрады.

Некаторыя сяньняшнія воласьці нашае заходняе тэрыторыі няшчасныя, зусім „глухія“ куткі, дзе сумна і мляўка пляцецца дзень рабочы, дзе народ пачынае быццам стогнучы дзень і канчае яго бяз ніякае радасьці. Яны ня маюць хвормы прыгожае дзеля сваіх перажываньняў, а ня маючы хвормы вонкавае, ня



маюць тае глыбіні, шчырасьці і тае простае радаснасьці гэтак карыснае дзеля агульнага ўздойму, бадзёрых адносінаў да жыцьцёвага току.

Тэатр, песьня, музыка — усенька стульна злучана з сабою і адно з аднаго выходзіць, дапаўняе адно адное і дае тое калі-ва шчасьця і радасьці, да якое гэтак пражна імкнецца жывая адзінка.

Гэтак разумеючы вялікае значэньне тэатру і іншых праяваў мастацкасьці ў жыцьці адзінкі й грамады, лёгка ўявім сабе, якія могуць быць нашыя адносіны да іх.

---

# Кнігапіс

**ПІСЬМЕННІК І МОВА. Зборнік артыкулаў, прысьвячаных барацьбе за культуру мовы.** Выдавецтва Беларускай Акадэміі Навук, Менск 1934.

Загалавак гэтай кніжкі, праўда, дужа цікавы і панадны. Барацьба за культуру мовы—гэта справа для кожнага народу сапраўды важная, а для народу беларускага тым больш. Аднак, на жаль, загалавак кніжкі агулам шмат у чым рэзка расходзіцца з яе зьместам. Прачытаўшы артыкулы гэтай кніжкі, робіцца ясным, што фактычна не аб культуру мовы ёй расходзіцца, а сусім аб нешта іншае.

Кніжку „Пісьменнік і мова“ папераджае прадмова дырэктара Інстытуту Мовы ў Бел. Ак. Навук Андрэя Александровіча. Прадмова гэта надае тон бадай усей кніжцы, нядвузначна паказваючы, як камуністы разумеюць адносіны пісьменніка да мовы і што яны разумеюць пад славамі—„культура мовы“.

Вось-жа пад сьцягам „пролетарскага інтэрнацыяналізму — кажа А. Александровіч — павінна разгортвацца барацьба за культуру мовы“, пад якім „ушчэнт зломяцца рамкі нацыянальнае абмежаванасьці... Крытэрыяў якасьці нашай мовы мы павінны шукаць у работах клясыкаў марксізму: Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна. У іх выказваннях аб мове асноўныя, выходныя прынцыпы для нашай барацьбы“...

З гэтага бачым, што барацьбы за культуру мовы і адносінаў да яе пісьменнікаў маюць вучыць нас асобы і іх творы, якія з прыгожым пісьменствам, як з узорам і сродкам культуры мовы, ня маюць нічога супольнага. Стопрацэнтныя палітыкі маюць быць узорам для адносінаў пісьменнікаў да мовы і для тварцоў культуры мовы! Словам, у аснову кніжкі „Пісьменнік і мова“ паложаны не падставы навукі, а сучаснай савецкай палітыкі, каб,

між іншым, „ушчэнт зламаць рамкі нацыянальнае абмежаванасці“, гэта знача, як убачым далей, каб ня даць самастойна разьвівацца беларускай нацыі, а каб яе асыміляваць з нацыяй расейскай.

Першы ў кніжцы-зборніку артыкул „Аб мове“ М. Горкага. Ведамы гэты расейскі пролетарскі пісьменьнік у сваім гэтым артыкуле аддае, праўда, дань сучаснаму савецкаму палітычнаму рэжыму і падчырківае патрэбу, каб савецкі пісьменьнік карыстаўся такой мовай, якая прадусім была-б верным адбіцьцём бягучага, сучаснага, пролетарскага жыцьця Саветаў. Пераважную аднак увагу зварочвае ён на тое, каб пісьменьнік у водносінах сваіх да мовы сьцярогся такіх слоў і такіх зваротаў, якія зьяўляюцца звычайным сьмяцьцём, або проста хуліганскімі выражэньнямі. Маючы на мэце ўрэшце сапраўды культуру мовы, М. Горкі радзіць ня чурацца мінуўшчыні, а карыстаць нават з царкоўна-славянскай мовы і з твораў рэлігійных: „У старой славянскай мове—кажа ён — усё-такі ёсць важкія, дабротныя і вобразныя словы, але неабходна адрозьніваць мову царкоўнай дагматыкі і прапаведзі ад мовы поэзіі. Мова, а таксама стыль лістоў пратапопа Аввакума і „Житія“ яго застаюцца непераўзойдзеным узорам палкай і страстнай прамовы байца, і наогул у старыннай літаратуры нашай ёсьць чаму навучыцца“.

Увагі такім чынам М. Горкага што да культуры мовы шмат у чым правільныя і цэнныя. Ня ўсе, на жаль, аўтары чародных артыкулаў зборніку пайшлі ягонымі сьлядамі. Адны з іх аказаліся малапанятлівымі ягонымі вучнямі, а другія проста перасталіся.

Так напр. наступны пасьля Горкага артыкул М. Клімковіча „Вырваць з корнем пустазельле“ — гэта звычайны агітатарскі выпад проціў беларускай культуры і мовы. Усё беларускае не бальшавіцкае — гэта ўсё шкоднае і ненавуковае. „Калі праглядаеш „работу“ нацдэмаў*) у галіне мовы, — піша Клімковіч — кідаецца ў вочы іх лжэнавуковасьць. І гэта зразумела. Навуковая работа ў галіне мовы павярнулася-б усім сваім астрыём супроць нацдэмаўскіх лжэвучоных, супроць цемшалу, які прапаведаваўся імі ў якасьці „навуковых“ ісьцін. Навуковае вывучэньне мовы расзаблачыла-б шкоднасьць і штучнасьць аддзяленьня кітайскай сьцяной беларускай мовы ад рускай, даказаўшы і выпуклішы тое агульнае, што маецца ў абодвых мовах, што іх яднае“... Гэткім больш менш „навукова“ выглядае і ўвесь М. Клімковіча артыкул. Усё ў нашай мове беларускае самастойнае, што яе, як мову самастойную, ярка адрозьнівае ад мовы расейскай, трэба выкінуць, а на месца ўсяго гэтага ўставіць русыцызмы—вось галоўная тэндэнцыя ўсяго „навуковага“ артыкулу Клімковіча.

Даволі прыемнай перадышкай, прачытаўшы артыкул М. Клімковіча, зьяўляецца артыкул Якуба Коласа—„Мова М. Лынькова

*) Беларусаў небальшавікоў, беларускіх нацыянальных дэмакратаў. Ад.Ст.



па раману „На чырвоных лядах“. Праўда, і ён, падлягаючы „вучонаму“ рэжыму ў Саветах, калечa беларускую мову на расейскі лад („па раману“, замест „у рамане“) і борыцца з „нацдэмізмам“, але агулам піша дарэчы, навучальна і разумна: „На чарзе дня — кажа Я. Колас — і востра стаіць у нас пытаньне аб ачышчэнні літаратурнай мовы ад нацдэмізмаў. Але ў дачыненні да беларускай мовы ёсьць адна акалічнасьць, якая патрабуе ад нас і пэўнай засьцярожлівасьці. Трэба надзвычай пільна і востра сачыць, каб пад відам змагання за чыстату беларускай мовы не прылажыў свае рукі і клясавы вораг. Пад сьцягам змаганьня з нацдэмізмамі ён можа павесьці работу ў пляне дыскрэдытацыі, вынішчэння і абяскроўлення самой мовы“. Вось-жа тут Я. Колас выразіў чыстую праўду. Сяньня ёсьць ведамым фактам, што ў БССР пад відам змаганьня за чыстату беларускай мовы сапраўды праводзіцца глумленьне беларускай мовы і асыміляваньне яе з мовай расейскай.

Далей Я. Колас робіць агляд мовы Лынькова ў успомненым рамане, выказваючы цэлы рад правінцыялізмаў, прыкладаў вульгарнага натуралізму, часам зблıжанага да порнографіі, манатонную аднастайнасьць у стылі, а так-жа крыху русыцызмаў.

Ад провінцыялізмаў, у Лынькова, праўда, аж роіцца, але ўсёждыкі — на наш пагляд — некаторыя словы Я. Колас да правінцыялізмаў залічае беспадстаўна. Словы напр.: не ўжадобку, згорацъ (згараваць, згарусьціць), петавацца (цяжка працаваць, мучыцца ў працы), вобмегам (мігам, вобміг, вобдух), рачанцы (стала азначаны час на яду), шуядзь, апоўзьлікі — спатыкаюцца ня толькі ў Усходняй Беларусі, але так-жа і ў Заходняй, як напр. у Ашмянскім павеце.

Не залічалі-б мы так-жа да русыцызмаў і гэткіх слоў і выражэньняў: павытапчуць (павытоптваюць), таюць (растаюць), павылезьлі (павылазілі), паклікаю (паклічу), памкнуўся было (памкнуўся быў). Беларускі народ часам і гэтак выражаецца.

Далейшае месца у зборніку-кніжцы „Пісьменнік і мова“ займае артыкул „Мова і стыль лірыкі Міхася Чарота“ — праф. Піотуховіча.

„У гісторыі беларускай літаратуры—кажа гэты прафэсар—Міхась Чарот па праву павінен заняць адно з найбольш відных і пачэсных месц. З яго іменем звязан працэс першапачатковага станаўлення і фармавання ў нас пролетарскай літаратуры, ён прынёс у нашу паэзію новыя бадзёрыя песьні—песьні барацьбы і перамогі...

Нацдэмаўскай рамантыцы мінулага Чарот супроцьстаўляе сваю пролетарскую рамантыку рэвалюцыйнага змагання...

Але ў ранняй творчасьці Чарота ёсьць і некаторыя цёмныя плямы: ў выніку клясава-чужых уплываў атрута буржуазнага нацыяналізму прасякла ў некаторыя яго вершы, асабліва пэрыяду польскай акупацыі. У М. Чарота эпізадычна вызначаліся матывы нашаніўскага адраджанізму, апяваньне „бацькаўшчыны“,

як чагосьці суцэльнага. Аднак гэтыя цені не зьмяняюць агульнага сьветлага фону паэзіі Чарота, як вядучай накіраванасці...

У сваім надзвычайна моцным вершы „Суровы прыгавор падпісваю першым“ Чарот раскрывае самую сутнасьць нацыянал-дэмакратызму, яго рэстаўратарскую, інтэрвэнцыяніскую аснову. Пясьняр у словах, поўных вялікай злосьці і ненавісьці да класавага ворага, ганьбуе нацдэмаў, як служак капіталу, лакеяў імпэрыялістычнай буржуазіі, гандляваўшых крывёй працоўных, распрадаваўшых Беларусь капіталістычным драпежнікам і оптам і ў разброд“...

Паслушны сучаснай савецкай палітычнай догматыцы — ганьбіць і нішчыць беларускае нацыянальнае адраджэньне, спыняць і кляйміць у беларускім пісьменстве апяваньне бацькаўшчыны Беларусі, „як чагосьці суцэльнага“—праф. Піотуховіч, як бачым, робіць гэта дужа старанна. Ганьбіць ён патрыятычныя парывы ў паэзіі Чарота і, дабіраючы моцныя словы прыдуманых абвіненьняў пад адрасам беларускага нацыянальнага руху, аж пад неба выслаўляе тыя яго творы, якія зьвіняць у тон палітычным лёзунгам Саветаў. І толькі побач гэткіх „навуковых“ прыгрывак, праф. Піотуховіч сапраўды навукова і з яўным знаўствам справы гаворыць аб мове і стылю М. Чарота, якія ўносяць у беларускую паэзію новыя лексычныя элементы і ўзбагачваюць яе яркай мэтафарычнай вобразнасьцю.

У чародным артыкуле, „Мова ранней творчасці Якуба Коласа“, Ганна Базыленка падчырківае агульна ведамы факт, што ў гэным часе мова Коласа — гэта мова беларускага сялянства, якое ён прадусім і апяваў.

Пятро Глебка ў артыкуле „Аб мове пачынаючых пісьменнікаў“, зазначыўшы, што „трэба вучыцца ў лепшых майстроў нашай дарэвалюцыйнай літаратуры, як Купала, Колас, але да іх творчасьці трэба падыходзіць крытычна“, між іншым заяўляе, што „Самым важным для ўсей нашай савецкай літаратуры, у тым ліку і для пачынаючых пісьменнікаў, з'яўляецца змаганне за акасьць твораў, за чыстату, за сэнсавую дакладнасць мовы“... Ну пэўне-ж, рабіць для мовы трэба хоць тое, што ў Саветах можна.

Янка Шарахоўскі ў арт. „Пра якасць паэтычнай мовы“ зварочвае асаблівую ўвагу на тое, што мова між іншым павінна верна адбіваць сапраўднае жыцьцё. „Вывучэньне літаратурнай тэхнікі — кажа ён — мае для пісменніка вялікае значэнне. Але тэхніка, нават высокая, не гарантуе ад творчай бяссільнасці. Яна—неабходная прадпасылка творчай работы, але не акрэслівае самой творчасці; творчасць пачынаецца там, дзе ёсць адносіны да рэчаіснасці“. Вось-жа гэты апошні сказ дужа няпэўны і рызыкоўны. Розная бывае гэная „рэчаіснасць“ і розна людзі да яе адносяцца. Творчасьць — мы-б сказалі — пачынаецца прадусім там, дзе даравітая душа чалавека мае магчымасьць ня толькі заглыбляцца сама ў сабе, але цалком свабодна адносіцца да гэнай „рэчаіснасці“, як кажа Шарахоўскі, да акружаючага яго сьвету і свабодна выяўляць свае да яго адносіны. Пры існуючым-жа цяпер у Саветах палітычным рэжыме песьняры нашы як раз гэтай свабоды і ня маюць. Як у сярэднявеччы навука была „ancilla theologiae“ (слуга багаслоўя), так у Саветах сяньня паэзія ёсьць „ancilla politicae“ (слуга палітыкі).

С. Куніцкі ў арт. „Даволі „шындзёліць“ і „скогліць“ спосабам мітынгова-агітацыйным, пад відам ачышчэньня беларускай мовы, ганьбіць і глуміць у беларускай літаратуры ўсё, што ёсьць сапраўды беларускім, самастойным, як у слоўніку, так і ў стылю. „Бо — кажа — да гэтага імкнуцца беларускія нацыянал-дэмакраты, каб Беларусь Савецкую ператварыць у Беларусь Самабытную, каб адарваць яе ад братніх савецкіх рэспублік“... Аднак, праз палітычны туман у арт. Куніцкага можна часам дагледзіць і слушныя ўвагі што да слоў і стылю ў беларускай прыгожай літаратуры.

Не астаўся ў задзе ад іншых у зборніку-кніжцы і Эд. Галубок, якога там зьмешчаны артыкул пад назовам „Пытанні стылю беларускай савецкай драматургіі“. Падчыркнуўшы ведамую савецкую палітычную догму, што й беларуская драматургія павінна быць „нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зьместу“, а так-жа аддаўшы дань сучаснай савецкай расейскай палітыцы, цьвердзячы, што „цэлы рад нацдэмаўскіх драматургаў зводзіўся да адшукання гэтай своеадменнай і высокаякаснай беларускай мовы, адрозніваючыся па сваіх культурных адзнаках ад мовы расейскай і інш“, — Эд. Галубок у гэткім-жа дусе разглядае далей мову і стыль беларускіх драматычных твораў.

Апошнім ідзе артыкул П. Юргілевіча — „Моўныя тэорыі і практыка контрэволюцыйных лідэраў „Узвышша“. Артыкул гэты — гэта грубая й вульгарная расправа з беларускімі пісьменьнікамі, якія гуртаваліся каля часапісу „Узвышша“ і ў якім „замнога“ было беларускасьці, а так-жа расправа з беларускімі вучонымі, якія навукова працавалі над чысьцінёй беларускай мовы, над беларускай граматыкай і г. д. Але ў гэтай расправе спатыкаем і новую нотку. Дагэтуль, як мы бачылі, успомненыя аўтары папярэдніх артыкулаў, выпаўняючы маскоўскую палітыку, кляймілі самабытнасьць беларускай мовы і культуры дзеля таго, што яна адрозьнівае і аддзяляе Беларусь ад Расеі, а П. Юргілевіч кажа, што гэтая беларуская культурная самабытнасьць ня толькі аддзяляе Беларусь ад Расеі, але й „набліжае“ да мовы польскай. „Устаноўка нацдэмаў, — кажа ён — гэта стварэнне штучнага бар'еру паміж беларускай мовай і мовай рускага пролетар'яту і набліжэнне беларускай мовы да мовы фашысцкай Польшчы“... Ну, гэта ўжо сапраўды навіна, аб якой нікому і ня сьнілася і якая ёсьць „навуковым“ вынаходам П. Юргілевіча.

Далей аўтар гэтага артыкулу падае цэлы рад беларускіх архаізмаў, провінцыялізмаў і проста недарэчных слоў, якія быццам праводзяць у беларускую мову „нацдэмы“. Вось-жа сярод

гэных слоў, якіх тут памясьціць ня маем змогі, сапраўды ёсьць словы, якім у беларускай мове месца быць не павінна. Але гэта толькі выняткі і адносна гэтых выняткаў з Юргілевічам трэба згадзіцца, але што да агульных вывадаў яго, дык трэба сказаць, што яны навуковых падставаў ня маюць ніякіх, а толькі падставы маскоўскай палітыкі.

Урэшце канчаем. Ідэовая тэндэнцыя кніжкі „Пісьменнік і мова"— гэта падвод пад асыміляцыю беларускай мовы з мовай расейскай, гэта стварэньне псыхозы ў беларускага савецкага пісьменьніка патрэбы служэньня сваім літаратурным творствам маскоўскай палітыцы.

Ня гледзячы аднак на гэта, кніжка „Пісьменнік і мова" не пазбаўлена сваей вартасьці. Яна клясычна малюе адносіны Саветаў да беларускай літаратуры і мовы, а так-жа, хоць у вузкім і аднабокім асьвятленьні, парушае справы ў беларускім літаратурным творстве, якія так мала ў нас распрацаваны, а якіх распрацоўка зьяўляецца неабходнасьцю для разьвіцьця беларускай мовы і беларускага прыгожага пісьменства.

*Ад. Станкевіч.*

---

**Др. Я. Станкевіч: АПЫТАЛЬНІК да зьбіраньня дыялектычных і некаторых агульных асаблівасьцеў беларускага (крывіцкага) языка.** Выданьне Таварыства Прыяцеляў Беларусаведы пры У. С. Б. ў Вільні. Вільня 1935, бачынаў 48.

Заданьнем „Апытальніка" ёсьць сабраньне асаблівасьцяў паасобных дыялектаў беларускае мовы ў Заходняе Беларусі, каб пры помачы набытага матар'ялу: a) даведацца прастор пашырэньня часьці выданых ужо асаблівасьцеў беларускага языка, b) устанавіць быцьцё некаторых зьяваў бел. языка і азначыць прастор іх пашырэньня; c) адкрыць некаторыя законы беларускага языка і тэндэнцыі ў ім.

Гэтыя мэты, якім служаць дыялектолёгічныя досьледы наагул, могуць быць у ладнай меры зьдзейсьнены шляхам грунтоўных і шырокіх адказаў на паасобныя пытаньні „Апытальніка", укладзенага вельмі старанна беларускім языкаведам др. Я. Станкевічам. Паасобныя пытаньні апрацаваныя вельмі дакладна; у іх зьвернена належная ўвага на ўсе асаблівасьці беларускага языка на прасторы Заходняе Беларусі, а так-жа амаль усяе этнографічнае Беларусі наагул. У „Апытальніку" найбольш дакладна апрацавана фонэтыка й морфолёгія, значна меней сінтакс і слоўнік. Аб паўніні языковых зьяваў, прадугледжаных у „Апытальніку", можа сьведчыць хоць-бы лік пытаньняў, якіх ёсьць 213; незалежна ад гэтага аддзел слоўніковы мае 32 пытаньні.

Выданьне Т-вам Прыяцеляў Беларусаведы „Апытальніка" трэба ўважаць за зьявішча вельмі дадатняе.



„Апытальнік" укладзены вельмі ясна й даступна, могуць ім карыстацца ня толькі языкаведы, але й кожны беларускі інтэлігэнт.

*В—іч.*

---

**PIEŚNI LUDOWE Ziemi Wileńskiej i Nowogródzkiej**, zebrała Bronisława Gawrońska. Wilno1935 г.

**KUPAŁA (Noc świętojańska), uroczystość ludowa z czasów dawnych w ziemi Nowogródzko-Wileńskiej obchodzona.** Tekst uroczystości, na miejscowych źródłach etnograficznych oparty, opracowała Wanda Dobaczewska, motywy muzyczne ludowe dobrała Bronisława Gawrońska. Wilno 1935 г.

„Нідзе ў іншай частцы Польшчы не спаткаем такіх рознародных песьняў народных, як у Віленшчыне і Наваградчыне, а гэта таму, што яны складаюцца ня толькі з песьняў польскіх, але так-жа беларускіх, літоўскіх, татарскіх і караімскіх".

Так пачынаецца прадмова да зборніка „Pieśni ludowe ziemi Wileńskiej i Nowogródzkiej", выданага коштам пазашкольнага аддзелу Віленскае Куратрыі.

Далей ідзе мова аб тым, што песьні гэтыя сьпяваюцца па вёсках і засьценках, як бы датасаваныя да пэйзажу, поўнага чароўнай прыгожасьці і „спэцыфічнай асаблівасьці".

Сказана вельмі хараша.

Ня было-б нічога дзіўнага, калі-б гэтая прадмова і наагул усё выданьне ня мела іншых спэцыфічных мэтаў, якія зусім нічога ня маюць супольнага з праўдзівым захопленьнем хараством народнай песьні.

Паводле гэтага зборніка выглядае, што на нашых землях шырокія пералівы народнай песьні маюць польскі характар, польскі дух, а беларуская песьня побач з літоўскай, караімскай і татарскай (чамусьці жыдоўскую забыліся дадаць) толькі спадарожнічае з польскімі песьнямі.

У сапраўднасьці-ж, калі пакінуць на баку народную творчасьць літоўскую і ўслухацца ў мэлёдыйную мову Віленшчыны і Навагрдчыны, то ў гэтым нязьмераным яшчэ акіяне беларускіх народных песьняў зусім і бясьсьледна патонуць песьні ня толькі караімскія ці татарскія, але нават польскія.

Нічога тут не паможа і тое, што аўтар зборніка паклікаецца на кампазытара Мечыслава Карловіча і яго „Рапсодыю", названую, замест этнографічнага, традыцыйным тэрмінам „Літоўская". Ня варта было аўтару сарамліва хавацца перад тым фактам, што „Рапсодыя" мае ў аснове беларускую народную песьню, але ніяк ня польскую, караімскую ці нават літоўскую. Мэлёдыя, поўная „задумы і нядолі", аб якой гаворыць Карловіч, —

беларуская жніўная песьня з Дзісьненшчыны, а „wiekuista niedola“—гэта-ж паншчына і нацыянальны ўціск.

У зборніку 50 песьняў: 16 польскіх, 25 беларускіх і 9 літоўскіх.

Калі з польскіх адкінуць „Wilju“, якая не зьяўляецца арыгінальным народным творам, а компіляцыяй з польскага касьцельнага гымну „Boże, coś Polskę“ і баўгарскага „Шумі Марыца“, ды яшчэ беларускую валачобную песьню „Вечар добры, паненачка“ (валачобныя сярод славянскіх народаў ёсьць толькі ў беларусаў) і „У зялёным гайку“ з вольным тэкстам у „вэрсыі народнай, то польскіх песьняў, аб якіх піша прадмова, будзем мець толькі 13.

Пры тых адумысловых мэтах, на якія разьлічаны зборнік і пры матар'яльных магчымасьцях Куратарыі, ня так пісалася-б аб польскіх песьнях, калі-б яны сапраўды так шырака разьліваліся на нашых беларускіх землях. Тады ня прышлося-б дадаваць польшчыне беларуска - літоўскія і караімска - татарскія падпоркі.

Калі-б сапраўды Куратарыі залежыла на пашырэньню беларускай песьні, як узгадаваўчага дзейніка для моладзі, не патрэбна было-б польскага тэксту побач з беларускім. Для сьвятліц варбуецца пераважна беларуская вясковая моладзь, якая сваю родную песьню хутчэй патрапіць навучыцца, чымся польскую, або папольску. Апрача таго пераклады, найчасьцей зусім няўдалыя, толькі калечаць народную паэзію.

Пры сучасных тэндэнцыях польскіх культуртрэгераў іначай ня можа быць: яны ўважаюць, што калі беларуская песьня выйдзе ў сьвет з польскае ўстановы спалянізаванай, то тым самым хутчэй удасца выціснуць беларусаў з культурна - мастацкай галіны працы.

Досыць наіўным выглядае падаваньне матываў, што сьпеўнік мае на мэце пазнаёміць з харαством Віленска - Наваградзкае песьні народнай (чаму не беларускай і літоўскай?) іншыя „дзяльніцы“ Польшчы.

Такім „кустарным рамяслом“, далёкім, як прызнаецца сам аўтар, ад „музыкалёгічнай сьцісласьці“, хіба нікога ня зьдзівіш. Аднагалосны прымітыў разьлічаны як раз толькі на шырокія нізы народныя і мае мэты праводзіць не музычна-сьпявацкую культуру, як такую, а наадварот—пры дапамозе гэтай культуры, пры дапамозе песьні нясьці польскасьць, бароцца з народнай беларускай стыхіяй.

---

Наступнае ў такім-жа родзе выданьне тае-ж Куратарыі „Купала“—поўнасьцю пацьвярджае зроблены намі вывад.

Сваім зьместам гэта мела быць „Купальская урачыстасьць“, абапёртая на этнографічных крыніцах Наваградчыны і Віленшчыны. У сапраўднасьці этнографічнага там толькі і ёсьць, што назоў кніжкі ды падагнаныя народныя мэлёдыі. Папросту кажучы, „праца“ гэтая—„Купальле“ Дуніна-Марцінкевіча, перакладзенае на польскую мову. Пры чым аб гэтым нават ні разу і нідзе ня ўспомнена. Паціху ды памалу зроблены звычайны плягіят.

На 18 мэлёдыяў, якімі перасыпаны тэксты „Купальскай урачыстасьці“, толькі для „Лявоніхі“ зроблены вынятак, якая прызнаецца за танец беларускі, а рэшта мэлёдый паданы з польскімі тэкстамі, як мэлёдыі польскія. Пры чым сапраўднай купальскай мэлёдыі няма ніводнай.

Усе мэлёдыі запазычаны з наступных беларускіх выданьняў:

1. „Бѣлорусскія народныя мелодіи“, Е. Раманова,
2. „Беларускія народныя песьні“, Г. Шырмы,
3. „Беларускі песеньнік“, Л. Рагоўскага,
4. „Песьні Віленшчыны“—(беларускія) Ст. Казуры.

І аб гэтым ані словам нідзе ня ўспомнена. Натуральна, такі „недагляд“ зроблены не прыпадкова. Пры кожнай песьні паказана, скуль яна паходзіць, толькі народную прыналежнасьць „забыліся“ падаць.

Дзеля таго, што нашыя землі проста „рояцца“ ад песьняў польскіх, літоўскіх, караімскіх, татарскіх, то найлепей распазнаваць іх народную прыналежнасьць паводле тэкстаў.

З успомненых „працаў“ польскіх аўтараў беларускай інтэлігенцыі неабходна зрабіць свае вывады. На працягу вякоў народ бараніўся ад нацыянальнай сьмерці, між іншым, і такім аружжам, як родная песьня. Гэтае прыгожае аружжа трэба пераняць з рук народных і паказаць усяму сьвету, а ў першую чаргу сваім праціўнікам, што мы існуем, будзем існаваць і... бароцца.

*К. Р—іч.*

---

**DIE WESTRUSSISCHE Kanzleisprache des Grossfürstentums Litauen von Chr. S. Stang.** Выданьне Нарвэскай Акадэміі Навук. Аслё 1935. Фармат 8°, бач. 166.

Вельмі вартасная, грунтоўная і сумленная праца нарвэскага вучонага Хр. Станга „Die Westrussische Kanzleisprache des Grossfürstentums Litauen“ („Беларуская мова канцэлярыі вялікіх князёў літоўскіх“) зьяўляецца доказам зацікаўленьня навуковага сьвету заграмічнага культурай Беларусі ў мінуўшчыне. Праца напісана ў нямецкай мове. Зьмяшчае многа тэкстаў у старой беларускае мове. Апёрта на багатым гістарычным матарыяле. Характар яе, як відаць з назову і зьместу, спэцыяльны—філёлёгічны.

Праф. Хр. Станг два разы (у1931 і 1932 г.) адведаў Заходнюю Беларусь дзеля вывучэньня сучаснай беларускай мовы безпасрэдна ад народу. *Н.*

# Хроніка

## Літаратурны конкурс.

„Шлях Моладзі", месячны часапіс беларускай моладзі (выходзіць у Вільні рэгулярна ўжо 7-мы год) сёлета вясной абвясьціў конкурс на найлепшае апавяданьне, пры гэтым вызначыў тэрмін прысыланьня апавяданьняў да 30-га верасьня. На конкурс прыслана 15 новэлек.

## Гарманізацыя беларускіх песьняў.

Заслужаны для беларускай музычнай культуры, слаўны кампазытар А. Грэчанінаў (ад некалькі год стала пражывае ў Парыжы) ужо даўна з энтузыязмам гарманізуе беларускую народную песьню. Сёлета вясной кампазытар Грэчанінаў згарманізаваў 10 народных песьняў і апошнім часам распачаў гарманізацыю новых, з ліку 70, якія запісаў і пераслаў яму ведамы беларускі культурны дзеяч і рэгент бел. хору гр. Р. Шырма.

## Два канцэрты беларускай песьні ў радыё.

Віленская радыёстанцыя надала (праз усе радыёстанцыі ў Польшчы) сёлета два канцэрты беларускай песьні. Першы адбыўся дня 11-га траўня, другі —26-га чэрвеня. У праграму канцэртаў уваходзілі выключна беларускія народныя песьні. Гр. К. Шырміха—солістка—і Хор пад кіраўніцтвам гр. Р. Шырмы, як выканаўцы праграмы, выпаўнілі свае ролі вельмі добра.

Міма неадпаведнага часу, у які надаваліся канцэрты (15 гадзіна), многія з беларусаў і небеларусаў, у краі і загранічай, маглі пачуць беларускую народную песьню, пазнаць яе хараство.

Гр. Р. Шырма, як даведываемся, рыхтуе рэпэртуар да новага бел. канцэрту, які незадоўга будзе надаваць таксама віленская радыёстанцыя.

## Беларускія рэфэраты на зьезьдзе гісторыкаў.

У верасьні месяцы адбыўся ў Вільні VI-ты зьезд польскіх гісторыкаў. Зьезд патрываў некалькі дзён. Зьезд абгаварываў праблемы, зьвязаныя з культурай, правам, навукай і палітыкай у Вялікім Княстве Літоўска-Беларускім. На зьезьдзе выступаў з прамовай у беларускай мове гр. А. Луцкевіч, ён-жа і гр. В. Грышкевіч прачыталі, у польскай мове, па адным беларускім рэфэраце.

## Беларуская песьня ў Празе Чэскай.

22-га чэрвеня ў Празе Чэскай адбыўся ўкраінска-беларускі канцэрт песьні. Украінскі хор з учасьцем берусаў і чэскія сьпявачкі выканалі цэлы рад і беларускіх песьняў. На канцэрце былі прысутнымі выдатныя чэскія музыкі, вучоныя, палітыкі і інш. дзеячы, на каторых беларуская песьня сваім хараством і мілагучнасьцю зрабіла сільнае ўражаньне.

## „Іскры Скарыны".

Беларуская калёнія ў Празе Чэскай дастойна трымае беларускі нацыянальны сьцяг, сьцяг барацьбы за інтарэсы Беларусаў, як нацыі.

Доказам гэтага — выданы сёлета, саматужна і акуратна, чарговы 5 ты нумар часапісу „Іскры Скарыны", які рэдагуе Беларускае (Крывіцкае) Культурнае Т-ва ім Фр. Скарыны. (Адр.: ČSR, Praha-Dejvice, čp. 548).

Выгляд часапісу паважны, рэпрэзэнтацыйны, фармат вялікі, зьмест багаты і рознастайны.





28 траўня 1905 г. у газэце „Северо-Западный Край" надрукаваны першы верш Янкі Купалы „Мужык". Сёлета, дзеля гэтага, прыпаў 30-цілетні юбілей літаратурнай працы Купалы. З прычыны юбілею адбыліся ў БССР., галоўным чынам у сталічным горадзе Менску, адпаведныя ўрачыстасьці, а ў газэтах Сав. Беларусі, як і іншых сав. рэспублік, надрукаваны артыкулы аб Купале і ягонай творчасьці.

28-га траўня адбыўся ў Менску, у Доме Пісьменьніка, юбілейны вечар, з учасьцем юбіляра.

З дакладамі на вечары выступалі: старшыня Саюзу Сав. Пісьменьнікаў БССР Клімковіч і Кучар. Яны гаварылі аб творчым шляху Купалы і аб тым, як Купала „уключыўся" у савецкую літаратуру і соцыялістычнае будаўніцтва. На вечары юбіляра віталі прадстаўнікі камуністычнай партыі, савецкіх установаў, літаратурных і пісьменьніцкіх арганізацыяў, як беларускіх, так і іншых народаў Сав. Саюзу, — паасобныя пісьменьнікі і поэты, прадстаўнікі навукі, культуры, мастацтва і інш.

Па дакладах і прывітаньнях сказаў прамову Купала, выказваючы ў ёй паміж іншым патрыётызм і вернасьць да „неабсяжнай бацькаўшчыны—краіны саветаў", а так-жа тое, што „добра жыць, тварыць і змагацца ў эпоху мудрага Сталіна"!

Увесь зьмест прамовы паказвае, што яна была здаваньнем экзамену Купалы з ягонай камуністычнай дасьпеласьці і прававернасьці перад камуністычнымі ўладамі.

Савет Народных Камісараў БССР нагародзіў народнага поэта Купалу за ягоную дзейнасьць на літаратурнай ніве ў апошнім часе лёгкім аўтамабілем.

Гэтак было вясной. Згодна з пастановай Саюзу Сав. Пісьменьнікаў Сав. Беларусі, які зьяўляецца галоўным арганізатарам юбілейных урачыстасьцяў, найважнейшыя ўрачыстасьці адбудуцца ўвосень. Дзеля іх арганізацыі пакліканы адумысловы камітэт.

Зразумелая рэч, што Купалаўскі юбілей не зьяўляецца аказіяй дзеля выражэньня спэцыяльна пашаны для юбіляра, ёсьць ён аказіяй дзеля выкарыстаньня перадавога поэта Беларусі Купалы для політычных агітатарскіх мэтаў камуністычнай улады, дзеля апраўданьня сав. нацыянальнай палітыкі ў адносінах да Беларусаў,—палітыкі нішчэньня Беларусаў, як нацыі.

## Юбілей Зьмітрака Бядулі.

23-га кастрычніка адбылося ў Менску ўрачыстае сьвяткаваньне 25-цілецьця літаратурнай творчасьці Зьмітрака Бядулі, беларускага пісьменьніка, з паходжаньня жыда (запраўднае ягонае імя і прозьвішча Самуіл Плаўнік). Быў зарганізаваны адумысловы вечар, на якім з дакладам аб творчасьці Бядулі выступіў Кучар, а сам Бядуля сказаў доўгую прамову, якая нічым іншым не зьяўляецца, як чарговым пакаяньнем прамоўцы перад камуністычнымі ўладамі за свае нядаўныя „нацыяналістычныя грахі" ў творчасьці,—актам абвінаваченьня бел. нацыянальных дэмократаў і пакорнай чалабітнасьцю перад камуністычнымі ўладамі.

## Літаратурны зборнік маладых пісьменьнікаў і поэтаў Сав. Бел.

Падрыхтаваны і зданы ўжо ў друк Кабінэтам Маладога Аўтара пры Саюзе Сав. Пісьменьнікаў Беларусі літаратурны зборнік маладых пісьменьнікаў і поэтаў Сав. Беларусі.

Мікола Хведаровіч у артыкуле „Расьце маладая поэзія" („Літаратура і Мастацтва", № 46, 1935 г.), зазначае, што моладзь, якая бярэ ўчасьце ў гэтым зборніку, здольная, — „што гэтыя людзі не выпадковыя ў літаратуры, калі яны і надалей будуць сур'ёзна працаваць над разьвіцьцём свайго поэтычнага таленту і над падвышэньнем культурнага ўзроўня".

У зборніку знаходзяцца творы восемнаццаці аўтараў: А. Бурдзеля, Пімена Панчанкі, Бацюшкава, М. Сяднёва, Бачылы, М. Калачынскага,

Матэушава, Леанідава, Пацёмкіна, Гаўрылы Нячая і інш.

Не папалі ў зборнік здольныя пачынаючыя поэты: М. Жук, які працуе ў Случчыне, Шакаль — працуе ў Магілёве, Куперштох, Мялешка—працуюць у Менску, Левановіч, Ротміль—у Гомлі, М. Гваздоў—у Чэрыкаве. Гэта моладзь, „перад якой вялізарныя пэрспэктывы творчага росту“—кажа той-жа Хведаровіч.

### У Беларускай Акадэміі Навук.

— Інстытут Гісторыі БАН падрыхтаваў да друку вялікі зборнік, прысьвечаны гісторыі, археолёгіі і этнографіі Беларусі. У зборнік увайшлі артыкулы: „Паўстаньне ў 1863 г. у Беларусі“, „Фальклёр у сьвятле клясавай барацьбы“, „Контрэволюцыйная дзейнасьць беларускіх нацдэмаў у часе нямецкай акупацыі“, „Дасьледаваньні аб старым Менску“ і рад іншых артыкулаў.

— Інстытут Літаратуры і Мастацтва выдаў збор твораў беларускага поэты Паўлюка Труса. Гэта другое выданьне. Першае (з 1934 г.) разышлося. Другі збор твораў, як і першы, выйшаў пад рэдакцыяй акад. І. Замоціна і праф. М. Піотуховіча.

— Інстытут Нацыян. Меншасьцяў Бел. Акад. Навук. склаў латышска-беларускі практычны слоўнік, які зьмяшчае каля 20.000 слоў.

### Усебеларускі зьезд савецкіх архітэктараў.

У другой палавіне чэрвеня (ад 24 да 27) адбыўся ў Менску першы ўсебеларускі зьезд савецкіх архітэктараў. Брала ўчасьце ў ім 110 дэлегатаў. Зьезд абгаварываў справы зьвязаныя з архітэктурай у БССР і заданьні гэтай архітэктуры на будучыню, а так-жа справы арганізацыйныя.

У справах арганізацыйных, зьезд зацьвердзіў статут Саюзу Сав. Архітэктараў БССР, выбраў улады саюзу і дэлегатаў на 1-шы Усесаюзны Зьезд Сав. Архітэктараў, які адбудзецца ў сьнежні месяцы сёлета.

### Усебеларуская алімпіяда самадзейнага мастацтва.

У часе ад 21 да 25 чэрвеня сёлета ў Менску адбылася ўсебеларуская алімпіяда мастацкай самадзейнасьці.

У алімпіядзе бралі ўчасьце: 7 драматычных гуртkoў, 12 музыкальных і 12 харавых, 35 выканаўцаў песень, 25 выканаўцаў музыкі, 21 танцор і інш. Усіх учасьн. было каля 1000 ч.

### Выстаўка беларускага пэйзажа—абразоў В. І. Галубка.

В. І. Галубок ведамы беларускі артыст, драматург, рэжысор, кіраўнік беларускага аб'езнага тэатру, вобак працы ў кірунку драматычным аддаўна працуе ў жывапісі. Ён—мастак-самавучак. Любуецца ў беларускай прыродзе і пераносіць малюнкі гэтай прыроды на палатно.

У пачатку кастрычніка, у Доме Пісьменьніка ў Менску адкрылася выстаўка беларускага пэйзажа-абразоў Галубка. Выстаўлены 31 абраз.

Мастак В. Волкаў, крытыкуючы выстаўку („Літаратура і Мастацтва“ № 55, Менск 1935 г.) так кажа аб Галубку і ягоных абразох: „Галубок першы раз выступае перад грамадзкасьцю ў якасьці жывапісца і, трэба адзначыць, выступае ня дрэнна. Яго творчасьць перарастае рамкі звычайнага аматарства — у некаторых яго малюнках відаць сапраўднае майстэрства... Яго палотны жыцьцерадасныя, бадзёрыя, фарбы, часамі, дасягаюць вялікай яснасьці, празрыстасьці і добра перадаюць матарыял“...

*Выдавец: Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры*

*Рэдакцыйная Калегія: М. Шкялёнак, Ад. Станкевіч, М. Пяцюкевіч, А. Бярозка і Я. Шутовіч.*

*Адказны Рэдактар: Ян Шутовіч.*



# КАЛОСЬСЕ

*БЕЛАРУСКІ ЛІТАРАТУРНА-НАВУКОВЫ ЧАСАПІС*

**Кніжка 4. 1935 г. Год І**

Я. ШУТОВІЧ

## ПЕСЬНЯРЫ ЮБІЛЯРЫ

Кожны жывы народ выяўляе свае ідэалы, творыць розныя цэннасьці ў галіне грамадзкага жыцьця, а такжа на ніве навукі і мастацтва праз выдатных сваіх адзінак. І беларускі народ на працягу ўсей сваей гісторыі меў заўсёды здольных сыноў, што былі слаўны ў розных дзялянках ягонага жыцьця. Тымбольш мае ён іх сяньня, калі адбывае свой культурны і грамадзкі рэнэсанс. Пракамі і пяўцамі гэтага рэнэсансу, яго душой, зьяўляюцца волаты слова, творцы беларускага прыгожага пісьменства: Янка КУПАЛА, Якуб КОЛАС і Зьмітрок БЯДУЛЯ-ЯСАКАР. Гэта буйныя літаратурныя індывідуальнасьці, гэта мастакі беларускага слова, гэта людзі, якімі беларуская літаратура, беларуская культура, ня можа не ганарыцца.

Сёлета Янка Курала і Зьмітрок Бядуля-Ясакар абходзяць свае юбілеі: першы 30-лецьце, другі 25-лецьце працы на беларускай літаратурнай ніве. І мы з гэтай нагоды, у пачуцьці ўдзячнасьці і сьведамасьці заслуг Юбіляраў перад беларускім народам, ягонай культурай, віншуем іх, жадаючы ім далей аставацца маякамі беларускай літаратуры, якімі яны былі дагэтуль.

Творчасьць Янкі Купалы і Бядулі-Ясакара, апроч мастацкіх вартасьцяў, мае вялікія вартасьці грамадзка-ідэовыя. Купала і Зьмітрок Бядуля-Ясакар не належаць да тае катэгорыі пісьменьнікаў, што твораць у імя „мастацтва для мастацтва“, — яны твораць пераважна з сьведамасьцю, што мастацкая літаратура выконвае функцыі грамадзкія. І з гэтага боку плод іхняй творчай працы ёсьць дужа характэрным, асабліва, калі застасуем крытэрый часу пры разглядзе ідэовай эволюцыі песьняроў, выражанай у тэй-жа творчасьці. У творчасьці Купалы і Бядулі-Ясакара, як у люстэрку, бачым мастацкае адлюстраваньне мамэнтаў, што характэрызуюць социяльнае, культурна-нацыянальнае і палітычнае палажэньне і жыцьцё беларускага народу, як і самых аўтараў. Галоўнай тэмай творчасьці Купалы і Бядулі-Ясакара ранейшага, дасавецкага пэрыяду часу (зборнікі вершаў: „Жалейка“, „Гусьляр“, „Шляхам жыцьця“, „Спадчына“, сцэн. творы: „Адвечная песьня“, „Паўлінка“, „Раскіданае гняздо“ і інш.— Купалы, зборнікі: „Абразкі“ (мастацкая проза), „Пад родным небам“,

(вершы), ,,На зачарованых гонях" (расказы) і інш.—Ясакара-Бядулі)—ёсьць уся нацыянальная Беларусь, беларускі народ, яго бацькаўшчына, з яго ворагамі соцыяльнымі і нацыянальнымі. Апроч таго ў гэтую пару Купала і Бядуля зьяўляюцца слаўнымі песьнярамі ідэолёгамі беларускага адраджэнска-вызвольнага руху. Яны даюць у поэтыцкай форме, сказаць можна, ідэолёгічныя каноны гэтага руху.

Апынуўшыся ў савецкіх варунках жыцьця, яны перастаюць быць ідэолёгамі таго-ж руху і пад націскам палітычных існуючых там варункаў і камуністычнай ідэолёгіі — паволі адступаюць ад ідэолёгіі ранейшай і дапасоўваюць сваю ліру да новага ладу, да новага жыцьця, да існуючага там рэжыму, і ўрэшце Купала і Ясакар-Бядуля, як і чарада іншых беларускіх пісьменьнікаў, у сувязі з разгромам маскоўскім вялікадзяржаўніцтвам беларускага культурна-нацыянальнага руху ў Савецкай Беларусі—змушаны зрабіць над сабою ідэолёгічныя гаракіры, сплаціць дань часу: яны, як і многія іншыя беларускія пісьменьнікі, у 1930 годзе, у ведамых публічных лістох (Купалы з дн. 10.XII.30 (,,Зьвязда", з дн. 14. XII.30), Ясакара-Бядулі з дн. 30.XI.30 (,,Сав. Бел.", з дн. 7.XII.30) „прызнаюць" свае ідэолёгічныя ранейшыя „памылкі", каяцца за іх, выражаюць жаль і дэкляруюць вернасьць накінутай ім, як і ўсяму беларускаму народу, ідэолёгіі дыктатуры пролетарыяту.

Мамэнт ,,перабудовы" песьняроў—адлюстраваны ў творчасьці аднаго і другога па гэтым 1930 годзе.

Прадстаўнікі камуністычных на Беларусі ўладаў, а так-жа некаторыя прадстаўнікі камуністычнай пролетарыяцкай поэзіі і пісьменства агулам публічна сьцьвярджаюць, што партыя ,,перабудавала" Купалу і інш. беларускіх пісьменьнікаў.

Н. Ф. Гікало, сакратар ЦК КП(б)Б, у сваім выступленьні на нарадзе з беларускімі пісьменьнікамі у ЦК КП(б)Б 15.X.34 г. сказаў паміж іншым аб Купале і Коласе гэтак: „Яны становяцца іншымі людзьмі ў палітычных і іншых адносінах... Сяньня Я. Купала—гэта ня той чалавек, які быў некалькі год таму назад. Для нас Янка Купала, Якуб Колас — неадрыўная часьць літаратуры Савецкай Беларусі"... і—,,гэта работа партыі ўцэлым і ваша камуністаў-пісьменьнікаў, а так-жа воля і жаданьне іх самых перабудавацца, пераглядзець свой палітычны творчы шлях на аснове рашэньня нашай партыі аб рабоце пісьменьніцкіх арганізацый" (,,Літаратура і Мастацтва" № 27, дн. 28.V.35).

Пасьля такіх ,,перабудаваньняў", Купала і Ясакар-Бядуля твораць на новы ідэйны лад. Тэматычна і ідэова творчасьць іх дапасоўваецца да творчасьці ўсесаюзнай у кірунку камуністычнай пролетарыяцкай ідэолёгіі.

Аднак міма ідэолёгічна новай накіраванасьці, міма палітычна-агітацыйных мамэнтаў у духу камуністычнай пролетарыяцкай ідэолёгіі, творчасьць Купалы і Ясакара-Бядулі найнавейшага пэрыоду мае вялікае значэньне і для беларускай нацыянальнай культуры, прадусім з гледзішча мастацкага і з гледзішча культуры слова.





ЯНКА КУПАЛА

## ЯНКА КУПАЛА

З зборніка „Безназоўнае“
(Беларускае Дзяржаўнае Выдавецтва, Менск, 1928).

* * *

... О так! Я—пролетар!..
Яшчэ учорах раб пакутны—
Сягодня я зямлі ўладар
І над царамі цар магутны!

Мне бацькаўшчынай цэлы сьвет,
Ад родных ніў я адвярнуўся...
Адно... ня збыў яшчэ ўсіх бед:
Мне сьняцца сны аб Беларусі!

---

### БЕЗНАЗОЎНАЕ

4.

Было яно калісьці,
Калі, як жоўталісьце,
Жылі мы—ня жылі;
Ішлі дні без карысьці,
І сорам было выйсьці
У сьвет з сваёй зямлі.

Гнаў лісьце злосны вецер
Па полі, па ўсім сьвеце,
За вёску, за сяло:
На нас ляцела сьмецьце,
Бязладзьдзе, беспрасьвецьце,
Пятлю віло сіло.

І гэтакая слава,
Як пошасьці праява,
Буяла па людзях,
Пакуль жыцьцё ласкавай
Усьмешкай і забавай
Не асьвяціла шлях.

Заблiскацелі лужы,
Бяда зьвілася вужам...
—Ідзе,—крычаць,—вястун!
І ўзьняўся нехта дужы,
І кінуў кліч дасужы—
Як помста, як пярун.

Ад воклічу прарока
Схіснулася пямрока,
Сьцяг падняла вясна,
І па зямлі шырокай,
Як можа зьмерыць вока,
Пабегла навіна.

Сяляны і сялянкі!
Цацанкі-абяцанкі
Збываюцца для вас;
Выходзьце на палянкі,
Як зоры, як заранкі,
І сейце ў добры час.

5.

Мы ўсталі песьняй-казкаю
Пад жудаснай павязкаю
Мінулых чорных дзён
І ўдаль ідзём, хоць ляскае,
Зьвяр'ё ў кутох няласкаю—
На дальшы кліча сон.

Але, але ня выламе
Ні клыкамі, ні віламі
Таго, што ажыло,
Што ўскрэсла над магіламі,
Над хатамі пахілымі—
Мінуламу на зло.

Ня ўзяць рукамі голымі
Таго жывога полымя,
Што нібы агняцьвет,
Вясёлымі саколамі
Над горамі, над доламі
Разносіць іскры ў сьвет...
. . . . . . . . . . . .

А гоні ўжо узораны,
І сілы распакораны
Ад паншчынных бядот.
Чакаюць стравы жораны—
Зярнятаў не заморaных,
Чакаюць на ўмалот.

А лапці і анучыны
Адбэрсаны, адкручаны,
Нуда маўчыць ціхом;
Спраўляюцца заручыны
Вясельніцы засмучанай
З вясёлым жаніхом.

Лявоніха... мяцеліца...
Бяз памяці вяселіцца...
— Гэй, дзьмі ў дуду, дудар!
Аколіца-аселіца
Пад ногі сонцам сьцеліцца...
Збудзіўся гаспадар!...

8.

* * *

Трэба, трэба дзён нямала тысяч
З беларускім сэрцам, думай
Мерыць сьветы, каб вышэй узвысіць
Вызваленьне наша з глуму.

Бо цікуе злосны вораг
Тых, што спыняцца ня ў часе
У сваім паходзе ў зорах
І задрэмлюць на папасе.

10.

Пакінем спадчыну мы для патомкаў
Інакшую ад тэй,
Што ўзялі мы ад продкаў на абломках
Гісторыі сваей.

З інакшай думкай пойдзе ў сьвет і людзі
Патомак гэны наш:
Згібацца ўжо ня будзе і ня будзе
Піць з недапітых чаш.



Дасталі сьцежкі, ад якіх прапасьці
Маглі мы ў бяспуцьці,
А кінем бітыя шляхі да шчасьця,
Абы умець ісьці.

На продкаў плечах паўзрасталі вежы,
Дзе торг вялі за нас,
А мы патомкам нашым кінем межы
Без ашуканскіх крас.

Яшчэ пакінулі нам асьляпленьне,
Пашану да пакут,
А мы пакінем песьню вызваленьня
І вольны бацькаў кут.

## З ПАЭМЫ „НАД РАКОЮ АРЭСАЙ“

(Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі,
Менск, ЛіМ 1933).

### 2. АБ МІНУЛЫМ

Крумкач глюгу зьвесіў
Над згніўшай калодай...
Прысьніла Палесьсе
Мінулыя годы.

Было тут калісьці—
Багнішчы-балоты,
У дрыгве прэла лісьце,
Асокі, чароты...

Ідзе чалавек там, —
Засмокча смугою,
Са стогнам і крэктам
Загіне з душою.

Зьвер блукае дзікі
Ў пагоды, ў імжакі,
Гусей дзікіх клікі,
Гадзюкі, вужакі...

Мядзьведзь смокча лапу
Ў бярлозе санліва,
Лось высунуў храпу,
Шукае спажывы.

Дзік ходзіць з дзічыхай,
За ім—табун воўчы.
Ўсялякае ліха—
Ўдзень белы і ўночы.

Там-сям човен вузкі,
Нібы дамавіна,
Прасунецца ў грузкіх
Катлінах-багнінах.

Адно з вясной яснай
Палесьсе ўскрэсьне,
Спаткае няшчасна
Вясну і прадвесьне.

Свой сьпеў салавейка
Ў гальлі адшчабеча,
Аб шчасьці жалейка
Гаротна ад'енча.

Скукуе зязюля
Адвечнае ку-ку,
Паліча бабуля,
Ці шмат яшчэ мукаў.

А там зноў магілай
Палесьсе замоўкла,
Зноў сьпіць яго сіла
Пад багнай пажоўклай.

А людзі? а людзі?—
Іх мала-нямала,—
Упаўшыя грудзі,
Бяда ўсьлед навалай.

Між топкіх багнішчаў,
На выдмах пяшчаных,
Як на папялішчы,
Рад хат, бы курганаў.

Жывуць людзі ў хатах,
Плятуць сабе лапці,
Каб з торбай у латах
Пайсьці жабраваці.

Пад шум бесканечны
Бярозаў і соснаў,
Сахой недарэчнай
Аруць пясок млосна.

Іх розум балота
Трымае палонна,—
Красуе цямнота,
Растуць забабоны.

Легенды і казкі
Прыгонных законаў
Паўзуць мохам вязкім,
Багуньнем зялёным.

Праз леты і зімы
Паданьне йшло ў векі:
—Паляшукі мы,
А не чалавекі!

## 3. ЗАШУМЕЛА, ЗАГУЛО...

### I.

Зашумела, загуло,
Бы зямлятрасеньне,
На палескае сяло
Пайшло утрапеньне.

Люду хмара наплыла,
Покліч птушы ўзьвіўся,
Небам сіняя імгла...
Скуль яны ўзяліся?

Украінцаў тут гурма
Й старабінцаў нашых
Набрыло, як на кірмаш,
На багнаву пашу.

Безьлік хлопцаў-звадыяк,
Дзядзькаў барадатых,
Пілы вострыя ў руках,
Тапары, лапаты.

Што-та будзе тут цяпер?
„Нічога ня будзе“!—
Хітра думалі ў чацьвер
Палескія людзі.

А ў нядзелю, чуць зара,
Сякеры запелі,
Ад лапат балот кара
Рвецца ў топкім целе.

Шум і гоман навакол,
Як на тым ігрышчы,
А лапаты рэжуць дол,
А сякера сьвішча.

Рыюць людзі топкі торф
У вадзе па пахі,
А у жылах бурліць кроў,—
Багна ім ня ў страхі!

Яны знаюць, што ўжо так
Ня быць, як калісьці,
Што пакінуць яны знак
Вялікай карысьці.

За канавай—як струна
Новая канава,—
Ўсе падобны, як адна,
І зьлева і справа.



Спанаваў зьвярыну страх,
Ад людзей страх гоніць—
Па тарфяньні, па карчах,
За гонямі гоні...

На гэктары абнялі
Канавамі нетры,
Далей мерац пачалі
Ўжо на кілёмэтры.

Магістралі прад табой —
Ня зьмерыць і вокам,—
Тарфянішча прад сяўбой
Блізкай, недалёкай...

Магістралі, дрэнажы
Шляхі ў багне значаць...
Ой, дарэмна варажыў
Паляшук няўдачу!

Не дабачыў паляшук
З хаты безваконнай
Дзён надходзячых бяз мук,
Бяз трудоў прыгонных.

Раскаваў балота з пут,
З дрыгвы непраходнай
Гераічны вольны люд
Працаю свабоднай.

### II.

І ляжаць канавы.
Тыя магістралі,
Па іх воды рэчкай
Усё далей, далей...

Бягуць да Арэсы
Сярод яшчэ пустак,—
Цаліной балота
Залягае густа.

Магістралі складна
Шлях працерабілі,
А йшчэ шмат работы
Чалавечай сіле.

Каб зрабіць прыгоднай
Глебу ў самым дзеле,
Каб на полі роўным
Трактары запелі.

Каб высокі, буйны
На тарфяньні чыстым
Зашумеў чаротам
Колас залацісты.

Чакае Палесьсе
Людзей сьмелых, жвавых,
Каб прышлі і дружна
Ўзяліся за справу.

Рук яно чакае
Новых, гаспадарных,
Спаборнікаў стойкіх,
Брыгадаў ударных.

Яны хутка прыдуць,
Вогнішчы разложаць,
Да канца балота
З багны адварожаць.

Бо йдуць чуткі сільна
Па цэлай краіне,
Што адкрыты скарбы
Ў балотнай пустыні.

(„Зьвязда“ № 182, 12.VIII.35).

## ЛЁН

Як на поле, на зямлю
Прышла раніца вясны,
Я пасеяла ў ральлю
Жмені зёран ільняных.

Неба сеяла цяпло,
Цёплы дожджык цярушыў,
Ў думках радасна было,
Беглі песьні ад душы.

Ой, лянок, лянок мой чысты,
Валакністы, залацісты!

Як расьці стаў, як падрос,
Як лісткі ўзьняў да гары,—
Лён палола з раньніх рос
Да вячэрняе зары.

Сэрца ныла, бы з нуды,
Бы сама была ня ўся, —
Спадабала я тады
Брыгадзіра Міхася.

Ой, лянок, лянок мой чысты,
Валакністы, залацісты!

Як адцьвіў ды як надзеў
Лён галоўкі на сябе,
Быў ня горш, як у людзей,
Мела шчасьце я ў сяўбе.

Рваць ішла яго ў снапы,
Пела песьні аб вясьне,
Брыгадзір лічыў капы,
Час ад часу моргаў мне.

Ой, лянок, лянок мой чысты,
Валакністы, залацісты!

Як ішла лён абіваць,
Пад нагамі цёрся жвір,—
Нібы семя арфаваць,
За мной сьледам брыгадзір.

А мой пранік лясь ды лясь
Па гліняным па таку,
Падышоў бліжэй Міхась,
Мне паклаў за стан руку.

Ой, лянок, лянок мой чысты,
Валакністы, залацісты!

А як слала я лянок
На зялёным на лугу,
Дзе папаўся Міхасёк,
Цалавала на бягу.

Сэрцу лёганька было,
Цэлы сьвет—вясёлы рай,
Хоць і восень, а сьвятло
Так і льецца цераз край.

Ой, лянок, лянок мой чысты,
Валакністы, залацісты!

Зьмяла ў мяльніцы я лён,
Атрапала лён траплом,—
Засьвяціў, як цудны сон,
Лён шаўковым валакном.

Промень ясны загуляў
Па страсе і па сьцяне...
Хату новую стаўляў
Брыгадзір мой для мяне.

Ой, лянок, лянок мой чысты,
Валакністы, залацісты!



(„Зьвязда“ № 169, 21.VII.35).

## АЛЕСЯ

Кукавала зязюля
У зялёным лесе,
Гадавала матуля
Дачушку Алесю.
Гаманіў бор сасновы
Ў вечары і ранкі,
Над калыскай ліповай
Пела калыханкі:
—Сьпі, засьні, мая дзетка,
Птушкі ўжо заснулі,
Сьпі, засьні, мая кветка,
Люлі, люлі, люлі!
—Сьпі, ня ведай трывогі—
Надыйдзе часінка—
На свае ўстанеш ногі,
Мая ты дзяўчынка.
Будзеш кужаль ты прасьці,
Будзеш ткаці кросны,
Выглядаць долі, шчасьця
Ў маладыя вёсны.
Кукавала зязюля
У зялёным лесе,
Не згадала матуля,
Што выйдзе з Алесі.

Як набралася моцы
Матчына дачушка,
Паляцела да сонца
Пералётнай птушкай.
Паляцела дзяўчына
Самалётам гонкім
Над шчасьлівай краінай,
Над роднай старонкай.
Адчыняе вароты
Нябесным маршрутам,
Ці як ястраб з высотаў
Скача з парашутам.
І да сонца праз хвілю,
А ўсё вышай, вышай!
Самалётавым крыльлям
Воблакі калыша.
Стара маці днём, ночкай,
Марыць ля ваконца:
Ужо к прасьніцы дочка
Не зьляціць з-пад сонца.
Кукавала зязюля
У зялёным лесе,
Не згадала матуля,
Што выйдзе з Алесі.

Ляўкі, Аршаншчына.

З зборніка „Пад родным небам“
(Беларускае Коопэрацыйна-Выдавецкае Таварыства „Адраджэньне“, Менск, 1922).

## ПАХОДНІ

На плітах алатырных залатых вякоў,
На сочнай глебе сказаў з княжацкіх учынаў,
На красках простых сьпеваў простых мужыкоў,
Над плоймай струнных гукаў гучных адпачынаў
Агнеюцца паходні.

Іх водблескі рунеюць многа соткаў лет,
Квітнеюць, як лілеі казачнай крыніцы.
А кожная з паходняў — сонца-сяміцьвет,
Якое мкнецца ўвышку, з яркай заранiцай
Спрачаецца удодні.

Адвечныя скрыжалі роднае зямлі
Хаваюць нашы скарбы, носяцца над краем,
Паказываюць жыва, як дзяды жылі,
Гавораць нам яскрава, што мы мелі, маем
Ад песьняроў-пракракаў:

Баянаў сын-насьледнік,—Ігара гусьляр,—
Пакінуў нам на славу песьні залатыя.
Праз восем праз сталецьцяў з краю ценяў, мар
Прышлі да нас, як госьці, птахі-гусьлі тыя,
Бы зьяньне праз аблокі.

Пад попелам пад пылам манастырскіх крат
Знайшлі стары паргамэнт песьняў пад заховай.
Народы і плямёны, кожны на свой лад,
Гардзіліся знаходкай Ігарава Слова,
Явангельлем славянаў.

Пад месяцам, пад сонцам Полацкіх капліц,
Пад сьпеўнымі званамі залачоных вежаў,
Пад паляўнічым рогам ў явах таямніц
Зьявіўся наш Скарына кветкай родных межаў,
Вясёлкай з-пад туману.

На мове паспалітай простых пастыроў
Тлумачыў ён пракракаў сказы сьвятапісы.
Жыў твор яго ў народзе, нібы ў жылах кроў,
Праменіўся над краем сонечнаю рысай,
Аздобаю нябёснай.



Пад замкам Гэдыміна над ракой Вільлёй
Яшчэ адзін тастамант славіў нашу долю:
То быў Літоўскі Статут. Праўдаю сьвятой,
Імпэтнаю Пагоняй мкнуўся ён на полі
І па даліне роснай.

Яшчэ было паходняў па дарозе шмат,
Якія нам сьвяцілі ў цемры доўгай ночы:
Вянок народных песьняў хварбамі багат;
І хмеліць сэрца, душу, зьяньнем сьлепіць вочы,
Вянок наш мятарутны.

Ці помніце вы песьні аб сваіх дзядох?
Ці бачыце паходні, родныя саколы?
Ці пойдзеце наперад па сьвятых сьлядох?
Ці будзеце сьвяціцца ў родным творчым коле?
Ці будзеце магутны?

1922 г.

* * *

Я—кропля вялікага творчага мора,
Я—іскра квяцістага полымя зораў,
Я—водблеск нябёсных адвечных прастораў.

Душа мая—песьня з сьвятога амбону,
Душа мая—краска ад Божай кароны,
Душа мая—водгульле Божага стогну.

А думы—вясны залатой агнявіцы,
А думы—зямлі жыватворчай крыніца,
А думы—лугоў аксамітных расіца.

Жыцьцё маё—сон бога дзіўных Калядаў,
Жыцьцё маё—цень лясуновых прысадаў,
Жыцьцё маё—шэпт чараўнічага саду.

Памру—не памрэ жыцьцедаўчая сіла,
Што дух мой пад неба да зорак насіла,
Што кіне вянок на нямую магілу.

1922 г.

З зборніка „Буралом“
(Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі, Менск, 1925).

# АРЛІХІ

І луналі сталёвыя дзьве самалёткі—арліхі,
І былі іх палёты ня ціхі:
Крахаталі, шыпелі, гудзелі і страшна і дзіка,
І была іх трывога вяліка.
І пагібель і гора бязьмерна скідалі усюды,
Гарады разьбівалі у груды.
Нібы прашчуры пекла, труцілі ўсё жудасьцю-страхам,
Непакоілі воблачным шляхам.
А гарматы насы, бы галовы з вады кракадылы,
Падымалі, равелі што сілы...
І плявалі агнём—не траплялі ў магутныя скрыдлы,
Ім стралянь у паветра абрыдла.
Чырванелі арліхі тымчасам, бы ў небе зарніцы,
Сваім гульням ня зналі граніцы.
Іх сьмяшылі з зямлі алавяныя, грозныя гукі,
Іх сьмяшылі сьмяротныя мукі...
Гэй, адважны стралок, ты вартуеш іх зьнізу дарэмна.
Хіба толькі жартуеш нікчэмна!
Што ім знача, асілкам, твае прыткалётныя пчолы?
Лепей кінь—ня прыцэліш ніколі!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пальнуў раз і другі. Сам рвануўся ўгару ад імпэту.
Ой, арліхам зьмяніла плянэта...
Во пусьціліся ўніз вельмі хутка, бы рынулі з неба,
Нібы зьнішчыць зямлю ўсю ім трэба.
Гэтак падае ўніз злы каршун на слабую ахвяру.
Так кідаецца воўк на атару.
Хіба страшнага духа спужаліся ў хмарах туманных?
Нам ня трэба гасьцей тых нязваных.
Ой!
  упалі
    уніз.
      Пацямнелі сталёвыя блескі,
І разбрызгаліс крыльлі у трэскі.
Аграмады абломкаў уткнуліся ў пухкае поле.
Ой, няма ім гульні сваёй болей.
Няжывымі ляжалі пілоты—адважныя людзі.
Былі ў іх пакромсаны грудзі.
А гарматны стралок пазіраў на здабычу паволі,
Нібы ведаў зараней іх долю.

1924 г.





ЯСАКАР-БЯДУЛЯ

З раману „Язэп Крушынскі“
(Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі, Менск, ЛіМ 1932).

# У дарозе

З абодвух бакоў дарогі сівы лес.

Дзе-ні-дзе паказваюцца ў далі хаткі. Асьнежаныя дахі—белыя кучмы. Павольна насоўваюцца на абшар сінявыя змрокі. Яны апускаюцца ледзь прыкметна, крадучыся. З бяздоньня вышыні кроплямі ваты ціха нізіцца дробны сьняжок.

Калматы конік і двое людзей на развалістых санках ледзь вызначаюцца з агульнага фону бела-сіняга абшару. Конь павольна і неахвотна трухае па дарозе. Вось-вось спыніцца і далей ня пойдзе. Зусім ня чутно, як санкі рухаюцца наперад па мяккім сьнезе. Каб не бярозкі дзе-ні-дзе абапал дарогі, каб ня хаткі, каб не рознастайнага выгляду гаі і хмызьнякі, якія адсоўваюцца назад, магло-б здавацца, што фурманка застыла на адным месцы шэраватай кропкай. Ціха. Толькі калі-не-калі ў мутнаватым малочнага колеру паветры праносяцца з зьбянтэжаным крыкам вароны.

Едуць бацька з сынам — Цыпрук Ярэмчык і Мікола.

Яшчэ ўдодні Цыпрук запрог каня і паехаў па сына ў Менск. Цяпер—дамоў. Між сабою мала гутараць. Кожны заняты сваімі думкамі. Справу пра „кусамол“ стары адлажыў да прыезду. Аб гэтым трэба гаварыць спакойна ды ў цяпле, каб добра раскумекаць... Мікола сядзіць побач з ім у вялізным жоўтым кажуху, пазычаным Цыпруком у суседа.

Лагодна і роўна падае зьверху сьняжок.

Хтосьці прасейвае праз вялізныя сіты пытляваную муку.

З восені Мікола дома ня быў. Цікава наведаць вёску, дзе нарадзіўся і вырас, паглядзець старую матку, усіх сваіх, суседзяў, Сёмку Солаха, які чамусьці застаўся сёлета дома.

Кіпела ўлетку праца ў гэтай вёсцы.

Звычайная сялянская праца сваім чынам, але гэта праца была асаблівая, нязвычайная. Мікола і яшчэ некалькі вясковых хлапцоў згуртавалі тады людзей на праўку грэблі. Цяжка было спачатку. Як пагаварылі аб гэтым перад вяскоўцамі, дык тыя думалі, што жартуюць:

— Сумна тады стане ў нас і ціха, як у пустцы.

— Цяпер прынамсі людзі зьбіраюцца, талакою падарожныя фурманкі з балота выцягваем.

— Наша бydла ня будзе мець на сабе адзнак, як асушым дарогу.

— Куды мы дзенем калы-струмэнты?

— Увыпадку вайны ворагу лепшую дарогу для пераправы зробім.

— Ды мы прывыклі да гэтага балота. Нам яно не перашкаджае.

А калі з тлумачэньняў пабачылі, што ўсур'ёз гавораць аб папраўцы грэблі, пачалі зноў аднекваццa.

— Я адзін нічога не зраблю.

— Часу няма гэтым займацца.

— Ня лёгкая гэта работа.

— Ці ўсе пойдуць?

— Я пайду, але няхай іншыя пачынаюць.

Страшна было людзям брацца за гэта. Ня ведалі, што лёгка можна будзе зрабіць...

Быў тады спынак паміж сенакосам і жнівом.

Можна было вырваць у лета некалькі дзён. Было цёпла. Сонца ярка сьвяціла. Абапал грэблі стаялі сьвежыя стагі, якія цягнуліся вежамі аж пад самы лес.

Мікола і Саўка і яшчэ некалькі хлапцоў з рыдлёўкамі ў руках пайшлі на грэблю. Пачалі капаць канаву. Прышлі некаторыя паглядзець на працу і пакпіць. Няёмка стала вяскоўцам. Спачатку яны брaлі рыдлёўкі з рук дзяцюкоў:

— Каб тыя адсапліся.

Пасьля пайшлі дамоў па рыдлёўкі:

— Да вечару пакапаем...

За гэтымі прышлі яшчэ... Кожны думаў:

„Як-жа-ж так? сусед будзе працаваць, а я не?—сорамна“...

А як пачалі, дык ужо трэба канчаць:

— Дудкі! зробім!..

На другі дзень Мікола і Саўка зрабіліся галоўнымі „інжынерамі“. Працавала ўся вёска... Гуртам пракапалі абапал дарог глыбокія канавы. Талакою вазілі лапкі, жэрдзі, бярвеньне, пясок каменьне.

Шумна было і весела. Пры рабоце песьні зацягвалі. Пачне адзін на жарт, і падхопяць усе. Праз некалькі дзён было ўсё зроблена...

Мучыліся людзі тут гадамі, дзесяткамі год...

Горача было тады на сэрцы ў Міколы. Ён заўважыў, што ў Саўкі па новаму вочы блішчаць. Ніколі ў таго гэткай радасьці ня было.

Кончылі работу, і некаторыя са старых запыталіся:

— А што цяпер?

— Вось, каб так гаспадарку талакою... Мабыць, кіпела-б...— сказаў хтосьці.

— І гэта будзе!—крыкнуў Саўка.

— Іш ты, малакасос!

Падышоў да грэблі стары Цыпрук. Доўгім удумёным позіркам зірнуў на грэблю, на людзей. Пасмутнеў. Тупаўся туды і сюды і нешта мармытаў пад нос.

— Што ты, Цыпрук, квокчаш? Не падабаецца? Гэта-ж твой сынок прыдумаў!

Цыпрук махнуў рукой, быццам нешта такое згубіў, чаго ўжо ніколі ня знойдзе, і адышоў на некалькі крокаў.



Суседка тлумачыла:

— Кіятар Цыпрукова разбурылі. Ён-жа заўсёды першым прыходзіў вазы выцягваць з балота. Ён-жа тут гутаркі заўсёды з людзьмі заводзіў...

Мікола чамусьці пачырванеў, а стары бацька яго пры гэтых словах ажывіўся і давай апавядаць розныя прыгоды: як калісьці нейкі пан даў яму рубля за тое, што памог выцягнуць фаетон з балота; як воз яек хтосьці перавярнуў у балота; як часта коні ногі выкручвалі ў гэтым месцы; як пазнаёміўся тут з аграномам. Нарэшце Цыпрук плюнуў і сказаў:

— А ведаеце, добра, што навялі тут лад. Нямала і я гараваў тут над горам людзкім. Хадзем, Мікола, палуднаваць, ці што?

Усе зарагаталі з такога пацешнага канца Цыпруковай жаласьлівасьці да ранейшага топкага месца.

Пасьля гэтага вяскоўцы цэлы тыдзень адскробалі закарэлую гразь з свае жывёлы...

---

Пацямнела.

Значна пасінеў абшар. Далі пачалі мутнець і зьліваццa з сінью. Сьнег ціха падае, кладзецца роўным пластком на сьпіну каня, на сані і кажухі Цыпрука і Міколы.

---

## З раману „Набліжэньне“ *)

На мяккай канапе Шагал з гарбаром. Гавораць ціха. Гаспадыня часта ўваходзіць у гэты пакой. Ловіць паасобныя словы: „Петраград“, „заводы“, „забастоўкі“, „партыя“ „гасударственая дума“, „пролетарыят“. Ад такога лексікона яна нічога добрага не чакае. Яна гэта ведае яшчэ з Смаргоні, з бацькаўскага дому, калі ў тысяча дзевяцьсот пятым годзе туды езьдзіла ў госьці.

Смаргонь — як узбураны вулей. Забастоўкі па гарбарнях, дэманстрацыі на вуліцах. Усе крамы пазачыняны, як у сьвяточныя дні. Сьпяваюць: „Смело, товарищи в ногу“, „Інтэрнацыянал“, „Варшавянку“. Над галовамі гарбароў палыхаюць чырвоныя сьцягі. На вуліцах мора людзей, шквалы ўзбуджаных галасоў.

Для „ўсьмірэньня крамолы“ прыехалі аж дзьве сотні казакаў. Дзікія і злыя, яны гойсаюць па вуліцах. Ніхто ня выходзіць з кватэр. Вобыскі, арышты. Гарбары галадуюць, а не здаюцца, фабрыкі не працуюць. Весткі плывуць з розных гарадоў Расеі: у Вільні на вуліцах барыкады, тое самае ў Менску, Пецярбурзе,

*) „Полымя Рэволюцыі“, кн. 8-я, 1934 г.

Маскве. Агульная забастоўка чыгуначнікаў. Кантаровічыха баіцца за брата. Цэлымі днямі яго дома няма, а калі зьявіцца на некалькі хвілін, дык паведамляе:

— Бярэм верх...

І зноў яго няма. Старая маці плача, і Кантаровічыха трывожыцца. А ён усё сваё.

— Бярэм верх...

Аднаго разу. Ноч. Вецер выганяе з гарбарняў на вуліцу смурод сырой скуры. Кружыцца галава ад паху розных адкідаў, што цэлымі горамі панакіданы на падворках заводаў.

І вось прыходзяць з вобыскам. Кантаровічыха адчыняе жандарам дзьверы. Хатнія трывожацца. А брат спакойны, хоць-бы што. Шукаюць па ўсей кватэры так старанна і павольна, аж дзівіцца трэба такой цярплівасьці. Жандары перакідваюць пасьцелі, мацаюць падушкі, пералістоўваюць кнігі, лезуць у печ, па сьценах стукаюць. У некаторых мясцох узьнімаюць дошкі з падлогі. Ніводнай скрынкі няма ў хаце, ніводнага гаршка, куды-б не паглядзела вока жандараў.

— Няма...

Злуецца жандарскі афіцэр, сам у пер'ях і пыле. Злуецца і пачынае крычаць:

— Шукайце! Павінна быць!

З ліхтаром у руках ідуць на гару. Там нямала працы перакідваць рознае барахло, што зьбіраецца дзесяткамі год. Скрыпіць пад жандарскімі нагамі столь.

— Няма...

Жандарскі афіцэр,—з кволым тварам, з блакітнымі вачыма, атрэсвае з сябе пыл, нібы кот, які выскачыў з сьметніка. З яго шыняля сыплецца пясок і пер'е. Ён тупае нагамі, кашляе ад пылу, лаецца ды крычыць:

— Шукайце! Ведаю, што ёсьць!

Бярэцца пад дзень. Ледзь шарэе. Над дамамі кружацца з крыкам вароны. Жандары, срогія і злосныя, ідуць у хлеў. Старая маці Шагала стогне і ўся дрыжыць, як у ліхаманцы. З кватэры нікога ня выпускаюць, ля дзьвярэй варта.

„Божа мой... Божа мой...“—шэпча старая.

З двара нарэшце чуваць жандарская радасьць.

— Знайшлі! Знайшлі!

Прыносяць у хату тоўсты вязак вузенькіх і тоненькіх лісткоў. Ужо зусім відна, калі прыгожы афіцэр піша нешта пры стале. Потым кпліва-ласкава кажа брату Кантаровічыхі:

— Апранайцеся і пойдзем.

Старая махае рукамі, як паломанымі крыльлямі:

— Куды? За што? За гэтыя паперкі?

У прыгожага афіцэра добры настрой. Ён шчыра сьмяецца і нават са спачуваньнем пазірае на старую. Нават брат, бледны і маўклівы, усьміхаецца на матчыны словы, спакойна апранаючы паліто. Маці бяжыць да дзьвярэй з такім спрытам, нібы памаладзела раптам на трыццаць год.

— Ня пушчу! Сын ня вінават! Ён-жа толькі настаўнік...

Афіцэр жартуе:

— Кепскі настаўнік, калі па гэтых лістках людзей вучыць.

І такі ў жандара лагодны голас, і такія прыгожыя блакітныя вочы... Старая нахіляецца, каб злавіць яго руку.

— Даруйце, паночак, майму сыну... Ён больш ня бу-у-дзе...

Цяпер у брата Кантаровічыхі цямнеюць вочы, а голас, голас... Ніколі Кантаровічыха ня чула такога:

— Перастань!—крычыць ён да маці.—Перастань!

Жандары адцягваюць старую. Брат выходзіць. Кватэра як пасьля пагрому. Кантаровічыха злуецца на брата: „як селядца разарвала-б...“

— Хто яго прасіў лезьці здаровай галавой у такую хворую справу? Што яму гарбары? Ён-жа настаўнік. Родных не шкадуе...

Больш за тры гады яго ня было. Потым новая справа—правакатара шукаць. Дзякуючы таму, правакатару, дзесяткі людзей былі арыштаваны.

І хто ж бы мог падумаць—стрыечны брат—Мойшка Лібэрман... Ён на ўсіх мітынгах першы выступаў.. Гарачы такі... Строгі рэволюцыянэр... Ах, сволач! Па ўсіх гарадах Расеі потым шукалі. У тысяча дзевяцьсот дзесятым годзе яго знайшлі на Каўказе. Яго ўжо няма...

Толькі сёньня Кантаровічыха аб гэтым даведалася.

Праплылі гады. Бацькі Кантаровічыхі памерлі. Сёстры ў Амэрыцы. Смаргонь са сваімі гарбарнямі зьнішчана толькі што вайною. З усяе іхняе сям'і адзін брат застаўся, і то пад іншым прозьвішчам. Даўно ў Смаргоні ня жыве. Толькі каганецкім кажуць, што з Смаргоні прыехаў.

І зноў старое вылазіць наверх, як кавалкі жалеза з попелу пажарышча.

Ловіць Кантаровічыха з гутаркі гарбара і брата паасобныя словы—вядомыя ёй словы. — Плача. Яна старэйшая сястра. Яна яму—як маці. Гэтулькі цярпеў... Мабыць, забывае, забывае...

Кантаровічыха плача і пячэ коржыкі брату і гарбару на дарогу, плача і рыхтуе ім сыр і масла.

Дзівіцца Кантаровічыха:

Згарэла Смаргонь, дык яны па іншых гарадах робяць сваё ранейшае. Нейкія там ліцейшчыкі, ткачы—усё іх абыходзіць...

Былы гарбар і былы настаўнік выбіраюцца адгэтуль уночы пехатой на хутары. Добра, што няма ў хаце Шымана. Ён кудысьці паехаў з Сакалоўскім.

Шагал сказаў сястры, што паедуць у Менск, але з іхніх гутарак яна выпадкова падлавіла, што з Менска паедуць далей—ні то ў Маскву, ні то ў Петраград.

— Шыману ні слова не кажы, куды паеду, — просіць яе Шагал.

---

## МІНУТЫ ТВАРЭНЬНЯ

Растуць у лесе вершы ўвечары...
Разлёгся лес імхамі, плесьняю...
Іду сьцяжынкай няпрыкмечанай
І цешу сэрца новай песьняю.

Нялёгка йсьці праз нетры слоўныя,
Якія лгуць.. Тварыць нязнанае
І рытмы праставаць няроўныя
І рыфмы узьдзіраць дзірванныя,
Шукаць мэтафары нязьменнае
У думках—жоўтых, пыльных хроніках
І ў словы выліваць штодзенныя
Глухія гутаркі сасоньнікаў.

А ўсё-ж твару я ў лесе ўвечары...
Цямнее лес сьцяною точанай.
Іду сьцяжынкай няпрыкмечанай
Па мхох расой вячэрняй змочаных.

Туман лажыцца між хваінамі,
Трасуць асіны пазалотаю
І цягне вільгацяй лагчыннаю,
Вадой стаячай і чаротамі.

Ўнізе, смалой наліты чорнаю
Ляжыць ставок, затканы плесьняю.

Іду, на гладзь гляджу вузорную
І цешу сэрца новай песьняю.

1935 г.

* * *

Ў ясна-зялёным блакіце стаялі
Лёгка замглёныя восені далі.

Гаснучы, сыпаўся дзень пазалотай
З неба на тонкіх бяроз пераплёты.

Чырваняй кволай, старой акварэлі
Клёны й асіны у лесе гарэлі.

Дзень дапаліўся і цемра нядбала
Ў шэрасьці фарбы жывыя схавала.



Лес у густым неправідным тумане
Ў змрок адыйшоўся, як шэрае зданьне.

Цёмна.. Бярозы нявідныя ў полі
Сыплюць асеньнія сьлёзы паволі.

Ўслухайся ў плач іх жальлівы, шумячы,
Ці разумееш у шэрым тым плачы,

Што яшчэ нехта у вечар туманны
Разам з табою тужыць па нязнамым.

1935 г.

## У ЗАДУШКІ

Ў размоклым ад дажджоў паветры,
Паміж крыжоў-туманных зданьняў
Міргаюць сьвечкі жоўтым зьяньнем
На хваравіта-ўпартым ветры.

Няма ўжо Вас... Вы там, няўрокам,
Дзе сьвецяць зоры серабрáна,
Ці чорнатканыя туманы
Хаваюць дзень... Вы дзесь далёка...

Калісь і ў Вас вясна нясьмела
Цьвіла й дымілі срэбрам далі,
І над крыжамі красавалі
Калін галіны квола й бела...

Калісь і ў Вас гудзела лета
Ў гарачы поўдзень гудам пчолаў,
І пахла мёдным пахам зёлаў
З магілак сонцам разагрэтых.

А вось цяпер з упартым ветрам
Стаіць асеньні змрок над Вамі
І плача вечар пад крыжамі
Ў размоклым ад імглы паветры.

Няма ўжо Вас... Гдзе Вы?—Ў нязнаным...
Ці лепей там, ці можа горай,
Вы нам ня скажаце... З пакорай
Прыймаем Вашае маўчаньне.

Няма ўжо Вас... І толькі ласка
Жывых — дрыжаць над Вамі сьвечы,
Ды вецер на крыжох калечыць
Вянкі з рудых, асеньніх краскаў.

1935 г.

* * *

Я ня жыву вясной,—рунеюць сенажаці,
Курэе сіні дым над кратамі палёў
І за мяне цьвіце у сонцавых абняцьцях
Празрысты белы пух вярбін і тапалёў.
Я й летам ня жыву,—бо за мяне сінеюць
У полі васількі і гнуцца каласы
І жаляцца—пяюць на жоўтых пожнях жнеі,
Маўляў маёй тугой дрыжаць іх галасы.
А ў восені ізноў—замест мяне—асіны
Чырвоны гасяць жар у рэдкім тумане.
І плача дробны дождж так нудна і няўпынна
Па сонцу і вясьне, але... замест мяне.

---

## АСЕНЬНІ ДЗЕНЬ

Ад палёў паўзе холад восені,
Над рудым жніў'ём, над пракосамі
Мгла зьвіваецца.

Ў сон зямлі цяжкі, змор采ны
Сыпле дробны дождж зярнё спорнае,
Увіхаецца...

Час праз рукі йдзе ніткай шэраю,
Ніткай шэраю яго й мераю,
Ў'ю і блытаю...

А здалёк, з туманоў непамяці
Устае, каб ізноў мяне раніці
Пазабытае...

---





## (З „ПРААБРАЖЭНЬНЯ“)

X.

То ня чырвоны сьвет вячэрні,
Ня цені згубленых надзей,
Хрыста замучанага церні
Ў вачох разбуджаных людзей.

То край зарою палымнее,
Крынічыць сэрца гневу муць
І словы ў песьні сонцавеем
Бруяць, вірацца і плывуць.

О, Край няволі і пакуты!
Старая мудрасьць шэрых хат,
Твае цярпеньні перакуты
Ў Адраджэньня моцны гарт.

Другое сьніцца цяпер нівам,
Другі размах сялянскіх дум
І захлынаючысь прылівам
У сэрца б'е змаганьня шум.

То ня чырвоны сьвет вячэрні,
Ня цені згубленых надзей, —
Усходзіць сонца Адраджэньня,
У процьме гінуўшых людзей.

---

## СЬПЯЧЫ ВОЛАТ

Я—сплю... Скавала мяне змора.
Усё зьнясу. Усё прыму.
І крыўды боль, і зьдзек і гора:
Пакуль я—сплю.

Мой сон даўгі—лічу вякамі...
Мой сон цяжкі—бяз руху я,
А злыдні ўсьцяж вартаўнікамі
Спакою—сна.

Згасіла ноч у хвалдах чорных
Душы агонь і жар крыві.
Ляжу зьняможаны, пакорны—
Мяртвец—жывы.

І толькі стада груганова
Усьцяж кружыцца і крычыць.
Дарма!.. Я толькі сплю—ізнова
Паўстану жыць!

Я чую ўздым пад зморай соннай
Ў маіх грудзёх магутных сіл,
Ўкладу я іх ў размах разгонны
Растучых скрыл.

— — — — — — — — — — — — —

Ты бог начы і чорнай перамогі,
Хаўтур над сонным не спраўляй.
Прачнуся я — і выйду на дарогу
Спаткаць свой май.

---

А. БЯРОЗКА

## ПЕРАДАВЫМ

Ад палёў вам прывет, ад шырокіх палёў,
Што калосяцца хваляй зярністаю,
Калі золак у сініх вачах васількоў
Пэрлы росаў запаліць іскрыстыя,
Вышы неба жаўрук гымнам раньня зальле,
Лісьця шопатам бор запяе...

І прывет вам ад шэрых, пахіленых хат,
Хат, што сонца спрадвеку ня бачылі;
Ім нядоля—сястрыца, і голад ім—брат;
А вякі на іх твары назначылі
Крыжам мукі крывава праворaны сьлед...
Ад пахіленых хат вам прывет!..

І працоўны прывет вам ад сэрцаў нямых,
Ад грудзёў, што ў баі ўзгартаваліся;
Ўжо з іх нетраў ня выйдзе нявольніцкі ўздых!..
Яны ў гордую ціш закаваліся,
Хоць мазольны і горам усланы іх пуць...
Вам свой братні прывет яны шлюць.

22.VIII.35.



## АДЛЁТ ЖУРАЎЛЁЎ

Верасьнёвае сонца гуляе
На іх крыльлях — і ціха, тужліва
Крыльлі йграюць у ветры, як струн пералівы...
Сумна крыльлі у ветры йграюць...

Вольны покліч далёка нясецца
Па блакіту бязьмежных шляхох...
Там, далёка дзесь, родны астаўся парог...
Крыло моцнае з ветрамі б'ецца...

І лятуць... А пад імі тугою спавітыя
Палі сьпяць у васеньняй дрымоце...
А іх крыльлі, блакітам залітыя,
Верасьнёвае сонца залоціць...

11.IX.35.

---

* * *

Пяі аб вясьне!
Хоць зімовыя ветры гудуць
І хоць сэрца трывогі абселі;
Хоць сьнягамі загнаны твой пуць
І надзеі ледзь тлеюць ў паўсьне
І ў змаганьні ўжо грудзі змадзелі...
Няхай злосныя ветры гуляюць
Ломяць слабае, ветлае гнуць,
Хай шумяць і равуць,
Хай сьнягі на палёх уздымаюць...
Ты пяі аб вясьне!
Чары сонца у песьню закуй і вагні,
Што вулканам бурляць у крыві,
Як калісь, ажыві,
Аб былым ўспамяні.

Не сагнуцца пад бурай сьцюдзёнай
Плечы волатаў з нашых загонаў
І у іх мазалістых руках
Не пахіліцца высака ўзьнесены сьцяг!

Дык хоць кудаса вые,
Вер, што ноч і зіма праміне,
Вер у сны веснавыя
І пяі аб вясьне!

18.XI.35.

А. ЧЭМЕР

# На чужыне...

Рознакалёрнымі ўзорамі мігцяць ліхтары і рэклямы. Сьвіст і грукат трамваяў, вазоў, самаходаў — бязустанку зьвініць у вушох.

Гаманлівая таўпа сунецца бязмежнаю хваляй, снуе мурашнікам людзей...

І я сярод хвалюючае масы іду, плыву, як човен на моры... Адзін. Ня чуваць тут знаёмага слова, ня радуюць сэрца родныя гукі і вобразы...

Блукаю, як адарваны ад дрэва ліст, гнаны бурай у няведамую даль...

Бязьмежная туга адзіноты прагавітаю п'яўкай смокча з сэрца радасьць і спакой...

У тужлівых вачох палахліва ўстаюць вобразы роднага краю, цені-зьявы сьветлай мінуўшчыны...

Шэрыя палеткі, польныя дарожкі, таёмны пошум хваёвага лесу, плач белых бярозаў...

Восень... Лес шуміць бязьлістым рэшатам галінаў, пласты пачарнелага лісьця засьцілаюць прымерзшую зямлю...

Месяц таёмна халодным сьвятлом агартае пустыя палі; сухія чароты хмурна ўглядаюцца ў халодныя воды...

Доўгія цені кладуцца на ўзгоркі і лагчыны, зоры баязьлівым дрыжаньнем усеялі далёкае неба...

Жартаўлівыя зайчыкі скачуць па полі, абгрызаючы пасохшы лубін, азімыя пасевы...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Таўпа як укапаная замерла на тратуары.

Скрыганулі тормазы, асьляпляючае сьвятло лінула ў вочы...

Хутка мяшаюся з таўпою ды йду далей агорнуты рытмам вялікага места...

Ізноў ліхтары і рэклямы мазоляць мне вочы, а родныя вобразы зьнікаюць у імгле...

Не! Ня зьнікаюць, а хаваюцца на дне душы, каб кожную хвіліну прыпамінаць, што мы жывём ня толькі для сябе! Што на нас чакае Бацькаўшчына, браты!..

І мы прыдзем!

Прыдзем са ўсіх куткоў сьвету на кліч Беларусі!!!

Сьнежань, 1935 г.



ВІК РЭНО

# Яшчэ адна...

Ніна і Васіль Крэўскія — брат і сястра. Маладыя, сьвежыя, поўныя сілы, усьміхаюцца гледзячы сабе ў вочы. Усё, што прыпамінае ім аб хуткім растаньні, схавалі дзесь у глыбіні сэрца. Зрэштай, што значыць растаньне? Для блізкіх, верачых у будучыню, яно зьяўляецца толькі паглыбленьнем вялікага жаданьня вечна быць разам, чуць рытм кахаючага сэрца.

Маўчалі. Сонца ўсьмеху схавалася за хмарку. Кожнае ляцела думкамі ў сьвет, гэнь ад свае вёскі. Васіль задумана глядзеў праз вакно, якбы разьвітваючыся з усім блізкім, родным. Ён сяньня ад'яжджае ў Варшаву. Напрацаваўшыся за лета на полі, едзе на зіму да працы над навукаю. Праца была для яго законам жыцьця. Аддаваўся ёй увесь. Ведаў, што поступ жыцьця залежыць ад працы. Студ'яваў вэтэрынарыю. Хутка дабіўся асыстэнтуры. Сваей пэнсыяй даваў падпору сястры і памагаў бацьку. Сам жыў—от, абы пражыць, а быў задаволены навукай Ніны. Атрымліваючы ад яе лісты, хапаў дрыжачымі рукамі і чытаў усёроўна, як білецікі свае любай дзяўчыны. Добры поступ сястры ў навуцы, яе цьвярозы погляд на людзей і жыцьцё, рабілі яму палёгку ў трудных варунках. Зрэштай ня жыў ён сучаснасьцю. Сьветлая будучыня маніла яго вясёлкавымі колерамі лепшага. Прыйдзе час, ён і Ніна здабыўшы самастойнасьць, набраўшы сілы, цьвёрда стануць у першых радах свайго народу, які імкнецца да здабыцьця сваіх правоў.

Поўная веры ў свайго брата, Ніна прымала за свой ідэал яго імкненьні. Вольныя хвіліны школьнага жыцьця праводзіла над студыямі гісторыі свайго народу. Ад сваіх школьных таварышак рожнілася вельмі.

Дзякуючы крытычным адносінам да акружаючых абставінаў, набрала самастойнасьці ў поглядах на кожную рэч. Выдавалася паважнай над свой век. Здабыла гэтым пашану ўсяго вучыцельскага пэрсаналю. Адзін толькі дырэктар ня любіў яе, хаваючы ў душы ціхую ненавісьць. Бачыў у ёй заўсёды вулькан моладасьці, гатовай сваімі парывамі зьнішчыць дашчэнту карьеру ўрадоўца.

Паняцьце палітыкі сярод вучняў агортвала яго неадступным страхам. Здавалася яму часам, што вочы Ніны Крэўскай кідалі іскры адвагі і ахвярнасьці Жанны Д'Арк. Ён, мужчына, чуў страх перад дзяўчынаю-падросткам.

Часам, у хвіліны падрахункаў сваіх дырэктарскіх паступкаў, стараўся зразумець моц кволай на выгляд дзяўчыны. Прыкрываючыся жаданьнем дабрабыту пакрыўджаным, часам мучыўся да крайнасьці, што ня мае тае прастаты, шчырасьці, што сьвеціць з вачэй яго вучаніцы, і прыходзіў да пераканаюньня, што яна мо-

жа адным словам, адным поглядам зьнішчыць яго дырэктарскую павагу. Ён гэта чуў і баяўся гэтага. Чалавек адкрыў козыр палітыкі.

* * *

Уся сэмінарыя прыгатаўляецца да сьвята 25 сакавіка. Здавалася ўсё ідзець звычайным парадкам: бяз лекцыяў, галасьлівыя пераменкі, гул рэзкага званка, заганяючага моладзь да клясаў, напамінаюць аб галаваломных тэарэмах, каранёх бесканечных ступеняў, пэдагагічных экспэрымэнтах, школе працы Дэвэа, крыжавых паходах, пераджываньнях паэтаў-рамантыкаў і іншых рэчах, запаўняючых жыццё вучняў сэмінарыі. Моладзь вучыцца. Вучыцельскія адзнакі сьцьвярджалі сутнасьць гэтае навукі. Пэдагогі, што прыкрываліся бел-чырвона-белым колерам, вывешвалі яго навонак, як шыльд, бегалі, крычалі і мазалі двойкамі рубрыкі вучнёўскіх поступаў. Дарма вучні паклікаліся на недахват часу для прыгатаўленьня лекцыяў. Разумелі іх толькі тыя, што карыстаючы з часу кідалі ў маладыя душы зерне свабоднай будучыні.

Не зважаючы на высокія тоны голасу падшыванцаў, вучні, поўныя пачуцьцяў маестатычнае хвіліны сьвята, цэлымі днямі праседжвалі ў сьценах сэмінарыі: рэпэтыцыі п'есы, сьпеўкі, пробныя дэклямацыі запаўнялі цішыню да позьняе ночы.

Ніна Крэўская, як вучаніца старэйшага курсу, кіравала дэклямацыяй. Адрабіўшы насьпех лекцыі, яна да глыбокае ночы праседжвала над апрацоўкай выбраных вершаў. Модуляваньнем голасу старалася выказаць сутнасьць думак аўтараў. Голасам малявала абразы цьвёрдага змаганьня ў здабыцьці правоў пакрыўджаных, жаданьняў бедных.

Кожнаму дала верш паводле яго спадабаньня і здольнасьці пераказу. Сабе ўзяла „Прарока“ — Я. Купалы. Сагнуўшыся, у сьвятле электрычнае лямпы, вучылася напамяць яго радкі:

Паўстаньце рабскія натуры,
Пакіньце свой адвечны сон...

За вакном завыла сьнежная завея, як-бы хацела заглушыць словы гордае дзяўчыны з іскаркамі моцы і адвагі ў бліскучых вачох.

Слабая целам, волат духам, узьлятала над жыцьцёвымі завеямі штодзенных зьяваў і клікала да сьвету, вольнасьці, свабоды:

Пара у рукі браць паходні,
Уставаць, ісьці ноч рассьвятляць!

Захопліваючыся магутнасьцю слоў паэта, чулася Касандраю згадваючай няясную прышласьць свайго народу. Бачыла, яна жанчына, поўная матчыных пачуцьцяў для пакрыўджаных, шлях сваіх братоў.

І знаю, што было, што будзе,
І вас у крыўду не аддам.

Энэргічным шагам ступіла да вакна. Зрок утапіўся ў цемры ночы. Вецер са страшным выцьцём сыпануў у спацеўшыя



шыбы ледзяным шротам. Здалося, што сярод атаку віхру, пачула дзікі сьмех дырэктара, а цемра бліснула поглядам яго вачэй. Сьмяяўся з таго, што для яе было сьвятасьцю.

Адчуўшы сьмяротную зьнявагу, кінула ў сьлед уроенай мары:

Забылі ўсё, згубілі долю...

Ох, што яна магла зрабіць?... Хацела помсты. Цешылася, што словы „Прарока“ маглі выказаць горкую праўду. Чакала сьвята...

* * *

Генэральная проба. Праграма ўложана самым дырэктарам. Крытычным вокам мерыць кожнае слова, адкідваючы усё, што-б магло задзець высокіх гасьцей урачыстасьці і яго дырэктарскую павагу. Хоча быць удзячным за апеку. Кантралюе асабліва дэклямацыю.

З пробаю выступіла Ніна Крэўская. Баяўся пачуць яе голас. Хацеў забараніць і ня мог. Была волатам слова, праваднром усяго курсу. Не пазволіць дэклямаваць Крэўскаў, значыла паставіць супроць сябе рады ворагаў. Амаль усе вучні і частка вучыцялёў распачнуць атаку. Мусіў згадзіцца.

Сьціснуўшы аберуч галаву, слухаў „злавешчы“ голас Крэўскай.

Калі скончыла, зажадаў выкінуць з верша радкі едкай праўды.

Заціснуўшы зубы адказала:

— Добра.

Не дасьцярог у гэтым слове кіпучае злосьці.

* * *

За цёмнымі кулісамі Ніна чакала свае чаргі. У руках трымае праграмку. Зорка сьлядзіць за яе выкананьнем. Распаленыя вочы міма волі зрываюцца з радкоў друку і імкнуцца кудысьці ў даль. Думкі роем ляцяць пад страху роднае хаты. Бачыць, як у цьмяным куце са стогнам на сьпечаных вуснах борыцца з гарачкаю брат Васіль.

Змогся.

Цяжар нясупыннай вэтэрынарыйнай працы зваліў яго ў пасьцель. Хварэў цяжка. Калі стаў папраўляцца, узяў одпуск і прыехаў дахаты. Цяпер ізноў горай. Сяньня Ніна атрымала ліст.

Пачула, як фундамант, на якім будавала сваю будучыню, трэснуў, а ў грудзёх нешта адарвалася і ўпала ў цемру нейкага бяздоньня. Ня енчыла. Ледаватым поглядам сьмела глядзела ў вочы будучыні.

Прышоўшы ў сэмінарыю, не спаткаўшы дырэктара, забылася пра свой боль. Вочы ненавіснага чалавека крычалі зьнявагай шмат такіх, як яна. Інстынктоўна зьбірала запас спакою. Нашто,— ня ведала. Цяпер на твары мела спакой муміі.

— Крэўская — выходзь!— пачула знаёмы голас, у якім гучэла струнка сумліву.— Памятай, прапусьці — дадаў цьвёрда дырэктар.

Даўшы прыказ, пайшоў і сеў на сваё мейсца першага раду сярод кіпучае пахвалы чужых слоў.

На сцэну выйшла Крэўская. Пабялеўшыя вусны лёгка здрыгнулі. З задніх радоў пасыпаліся воплескі.

— Свае—падумала Ніна.—Зараз будуць слухаць.

Лёгка звонкім голасам пачала сярод цішыні запоўненае салі:

Сярод маны, сярод насьмешкаў...

Тон голасу і блеск вачэй пранікалі ў самае нутро ўважлівых слухачоў.

Горда, падняўшы галаву, пачала кідаць словы, як распаленае зялеза ў твар слухачу першага раду, які неспакойна ўздрыгваў поруч чужых гасьцей. Сьлядзіў кожны ўздрыг мускулаў твару, кожны рух яе рук, тон голасу і пачынаў трыумфаваць.

Крэўская—яго вучаніца—пералівамі тонаў дэклямацыі здабывала славу высокага артызму яго сэмінарыі.

Вось, вось цудоўная ў гэтай позе: паднятая рука, ськіраваная ў яго бок, як-бы паказвае высокага патрона сяньняшняе ўрачыстасьці. На вуснах няўлоўленая ўсьмешка.

А словы, словы бурным руч'ём разьліваюцца па салі. Слухае, хапае, як сьпеў німфы. Мова сьпявае! Ужо узьнімае рукі біць брава.

Што?.. Што чуеш саломены ўладар?!.. Чаму дрыжыш?

Глянь, як сьмела, як цудоўна гаворыць Крэўская! На славу табе, на славу!..

Забылі ўсё, згубілі долю,
Зьмяшалі славы цьвет з гразёй,
І запрадаліся ў няволю,
З душой і скурай шчэзьлі ў ёй...
За мной, за мной!..

— Досыць! — пачулася раптам з першага раду.

Цяжкая заслона ўпала перад Крэўскай і заглушыла словы „Прарока".

Саля загудзела віхурай...

* * *

Так, гэта было ўчора. Сяньня сапраўднасьць загаварыла прыказам: „Вы, вучаніца IV курсу, з сэмінарыі звольнены".

* * *

Сонца песьціць сагнутую галаву Ніны Крэўскай. Падняла сумныя вочы. Пабачыла, як даль усьміхалася першым дыханьнем вясны. Вусны ружовыя ад пацалункаў веснавога сонца паўтаралі: „жыць, жыць для ўсіх"...

За вакном шуміць лагодны вецер. Прыслухоўваецца да таёмнага шопату і чуе:

— Яшчэ адна, яшчэ адна...

— Ці апошняя?..

22.XI.33
Вільня.



АД. СТАНКЕВІЧ

# Цені й бляскі

## (Да лёзунгу „Культура нацыянальная формай — камуністычная зьместам")

Аднэй з многіх асаблівасьцяў прыроды чалавека ёсьць яго нахіл да творства і творчая здольнасьць. Чалавек ніколі ня чуецца здаволены тым, чым абдарае яго прырода, але вечна то заглыбляецца ў гэну прыроду, здабываючы яе тайніцы, то ўзноў заглыбляецца ў собскую псыхіку, сьцьвярджаючы сваю асобнасьць ад акружаючага быту, то ўрэшце вокам сокала выбягае далёка ў прасторы быту паза ўласны духовы сьвет. Вынікам гэтага характару прыроды чалавека і яго бязупыннага даходжаньня правоў і тайніцаў усебыту зьяўляюцца штораз новыя выназоды—адкрыцьці, штораз новыя спосабы выражэньня—адмаляваньня і быту зьверхняга аб'ектыўнага і быту ўласнага—суб'ектыўнага. Гэтыя рознаякія вынікі творчага нахілу чалавека і яго творчай дзейнасьці завем духовымі вартасьцямі, духовым багацьцем чалавека, культурнымі цэннасьцямі, культурай урэшце.

Культурай такім чынам завецца агульны вынік людзкога творства, прыналежны якой аднэй грамадзкай людзкой групе, у галіне духовай і матар'яльнай.

Даўней культуру ўважалі за адно з цывілізацыяй. Цяпер, праўда, разьдзяляюць іх, але затым, што цалком гэтыя два паняцьці неразьдзельны, часта ўжываюцца яны адно за другое. Аднак два гэтыя сваяцкія паняцьці маюць агулам розны зьмест, рознае значэньне. Культура — паняцьце агульнейшае, цывілізацыя — вузейшае, культура род, цывілізацыя гатунак, бяз культуры ня бывае цывілізацыі. Аб цывілізацыі якой грамадзкай групы гаворыцца тады, калі яе грамадзкі лад вышэйшы ад грамадзкага жыцьця людзкіх групаў прымітыўных. Цывілізацыяй завём агулам усё тое, што адносіцца да бясьпечнасьці ў супольным жыцьці, да матар'яльнага дабрабыту і агулам да нармальных, магчымых людзкіх суадносінаў.

Слова цывілізацыя паходзіць ад лацінскага „civis"—грамадзянін. Знача, у паняцьце цывілізацыі ўваходзіць усё тое, што адносіцца да грамадзкага ўладжаньня людзей: такі ці іншы грамадзка — палітычны лад, гандаль, войска, камунікацыя і г. д. Культура-ж азначае цэласьць спраў і вышэйшых дзеяньняў чалавека, каторыя, будучы вынікам творчай людзкой псыхікі, вядуць чалавецтва да далейшага разьвіцьця і ўдасканаленьня пад узглядам інтэлектуальным, этычным, эстэтычным.

Чалавек звычайна апрача веды мае так-жа веру; там, дзе веда ў яго творчых імкненьнях аказваецца бязсільнай, дапаўняе яе вера, духовае адчуцьцё таго, што ляжыць за межамі фізыч-

нага сьвету, ці як кажуць філёзофы—мэтафізыка. Сталыя ідэовыя, найбольш агульныя, апёртыя на гэтай веры ці мэтафізыцы, адносіны чалавека да ўсебыту называюцца яго ідэолёгіяй, яго сьветапаглядам. Вось-жа культура ня ёсьць нечым суцэльным, усюды аднолькавым, яна мае розны характар залежна ад сьветапагляду тэй грамадзкай групы людзей, ці таго народу, у якім яна паўстае і творыцца. Агулам бяручы, найбольш тыповым сьветапаглядам людзей, ня лічачы пасярэдніх і мяшаных, звычайна бывае або ідэалістычны, або матар'ялістычны. Першы, апрача матэрыі, прызнае на сьвеце сілы духовыя, аж да асабовага Бога (дуалізм), а другі апрача матэрыі на сьвеце ня бача нічога (монізм). Залежна ад такога ці іншага сьветапагляду і культура, твораная людзьмі, агулам гаворачы, носіць на сабе адпячатак сьветапагляду.

Культура бывае матар'яльная і духовая. Першая (матар'яльнае творства, пераважна апёртае на сьціслай навуцы—матэматыцы і інш.—з яе вынікаючых, або да яе зьбліжаных), будучы найбліжэй зьвязанай з фізычным акружаючым чалавека бытам, больш даступным да яго веды, найменш падатлівая на такі ці іншы людзкі сьветапагляд. Другая-ж (духовае творства, пераважна апёртае на навуках гуманістычных), будучы натурай сваей зьвязанай агулам не з фізычным жыцьцём, але з тым, што як-бы за ім ляжыць, з мэтафізыкай, бадай сусім залежа ад людзкой ідэолёгіі, ад сьветапагляду і іх выразны адпячатак на сабе носіць. Ужываючы далей слова культура, будзем разумець пад ім прадусім культуру духовую.

Культура заходня-эўрапэйская, якая сяньня перажывае крызіс, агулам носіць на сабе адбіцьце ідэолёгіі ідэалістычнай. На ўсходзе Эўропы, у СССР, даўнейшая, так-жа пераважна ідэалістычная культура, адкінута і зьбурана, а на яе месца творыцца культура матар'ялістычная, апёртая на філёзофічным скрайнаматар'ялістычным сьветапаглядзе. Характэрыстыкай культурнага творства ў СССР, датарнаванага там да сучаснага грамадзка-палітычнага рэжыму, зьяўляецца лёзунг: „Культура нацыянальная формай, камуністычная зьместам".

Разгледзім з большага цені і бляскі, плюсы і мінусы культуры, творанай пад гэтакім лёзунгам у СССР прадусім з пункту гледжаньня значэньня яе для беларускага народу.

Лёзунг: „Культура нацыянальная формай — камуністычная зьместам" выражае, як ужо сказана, на падставе матар'ялізму, у соцыяльнай інтэрпрэтацыі Маркса, характар савецкай сучаснай культуры і варункі яе творства.

У СССР жыве шмат народаў, якія патрабуюць правоў на сваё нацыянальнае жыцьцё. Нацыянальнае-ж жыцьцё кожнага народу многа ў сабе мае элемэнту ідэалістычнага. Вось-жа гэны лёзунг—гэта спроба сынтэзы нацыянальных імкненьняў розных народаў у СССР і камуністычнага матар'ялістычнага сьветапагляду.



Культура нацыянальная формай, а камуністычная зьместам — азначае культуру, твораную і выяўляную ў мове кожнага народу і, дзе гэта толькі можна, выражаючую і носячую на сабе філёзофічную ідэолёгію матар'ялізму, ці, апёртага на ім, філёзофічна-грамадзкага камунізму. У СССР, як бачым з гэтага лёзунгу, культуры пастаўлены даволі вузкія рамкі, у якіх кожны народ, праўда, мовай сваей можа карыстацца, але выключна, як праваднікам ідэяў матар'ялістычнага камунізму. І сапраўды, сучасная савецкая культура, а ў яе ліку і беларуская, сьціслa ў гэтых рамках і адбываецца, носячы на сабе ідэовы выключна матар'ялістычны характар.

Вось-жа ў культуры, творанай у гэткіх рамках, лёгка дагледзіць недахопы яе і цені, яе крычачую аднабокасьць. Прадусім гэта культура выключае элемэнт нацыянальны, выключае паняцьце народу, як грамадзкай групы, сьведамай сваей асобнай нацыянальнасьці. Аб гэтым сведчыць усё апошніх гадоў беларускае ў БССР краснае пісьменства, гуманістычныя навукі, школьныя падручнікі і інш. У гэткай культуры кожны народ уважаецца фактычна за этнос, за этнографічную, нацыянальнанеасабовую масу. Тымчасам народ як нацыя, як сьведамая нацыянальна адзінка, — гэта ўжо ня маса, ня этнос, а вырасшая з яго грамадзкая асоба. Калі-ж ідзе аб культурныя вартасьці і творчыя здольнасьці масы і масавай адзінкі — дык ясна, што ў першай яны мінімальныя, прымітыўныя, а ў другой вялізарныя, неаграніченыя. Тут гэткая самая заходзіць розьніца, як і ў паасобных адзінках: у прымітыўнай, без разьвіцьця асабістай людзкой сьведамасьці, і ў культурнай, з разьвітымі асабістымі індывідуальнымі культурнымі амбіцыямі.

Цень такой анацыянальнай культуры ў тым, што яна ў сваім творчым працэсе, над многімі творчымі вартасьцямі і магчымасьцямі ў народзе, як нацыі, пераходзіць да парадку дзеннага, сама стаючыся анэмічнай і бледнай.

Гэная анэмічнасьць у савецкай культуры, творанай згодна з вузкімі рамамі ведамага нам лёзунгу, кідаецца ў вочы ня толькі дзеля адсунасьці ў ёй нацыянальнага ідэалістычнага элемэнту, але так жа дзеля адсутнасьці ў ёй усякага ідэалізму. Нядаўна ў Маскве паявілася трэцяе выданьне „Избранных стихотворений и поэм" Лермонтова. Вось-жа рэдактары камуністы павыкідалі з яго ня толькі ўсё тое, што мае рэлігійны характар, але нават вось такое выражэньне: „За злато совесть и закон готов продать охотно он", у якім гаворыцца аб сумленьні. Гэткага-ж скрайна матар'ялістычнага аднабокага характару ўсё беларускае пісьменства ў БССР. Ясна, што гэткае культурнае творства, як яўна аднабокае, ёсьць убогім, бо пазбаўленае тых шырокіх творчых магчымасьцяў людзкой душы, якія яна мае і да якіх усьцяж імкнецца і ў галіне жыцьця чыста духовага, ідэалістычнага.

Недахоп, цень такой аднабокай, матар'ялістычнай куль-

туры як у Саветах так-жа й у тым, што яна спыняе этычнае разьвіцьцё чалавека, грамадзкіх груп, народу. Гэткая скрайна-матар'ялістычная культура, маючая мэты прадусім практычныя і матар'яльныя, этычнае пачуцьцё зводзіць да грубога ўтылітарызму: тое добрае, што карыснае, і гэтым этычныя асновы прытупляе і спыняе развой іх. Тыя частыя сабатажы, пакражы і розныя надужыцьці ў савецкіх калектыўных гаспадарках, аб якіх пішуць савецкія газэты, так-сама як і ў гаспадарствах капіталістычных, сьведчаць аб тых грозных этычных шчэрбінах кожнай выключна матар'ялістычнай культуры.

Але кожны ідэовы рух, хоцьбы ён быў і дужа аднабокі і памылковы, заўсёды мае ў сабе ня толькі цені, але так-жа, блескі. Гэтыя блескі агулам мае так жа, асабліва тасуючы яе да беларускага народу, і савецкая культура нацыянальная формай, камуністычная зьместам.

Шырокае карыстаньне беларускай мовай — у школе, у навуцы, у ўрадзе, у пісьменстве і агулам у жыцьці грамадзкім хоцьбы нават як сродкам,—мову гэту разьвівае, дасканаліць, багаціць, культывізуе, ня гледзячы нават на набліжэньне апошнім часам яе правапісу з мэтаў палітычных да мовы расейскай. Культура-ж мовы—гэта ўжо вялікая цэннасьць народу.

Постулятам лёзунгу: Культура нацыянальная формай, камуністычная зьместам, зьяўляецца так-жа цывілізацыйны праяў савецкай культуры, хоць не ўва ўсіх этнографічных граніцах, факт існаваньня БСРР, як аўтаномнай адзінкі ў агульным Савецкім Саюзе, бо трудна гаварыць аб карыстаньні мовай народу, не азначыўшы хоць агулам граніц гэтай мовы. Існаваньне-ж БСРР, як палітычнай аўтаномнай адзінкі — гэта пачатак дзяржаўнасьці ўсяго беларускага народу.

Згодна з ведамым нам ідэолёгічным лёзунгам у БССР існуе і разьвіваецца беларуская школа, тэатр, кіно, пісьменства, навука. Многае з гэтага ўсяго, судзячы аб'ектыўна, дзеля сваей ідэолёгічнай выключнасьці, ад'ёмнае, а нават шкоднае для сучаснасьці і будучыні беларускага народу, але так-жа многае, асабліва ў галіне сьцісылай навукі і матар'яльнай культуры, сапраўды дадатнае і цэннае.

Знаходзяцца плюсы ў савецкай культуры й цывілізацыі і ў галіне грамадзка-палітычнай. Колектыўная гаспадарка, наскольki яна насупроць капіталізму сапраўды рэалізуе грамадзкую справядлівасьць і дае людзям магчымасьць жыць чэснай працай, а так-жа палітычны саюз народаў, наскольки ён насупроць імпэрыялізму і фашызму сапраўды ёсьць вольным і рэалізуе магчымасьць вольнага сужыцьця народаў, — усё гэта, не гаворачы аб ценях у выкананьні, аб якіх ведама, мае так-жа й блескі ў ідэовых імкненьнях і пачынаньнях.

Словам, праўда і ў яе сьвятле безстаронны крытыцызм—павінны кіраваць адносінамі беларусаў Зах.-Беларусі да культуры ў Беларусі Ўсходняй дзеля дабра беларускага народу як цэласьці.





МІКОЛА НІКІФАРОЎСКІ
(* 1848 — † 1910)

М. ПЯЦЮКЕВІЧ

# Мікола Нікіфароўскі — беларускі этнограф

28 траўня 1935 г. (паводле старога стылю) мінула 25 гадоў ад дня сьмерці вялікага этнографа Віцебшчыны — Міколы Нікіфароўскага.

Мікола Нікіфароўскі, як этнограф, плоднасьцяй і якасьцяй працы запісаў сваё імя залатымі літарамі на старонках гісторыі беларускай навукі, а таксама заняў пачэснае месца ў гісторыі этнографіі перадусім усходня-славянскіх народаў.

М. Нікіфароўскі прышоў на сьвет у найцікавейшую пару XIX ст. Ён радзіўся ў траўні 1845 г., а праца яго на ніве навуковай і грамадзкай пачалася іменна ў цікавыя сваімі падзеямі гады мінулага стагодзьдзя. У гэтыя гады адбыўся раптоўны пералом у гісторыі Расеі, які выклікаў гэтым і перапом у сьветапаглядзе народаў, паняволеных царскай Расеяй. Вызвольны рух прымае стыхійныя формы. Наглядаем цэлы рад вялікіх выпадкаў, як нпр. забойства цара Александра II, разгром царкоўнай вуніі, скасаваньне прыгону. Быў гэта так-жа час рашучай барацьбы за Беларусаў.

Польскія паўстаньні і інтэнсыўная палянізацыя зямель б. В. Кн. Літ., рэлігійны прасьлед уніятаў і жорсткая русыфікацыя беларускага селяніна—вось праявы польскай і расейскай барацьбы за беларускія землі.

Палякі „дасьледжваюць“ Беларусь, каб даказаць, што гэта неадлучная частка польскай „ojczyzny“, а маскалі зноў, каб даказаць, што Беларусь—гэта „искони русская земля“. Гэтую „работу“ добра бачыў і разумеў яе значэньне Мікола Нікіфароўскі.

І магчыма, што той зьдзек, які рабіўся над беларускай народнай культурай, быў тым сільным імпульсам для Нікіфароўскага, які папхнуў яго да выкананьня тэй вялікай работы, якую ён зрабіў.

Нікіфароўскі апрацовываў выключна Віцебшчыну, якой першым піонэрам паважнейшых этнографічных досьледаў быў прадусім Шэйн.

Сучасьнік Нікіфароўскага і адначасна ягоны біограф Стукаліч кажа, што Нікіфароўскага да такой неспадзявана вялікай работы ўцягнуў Шэйн. Трэба аднак зазначыць, што Шэйн цалком іншы меў падыход да справы, чым Нікіфароўскі. Шэйн, як ведаем, быў здэцыдаваным русафілам і яго праца, да

некаторай меры, мела служыць гэтым мэтам. Пры тым Шэйн меў ад'ёмнае паняцьце аб беларускай душы, маралі беларуса, яго духовых багацьцях. Шэйн у беларускай масе ня шукаў, бо ня думаў знайсьці, якіхнебудзь духовых цэннасьцяў. Дзеля такога ўпярэджаньня, ён не стараўся пранікнуць глыбей у духовы сьветапагляд беларускіх сялянскіх масаў. Уся яго ўвага была зьвернена на народныя песьні, як філёлёгічны матар'ял, і ў гэтай галіне ён зрабіў шмат. Паміма ўсяго аднак заслуга Шэйна для беларускай этнографіі вялікая.

Цалком іншы характар мае навуковая праца Нікіфароўскага, доўга працаваўшага зусім безінтэрэсоўна пад „фірмай" Шэйна. Ён даваў Шэйну такую масу этнографічнага матар'ялу, што той ня мог нават усяго выкарыстаць у сваіх выданьнях і аддаваў гэтыя матар'ялы ў архіў Акадэміі Навук.

Некаторыя сучасьнікі Нікіфароўскага і Шэйна кажуць так: „каб ня было Нікіфароўскага, то ня было-б і Шэйна, як этнографа". Ці гэтае дапушчэньне праўдзівае, сяньня яшчэ трудна сьцьвердзіць, адно толькі ведама, што Нікіфароўскі доўга пад фірмай Шэйна працаваў, ня думаючы аб сваей славе, а мроіў толькі аб тым, каб тое, што ён сабраў з роднай Беларусі, убачыла сьвет праз друкаванае слова.

Нікіфароўскі па сваім навуковым шляху ішоў, як кожны чалавек надзвычайных здольнасьцяў і інтэнсыўнай працы, самастойна. Досьледы над народным бытам для Нікіфароўскага ня былі жаданьнем назьбіраньня як найбольшай колькасьці матар'ялу для жрацоў навукі. Праца яго ня была плодам халодных абсэрвацыяў. Не. Сам, будучы па тагдышняму сьвядомым беларусам, імкнуўся заглянуць у душу свайго роднага селяніна. З любоўю дасьледжваў нават самыя дробныя рысы яго вонкавага быту і духовыя праявы народнага розуму і характару.

На пачатак 90-х гадоў мінулага веку прыпадае пара цалком самастойнай навуковай працы Нікіфароўскага. Ён пасылае свае працы дзеля пераглядy і ацэны навуковым установам, якія ўрэшце пачынае друкаваць часткова на старонках „Витебскіхъ Губернскіхъ Вѣдомостей", частова ў спэцыяльных этнографічных органах, пасьля выдае гэтыя працы ў форме адбітак і асобных абшырных выданьняў.

Дзеля таго, што ў тую пару навуковая і літаратурная дзейнасьць вучыцялёў няпрыхільна была сустраканая ў вышэйшых школьных уладаў, дык адкрытае выступленьне на гэтым вучастку Нікіфароўскага было спаткана выразна несымпатычна. Гэтакае выступленьне Нікіфароўскага ня толькі не давала яму якуюколечы матар'яльную карысьць, але наражала яго на рознага роду няпрыемнасьці, як з боку школьных уладаў, так і калегаў. Гэтакі чын Нікіфароўскага сучасныя ягоныя прыхільнікі называлі вялікай цывільнай адвагай, а нават гэраізмам свайго роду.

Падсумаваўшы доўгалетнюю інтэнсыўную працу нязморанага працаўніка на ніве беларускай навукі, будзем мець такі багаж:

### *Нядрукаваныя працы Нікіфароўскага:*

**Нікіфароўскі Н. Я.**, [Успаміны аб даўгалетняй працы ў Віцебскай гімназіі. 6 сшыткоў — рукапісы]. (Перад смерцяй спаліў). — **Никифоровскій Н. Я.**, На память моимъ дѣтямъ (аутобіографічны матар'ял). — **Никифоровскій Н. Я.**, Записки архіерейского пѣвчего.

### *Рэцэнзіі і заценкі аб працах Нікіфароўскага:*

**Бочковъ Д.**, Бѣлорусскія пѣсни „Частушки", собранныя Н. Я. Никифоровскимъ. Записки Сѣверо-Западного Отдѣла Имп. Русского Географ. Общества. Вильна 1912, кн. 3, стр. 359—360. — **Езавітаў К.**, Мікалай Якаўлевіч Нікіфароўскі. Ластаўка. Зборнік вучнёўскіх твораў Дзярж. Люцынскай Беларуск. Гімназіі ў Латвіі. Люцын, 1924, стар. 2. — **Карскій Е. Ф.**, Новые труды по бѣлорусской этнографіі за 1895 г. [Никифоровского, Довнар-Запольского и А. Чернаго. Рэцэнзія]. Журналъ Министерства Народн. Просвѣщенія. СПБ. 1896. V, стр. 153—163. — **Е[вфимій] К[арскій]**, Бѣлорусскія пѣсні „Частушки", собранныя Н. Я. Никифоровскимъ. Вільна 1911. Варшава 1912. „Русскій Філологич. Вѣстник" № 1—2, стр. 434—435. — **Нікіфароўскі М.**, Духоўныя песьні [1]. Старцы. Вільня 1917. „Гоман" № 70, 71. — **Нікіфароўскі М.**, Напоўпрыслаўкі, напоўпрыказкі. Коўна, 1924. „Крывіч" № 1(7), бач. 13—23. — **Стукаличъ В.**, Страничка изъ недавней старины города Витебска. „Витебскія Губернскія Вѣдомости". 1895. № 231—232. (Матеріялы о дѣятельности Шейна и Никифоровского). — **Стукаличъ В. К.**, Н. Я. Никифоровскій. 1845—1910 года. Вильна. Изд. Сѣв.-Зап. Отд. Имп. Русск. Географ. Об-ва. 8°. 2+32+1 порт.

### *Бібліографія прац Нікіфароўскага:*

**Никифоровскій Н. Я.**, Очерки Витебской Бѣлоруссіи. I. Старцы. Москва 1892. „Этнограф. Обозр." № 1, стр. 70—105. — **Никифоровскій Н. Я.**, Очерки Витебск. Бѣлоруссіи. II. Дударъ и музыка. Москва 1892. „Этнограф. Обозр." № 2—3, стр. 170—202.— **Никифоровскій Н. Я.**, Пособники жихара. „Этнограф. Обозр." кн. XVII. Москва 1893. Стр. 56. — **Никифоровскій Н. Я.**, Сельскошкольное обученіе въ юговосточной окраинѣ Витебской Бѣлоруссіи до 19 февраля 1861 г. Витебскъ 1893, або: „Витебскія Губ. Вѣдомости" № 67, 68, 71, 72, 73, 74, 75 і 76 за 1893 г. — **Никифоровскій Н. Я.**, Подданые пособники. „Этнограф. Обозр." кн. XX. Москва 1894. Стр. 29—88. — **Никифоровскій Н. Я.**, Очерки простонароднаго жытья-бытья въ Витебской Бѣлоруссіи і описаніе предметовъ обиходности. Витебскъ 1895. Стр. VIII+552+CLII.

— **Никифоровскій Н. Я.**. Питушчіе и пропойцы. „Етногр. Обозр.“ кн. XXXI. Москва 1896. Стр. 25. — **Никифоровскій Н. Я.**, Очерки Витебской Бѣлоруссіи. VI. Игры и игроки. „Этногр. Обозр.“ кн. XXII. № 3. Стр. 21—66. Москва 1897. — **Никифоровскій Н. Я.**, Простонародныя примѣты и повѣрія, суевѣрные обряды и обычаи, легендарныя сказанія о лицахъ и мѣстахъ въ Витебской Бѣлоруссіи. Витебскъ 1897. Стр. X+307+XXX.—**Никифоровскій Н. Я.**, Гончарныя терракоты Витебска по археологическимъ находкамъ. Витебскъ 1897. „Витебск. Губ. Вѣдомости“ № 135, 136, 137, 138 за 1897 г. — **Никифоровскій Н. Я.**, Бабы або жонки. „Этногр. Обозр.“ кн. XXXIV. Москва 1898. Стр. 36. — **Никифоровскій Н. Я.**, На почвѣ простоты вѣры. „Вит. Губ. Вѣдомости“ въ № 11, 12 за 1898 г. Витебскъ 1898. Стр. 1—12. — **Никифоровскій Н. Я.**, Матеріялы для народного снотолкованія. „Этногр. Обозр.“. Москва 1898. № 1. Стр. 133—139. — **Н[икифоровскій] Н. Я.**, Ляцкій Е. Матеріялы для изученія творчества и быта бѣлоруссовъ I. (Рецэнзія). „Витебскія Губ. Вѣдом.“ 1898. № 88. — **Никифоровскій Н. Я.**, Простонародныя загадкі, собр. въ Витебской губерніи. Памятная Книга Витебск. Губ. за 1898. Стр. 309—343. Витебскъ 1898. (Асобн. адб. бач. 1—33). — **Никифоровскій Н. Я.**, Никольская церковъ въ м. Бѣшенковичы. Витебскъ 1899. Стр. 20. — **Никифоровскій Н. Я.**, Сбяги, прочки, вонки, уходолы. „Этногр. Обозр.“. Москва 1899. № 1—2. Стр. 1—18. — **Никифоровскій Н. Я.**, Страничка изъ недавней старины гор. Витебска. Витебскія Губ. Вѣдомости за 1899 г. Витебскъ 1899. (Асобн. адб. стр. 250).—Н. Н. [**Никифоровскій Н. Я.**], Громничныя свѣчи. Витебскъ 1903. „Полоцкія Епархіяльныя Вѣдомости“. Отд. неофиц. № 15, стр. 366—377. — Н. Н. [**Никифоровскій Н. Я.**], Іорданская освяшченная вода. Витебскъ 1903. „Полоцкія Епархіяльныя Вѣдомости“. Отд. неофиц. № 15, стр. 566—569; № 16, стр. 605—607. — Н. Н. [**Никифоровскій Н. Я.**], Освяшченная верба. Витебскъ 1903. „Полоцк. Епарх. Вѣдомости“. № 18, ч. неофиц., стр. 675—678. — Н. Н. [**Никифоровскій Н. Я.**], Освяшченные предмѣты для разового употребленія. Витебскъ 1903. „Полоцк. Епарх. Вѣдом.“ № 22, ч. неофиц., стр. 821—824. — Н. Н. [**Никифоровскій Н. Я.**], Освяшченные травы и цвѣты. Витебскъ 1903. „Полоцк. Епарх. Вѣдом.“ № 20, ч. неофиц., стр. 755—746. — Н. Н. [**Никифоровскій Н. Я.**], Освяшченные хлѣбы. Витебскъ 1903. „Полоцк. Епарх. Вѣдом.“ № 20, стр. 756—759. — **Никифоровскій Н. Я.** Освяшченные предмѣты і отношеніе къ нимъ простонародія Витебской Бѣлоруссіи. Витебскъ 1903. „Полоцк. Еп. Вѣд.“ № 10—20 і 22 за 1903 г., стр. 1—26 адб. — **Никифоровскій Н. Я.**, Нечистики. Сводъ простанародныхъ въ Витебск. Бѣлоруссіи сказаній о нечистой силѣ. Вильна 1907. „Віленскій Вѣстникъ“. Т. II. 1907. Стр. 1—105. — **Никифоровскій Н. Я.**, Нолупословицы и полупоговорки, употребительные въ Витебской Бѣлоруссіи. Вильна 1910—1912. Записки Сѣверо-Западного Отдѣла Имп. Русск. Географ. Об-ва. 1910. № 1, стр. 197—207; 1911. № 2, стр. 142—154; 1912. № 3, стр. 300—303. — **Никифоровскій Н. Я.**, Бѣлорусскія пѣсни „Частушки“, собранныя Н. Я Никифоровским... подъ ред. и съ предислов. А. Ф. Занкевича. Вильна. 1911. Стр. IV+166.



Апрача гэтых працаў, якія вышлі друкам, былі яшчэ іншыя, якія асталіся ў рукапісах.

Як інфармавала біографа Стукаліча жонка Нікіфароўскага, былі Нікіфароўскім напісаныя ўспаміны аб даўгалетняй пэдагагічнай працы ў Віцебскай мужчынскай гімназіі. Гэтыя ўспаміны абымалі шэсьць сшыткоў, але ў апошнія дні свайго жыцьця аўтар іх чамусьці спаліў.

Прыведзены толькі што пералік працаў Нікіфароўскага даказывае нам, як глыбока ён разумеў сваю задачу, а ўдачнае выкананьне свайго пляну даказывае, якой сільнай валадаў ён воляй.

Нікіфароўскі паставіў сабе за заданьне выканаць у галіне беларускай этнографіі тое, чаго не зрабілі, або не дарабілі ягоныя папярэднікі, або сучасьнікі. Не зрабілі таго ані Шэйн, ані Раманаў, што зрабіў Нікіфароўскі.

Вышаўшы на самастойны шлях дасьледавальнай працы, згуртоўвае сваю ўвагу і выняткова быструю спасьцярожлівасьць галоўным чынам на апісаньне існуючых яшчэ нядаўна, а паволі зьнікаючых тады асаблівасьцяў сямейнага і грамадзкага жыцьця, звычаяў, абычаяў і вераваньняў віцебскага беларуса.

Свае спасьцярогі і запісы Нікіфароўскі згрупаваў і пасэгрэгаваў паводле глыбока абдуманай мэтоды, маючы на ўвазе заўсёды тое, што найменшыя дробезі, сабраныя ўмела і ўпарадкаваныя, маюць сваю вартасьць для навуковых мэтаў. І дзеля гэтага этнограф наш заўсёды стараўся даць памагчымасьці поўны і наглядны малюнак тых бытавых зьяваў народнага жыцьця Віцебскай Беларусі, якія ягонымі папярэднікамі ня былі ўзяты пад увагу. Нікіфароўскі дасьледваў сялянскае жыцьцё ўва ўсей яго паўнаце, як напр.: спосабы прыгатаваньня яды, мужчынская і жаночая вопратка, спосабы выробляньня вопраткі (ткацтва), дамашнія і палявыя, мужчынскія і жаночыя заняткі і ўжываныя пры гэтай працы гаспадарскія прылады, спосабы паляўніцтва і рыбалоўства, адбіцьцё ў народным быце прыгону і спосабы адбываньня адработкаў, панскія слугі і прыганятыя, іх адносіны да падданых, быт і доля наемных работнікаў, характар сямейнага і жанімскага жыцьця, прадметы рэлігійнага культу, будаўніцтва вясковых сьвятыняў, народн. музыка і народныя гульні, прыметы і забабоны, якія глыбока закараніўшыся аж да сяньняшніх часоў і якія спадарожнічаюць селяніну ад калыскі аж да магілы; выбражэньні народу аб нячыстай сіле і цэлы рад іншых праяваў жыцьця нутранога і вонкавага беларускага селяніна ахопліваюць вельмі падрабязна працы Нікіфароўскага. Гэты багаж Нікіфароўскага сьведчыць аб надзвычайна быстрай і праніклівай спасьцярожлівасьці аўтара і аб вялікай адданасьці і любові свайму роднаму беларусу і сваей навуцы.

Можна сьмела сказаць, што ў працах Нікіфароўскага ёсьць усе неабходныя матар'ялы для напісаньня поўнай этнографічнай манаграфіі Беларусі. У гэтых працах улоўлены найдрабнейшыя мамэнты і адцені беларускага народнага быту. Для філёлёгічных мэтаў гэтыя матар'ялы таксама маюць значэньне, але меншае, бо яны незаўсёды запісываны паводле вымогаў філёлёгічных.

Цяпер спынімся крыху над кароткім зьместам некаторых паважнейшых працаў Нікіфароўскага. Капітальнай яго працай зьяўляецца: „Очеркъ простонародного житія-бытія въ Вітебской Бѣлоруссіи“. У гэтай працы пададзены поўны бытавы малюнак хатняга жыцьця беларускага селяніна. Аўтар за селянінам ходзіць крок у крок, сьледзіць за яго штодзенным і сьвяточным жыцьцём пільным, любячым шчыра і дабрадушным вокам блізкага душой чалавека. Тут ёсьць і соцыяльны пагляд аўтара, нпр. у 10-тым разьдзеле гэтай працы Нікіфароўскі наракае на цяжкое палажэньне беларускага селяніна, якога прырода абдарыла багацьцем душы, аднак селянін, замест добрага хлеба, есьць „мякінку“.

Амаль адначасна з успомненай працай друкаваліся ў „Етнографическом Обозрѣніи“ і вышлі ў сьвет асобнымі адбіткамі і выданьнямі пад агульным загалоўкам „Очерки Витебской Бѣлоруссіи“. Гэта вельмі зьмястоўнае апісаньне розных бакоў жывога народнага быту. Заслугоўвае тут на спэцыяльную ўвагу разьдз. IV п. з. „Подданые пособники“, пад якімі трэба разумець прыгонных падданых. Аўтар паставіў сваей задачай даць праўдзівы малюнак жыцьця прыгоннага сялянства. І гэты вобраз Нікіфароўскі адмаляваў вельмі яркімі і поўнымі фарбамі.

У цеснай лучнасьці з „Очерками Витебской Бѣлоруссіи“ і асабліва з „Очеркамі простонародного житія-бытія въ Витебской Бѣлоруссіи“ знаходзіцца капітальная праца М. Нікіфароўскага п. з. „Простонародные примѣты і повѣрья“.

Гэтая праца зьмяшчае ў сабе багатыя і цэнныя этнографічныя матар'ялы. У гэтай кнізе зьмешчана больш дзьвёх тысячаў народных прыметаў, забабонаў, абрадаў і абычаяў. Каб зорыентавацца ў багацтве і вартасьці гэтай кнігі, прыточым тут яе зьмест: —Дзіця ад пачатку да канца блазноцтва.—Будзённае жыцьцё дома і за домам.—Сьвет зьвярынны, падзямельны і зьявы прыроды. —Сьвяточнае жыцьцё дома і задомам.—К вечару—нярана (хворы, старасьць, розныя недамаганьні і сьмерць).—Дадатковыя легенды.

Нікіфароўскі працаваў ня толькі ў галіне беларускай етнографіі—яго шырокі розум займалі і іншыя пытаньні беларускага жыцьця. Апрача чыста навуковай працы—ён займаўся адначасна і грамадзкім пытаньнем, як пр. школьнае пытаньне на Беларусі. Гэтаму пытаньню ён пасьвяціў паважную працу п. з.: „Сельско-школьное обученіе въ юго-восточной окраинѣ Витебской Бѣлоруссіи“.

Не павінна абмінуць нашу ўвагу яго праца, якая здавалася-б неэтнографічнай, а якая аднак мае гэтакі характар з увагі на зьмяшчэньне звычаяў шырокіх слаеў гор. Віцебска. Праца



гэта называецца: „Странички изъ недавной старины Гор. Витебска“. Стары беларускі Віцебск, заклад3іны якога гісторыкі адносяць да першых вякоў нашай гісторыі, шмат бачыў цікавага. Здаўна быў выдатным цэнтрам інтэлектуальнага і эканамічнага жыцьця насельніцтва басэйна р. Дзьвіны. Дзеля гэтага Віцебск багаты і гістарычнымі памятнікамі і агулам сваімі спэцыфічнымі асаблівасьцямі. І гэта пабудзіла Нікіфароўскага да напісаньня адпаведнай працы аб сваім любімым Віцебску. У гэтай працы Нікіфароўскі, хоць мімаходам, дае даволі дакладнае апісаньне Замкавай Гары, Сабораў Мікалаеўскага і Усьпенскага, гарадзкіх вуліцаў у старым выглядзе, а таксама і жыцьцё духовае гараджан. Успомніўшы мноства ў Віцебску рынкавых плошчаў, аўтар спыняецца на апісаньні кірмашнага жыцьця, якое мела свае характэрныя асаблівасьці.

Таксама падрабязна аўтар апісывае грамадзкае і таварыскае жыцьцё ўсіх слаеў гораду: розныя гульні, імпрэзы і т. п. Агулам Нікіфароўскі знаў ня толькі селяніна, але ня менш знаў і жыхарства гор. Віцебска. І таму гэта праца Нікіфароўскага мае таксама як і вышэй успомненыя, вялікае значэньне для гісторы, гарадзкіх звычаяў.

* * *

Аб духовым вобліку Нікіфароўскага можам гаварыць толькі на падставе інфармацыяў ягоных сучасьнікаў, да якіх належыць біограф Стукаліч. Ён так кажа аб Нікіфароўскім: „Страта так яшче сьвежая, што перад нашымі духовымі вачыма Ён стаіць як жывы, спакойны, задумлівы, з прыветлівым паглядам і мілай усьмешкай на вуснах. Ён заўсёды ўнікаў спрэчак і нязгоды, ня збліжаўся з тымі адзінкамі, якія не адпавядалі ягонаму нутру, ягонай душы. Жыцьцё не давала яму роскашы, але ён і ня жаліўся ніколі і нікому на сваю долю. Усе прыкрасьці ціха хаваў у сваім добрым сэрцы. Ён не жадаў славы ані пахвалаў. Да людзей адносіўся мякка, дабрадушна, хоць рабілі яму амаль на кожным кроку прыкрасьці. У ягоныя часы існаваў такі пагляд, што рыбак павінен займацца толькі рыбалоўствам, а вучыцель папраўляньнем сшыткоў, а не займацца навукай, да якой маюць права толькі прафэсары, акадэмікі, якія на гэта празначаны начальствам.

Калі бывала калегі Нікіфароўскага выказвалі такія пагляды, то ён спакойна ўсьміхаючыся казаў: „гісторыя скажа з часам сваё слова, хто з нас даў большую карысьць грамадзянству.

*Навука, грамадзянства, народ, агульнае дабро — вось гэта былі жыцьцёвыя лёвунгі Нікіфароўскага.* Свае інтарэсы ён умеў заўсёды падпарадкаваць народным, грамадзкім інтарэсам. Лічучы сябе больш карысным на сваім баявым становішчы на Беларусі

ён зрокся магчымасьцяў лепш матар'яльна ўладзіцца дзенебудзь далей ад Бацькаўшчыны". *)

Далей аб Нікіфароўскім, як аб чалавеку выняткова вялікіх вартасьцяў духовых, кажа Стукаліч так:

„Чалавек такіх рэдкіх здольнасьцяў, такога шырокага duковага кругазору, такой саліднай навуковай падрыхтоўкі, такой вялікай любасьці да працы, такіх талентаў і такіх высокіх маральных вартасьцяў, пражыўшы свой доўгі век у Віцебшчыне і пасьвяціўшы ей усе свае сілы, мусіў быць акружаны агульнай увагай, пашанай, маральным і матар'яльным падтрыманьнем, аднак гэтага Ён ня меў".

Выняткова безінтэрэсоўнасьць Нікіфароўскага, яго безгранічная адданасьць роднаму народу і навуцы, яго незалежны характар і спосаб думаньня,—усе гэтыя прыгожыя якасьці розуму і сэрца былі пасьвячаны вялікай справе, а як найменш асабістым інтарэсам.

* * *

Нікіфароўскі быў вялікім і шчырым беларускім патрыётам гэных часоў, у якіх ён жыў і працаваў. Гэты патрыятызм праходзіць праз усе яго працы чырвонай ніткай. Іменна яго патрыятычнае пачуцьцё дадавала Яму ахвоты і энэргіі да так вялікай і несьмяротнай працы, якую ён зрабіў для Беларусі.

Ён з пылу мінуўшчыны адкопываў характэрныя рыскі беларускай народнай душы. Ён сваімі працамі хацеў паказаць праўдзівае і чыстае аблічча беларускага народу, яго культуры, яго нацыянальных прыметаў. І міма ўсялякіх прыкрасьцяў і перашкодаў ён сумленна і ў цэлай паўнаце выканаў сваё заданьне.

Ужо ў апошніх гадах свайго працавітага жыцьця Нікіфароўскі цешыўся з сваей працы, бо ён пабачыў яе вялікую навуковую вартасьць. Урэшце пабачыў, як справа дасьледаваньня роднай Беларусі шыбкімі шагамі пайшла наперад і як урэшце ягонымі працамі зацікавіўся навуковы сьвет,—як існаваўшая дасюль пагарда да беларускага народу або непрызнаваньня ягонай роднай культуры, як апрычонага народу, пачала зьменівацца на лепшае. Яшчэ за яго жыцьця распачаліся навуковыя досьледы над беларускім языком, гісторыяй, археолёгіяй, этнографіяй і т. д. Ён пабачыў працаўнікоў на ніве беларускай навукі: Сабалеўскага, Шахматава, Карскага, Доўнар-Запольскага, Раманава і цэлы рад іншых. З гэтай работы Нікіфароўскі сардэчна цешыўся. У гэтым ён ужо пабачыў задаткі, якія ўмацавалі ў ім веру ў сьветлую будучыню і сілу творчую ягонага народу.

---

*) Усе цытаты, паданыя ў чужасловах, выбраны з артыкулу: Стукаличъ В. К., Н. Я. Никифоровскій — 1845—1910. Вильна 1910. Изд. Сѣв.-Зап. Отд. Имп. Русск. Географ. Об-ва.—**Ф. П.**



„Ня зьелі нас раней—ўспакаіваў Нікіфароўскі пэсымістаў,— а цяпер і тымбольш не зьядуць, калі мы дакрануліся зямлі-маткі".

* * *

Жыцьцё Нікіфароўскага, як кажа Стукаліч, „убогае вонкавымі праявамі, затое багатае нутраным зьместам, вечнай працай розуму і пачуцьця. У вясковай цішыні нарадзіўся, дасьпеў і акрэп ягоны талент, ня гледзячы на шматлікія няспрыяючыя ўмовы, якія яго акружалі". Нікіфароўскі радзіўся ў вёсцы Вымна, Суражскага пав., Віцебскай губ. Вырастаў і выховываўся ў сям'і вельмі бедных бацькоў духоўнага званьня, якія займаліся землякробствам і з гэтага пераважна пражывалі. Мікола пачатковую адукацыю атрымаў у пачатковых расейскіх школах. У 1855 г. бацька завёз яго ў Віцебск і аддаў у архірэйскі хор. Мікола будучы сьпеваком архірэйскага хору адначасна вучыўся ў духоўнай школе. У архірэйскім хоры ён прабыў 6 гадоў і аб гэтым прабываньні напісаў свае ўспаміны п. з. „Очеркъ жизни певчихъ Витебскаго архіерейскаго хора съ 1-го сентября 1855 по 1-е сентября 1861 г.". Успаміны гэтыя вельмі цікавыя з увагі на матар'ял біографічны аўтара.

Па сканчэньні духоўнай школы Нікіфароўскі вышаў з хору і паступіў у Полацкую Духоўную Сэмінарыю, якую кончыў у 1867 г. Матар'яльныя абставіны не далі магчымасьці далей вучыцца і ён мусіў уступіць на шлях пэдагагічнай працы. І так з 4.X.1867 г. да 13.IX.1871 г. быў вучыцелем рэлігіі і пасьля агулам вучыцелем на вёсцы. У 1871 г. дастае працу вучыцеля ў прыхадзкой школе ў Віцебску. З 1877 г.—у прыгатаваўчай клясе Сьвіслацкай Вучыцельскай Сэмінарыі. У гэтым-жа годзе (1877) здаў экзамін на вучыцеля павятовай школы і дастаў пасаду ў мужчынскай Віцебскай Гімназіі. З 1900 г. да 1902 г. вучыць у Маладэчанскай Вучыцельскай Сэмінарыі, пасьля зноў на ўласную просьбу пераносіцца ў родны Віцебск на становішча вучыцеля гімназіі. З усей 43 гадовай працы Нікіфароўскі пасьвяціў Віцебску 33 гады.

Гэтулькі пакульшто можам сказаць аб Нікіфароўскім, які ў гісторыі беларускай навукі займае дасюль перадавое месца з увагі на колькасьць і якасьць сваей этнографічнай працы.

---

6778

# Да справы нацыянальнасьці прафэсара М. Баброўскага

У выніку ўкладу сілаў, які пакінуў на Беларусі XVIII век, і не бяз уплыву клічаў Вялікай Францускай Рэвалюцыі, бачым у нас на пач. XIX в. барацьбу між уніятамі манахамі Базыліянамі—польскай партыяй—і ўніяцкім сьвецкім духавенствам—партыяй „рускай", гэта знача „паповічаў"*) і „мужыкоў". Існаваньне гэтага зьявішча сьцьвярджае Язэп Белінскі ў сваей, дагэтуль не перастарэлай, працы „Uniwersytet Wileński" (III, 10), аднак ацэна паданага ім факту вымагае свайго роду аналізы, дапаўненьня і выясьненьня. Прадусім барацьба гэтых двух партыяў ані троха ня была ціхай, бо водгалас яе чулі ўсе, што мелі вушы. Быў гэта водгалас надходзячай буры, што змушала разважнейшых у пару надумацца, як ад буры забясьпечыцца.

Партыю „паповічаў" і „мужыкоў" Белінскі прабуе называць расейскай. Пэўна, маглі быць і хіба былі сапраўды адзінкі ці групы, што ар'ентаваліся на Расею. Ды й дзівіцца з гэтага няма чаго, памятуючы, што было тады пакаленьне, якое яшчэ ўласнымі вачыма глядзела на няслаўны канец шляхоцкай бышай Рэчыпаспалітай. Акрываўлены тады і маючы ўжо параненыя крыльлі, польскі Белы Арол, каторы патрабаваў блізу паўвеку, каб узьняцца нанова да лёту, ня мог, ясная рэч, гарантаваць якойнебудзь апекі беларускаму уніяцкаму насельніцтву. Такім чынам да слабейшых і склонных да сэрвілізму душаў лёгка маглі дастацца сумнівы, выплываючыя з іх заламаньні і нават масавыя адступствы, прыпячатаныя ўрэшце чынам.

Калі тагачасныя Базыліяне на Беларусі праводзілі (сьведама ці нясьведама—у гэта ня ўходзім) праз свае школы й цэрквы ў шырокім разьмеры полёнізацыйную работу, сьвецкае духавенства бачыла гэта й пачувалася да абавязку распачаць працу іменна дзеля абароны захаваньня беларускай душы меснага ўніяцкага насельніцтва і, што з гэтага ішло і звычайна йдзе ў пары, самабытнасьці ўсходняга абраду, для каторага „братні" лацінскі меў толькі няшчырую і прымусовую—праз увагу на далёкі Рым—толеранцыю. Трэба было нешта рабіць. Ніколі ня было так праўдзівым, як тады, лацінскае прыслоўе: periculum in mora—небясьпека ў маруднасьці.

Сярод тагачаснага ўніяцкага духавенства быў малады, дужа здольны і поўны энэргіі вучоны прафэсар Міхал Баброўскі. Паміма таго, што так-жа „паповіч" з роду і „мужык" з пачуцьця, належыў ён некаторы час у моладасьці да Філярэтаў, сярод

*) Паповіч—сын уніяцкага сьвяшчэньніка.



якіх між іншым былі свайго роду сымпатыкі і беларускага народу. Такая ўжо была мода, што больш паступовы й асьвечаны элемэнт у быўшым Віленскім Унівэрсытэце, запісваўся да тэй арганізацыі, каторая была тады найлепшай рэкамэндацыяй для кожнага, хто меў намер заняць якоенебудзь значнейшае грамадзкае становішча і адыграць у грамадзянстве важнейшую роль, што так было натуральным у жыцьці маладога і таленавітага М. Баброўскага, паходзячага з старой, але абяднелай, беларускай (украінскай) шляхты на Падлесьсі, у Бельскім пав. Гарадзеншчыны. Адкрыў ён сабе гэтым дзьверы да прыгожай у будучыні грамадзкай кар'еры.

Ня будзем тут спрачацца ані выключаць магчымасьці, што ў гэтым раньнім пэрыодзе яго дзейнасьці, М. Баброўскаму магло здавацца, што ён ужо ёсьць прыродным паляком. Ды бадай мала тады, на мой пагляд, розьніўся такі беларускі ці ўкраінскі „Паляк" ад тагочаснага Беларуса ці Украінца інтэлігэнта, бо быў заўсёды, да сьмерці Паляком паводле прысвоенай сабе культуры.

Трэба тут дадаць, што паняцьце культуры агулам на пач. XIX в. ня было так зложаным, заборчым і даглыбінным, як сяньня, калі **культура** і **нацыя** ў практыцы значыць ужо часта адно й тое самае. Паняцьці гэтыя не пакрываюцца толькі тады, калі далучаецца мамэнт расы, як напр. у Жыдоў, Нэграў, Індусаў і інш. За часаў аднак філярэцкіх у склад паняцьця культуры, асабліва польскай, уваходзіла ня так шмат складовых дзейнікаў і яна нямнога мела вымогаў. Можна было тады лёгка быць Паляком паводле культуры, ані троха не выракаючыся беларускасьці, літоўскасьці, украінскасьці... Сяньня працэс дыфэрэнцыяцыі пад гэтым узглядам дужа многа паступіў наперад і толькі вынятковыя адзінкі—пры тым надта рэдка—могуць у душы сваей захаваць гэткае equilibrium. Магчыма, што гэтага трымаўся ў сваей моладасьці і М. Баброўскі.

Лёс жыцьця памагаў яму заўсёды, каб знашоў сябе ў поўні. Іншая рэч, ці гэныя магчымасьці ён выкарыстаў. Вось у 1817 г. рада Віленскага Унівэрсытэту высылае М. Б. заграніцу, даручаючы яму, каб падчас заграанічнай падарожы зазнаёміўся з славянскімі мовамі (там-жа, 127). Прыгожая гэта была падарожа, калі трывала цэлых пяць гадоў (1817—1822). Зачаў яе М Б. ад таго, што ў слаўнай царскай бібліотэцы ў Вене і ў багатай бібліотэцы гр. Оссолінскіх у Львове студыяваў славянскія рукапісы. Пасьля адведвае—пачынаючы ўжо фэрмэнтаваць нацыянальна—Чэхію, Моравію, Славакію, Краіну, Харвацыю, Славэнію, працуючы чародна ў Празе, Вэлеградзе, Любляне, Рагузе, у Дуброўніку, у Задры... Маючы рэкомэндацыйныя лісты ад Б. Конітора з Вены да чэскіх вучоных збліжаецца наш малады навуковы дасьледнік у Празе з Яз. Доброўскім, В. Ганкай, Юнгманам, Цыммэрманам і з інш. У паложанай на даўнейшых славянскіх землях Вэнэцыі часта спатыкаецца з П. Солярычам, а ў Дуброў-

ніку з літаратам Мюсічам, ад якіх нямала карыстае. Ня чужы прытым ёсьць М. Б. і палітыцы, калі бярэ ўдзел у зьезьдзе Славян у кастрычніку 1820 г. у Задры, (там-жа, 128).

Праз славянскія землі, папаўшы ўрэшце ў Рым, бярэцца М. Б. ў Ватыканскай бібліотэцы да апрацаваньня для сваіх далейшых студыяў каталёгу найбольш старадаўных славянскіх рукапісаў і друкаў, далучаючы да яго *facsimilia* важнейшых і перапісваючы некаторыя цалком. Знойдзены тут ім дужа старадаўны рукапіс харвацкі. Гэты каталёг рукапісаў слаўны ватыканскі бібліотэкар Анджэлё Маі выдаў друкам у Рыме ў 1830 г. у: *„Nova Collectio Veterum Patrum“* V т. Працуючы тут М. Б. знаходзіцца ў карэспондэнцыйных зносінах з чэскімі вучонымі ў Празе. Урэшце канчае пяцігодняе прабываньне сваё заграніцай адведзінамі ў 1822 г. найменшага з славянскіх народаў Лужычан і тут у Будзішыне адбывае яшчэ студыі этнографічныя і філёлёгічныя над іх фольклёрам і пісьменствам. Дапамагае яму тут лужыцкі філёлёг Лубэнскі.

Вельмі цікавы час перажывала тады ўся Эўропа. Ужо закончана была напалеонаўская эпопэя і Эўропа, напіраная неўмалімай сілай падзеяў, знайшлася ў констэляцыі рэвалюцыйных забурэньняў з аднаго боку і нацыянальных імкненьняў з другога. Вызвалілася ўжо Грэцыя, надыходзіла рэвалюцыя ліпнёвая, па якой мела прыйсьці *вясна народаў* —1848 год. Тое, што сталася фактам пазьней, заплоднівалася й бруняла ўжо значна даўней. Як-жа мог наш малады вучоны, чалавек шырокай і глыбокай думкі, раптам спрацівіцца гэтым здаровым, жыцьцёвым, сакавітым вясьняным імкненьням, каторымі аддыхаў у Эўропе поўнымі грудзьмі праз пяць гадоў, здалёку ад цесна шляхоцкага і прымітыўна патрыярхальнага быту, у каторым спаў непрабудна яго родны край і, адданы прыемнасьці паляваньня і роскашы ўжываньня, асяродак вышэйшых слаёў грамадзянства? (Філярэты, філёматы, прамяністыя, а нават і шубраўцы іменна былі польскім пратэстам процiў гэткага зьявішча). Дык што-ж дзіўнага, што, як гэта відаць з далейшай працы М. Б. на прафэсарскай катэдры ўнівэрсытэту ў Вільні, вярнуўся ён з гэтай падарожы, *як гарачы* староньнік (там-жа, 128) усходняга абраду і як *выразны праціўнік пашыраньня польскіх рэлігійных кніжак сярод уніяцкага духавенства, каторае мела абавязак спаўняць царкоўныя абрады паводле ўсходняга рытуалу ў царк.-славянскай мове.* Бо-ж М. Б. ведаў добра, што польская духоўная кніжка дагэтуль заўсёды мела адзін вынік: польшчыла беларускі і ўкраінскі народ і лацінізавала іх.

Пляменьнік М. Баброўскага генэрал Баброўскі апісвае, што быццам Базыляне, баючыся шкоднага ўплыву праф. М. Б., даносілі на яго міністру асьветы Голіцыну (там-жа, 129), вынікам чаго, бяз суду і сьледства, быў ён выдалены ў Жыровіцы да тых-жа Базыліянаў, пад надзор духоўнай улады. І тут ён ня быў бяздзейным: у гэтым часе адкрыў слаўны Супрасьльскі рукапіс



у Супрасьлі, куды, відаць, меў магчымасьць даяжджаць з Жыровіц. Гэтая ссылка трывала блізу два гады (1824—1826), пасьля якой М. Б. узноў вярнуўся на катэдру*).

Ужо на падставе вышэйсказанага накідаецца выснаў, што М. Баброўскі быў нятолькі вызнаўцам сваіх нацыянальных праканаңьняў, але й мучанікам за іх. Не за польскасьць-жа ён цярпеў, але за сваю тагочасную „рускасьць“, каторая ў Вільні і ў Віленшчыне, а так-жа ў Горадзеншчыне магла быць толькі адна— беларуская.

Выясьніць нам гэта Я. Белінскі яшчэ выразьней, калі прыточым з яго вось гэткі тэкст: ...„У Вільні, паміж акадэміцкай моладзьдзю некулькі было сьвяшчэньніцкіх сыноў, як Ігнат Даніловіч, *Міхал Баброўскі*, Антон Марціноўскі, Жэгота Онацэвіч, Плятон Сасноўскі і іншыя менш ведамыя. Гэтая моладзь знала троха старaславянскі язык, а так-жа троха *беларускі язык*, у каторым акты да Люблінскай Уніі былі пісаны выключна. *Даніловіч разбудзіў у іх ахвоту* шукаць рукапісных і друкаваных старaславянскіх забыткаў, а калі паўстала пры Унівэрсытэце Духоўная Галоўная Сэмінарыя, якая так-жа дастарчала краю многіх, большменш навукова выробленых, маладых уніяцкіх сьвяшчэньнікаў,— дык зьбіраньне славянскіх рукапісаў *пачалося ў шырокіх разьмерах і ў вялікім праменьні*“ (курсыў наш). Калі праўда, што Даніловіч у іх асобах меў прыгатаваных і ахвотных памацнікоў, дык так-жа мусіць быць праўдай, што група сьвяшчэньніцкіх сыноў, што радзіліся і расьлі ў семьях сельскіх духоўнікаў і што тут прабывалі вольны ад навукі час, была сусім добра абазнаная з мовай беларускага народу, так блізкай да мовы актаў Вял. Княства Літоўскага. Інакш як-жа яны маглі быць Даніловічу сапраўды памоцныя і праводзіць інвэнтарызацыю гэных рукапісаў у такіх разьмерах і ў такім праменьні!..

Малады ўкраінскі дасьледчык царкоўнай мінуўшчыны Заходняй Украіны М. Тэршаковэць (Записки Чина Св. Василія Великого, т. III, вип. 3—4. Львів 1930. Бібліографія, бач. 714—715) цьвердзіць, што ў праф. М. Баброўскага працэс быў адваротны: дапусьціўся ён нацыянальнай апостазіі, але стаючыся *в українца паляком.*

„Быў час—кажа М. Тэршаковэць — калі пад уплывам адпаведнага асяродзішча ў душы М. Б. абудзіліся дрэмячыя нацыянальнага праканаңьні ці толькі пачуцьці, каторыя ў яго аднак ўзноў загінулі, калі ён знашоўся ў асяродзішчы іншым. Маю на думцы два яго выражэньні з 1819 г. Выражэньні гэтыя аб украінскай (рускай) народнай прыналежнасьці М. Б. знаходзяцца ў яго лістох да двух выдатных Чэхаў: ведамага Язэпа Доброўскага і Івана Цыммэрмана. У лісьце да першага з іх з 10.IV.1819 М. Б. падпісаўся гэтак: *„Michael Bobrowski Ruthenus“*. У лісьце да дру-

*) W. Charkiewicz („Bez steru i busoli“, Wilno 1929) гэтую кару ставіць у лучнасьці з працэсам філярэтаў.

гога з 1.V.1819 таксама назваў сябе, бо пісаў вось як: „*Joanni Zimmermano Bohemo Michael Bobrowski Ruthenus S. P. D.*“. М. Тэршаковэць прыпісвае гэтыя народныя выяўленьні М. Баброўскага ўплывам тагачаснага прэпозыта ўніяцкай цэркры сьв. Барбары ў Вене Івана Сьнігурскага, пасьля заслужанага ўніяцкага ўладыкі ў Пярэмысьлі. „Як-жа мусіў—піша далей М. Тэршаковэць—быць зьдзіўленым той сам Доброўскі, калі па чатырох гадох з Вільні атрымаў ліст, у якім было напісана: „*Viro celeberrimo Jozepho Dobrowski Michael Bobrowski Polonus S. P. D. Vilnae pridie Calendas Quintiles A. MDCCCXXIII*“*). Дужа мусіў зьдзівіцца патрыарх славістаў, што на ўсход ад Прагі паважныя людзі ў працягу чатырох гадоў зьмяняюць нацыянальнасьць, як рукавічку... Ня гледзячы аднак на гэта, мусімо спагадаць нядолі М.Б., бо быў ён трагічнай ахвярай ліхалецьця нашай цэрквы і нашага народу. У лепшых варунках быў-бы ён надта цэнным працаўніком на ніве ўкраінскай навукі, усёроўна якой: сьвецкай ці духоўнай“. Гэтулькі М. Тэршаковэць. Ад сябе можам дадаць, што ў адпаведных варунках М. Б. быў-бы ня менш цэнным працаўніком і на ніве беларускай навукі. Ведамыя й сяньньня падобныя трагэдыі маладушных людзей.

Пасьля гэтага трэцяга лісту М. Б. жыў яшчэ 25 гадоў, каторыя сусім ня сьведчаць аб тым, каб яго польскасьць з часу 1823 г. паглыбілася. Якраз гэныя гады сьведчаць аб сусім адваротным. У 1823 г. назваў ён сябе паляком, але ў 1839 г. разам з Семашкам перайшоў у расейскае праваслаўе. Сусім аднак не перашкаджала гэта яму паміж гэтымі гадамі займацца пісаньнем і выдаваньнем між іншым падручнікаў катахізму для гімназіяў і павятовых школаў. Вось-жа, ці толькі не на гэты пэрыод прыпадае прыпісванае яму аўтарства (паводле праф. М. Біржышкі) беларускай катахізмоўкі, каторай 100-лецьце нядайна адзначала беларуская прэса. (Прыпісваньне-ж кс. В. Гадлеўскім аўтарства гэтай катахізмоўкі віленскаму лацінскаму біскупу А. Клонгевічу мала праўдападобнае).

Поўная супярэчнасьці асоба праф. М. Баброўскага, а так-жа й справа яго нацыянальнасьці, чакае яшчэ на выясьненьне. Сяньньня можам толькі сказаць, што хоць М. Баброўскі паходзіў з зямель беларуска-украінскіх, хоць часам называў сябе агульным тады для беларусаў і украінцаў назовам *Ruthenus*— Русін, а часам нават Паляком, то аднак усей сваей дзейнасьцяй і навуковай працай, усім сваім жыцьцём ад маладасьці да сьмерці**) быў цалкам зросшыся з лёсам беларускага народу.

---

*) Цытаты ўсіх трох подпісаў М. Б. узяты з працы В. А Францева „Польское словяновѣденіе“. Прага 1906.

**) † 1848, Шэрашэва, Пружанскага пав.



# Кнігапіс

**Запіскі Аддзелу Гуманітарных Навук**, кніжка 5. **Працы катэдры архэолёгіі**, том I. Менск, 1928 г. Бач. 300*).

Архэолёгія ў гісторыі ўсіх народаў, а асабліва народу беларускага, мае вялізарнае значэньне. Як ведама, падзеі народаў сягаюць далей у мінуўшчыну, чым гэта паказваюць пісьменныя памятнікі. Пісьменнымі памятнікамі могуць пахваліцца нямногія эўрапэйскія народы, дый тыя (напр. грэцкі або рымскі) ня маюць гэткіх памятнікаў ад самага свайго пачатку. Урэшце і пісьменныя памятнікі, якія дайшлі да нашых часоў, маюць часта свой бок гледжаньня і асьвятляюць падзеі даволі аднабока, часта вельмі скупа або няраз і фальшыва. Як-жа напр. лепш мы цяпер знаем культуру скіфаў на падставе архэолёгічных досьледаў, чым на падставе такога паважнага гісторыка, як Гэрадот, або ўзяць хаця-б культуру эгейскую, якую мы знаем толькі пры помачы выкапняў.

Вось-жа і гісторыя беларускага народу мае шмат нявыясьненых пытаньняў, на якія пісьменныя памятнікі нічога ня могуць адказаць, напр. аб славянскай прабацькаўшчыне, аб часе прыходу ў наш край беларускіх плямёнаў, аб граніцах іхнага рассяленьня, аб іхняй культуры і г. д. На ўсе гэтыя пытаньні можа адказаць у вялікай меры архэолёгія. Часам адзін агладжаны ці неагладжаны каменчык, адзін чарапок з такім ці іншым узорам, для вучоных архэолёгаў мае вялікае значэньне. А Беларусь вельмі багата на памятнікі старасьветчыны: тысячы гарадзішч і дзесяткі тысяч курганаў раскіданы па яе палёх і лясох, але яны бязьлітасна зьнішчаюцца і людзьмі і часам... Трэба ратаваць тое, што яшчэ можна ўратаваць.

Добрую задачу ўзяў на сябе Інбелкульт, а потым Бел. Акадэмія Навук, што заняліся вывучэньнем нашай старасьветчыны, нашай прагісторыі. Перад намі ўжо ёсьць плады іхняй працы ў форме вялікіх сумленна апрацаваных і добра выданых кніг.

Том I, аб каторым тут гутарка, мае ў сабе такія навуковыя працы: „Архэолёгічныя раскопкі ў Заслаўі“ – Ляўданскага; „Асноўныя дыямэтры і тып сэрый чарапоў курганнага пэрыяду“ (Раскопкі ў Заслаўскім, Ухляскім і Менскім раёнах)—Сьмірнова; „За-

---

*) Кніжка гэтая, як бачым, выйшла яшчэ ў 1928 годзе, выдана Інстытутам Беларускае Культуры, пры якім была катэдра архэолёгіі. Гэтая катэдра з ператварэньнем Інстытуту Бел. Культуры ў Бел. Акадэмію Навук ператварылася ў Археолёгічную Камісію, якая сваім чарадом пры рэарганізацыі Акадэміі ў 1930 годзе была пераіменавана ў Сэкцыю архэолёгіі, у якой цяпер працуе 3 сталых навуковых працаўнікоў. Рецэнзія наша трохі спозьненая з тэй прычыны, што мы толькі цяпер змаглі гэту кніжку атрымаць у Вільні.—В.Г.

слаўе ў Меншчыне“ (Гістарычны экскурс) — Даўгялы; „Дагістарычныя стаянкі сярэдняга і ніжняга Сажа“ (па досьледах 1926 года) — Палікарповіча; „Дадатковыя раскопкі курганоў у Заслаўі“ — Дубінскага.

Апроч гэтых навуковых артыкулаў ёсьць яшчэ абшырная хроніка і справаздача з археолёгічных працаў на Беларусі за 1919—1918 гады. І так маем: „Дзейнасьць арганізацый“ — Дубінскага; „Досьледы культур каменнага і бронзавага пэрыядаў у Усходняй Беларусі“ — Палікарповіча; „Досьледы культур жалезнага пэрыяду па Віцебшчыне, Магілеўшчыне і Меншчыне“ — Дубінскага; „Археолёгічныя досьледы ў Смаленскай губэрні за 1918—1928 г.г.“ — Ляўданскага. У канцы кнігі зьмешчаны геаграфічны паказьнік, які памагае ў знаходжаньні патрэбнай мясцовасьці, якая інтарасуе чытача і аб якой успамінаецца ў кнізе.

Зьмест кнігі, як бачым, багаты. Не хваціла-б нам месца, каб мы тут хоць павярхоўна разглядзелі кожны артыкул. Скажам толькі, што раскопы і досьледы курганаў зроблены вельмі сумленна. Пададзены ў тэксце рысункі знойденых рэчаў, пачынаючы ад глінянай пасуды, а канчаючы на розных пражках, засьцежках і г. д. Палічаны нават пацеркі, якія былі знойдзены пры жаночых касьцяках. Самыя касьцякі вымераны, сфатаграфаваны і пададзена акуратная тапаграфія месца, дзе ляжаў касьцяк і рэчаў, якія былі пры ім знойдзены. Разам з археолёгічнымі досьледамі робяцца вывады гістарычнага характару. Так напр., у артыкуле Ляўданскага „Арх. раскопкі ў м. Заслаўі“, чытаем, што „Заслаўе было адным з тых месц, дзе крывічы і дрыгавічы паміж сабою межаваліся“.

Заслугоўвае на ўвагу так-жа гістарычнага зьместу артыкул Даўгялы „Заслаўе на Меншчыне“. У гэтым артыкуле Даўгяла стараецца выясьніць, што расказ летапісу аб заснаваньні Заслаўя Валадзімерам для свайго сына Ізяслава, ня мае ніякай гістарычнай падставы. Апісаньне гэтага здарэньня, якое перадаў нам летапісец аб высылцы Валадзімерам Рагнеды і Ізяслава з Кіева ў Заслаўе, Даўгяла падае ў вершаванай форме старадаўнае быліны і цьвердзіць, што гэта ёсьць штучны старажытны беларускі песьнярскі эпічны твор, у якім злучана некаторая нізка паданьняў аб Рагнедзе-Гарыславе і гэты эпічны твор быў устаўлены летапісцам у летапіс. Дык на падставе гэтага Даўгяла адкідае дагадку аб закладзінах Заслаўя Валадзімерам і адносіць гэтыя закладзіны у пазьнейшыя часы.

На наш пагляд, калі-б нават і дапусьціць, што паданьне аб Рагнедзе, Ізяславе і заснаваньні гораду Заслаўя ёсьць штучным эпічным творам (былінай), які летапісец ўставіў у свой летапіс, то астаецца адкрытым пытаньне, ці гэты эпічны твор ня меў сапраўднай гістарычнай падставы, на якой зрадзіўся і паўстаў? А гэтага Даўгяла ня выясьніў.

**В. Г.**



**Запіскі Аддзелу Гуманітарных Навук, кніжка 11. Працы Археолёгічнай Камісіі, том II. Беларуская Акадэмія Навук.** Менск, 1930. Бач. 536.

Гэты другі том саліднасьцю апрацоўкі і аб'ёмам робіць яшчэ большае ўражаньне, чым першы. Прыгледзімся толькі да загалоўкаў тых артыкулаў, якія зьмешчаны ў гэтым томе:

1. Г. Ф. Мірчынк. Геолёгічныя ўмовы знаходженьня палеолітычнай стаянкі каля в. Бердыжа на р. Сажы (Гомельшчына).
2. В. І. Громаў. Фаўна Бердыскай палеолітычнай стаянкі (па раскопках 1926—1927 г.г.).
3. А. Н. Ляўданскі. Археолёгічныя досьледы ў Аршанскай акрузе.
4. З. І. Даўгяла. Аршанскі замак. (Экскурс у гісторыю ўзьнікненьня яго ўмацаваньняў).
5. А. Н. Ляўданскі. Курганны магільнік каля в. Чаркасова, Аршанскай акругі.
6. С. А. Дубінскі. Чаркасоўскае гарадзішча пад Воршай.
7. „ „ Гарадзішча каля в. Германоў, Аршанскай акр.
8. І. А. Сербаў. Археолёгічныя помнікі Дубровенскага раёну, Аршанскай акругі. (Па матар'ялах, сабраных у 1928 годзе).
9. А. Н. Ляўданскі. Археолёгічныя досьледы ў Віцебскай акрузе.
10. С. С. Шутаў і М. М. Улашчык. Археолёгічныя разьведкі на ніжняй Сьвіслачы ўлетку 1926 г.
11. В. Р. Тарасенка. Археолёгічныя досьледы гарадзішч на Смаленшчыне ў 1926—1928 гг.
12. А. Зьм. Каваленя. Археолёгічныя разьведкі ў Магілеўскай, Бабруйскай і Менскай акругах.
13. А. Н. Ляўданскі. Археолёгічныя досьледы ў Полацкай акрузе.
14. І. А. Сербаў. Археолёгічныя помнікі Ушацкага раёну, Полацкае акругі. (З матар'ялаў, сабраных экспэдыцыяй краязнаўчага т-ва Беларускага Дзяржаўнага Ўнівэрсытэту ў 1928 г.).
15. В. І. Громаў. Аб фаўне гарадзішч БССР і Смаленскай губ.
16. Н. І. Савін. Раскопкі курганоў у Дарагабускім і Ельнінскім паветах, Смаленскай губ.
17. А. Н. Ляўданскі. Археолёгічныя досьледы ў Барысаве.
18. Зьм. І. Даўгяла. Барысаўскі замак. (Экскурс у гісторыю яго ўзьнікненьня і ўмацаваньня).
19. А. Н. Ляўданскі. Археолёгічныя досьледы ў вадазборах р. р. Сажа, Дняпра і Касплі ў Смаленскай губ.
20. А. Зьм. Каваленя і С. С. Шутаў. Матар'ялы з дагісторыі Тураўшчыны. (Разьведкі краязнаўчай экспэдыцыі Бел. Дзяр. Унівэрсытэту ў 1927 г.).
21. А. А. Сьмірноў. Новыя даныя аб чарапох курганнага пэрыоду.
22. К. М. Палікарповіч. Дагістарычныя стаянкі сярэдняга Сажа. Матар'ялы абсьледаваньня 1927 г.

23. С. М. Замятнін. Раскопкі Бердыскай палеолітычнай стаянкі ў 1927 г.

24. К. М. Палікарповіч. Нова-Бабовіцкая палеолітычная стаянка.

25. А. Н. Ляўданскі. Да пытаньня аб палеолітычнай стаянцы ў в. Гамкове, Смаленскай акругі.

26. К. М. Палікарповіч. Раскопкі Юравіцкай палеолітычнай стаянкі ў 1929 г.

Далей ідзе багатая хроніка, а ў канцы географічны паказьнік.

Як бачым, зьмест гэтага II тому вельмі багаты. Пры гэтым ёсьць шматлікія рысункі, фатаграфіі і пляны раскапаных мясцоў. Ёсьць так-жа архэолёгічная карта Смаленшчыны і карта сярэдняга цеку р. Сажа, дзе былі дакананы архэолёгічныя досьледы. Пры ўсей грунтоўнасьці працы трэба прызнаць, што і гэты том ёсьць вялікім укладам у навуку Беларусі. Вялікая шкада, што з нястачы месца мы ня можам іх разгледзіць падрабязна.

На найбольшую ўвагу заслугоўваюць бясспрэчна артыкулы, дзе гаворыцца аб знаходжэньні і раскопках палеолітычнай стаянкі каля в. Бердыжа на р. Сажы (Гомельшчына). Дагэтуль вучоныя думалі, што стаянак людзкіх з эпохі палеоліту (шчапаначага, неагладжанага каменя) на Беларусі ня было, а былі толькі стаянкі з эпохі нэоліту (гладжанага каменя) і мэзоліту (нешта сярэдняе паміж шчапаным і абгладжаным каменем). Тымчасам ў 1926—29 гадох былі акуратна дасьледаваны дзьве палеолітычныя стаянкі: адна (як мы ўжо ўспаміналі) каля в. Бердыжа, а другая ў м. Юравічах на Прыпяці (каля Мозыра). З выкапняў вучоныя гадаюць аб людзях, якія там жылі, і аб іх культуры.

В. Г.

---

# Хроніка

— 18.XI адбыўся ў Вільні („Ognisko Akademickie“) Вечар беларускай песьні, на якім рэфэрат аб бел. народнай песьні прачытаў гр. Цітовіч, а квартэт сьпевакоў, пад кіраўніцтвам таго-ж Цітовіча, задэманстраваў прысутным некалькі бел. народн. песьняў.

— 21-га лістапада віленская радыёстанцыя надавала канцэрт беларускай народнай песьні. Хор гр. Р. Шырмы прапяяў, як заўсёды добра, некалькі беларуск. народн. песьняў.

— 24.XI. у віленскім цэнтральным гуртку Т-ва Беларускай Школы адбылася лекцыя гр. Р. Шырмы на тэму: „Уплывы літаратуры на жыцьцё грамадзянства і адзінкі“.

— 30.XI. Цэнтральны Урад Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры ладзіў у сваей залі (Вільня, Завальная 1—1) урачыстую акадэмію дзеля ўшанаваньня 25-ых угодкаў сьмерці беларускага вучонага этнографа Міколы Нікіфароўскага (памёр 28 траўня, старога стылю, 1910 году). Рэфэрат на акадэміі прачытаў сябра Рэдакцыйнай Калегіі „Калосься“ гр. М. Пяцюкевіч. Друкуем рэфэрат, у скарочаным выглядзе, у гэтай кніжцы часапісу. Па рэфэраце Хор Бел. Інст. Гасп. і Культуры хораша прапяяў некалькі народных беларускіх песьняў.

— Дня 1-га сьнежня адбылося ў Вільні ўрачыстае святкаваньне 15-годзьдзя існаваньня Бел. Студ. Саюзу. У залі Сьнядэцкіх віл. унівэрсытэту была наладжана юбілейная акадэмія, у праграму якой увашлі: прамова старшыні БСС. М. Шчорса, рэфэраты — інфармацыйны і ідэолёгічны — і прывітаньні.

Па акадэміі ў тэй-жа залі адбыўся канцэрт бел. песьні. Хор гр. Р. Шырмы памастацку выканаў некалькі народных песьняў і пакладзеных на музыку вершаў нашых лепшых паэтаў.

— Quot capita, tot sensus. — 8-га сьнежня адбыўся ў Т-ве Беларусаведы пры віленскім унівэрсытэце крытычны разбор аповесьці В. Адважнага — „Chłapiec“. „Крытыкі“ (Хв. Ільляшэвіч, Ст. Станкевіч і П. Засім) — як-бы змовіўшыся — не знайшлі ў аповесьці нічога вартаснага... Усім аднак ведама, што творчасьць В. Адважнага вызначаецца чысьцінёй беларускага языка, простым стылем, сьвежасьцю, ня кажучы ўжо аб іншых вартасьцях, — а сам аўтар вызначаецца не абыякім талентам.

— У пачатку сьнежня прыяжджаў у Вільню адзін з перадавых паэтаў Заходняй Беларусі і супрацоўнік „Калосься“ Міхась Машара. Поэт цікавіўся беларускім мясцовым жыцьцём. У гутарцы з некаторымі сябрамі рэдакцыі нашага часапісу, Машара выявіў стан і пляны сваей творчай працы на літаратурнай ніве. Паміж іншымі літаратурнымі працамі, ужо распачатымі, поэт прадаўжае працу над поэмай „Мамчына горка“, пабудаванай галоўным чынам на матывах беларускага фольклёру.

— Дня 26-га сьнежня сёлета адкрыецца ў Вільні (вул. Міцкевіча 7) выстаўка абразоў — малярства і рысункаў — беларускага мастака Пётры Сергіевіча. Выстаўка патрывае да 8.I.36 г.

— Сёлета ў сьнежні м. віленскі штодзенны польскі часапіс „Słowo“ арганізаваў субскрыпцыю на працы маладых графікаў — студэнтаў віленскага ўнівэрсытэту. Другое месца ў субскрыпцыі па колькасьці заказаў на абразы заняў беларускі мастак Чурыла.

— У Беларускім Навуковым Таварыстве ў Вільні ў сэкцыі гістарычнай адбылося ў бягучым квартале некалькі зборак, на якіх прачыталі рэфэраты: гр. В. Грышкевіч, гр. М. Мілючанка і др. Чарнэцкі.

— Кіраўнік Інстытуту Антраполёгічных і Этнолёгічных Навук у Кракаве праф. Станіслаў Панятоўскі разам з праф. Ч. Петкевічам апрацавалі і скончылі друкаваньне IV тому монумэнтальнай працы беларускага этнографа Міхала Фэдэроўскага — „Lud Białoruski“. Гэты том абымае прыслоўі. Надрукаваны ў № 1 публікацыі „Prace Etnologiczne Instytutu Nauk Antropologicznych i Etnologicznych“. Гэныя-ж прафэсары прыступілі да апрацаваньня дальшых — V і VI — тамоў „Ludu Białoruskiego“, што абымаюць беларускія песьні.

— Магістэрская праца беларуса гр. Якіма Скурата (скончыў віленскі ўнівэрсытэт у 1934—35 акад. годзе) „Le Romantisme de Flaubert“, нагароджана — нагародай ім. бэльгійскай літараткі Флёры Розэнталь у суме 2.400 зл. польск. Аўтор цьвердзіць, што шэф французскай рэалістычнай (позытывістычнай) школы быў фактычна раманьтыкам, а дзеля гэтага — XIX век у францускай літаратуры ня можна дзяліць, як гэта робіцца дагэтуль, на тры школы: романтычную, позытывістычную і сымболістычную: — у XIX в. у францускай літаратуры была адна школа — романтычная — з адхіленьнямі, залежнымі ад навуковых і політычных мамэнтаў.

— Пры Беларускай Акадэміі Навук у Менску ўтворана сталая фольклёрная камісія на чале з віцэпрэзыдэнтам Бел. Ак. Нав. Якубам Коласам. У камісію ўходзяць акадэмікі: Шчарбакоў і Нікольскі, пісьменьнікі: Янка Купала, Лыньkoў, Александровіч, Харык, Клімковіч, Браншытэйн і кампазытар Любан.

— Кінофабрыка „Савецкая Беларусь“выпусьціла новы дзіцячы фільм „Дзеці сонца“ (сцэнарый Гаўронскага і Таўбэ, рэжысары Пракоп'еў і Кажура, апэратары Гарэлік і Райхельсон).

— Тая-ж кінофабрыка выпусьціла навучальны фільм аб фізычнай геаграфіі Савецкай Беларусі. Фільм дзеліцца на 19 лекцыяў. Першыя дзьве лекцыі—уступныя—аб мінуўшчыне і сучаснасьці Сав. Беларусі. Ад трэцяй лекцыі пачынаецца географія—тэрыторыя, насельніцтва, рэльеф, глеба, клімат, рэкі, вазёры, расьціннасьць і жывёльны сьвет, гарады. Карты, дыяграмы і картаграмы пераплятаюцца тут з здымкамі прыроды і мультыплікацыяй. Аўторы фільма: сцэнарыст Ф. Круглікаў, рэжысары Л. Пуш і Ю. Стальмакоў, консультанты Стральцоў і Благавідаў, апэратары Шапіра і Мэндэм, мультыплікатар Усьцінаў.

— Навуковы працаўнік Беларускага Навукова-дасьледчага Інстытуту харчовай прамысловасьці ў Менску А. С. Вечар скончыў нядаўна досьледы дзеля атрыманьня з морхвы правітаміну „А“, які зьяўляецца надзвычай эфэктыўнай крыніцай вітаміну „А“—вітаміну росту. Досьледы спраўджаны ў лябораторным маштабе. Паводле апініі Белар. Акадэміі Навук праца Вечара мае значную вартасьць з гледзішча тэорэтычнага і практычнага.

— Інстытут Эканомікі Беларускай Акадэміі Навук (сэкцыя эканамічнай географіі) скончыў працу над дапаможнікам у галіне эканамічнай географіі БССР; інстытутам зложаны для вялікага савецкага атласу сьвету дзьве карты БССР: эканамічная і нацыянальная. Галоўнай працай інстытуту зьяўляецца выданьне вялікага географічнага атласу БССР (122 карты на 50 аркушах-разваротах, апрача карт з фізычнай географіі (кліматычных, глебавых, геоботанічных, зоагеографічных, гіпсамэтрычных і інш.), а таксама карт дзеля вывучэньня прыродных багацьцяў БССР). Палова праграмы ў гэтым кірунку Інстытут ужо выканаў.

— Усебеларускі (Сав. Беларусь) Конкурс на лепшую п‘есу для гарадзкой і калгаснай сцэны—расьпісаны сёлета—ня даў пажаданых вынікаў:—п‘есы прысланы ня ў значным ліку і якасна слабыя.

## Ад Рэдакцыі:

Наступная кніжка „Калосься“ выйдзе з друку у другой палавіне 1-га кварталу 1936 году. Набор гэтай кніжкі ў друкарні пачнецца 15 га студня. У сувязі з гэтым, Рэдакцыя просіць сваіх супрацоўнікаў найхутчэй прысылаць матар‘ялы: да літаратурнага аддзелу найпазьней да 15-га студня; да навуковага аддзелу—найпазьней да 1. II. 1936.

*Выдавец: Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры*

*Рэдакцыйная Калегія: М. Шкялёнак, Ад. Станкевіч, М. Пяцюкевіч, А. Бярозка і Я. Шутовіч.*

*Адказны Рэдактар: Ян Шутовіч.*